# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 2

1926

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 2
1926



Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК

# ПРАВОДЗІНЫ

## Цішка Гартны

### I

Раніцаю, калі Дзям'ян Шпуля, багаты гаспадарны селянін, зьбіраўся ў мястэчка з пятнаццацю пудамі пшаніцы,—к яму прышоў Лаўрэн Навой пазычыць пяць рублёў.

— Лаўрэнка,—адказваў Дзям'ян:—ня маю. Паверыш, ня маю.

— Ну, ты-ж учора пазычыў Лукашу трынаццаць. Мне хоць-бы пяць. Прыпёрла, ведаеш, і ніяк ня выкруціцца...

— А, здаецца, дзядзька, нядаўна япрука прадаў?—запытаў Дзям'янаў сын, папраўляючы хамут. Лаўрэн адвярнуўся да яго, паківаў галавою і адказаў:

— Усе, браток, з гэтым япруком. Думаюць, ці можа так хочуць думаць, нібы я тысячу рублёў узяў за япрука. Надовечы Лазар дапамінаў аб гэтым, учора Янкава Тарэся, а гэта ты...

Лаўрэн не даказаў, перапыніўся, каб ня ўразіць ні Дзям'яна, ні яго сына.

Сын выказаўся з выразнаю яхідаю, і Лаўрэну, як ня дурному чалавеку стала відно, што думка дзяцюка—думка сямейная Шпулёў: навошта перакорыць. Лаўрэн паправіўся:

— Ніхто ня ведае, што я бяз сала застаўся, прадаючы япрука; людзям няма чаго плявузгаць... А тут—гора прыпёрла з япруком. Ці-ж можна без каня застацца? Гэта-ж наш талент, увесь наш дастатак; лепш бяз сала як-кольвечы перакінуцца, ніж без каня...

— А ласьне кепска што з канём сталася?

Не спагадліва, а з патаемным здаваленьнем выказаў гэта запытаньне Дзям'ян і выбег у сенцы. Лаўрэну стала няёмка: ці заставацца ў хаце і чакаць яго назад, а мо' плюнуць і йсьці. Але ісьці лёгка, а грошы дзе пазычыць? Зьдзівіла яго, што Дзям'ян такі нядбалы стаў, зусім нячулы да прыязьненага пачуцьця, якое заўсёды між імі трымалася. Чаму ён астыў і з якое прычыны? А мо' гэта ён знарок?

Лаўрэн прысеў на лаўку і запытаў дзяцюка:

— Саўка разам з бацькам едзе ў мястэчка?

— Не,—адказаў той:—мне няма як. Трэба дроў прывезьці, будынкі агледзець, кублы да мяса прыгатовіць.

— Вясельле хутка?

— Праз тыдзень.

— Прыгода!

— Так.

— Аднаму адна, а другому—другая.

— Чаму? — запытаў Дзям'янаў сын.

— То-ж я сёньня Віктара адпраўляю ў Чырвоную армію.

— Вось як? Мо' загэтым і грошы просіце?

— То-ж ведама! Ня хочацца не палюдзку адправіць. Прыдуць хлопцы, суседзі, адзін, другі—хоць чарку гарэлкі мець...

Іх гутарку перабіў Дзям'ян, увашоўшы ў хату.

— Чакаеш? — выказаў да Лаўрэна.

— Бачыш—спадзяюся.

— Віктара ў армію выпраўляе сёньня дзядзька Лаўрэн.

— Праўда? — праканаўся Дзям'ян.

— Што-ж парадзіш—трэба. Адзін ужо другі год служыць, мае чын узводнага; піша, што добра, а гэта—другога...

— А, здаецца, адзін бяз рукі ўжо? Які гэта?

— Трэці...

— Так, памог, брат Лаўрэн, ты Чырвонай арміі.

І ў гэтым сказе Дзям'яна было столькі ліхамыснасьці і тонкага папроку Лаўрэну ды савецкай уладзе, што Лаўрэна стукнула ў нутры сумненьне: ня дасьць Дзям'ян грошы. Той халадок, што апошнім часам астудзіў іх суседзкія адносіны, дагадваўся Лаўрэн, дзьмуў таксама ў гэтым покаце...

І Лаўрэну ўспомніліся ранейшыя, яшчэ пры паляках, гутаркі яго з Дзям'янам. Заўсёды Дзям'ян наракаў на комуністых, баяўся іх прыходу, прасіў сьвятых і злых, каб тыя не дапусьцілі савецкае ўлады...

Успомніў гэта Лаўрэн праз пяць год, як праз туман, і зьдзівіўся... Падумаў сам сабе: „Чым-жа дрэнна Дзям'ян жыве цяпер? Чым ён пацярпеў пры савецкай уладзе?“.

Пасьля, тут-жа, азірнуўся на сваё мінулае, можа сам якую крыўду ўчыніў Шпулям? Прабег думкамі наўсьцяж поўных дзесяці год—нічога не знашоў. Але адказаць на словы Дзям'яна ня ведаў як, каб яно вышла ўпапад. А не адказаць?

— Памог і памагаю.

— Мы памагаем, а нам?

— Можа і нам памогуць.

— Тут цяжка сказаць.

Дзям'янаў сын нявыразна прамармытаў:

— А вы, дзядзька, верыце?

— Як-бы сказаць...

Лаўрэна перабіў вокліч з надворку:

— Лаўрэн, хадзі да хаты.

Лаўрэн паглядзеў у вакно.

— Іду, чаго вам прысьпела, — адказаў жонцы — то была яна— і абярнуўся да Дзям'яна:

— Я-б усё-ткі прасіў ласкі...

— Праўду кажу, няма. Былі-б грошы—не паехаў-бы ў мястэчка. Ужо ўбачай, суседзе.

— То-ж вядома, чаму-б не паверыць... Мо' хто зьмілуецца...

Лаўрэн надзеў шапку і зрабіў два крокі да дзьвярэй.

— Ты прыдзі, Саўка, на праводзіны Віктара, ён прасіў... Ты, таксама, Дзям'ян.

— Хіба Саўка, а куды-ж мне старому...—адказаў Дзям'ян і прашоў за Лаўрэнам у сенцы.

— Усё-ж, Лаўрэне, лепш сустракаць, як праводзіць... Думаеш лёгка на аднэй поліўцы? — дадаў ён у сенцах: — бацькаў хлеб—не казённы.

Гэта ня выклікала з боку Лаўрэна жаднага адказу. Лаўрэн думаў, куды пайсьці ад Дзям'яна, і моўчкі вышаў на вуліцу.

II

Лаўрэн абышоў за дзень некалькі знаёмых, усё шукаючы пазычыць у каго-кольвечы пяць рублёў. Тры чалавекі адказалі — па розных прычынах. Больш таму, што ня мелі. А Сідор Сьвітка і Гнат Цэзік выставілі поўнасьцю тыя-ж матывы, якімі кіраваўся Дзям'ян Шпуля. Давялося занесьці ў коопэратыў пуды... Абыйціся бяз провадаў Віктара—ніяк ня мог. Не таму, каб гэта вельмі моцна трымаўся звычаяў, не. Больш, калі ня цалкам, таму, што любіў яго.

Дваццаць гадоў Віктар не адлучаўся з хаты. Усю працу цягнуў на сваіх плячах. Бацькі не турбаваў, паважаў, хоць бачыў яго хібы.

Лаўрэн любіў выпіць; аддаваўся бяз усякай узнагароды службе ўпоўнаважнага вёскі. Усё пакідаў на Віктара. Кожнаму і ўсім хваліўся: „Мой Віктар—сьцяна, на якую я апіраюся". Старэйшы сын з царскае службы не варочаўся хоць-бы на тыдзень на пабыўку. А праз сем год прышоў бяз рукі. Сярэдні—быў таксама добрым сем'янінам. Але Віктар— над усімі. Выпраўляць у армію, пэўна, было нялёгка.

Луцэя, жонка Лаўрэна, з часу, калі зьявілася абвестка ваеннага камісарыяту аб прызыве, аплаквала Віктара. Пытала Лаўрэна, што яны будуць рабіць адны. Лаўрэн адказваў кожны раз адным сказам, нібы ў ім была непарушная вера ў гэты сказ.

— Покуль Віктар пойдзе, Панас прыдзе.

Сапраўды было ня зусім так. Панасу заставалася служыць пяць месяцаў, а Віктару насьпела ісьці. Лаўрэну проста хацелася, каб гэтак было. Бо са старэйшым сынам, бязрукім, якая там праца па гаспадарцы. Ні дроў насеч, ні памалаціць, ні паараць. Вады сяк-так прынясе, трасянкі карове ды авечкам падасьць... А то ўвесь час толькі замінае ў хаце. Ламака—не чалавек. Але даглядаць трэба—бо дзіця, бо свой сын і—герой.

Лаўрэну апошняе падабалася больш усяго. Дзяніс, яго Дзяніс прымаў удзел у рашучых бойках з палякамі, хадзіў на Варшаву і застаўся бяз рукі, вызваляючы край. Лаўрэн ганарыўся, бо адчуваў у гэтым сваю долю заслугі перад уладаю. Раней, гадоў два таму, можа-б ён іначай судзіў, а цяпер канчаткова пераканаўся ў дабраце савецкае ўлады, у яе неабходнасьці. Мала што было пры цары! Служыў доўгі час старастам—выбіралі. Некалькі разоў меў сутычку з соцыялістымі, нават арыштаваў дваіх па загаду старшыні—было гэта... Служба гэта, наогул, блытала думкі аб уладзе ў Лаўрэнавай галаве. І ня дзіва, што першыя два гады пры савецкай уладзе ён распускаў свой язык. Скардзіўся, мармытаў, недаволіўся. Усё-ж, аднак, выпаўняў абавязкі пакорліва і паслухмяна. Пасьля, патрошку-патрошку думкі і погляды мяняліся. Трывожылі яго, надавалі розных пытаньняў і, нарэшце, прывялі да таго, што Лаўрэну савецкая ўлада стала вельмі блізкай і прыемнай. Нейкі час ён аб гэтым маўчаў, у голас ня выказваўся. Затое, калі хто ў яго ваччу крывіўся на сучаснае жыцьцё, Лаўрэн перакорыў, не згаджаўся. Тады ў яго яхідна пыталі:

— Калі ты стаў бальшавіком, што так іх абстойваеш?

А ён адказваў:

— Я радзіўся такім.

Былі многія, хто вывучыў Лаўрэна ў часы старых парадкаў і першых двух гадоў савецкага ладу; тыя думалі, што ён прыкідаецца, і не хацелі прызнаваць яго шчырасьць. Гэткім быў і Дзям'ян Шпуля. Але Лаўрэн ня лічыў патрэбным перад імі спавядацца. „Хто мае вочы, той бачыць, і хто мае вушы, той чуе", заключаў Лаўрэн, паглядаючы на Дзяніса і мяркуючы праводзіць у армію трэцяга свайго сына. Луцэю ўгаворваў ня журыцца, таксама дзякуючы апошнім сваім пераконаньням.

— Цудная ты, — казаў ёй: — служыць трэба. Ня пойдзе наш, ня пойдзе Грышкаў, дык хто папоўніць армію?

— Дык ажно-ж трэці засаб:

— Хоць-бы і пяты. Мы павінны цешыцца, што маем гэткіх сыноў.

— Якая нам ад іх карысьць. Бачыш — Дзяніс...

— А каб памёр, дома быўшы? Маўчы—не наракай.

Луцэя ўгаманялася. І ў дзень праводзін, скрапіўшы сэрца, спакойліва сустрэла прыгоду.

## III

Вечарам, калі сышліся ў хату таварышы Віктара і некалькі суседзяў, Луцэя выглядала мала засумаванай і толькі сама пра сябе ўздыхала. Хлопцам—не паскардзілася.

— Наша хата, як праходная казарма,—жартавала яна.—Каму як, а мой Лаўрэн, каб і дзесяць меў хлопцаў, усіх выправіў-бы на службу. Мо' няпраўду кажу, Лаўрэн?

— А такі і праўду, — згаджаўся Лаўрэн: — калі ўлада патрабуе— рабі. Нябось, помняць палякоў многія!

— Так, многія помняць. І той самы Дзям'ян Шпуля на сваіх вазох капамі пшаніцу ў пастарунак вазіў.

Хлопцы і суседзі бачылі, што прыгода ў Лаўрэнавай хаце далёкая ад суму.

— Лаўрэн мае рацыю, — згаджаўся Марка.—Чаму-б ня выправіць сына з лёгкім настроем! А колькі мы людзей, бывала, выпраўлялі! Ідзе — і ня ведаеш, калі вернецца! На муштры, на пакуту...

— Цяпер служба—гульня. Ідзе камандзір—ні лыс. Сустрэўся на зборні ці на рынку—хоць-бы што,—казаў Тарас, пазіраючы на хлопцаў.

І калі Луцэя рассадзіла гасьцей за бедна накрыты стол, з дзьвюма пляшкамі гарэлкі і ўбогаю закускаю, у хаце дапамінала аб сватох.

Віктар сеў на покуці, Лаўрэн побач. Хлопцы жартавалі:

— Давайце запяем вясельную.

— Віктар—маладзік.

— А ведаеце, браткі,—адказваў Віктар:—ні каліва сумненьня. Іду служыць, як на зборню гуляць. Сазнаюся, бацькі цешаць сваім настроем. Усё-ж, прызнацца, хоць перад усімі: бацька мой любіў аддаць час грамадзкасьці, а я цішком калупаўся пры гаспадарцы. Думалася мне—будзе шкадаваць і нудзіцца. А тым часам...

Лаўрэн ухмыльнуўся і перабіў сына:

— Нябог, ты цішэй крыху. Я цябе шкадую—то праўда, але... служыць трэба?

— Трэба!—адказала двое хлопцаў.

— Бачыце, сынкі мае, трэба. Вось гэта і мне ведама. Калі трэба, то няхай Віктар ідзе бяз усякага сумненьня. Я не Дзям'ян Шпуля, ня Гнат Цэзік...

— Другіх не чапай,—перабіла Луцэя.

Але седзячы за сталом, праважатыя не адказваліся абмяняцца думкамі. Калі-ж ямчэй, як ня ў час бяседы? Тым болей—перавага за хлопцамі. Ім далёка да ўшанаваньня старых абыходзін, і яны гутарылі.

— Дзям'ян Шпуля жыве пастарому,—сказаў адзін.

— Гэта няважна; а важна тое, што гэты ягомасьць і думае пастарому.

— Гой, думкі ў яго мудрыя. Дадумаецца ў свой час.

Лаўрэн прыпомніў ранешнія отведы Дзям'яна.

— Вы, хлопцы, завостра кажаце. Дзям'ян Шпуля ня тое, каб злы быў, але вялікая скнара. Хадзіў я да яго сёньня за малым інтарэсам; здаецца, і жылі ўвесь час нядрэнна, а, ведаеце, бессаромна адмовіў.

— Ад Дзям'яна можна гэтага чакаць!—уставіў Тарас:—Наогул, ён точыць зубы на кожнага, хто хоць выгляд падае на спачуваньне саветам.

— Во... я не хацеў казаць. Праводзіць мяне і кажа: „На поліўку сына выпраўляеш“...

— Бачыш!—падняў угору палец Марка.

Гутарачы, мужчыны і хлопцы абышлі некалькі разоў кілішкамі, закусілі салам і кіслым малаком і па адным вылезьлі з-за стала.

Бяседа падыходзіла к канцу. Дзяніс увашоў знадворку ў хату і паведаміў, што падвода гатова.

— У Хірысона каля хаты вялікі гоман, пэўна, зараз адпраўляцьмуць Тодара.

— Складайся, Віктар.

Віктар паглядзеў на гадзіньнік, пасьля адвярнуўся ў акно.

— Якая зорная ноч!

— Ехаць будзе добра!

— Падмярзае.

На дварэ, сапраўды, было прыгожа. Цішыня, ажно чуўся лёгкі скрып, лёгкі труск падмярзаўшае гразі. Хто ні кідаў вокам праз акно на вуліцу, бачыў чырвоныя касьнікі проміну, крыжаваўшыя цёмнае сукно вуліцы. У хату Лаўрэна даносіліся гукі з-пад Хірысонавае хаты.

Колькі разоў пераказвалася гэта на Лаўрэнавым вяку! Як проста ўсё гэта было ў ваччу любога, хто прышоў праводзіць Віктара!

І зусім ня цікавіла надвор'е Луцэі.

Яна, маці, тухтала, што мела, у дзеравяны сынаў куфэрачак і прапускала між вушэй нясьціханую гутарку мужчын. Сярод іх не адмеціць было ні Лаўрэна, ні Віктара, ні Дзяніса. Праўда, Дзяніс крыху выказваў заклапочанасьць з прычыны прыгоды ў хаце; яна датыркалася яго болей, ніж мацеры або бацькі. Хто павінен будзе пераняць усю работу каля хаты, як ня ён? На чыю голаў цалкам перападуць хатнія клопаты?

Ён пазіраў на абрубак правае рукі, успамінаў вобраз і абставіны таго часу, калі ўрочная хвіля адняла яе ад яго здаровае, крэпкае постаці і зрабіла калекаю. Не знаходзіў Дзяніс тлуму, як і што гэта адбылося. І баяўся думаць, каб гэта ў часы Віктаравай службы здарылася вайна.

„Няхай лепш яго сіла пойдзе на мірную працу“, думаў Дзяніс пра Віктара і памагаў мацеры пакаваць братні куфэрак.

— Яшчэ кавалачак сала палажэце. Будзе жадзён!—казаў ён мацеры.

— Адзін застаўся—хоць на засквarку заўтра раніцою.

## IV

Дзе прыгода—там і гутарка. Колькі пытаньняў, колькі плянаў ды намераў! І найбольш—аб Віктары. Як ён пойдзе ў армію, як жыцьме там, аб чым думацьме, колькі разоў успомніць сваю вёску, сваіх хлопцаў, бацькоў! Вернецца і пацешыць старых!

Тарас і Марка, Лаўрэн і Віктар, згаджаліся адзін з другім, пярэчылі ўдваіх дваім, дапаўнялі, папраўлялі адзін другога. Ніхто ня думаў

аб тым, аб чым думалі калісьці ў час падобных прыгод. І таму, што ня было сумлівых думак, хлопцы пяялі праводныя песьні...

Нарэшце, нечакана для ўсіх, пад вокнамі хаты загудзела поўсяла: пад'ехаў Тодар. У тры вакны застукалі пальцы. Сьледам адчыніліся дзьверы і ў хату ўвашоў таварыш Віктара—Ахрэм.

— Прывёў Тодара, а цяпер прышоў па цябе. Пара ехаць.

— Чуеш, маці?—запытаў Віктар і расцалаваўся з мацераю, з бацькам.

— Мы правядом цябе да ўзгрудку,—запэўняў Лаўрэн.

А Луцэя пасьпешна апраталася: надзявала шарачковы курцік, саматканую хустку і, чутно было, хліпала.

— Маці!

Для Луцэі відно было адно расстаньне з работнікам, з сьцяною, на якую апіраліся і яна і Лаўрэн. Можа трэба йсьці, можа іначай нельга, але тое горна, што хата цуралася аднае душы, што на тапчане пры дваровай сьцяне ня прыдзецца слаць пасьцелі. На вешалцы каля палатак нярухома, марна вісецьме драпястая ў вялікія гвязды баваўняная коўдра. На траме запыляцца пажаўцелыя кніжкі, і не давядзецца Луцэі пячы скавароднікаў, якія так любіць Віктар! Тыя-ж хлопцы, што вось перад вачыма, толькі праходзіцьмуць паміж хату і мо' які з іх кіне ўзрокам, а зайсьці—ня зойдзе! Да каго?

Віктар будзе нейдзе далёка-далёка ў арміі, а ў хаце, у бацькавым ваччу будзе сьвяціцца чырвоная гвяздачка на шэрым каўпачку! Ужо хутка, мо' праз тыдзень Віктара стане не пазнаць—чын-чынам чырвонаармеец. Скіне жакетку, скіне шапку і, пэўна, прышле з некім дадому...

Думкі, порсткія, як вецер, шугнулі, абдалі Луцэіну істоту, на момант прыкавалі яе вочы да Віктара і мусілі абарвацца.

— Ужо куфэрак на возе,—паведаміў Дзяніс і пашоў з хаты першым.

Цугам, стройна, хто з гутаркаю, хто з напевам—выходзілі праважатыя. Нясло парам над іх галавою, ажно сумная лямпа калыхала няроўным язычком агеньчыку. Трэсачка на шкле кідала паяскі цені на ікону плаксівага Яна красьціцеля, забытага, занядбанага ў кутку, на покуці, апэцканага мухамі і аплеценага павуціньнем.

Віктар прапусьціў усіх і азірнуўся на хату. Пустая—глянула яна на яго з цёплым прыветам, як маці.

— Разьвітайся,—падказала Луцэя, чакаючы яго пры дзьвярах.

— Вярнуся—не агледзіцеся.

— Каб-жа яно ды так.

— А што там гэтыя два гады.

— Колькі разоў можна памерці, сынок.

— Пасьпееце з гэтым...—ужо праказаў Віктар за дзьвярыма, у сенцах.

Луцэя не адказала нічога; ды каб што і сказала, то нельга было-б разабраць—у дварэ хлопцы пяялі песьню.

„Ды там за Дунаем“ ішло далёка за гумна вёскі. У ціхай ночы не хацелі гукі заміраць; рэзвым звонам нясьліся яны к лесу, віталі двесь над сьлішчам мерзлых паплавоў. Ды дзіва-дзівам, чамусьці дваіліся, а то й траіліся, апяразваючы разбуджаную вёску срэбраным ланцужком. Гэты ланцужок падтрэсалі, варушылі, і ён зьвінеў.

З-за гукаў песьні, якія прыдавалі яскравую ўрачыстасьць узьюшанай вёсцы, гінулі стукі калёс, шам дзесяткаў ног, гутаркі старых... Здавалася, дываном ішлі людзі, па тым-жа дыване каціліся калёсы двух вазоў ціха і далікатна, хоць яшчэ завідна вёска танула ў гразі. Тады нельга было абыйсьці, каб па калені не памачыць ног. За платы, паміж хат, з каменьчыка на каменьчык, з цурбалачкі на калочак праходзілі сяляне ў абруджаных лапцёх, у абкарэлых портках, мурзатых кажухох. Лаяліся, наракалі на пагоду, на час, на беднасьць,—спаконнае... А вечарам, вось, у кожнай лужыцы—адсьвет зоркі, празрысты, як шкло. Храбусьцяць скарыначкі грудак, мякка, далікатна, каб не перабіць песьні.

Змоўклі сабакі. Толькі мігала іх цень між асьветленых хат. Чырвоны промін, што кідалі смалякі праз вокны на вуліцу, калыхаў перад вачыма няроўную вуліцу, чорныя будынкі... Як прожэктарам, асьвятлялі натаўп людзей. Ад гэтага песьня рабілася яшчэ галасьнейшай... Ёй ня відаць было канца, як не канчалася і вёска, чамусьці падаўжэўшая... Ды ніхто ня дбаў аб тым, каб хаду спыніць. Праважатыя ішлі ўсё далей—Віктар з Тодарам пяялі з усімі. І мо‘-б дашлі далёка за будынкі, да гайку, каб хтось у задніх радох не перабіў пяяньня воклічам:

— Кальцавая!

— Дванаццаць гадзін!

— Сьвежыя газэты!

Некалькі хлапцоў аддзяліліся ад натаўпу і вярнуліся назад у вёску, сьледам за кальцавою поштаю.

Сьвежыя газэты—сьвята. Авось прынесьлі навіны! Іх так прагне вёска!

А хлопцаў не правядзеш да канца.

Дзень-другі і гэтая самая кальцавая пошта прывязе ад іх ліст; у ім будзе апісана, як і што яны даехалі—мацяркі раскажуць усім. Луцэя пахваліцца.

— Тут канец, сынок мой!—абвясьціў Лаўрэн і спыніўся.

— Не забывай нас, Віктарка!—дадала Луцэя.

Настроены к разьвітаньню натаўп сялян спыніўся, затупаў. Усе змоўклі, пастроіліся ладам. А Віктар з Тодарам абыходзілі ўсіх і цалаваліся. З хлопцамі, з мужчынамі, з дзяўчатамі, з кабетамі.

І кожны праважаты, выкладаючы свае пажаданьні прызыўным, адбіваў сваё пачуцьцё ў пацалунках.

Было шчасьліва пакідаць родны куток, які іх не забудзе. Да мястэчка, калі не да павету, пратрымаюцца ў іх нутры суседзкія пажаданьні.

Віктар паглядзеў наперад сябе, у цямніну, азораную, але таемную, глухую і гукнуў да ўсіх:

— Бывайце-э здаровы!

V

— Як і ня было ў хаце,—казала Луцэя.

— Або не заўсёды тое самае? Пражывеш век, а памрэш—і як ня было ў хаце.

— Старога ня так шкада...

— Чаму, усё роўна чалавек.

— Маладому—ўсё наперадзе. А адгадай, што яго стрэне?

— Судзіць цяжка...

Лаўрэн ішоў з мужчынамі пазадзе; гаварыў інакш, але пачуўшы голас жонкі, перабіў яе:

— А ты яго вернеш?

— Пэўна, што не.

— Вось, бачыш...

Пасьля паправіўся і дадаў:

— Ня згінем.

— А хто кажа?

— Сярод людзей.

— То зьдзівіўся Марка.

Тарас падмацаваў суседа:

— А можа ды Віктар пашоў па шчасьце—ня думаеш, Лаўрэн?

— Як каму, а мне яго служба—шчасьце. Ня хлушу, суседзі, ні каліва. Я рад, што мае сыны, як адзін, усе трое пройдуць службу...

— Не хваліся,—перабіла Луцэя.—Паварочаюцца, як і Дэяніс, бяз рукі—тады шпіталь адчыніш...

— Чаму, няйначай, усе бяз рукі?

— То без нагі; бяз рукі ўжо ёсьць...

Пакуль гутарылі, людзі гінулі з вуліцы. Рабілася цішэй. І побач з гэтым цямнела.

Як быццам-бы разьвітаньне апускала на зямлю чорную заслону, адгараджаючы тых, хто праводзіў, ад тых, каго правялі. Толькі пяцьшэсьць хат заставаліся асьветленымі перад ваччу Лаўрэна й Луцэі з некалькімі суседзямі...

Вунь яшчэ ў адным акне згінула сьвятло...

Вёска ўкладалася спаць, як і да гэтага разу, ціха і ўверана. Наступнае доўгаю йстужкаю гарнула дні за днямі, то большыя, то меншыя, то хмурлівыя, то ясныя. Першы з тых, хто прыдзе будзе, бяз Віктара і То-

дара, другі—мо' яшчэ без каго-кольвечы, а мо' з кім-небудзь новым, невядомым...

Лаўрэн ды Луцэя спыніліся пры вешніцах у свой двор.

— Бачыш, Марка, нядаўна хата была, як карчма, а тут, вось,—двое...

— Як толькі што пажаніліся.

Марка адказаў сьмехам.

— Жыцьцё плача, жыцьцё сьмяецца,—дадаў Тарас.

— Стрэнецеся,—пацешыла Луцэю суседка.

— Каб твае словы ды к добраму часу!

Лаўрэн адчыніў вешніцы; яны скрыпнулі, як і звычайна, рэзкім тоненькім галаском.

— Ты-б іх падмазаў!

— Я...

Нешта сярдзітае набегла яму на язык, але Лаўрэн стрымаўся, каб не сказаць лішняга слова. Хацеў тут-жа выбраць іншае, ці-ж канчаць дзень злым настроем?

— Ведаеш, Луцэя...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Дзядзька Лаўрэн!—перабіў Лаўрэна знаёмы голас:—целяграма!

— Няўжо? Марка!—гукнуў Лаўрэн.

Мо' з-за паўганоў пачуўся водгук:

— Лаўрэн?

— Вярніся на хвілю.

Луцэя мялася каля Лаўрэна, працягаючы рукі да тэлеграмы. Лаўрэн камячыў яе ў сваіх руках, шукаючы месца, на якім абарваць паперу.

— Вось тут,—падказвала Луцэя.

Але цьмела праменьне ў суседняй хаце і Лаўрэн ня ўгадваў, дзе абарваць.

— Можа Марка прачытае.

— Што?

Падышоў Марка.

— Тэлеграму.

— Ад каго?

Узяў з Лаўрэнавых рук, абарваў і стаў марудна чытаць:

— Палтавы... Навою...

„Політ-ко-ом паведамляе аб сьмерці вашага сына забітага бандытамі

Штаб асобгрупы".

Апошняе слова ўперлася ў цьвёрдую маўчанку, якая праз хвіліну разьбілася рэзкім плачам Луцэі.

— А божа-ж мой-ой! Панаска-а! мой, сы-но-ак!

Плач пранізаў паветра заспакоенае вёскі.

І праз сьлёзы Луцэя ўбачыла, як у некалькіх хатках мільганулі палахлівыя агеньчыкі; затрапяталіся і зьніклі.

А ў тым канцы, у які паехаў Віктар, забрашчала клякотка вартаўніка.

Лаўрэн памаўчаў, пакуль яна сьціхне, і рашуча сказаў:

— Не шанцуе, Марка. Што-ж бы яму выслужыць да канца! І саветам была-б карысьць, і мне была-б радасьць.

Марка маўчаў.

# ШЛЕМКА-ПЕРНІЧНІК

*(Апавяданьне з местачковага жыцьця)*

**Р. Мурашка**

Так яго звалі на вёсках, куды ён прыяжджаў з саначкамі ці з калясачкаю (гэта ўжо ў залежнасьці ад тэрміну году), так яго звалі і на Безназоўным перавулку і на суседніх вуліцах у мястэчку.

Праўда, было і ў яго прозьвішча, як і ва ўсіх людзей, але што з гэтага прозьвішча—хлебам карміць яно ня будзе. Ды каб аднаго яшчэ, а то: і жонку Сару, і сына Іцку, і дачку Бэлю.

Скучыў бяз іх ён, ай, як скучыў! Ужо цэлы тыдзень ня бачыў і цяпер сьпяшаецца да мястэчка з сваімі саначкамі.

Лёгка сказаць,—сьпяшаецца, седзячы пры гэтым у цёплым пакоі, ці, залезшы ў кажух цёплы, у санках на кані-зьмеі імчаць па дзесяць вёрст у гадзіну. Тады ня страшна ні мяцеліца, ні сьнег, ні вецер, што музыкаю халоднаю здаюцца, жудасна нейк адгукаючыся ў сэрцы.

Шлёмка-пернічнік ня скардзіўся на гэта, бо ён прывык. Вось толькі ў яснае надвор'е весялей. Бы ня ён цягне саначкі, а саначкі яго. І думкі тады ясныя бываюць. Сьнег такі любы, такі блізкі яму паказваецца, што ён набірае яго жменю поўную і пачынае есьці. Ні таму есьці, што мо' піць ён хоча, а проста нібы спагадвае яму, нібы аддае належнае. Яму тады хочацца весяліцца, бегчы, каб валенкі гэта дазволілі. І ўдзячны ўсяму, усяму тады ён, бо, здаецца, жывецца лягчэй і зусім пра сьмерць ня думаецца, што прыйдзе некалі. Шмат чаму і ў чым каму прыяе яснае надвор'е.

А ў буру-мяцеліцу, зусім наадварот, думкі сур'ёзныя ўсё аб жыцьці ў галаве пануюць Шлёмкавай. Але часам возьме дый працісьнецца думка цёплая: „Хоць бы-ж хутчэй прыйсьці да хаты“.

Вецер сіберны матляўся заядла ў абшарпаных крысах кажушка. Ня пушчалі йсьці саначкі. Змрок цяжкай навалай наваліўся і быццам прыціскаў усё мацней ды мацней да дарогі. Толькі што дарога, бо з яе назва адна засталася,—замяло.

З пяшчот халодных мошак-сьняжынак пачало пашчыкваць шчокі болем. Вецер мацнеў, залазіў пад кажушок, а там пад сарочку, на дробны мак рассыпаўся па целе.

Трудна было пазнаць, вечар гэта ці ноч, бо Шлёмка з вёскі вышаў ящчэ завідна. У вёсцы заціпшна было, а ў полі зразу апанавала яго: сьнег, вецер, мяцеліца. Цёмна стала, не раўнуючы, як у галовах талмудыстых ад кніг Майсея.

Такія думкі праходзілі ў галаве Шлёмкі, чалавека, які з нараджэньня ў гразкіх пуцявінах жыцьця набыў лёгкі гумар, сьмяхотлівасьць, што заўсёды, хоць-бы і ў самай найсур'ёзьнейшай гутарцы жывым аганьком прабягалі.

— Ня хочацца йсьці табе, Шлёмка?

І тут-жа праз гэтае запытаньне-думку прабегла палкаю дарожкаю другая:

— А да хаты хочацца? Мабыць...

Бура-завіруха аднекуль званкі прымчала, перарвала думку Шлёмкі. Ні-то ззаду, ні-то сьпераду ці збоку праціналіся званкі і ўжо ня сьціхаючы званілі ды званілі ўсё ў вушшу.

З гэтага весялей, сьмялей стала яму: хоць не адзін ён у такі паскудны час у полі. Больш лёгкія сталі валенкі.

Чалавечы вокліч на каня чуваць быў сьпераду.

— Но-но-оо!—падганяў нехта каня.

Шлёмка ў бок зышоўся, па калені ўвязшы у сьнег.

— Но-о!.. Стаў чаго?.. Каб ты здох!..

Пуга ляснула. Загрымелі званкі. Трэск збоку пачуўся, карпатня і пудліває пырханьне каня.

Сьвятло цьмянае працяло цемру буры, дагадліва сьлізнуўшы ў Шлёмкаў бок.

— Рукі ўгору, што-б там ні было! Ні з месца!

Ад саначак вяроўка ўпала—нібы для абароны Шлёмка выставіў перад сабою рукі.

Але па меры надбліжэньня страшных гукаў „стой, стой, а то я страляць буду“, боязкасьць уся ў яго прапала, калені пакінулі дрыжэньне, і ён азваўся:

— Ну, я стаю, стаю.

— Хто „ты“?

— А вас і пазнаць трудна, таварыш міліцыянэр... дальбог...

— Ты мяне пазнаў... Дай сюды дакумант... Ага... Шлёмка Рэзьнік?..

— Шлёмка-пернічнік.

— А быў дзе?

— У Завозным, таварыш міліцыянэр... Пернікі вазіў, пярсьцёнкі, завушніцы...

— Дня табе мала з тваім гандлем, дык яшчэ ў начы шляешся—вазкі людзям ломіш. Зайдзі заўтра ў міліцыю.

— Прашу прабачэн...

— Ды што з твайго прабачэньня—вазка не направіш усё роўна... А заўтра зайдзі ў канцэлярыю,—хоць і ня злосна, але і ня ласкаю агукнулася з цёмры.

З патугаю ўзьлез на дарогу Шлёмка з саначкамі, хоць на іх і ня было нічога важкага. Хіба-ж цяжар дзесяткаў шэсьць яец, што вымяняў за тыдзень ён за свае пернікі ад баб! Не цяжар, а ўсё-ж такі цяжар: перш вымяняў іх за тавары, а потым тавары за іх выменьвай, і пашло гуляць бясконца так. Вось гэта цяжар.

Цешыла яго толькі тое, што з дзесятачка з іх будзе жыць сям'я, як з чыстага прыбытку, дзён два. Два—а больш? Больш—чыстага заработку грашмі з поўрубля. Яшчэ дзён тры можна пражыць.

„А астатнія два пражывеш на што? На што?“ І думкі ўжо нейкія мокрыя пашлі; тужліва цягучыя, паўзуць яны й паўзуць, сьлед няпрыемны пакідаючы.

Нібы сталі цяжэйшыя валенкі, нібы коўзацца часьцей пачалі ногі, быццам сьнег з-пад іх куды ўцячы хацеў.

— Ці гэта мяцеліца вінна, ці гэта я замарыўся?—запытаўся з прывычкаю чалавека, які часта й доўга бывае ў адзіноце.—Невядома, кольк і я прашоў і колькі яшчэ засталося... Хіба-ж гэта жыцьцё? Трэба шукаць іншага ратунку—век-жа так ня будзеш жыць... Дый дзеці... Але што? Што?.. За зямлю ўзяцца? Цяпер нарэзваюць—дадуць і мне: я-ж ня буржуй. Савет пасобіць... Як цяжка йсьці.

Быццам саначкі ўпіналіся, цягнулі назад рукі. У роце высахла. Каб ня думаць аб гэтым і ні аб чым іншым, пачаў лічыць шагі.

І раптам надзею бура другі раз прынесла. Цяпер яму, праўда, ня зусім, а толькі трошкі бадзёрасьці надалі словы нібыта сьпеваў, такіх недарэчных па часу і па надвор'і.

— Камун-і-іст малады... жэнішся... белыя прыдуць—куды дзе-енешся,—абрыўкамі далятала да Шлёмкі.

— Мусіць, п'яныя,—падумаў ён:—але-ж жывыя яны людзі.

Супакойваў сам сябе Шлёмка, праганяючы ўражаньне ад слоў частушак.

Частушкі перапыняліся гоканьнем на каня, а часам задзёрыстаю лаянкаю.

— Гэ-э-эй, зьвяруга!

— Ды гэта Еўга-сальнік.

Сьцерагучы яйцы, сышоў убок.

Зьвяруга йшоў, мабыць, ступою, бо пачулася павольнае ад перасыпаньня пад капытамі сьнегу шапаценьне.

— Браточак Еўга,—нечакана для сябе азваўся Шлёмка.

— Я—Еўга. А ты-хто?

— Я—Шлёмка-пернічнік. Падсадзі мяне... Век не забуду.

Жаласьлівасьць просячая выпырхнула ў Шлёмкі з вуснаў і буры гудзеньнем спавілася.

— Шлёмка...—прамармытаў нехта другі на санках:—падсадзім.

— Дзе ты? Сядай ідзі... Ты з саначкамі—садзі і санкі... Но—гэ-э-эй, зьвяруга!

Ах, як добра ехаць здалося пасьля цяжкае хады Шлёмку. Соладка нылі ногі і рукі і ўсё цела. Так-бы вось лёг і заснуў. Асабліва пад буры завываньнямі, што самаю пекнаю музыкаю здавалася яму цяпер, такою пекнаю, якой ня даў можа й яго швагер Бэрка, што грае на скрыпцы.

Пад уплывам прыемнае зморы, адчуваньня цяпла і пад музыку буры Шлёмка смачна засоп у падняты каўнер кажушка. Такі любы, такі дарагі для яго разаслаўся, бы ўстаўшы з зямлі, Безназоўны перавулак. На канцы яго стаяла Сара з Іцкам, чакала свайго Шлёмкі. А ён з поўнымі, поўнымі саначкамі—з вялікім заработкам, бадзёра, з выглядам героя пазіраючы на ўсё вакол, горда-паволі ідзе да свае Сары. Ня сьлізка быццам, а пасьлізнуўся і...

За нагу цяг Еўга.

— Прыехалі?

— Дзе прыехалі... Паставіш кварту гарэлкі, як прыедзем...

— Еўгачка... братка... У мяне ўсяго заработку толькі на кварту.

— Паставіш?

П'яныя рукі да шыі.

— Еўгачка!.. Я-ж цябе ведаю... і ты мяне таксама... Не апошні дзень жывем...

— Ах, не апошні...

— Хітры жыд...

Дзьве пары сальніцкіх рук укіпцюрыліся ў кажушок, і Шлёмка мякка лёг у намецены пухкі сьнег.

— Ой! Саначкі-ж мае!

— А везьлі за што?

У момант змора згінула салодкая, а на яе месца ўстала ва ўвесь свой узрост змора халодная, цяжкая, мокрая.

Ніколі ня плакаў, дый цяпер таксама, але горкія бязмоцныя сьлёзы самі сабою напоўнілі вочы, разьліліся па твары, з макратою сьнегу растаўшага асвойталіся.

Паволі ўстаў. Сьнег раставаў у рукавох, за каўняром. Абсыпала цела дрыжыкамі дробнымі. Пашоў, а ногі падгібаюцца, ісьці ня хочуць. Думкі ранейшыя зьніклі з галавы ўсе, нібы з бурай памяшаліся. А яна гучней загаласіла, сьнегам заўзрывала, праз кажушок пачала працінаць.

Колькі ішоў і прашоў—ня ведаў ён. Як думкам горкім ня было месца ў галаве, так ня было месца і ўяўленьню часу і прасторы. Доўга можа йшоў так ён, ня гледзячы на тое, што выходзіў з сілы, каб, як быццам

выпадкова, ня ўпаў. Пры гэтым здрыгануўся, але спакой прыемнае надаў і стала лёгка так і ціхамірна, захацелася ляжаць бясконца так на пухкім сьнегавым улоньні.

Віхор ветрана-сьнегавы наляцеў, закруціўся вакол Шлёмкі. Сьцянуўся, і тут-жа думка прабілася наверх: „З чаго-б гэта?“ Рука паднялася к галаве і дала зразумець, што галава бяз шапкі. і што ёй холадна. Так не хацелася спакою парушаць, але пальцы машынальна заварушыліся, зашныпарылі і, хутка адчуўшы пад сабою воўну шапкі, пацяглі і на вушы насадзілі! Ад новага подыху буры холад абег вакол шыі. Таксама, ня думаючы, што рабіць, выпрастаў каўнер, паставіў. сьцяг яго над носам. Зноў спакой вярнуўся, зноў прыгарнулася цяпло, і сьвяточныя думкі сьветлыя карункамі ружовымі распострыліся.

Як звычайна ў сьвята напалена ў Шлёмкі ў хаце. З выпадку сьвята ляжаць на стале абаранкі, куханы. Студзяніна ў печы варыцца. Да кварты гарэлкі, што паблісквае празрыста, Сара рыхтуе селядца. Верашчака смачна пахне з прыпечку. Вось і Сара прысела да стала. „З добрага заработку чаму й ня выпіць“, кажа свайму швагру Шлёмка. Выпілі па чарцы, па другой. Языкі пачалі весела блытацца. Шлёмка пачаў хваліцца, як яго любяць на вёсцы мужыкі, і як ён іх любіць. Гульліва глёдзячы на Сару, расказаў, як аднэй дзяўчыне, якая спадабалася яму, падарыў пярсьцёнак. А каб трохі пасьмяяцца з жонкі, дадае, што і дзяўчаты яго на вёсцы любяць, дарма што яўрэй. Добрыя дзяўчаты і мужыкі добрыя, сур'ёзна. І тут-жа перабівае думку: „Сьнегу на полі поўна—у гэтым годзе ўрода будзе хлеба—і нам лепш будзе жыць“, абдымаючы Сару, кажа Шлёмка швагру. Выпіўшы яшчэ па чарцы, Шлёмка бярэ скрыпку і смык, дае Бэрку, каб той сыграў улюбёны мотыў яго—вясельле. Бэрка добры музыка. Ён фанатычна любіць сваю справу і таму ўстае. Пад вясельныя гукі прытоптвае Бэрка нагамі, круціць постацьцю, ды так, што крысы лапсардаку разыходзяцца і скачуць. Шлёмка схіляе галаву на плячо Сары, перажывае соладка настрой свайго вясельля. І раптам так весела стала яму, што ён ухапіў жонку і закруціўся з ёю па хаце. Але нешта свярбючае, можа пыліна якая папала ў нос, бо Шлёмка чхануў моцна. І...

Зьнікла ўсё: Сара, скокі, скрыпка, Бэрка, кварта, селядзец.

Нехта да болю ногі цёр. Ізноў у нос лезла нешта, і зноў моцна чхалася. Каб узнаць, што гэта такое, Шлёмка расчыніў вочы.

Нехта ў белым стаяў ля стала, дзе ляжаў Шлёмка.

Раздумваючы, дзе-б гэта мог ён быць. зірнуў на бакі, і ў вочы кінулася постаць знаёмага міліцыянэра.

# ТУК-ТУК

## Б. Антоненка-Давыдовіч

Найбольшай мукай для Васіля Рыгоравіча было пісаць анкеты. Так і цяпер. Невядома пашто, адкуль і дзеля чаго ў апаратную ўвашоў невядомы чорны, у бліскучай скураной куртцы чалавек, абышоў куток, дзе працавалі „Юзы", „Бодо", і, нарэшце, спыніўся пры століку, дзе сядзеў каля свайго „Морзэ" Васіль Рыгоравіч. Гэтак сама, як і каля ўсіх іншых, невядомы энэргічна выцягнуў з портфэлю даўгую анкету і сунуў Васілю Рыгоравічу.

— Запоўніць!

Васіль Рыгоравіч, баючыся, паглядзеў паверх сваіх старых, каламутных, як і сам ён, акуляраў на дробненькія радкі і далікатна абедзьвюма рукамі палажыў анкету на стол. Ён папрабаваў было нырнуць у работу і старанна пачаў скручваць тэлеграфную стужку, запісваць зьмест тэлеграм, але анкета не давала яму спакою. Яна паважна, нібы каштоўная папера нейкай нязвычайнай вартасьці, ад якое залежала быць ці ня быць Васілю Рыгоравічу, ляжала з боку, і яе эпічны спакой нэрваваў Васіля Рыгоравіча.

Ён скоса паглядаў на анкету, паціраў худыя з цьмяна-васковым старэчым адценьнем рукі і зноў нахіляўся да стужкі. Але на стужцы, замест жывых знакаў, з-пад якіх выплывалі рознастайнейшыя словы людзкое думкі, мігцелі цяпер чужыя, уедлівыя рыскі, кропкі, рыскі, і ціха, глумліва шуршэла папера. Анкета, нібы жывая істота, глядзела міма Васіля Рыгоравіча на столь таксама холадна, габінэтна і моцна. Васіль Рыгоравіч ведае гэты погляд: там у сярэдзіне, сярод іншых пытаньняў, ёсьць месца, якога ніколі нельга абмінуць, і на якім анкета заўсёды загадкова пасьміхаецца з яго, старога тэлеграфістага, што працуе ўжо трыццаць другі год... І Васіль Рыгоравіч ня можа болей вытрымаць—ён з пашанаю бярэ гэтага маленькага папяровага дэспота, каму прымушан адчыніць сваю душу і йдзе да канцэлярыі. Тут ён садзіцца на краёчку зэдліка каля стала—найбольш знаёмага спаміж усіх канцэлярскіх—дзелавода, просіць чыстае пяро, дзеля чагось здымае акуляры і потым зараз-жа надзявае іх зноў, перачытвае двойчы анкету і дрыжачымі зялёна-смуглымі ад махоркі пальцамі бярэ пяро.

— Пытае, як прозьвішча,—пра сябе гаворыць Васіль Рыгоравіч.

— Прашу, прашу з вялікаю ахвотаю...—бубніць ён і старанна з крывулькаю на канцы выводзіць:—Гусяцінскі.

— Па бацьку? Гэта добра, так і трэба, каб ведалі як па бацьку: ня ўсім жа падабае казаць, дый дакуль гэта будзе—„таварыш Гусяцінскі". 32 годы—ня ў боршч плюнуць!.. Ён смакуючы паглядзеў яшчэ раз на чытэльнае „Рыгоравіч", але раптам асалапеў. Анкета, прыплюшчыўшы па-Ленінску вока, нібы ведаючы наперад якое гэта зробіць уражаньне, запытала:

— Вашае соцыяльнае пахаджэньне?

У гэтых словах захоўвалася яе неперамажная сіла, але гэта было разам з тым і адзінае месца на ўсім жыцьцёвым шляху і сумленьні Васіля Рыгоравіча, дзе ён адчуваў, што ня ўсё ў яго добра, адчуваў сябе перад некім вінаватым, ведаў, што выплывае наверх сама, якая толькі існуе, контррэволюцыя, дурман, опіум, цемра, але гэтаму ліху ён ня мог даць рады: 32 гады, пашпарт, мэтрыка—усё ва ўстанове, усе пра гэта ведаюць.

Ва ўсім іншым: што рабілі да 1917 году, ці былі за гэтмана, дырэкторыю, Дэнікіна... Ва ўсім тым, што зьяўлялася падводнымі рыфамі для каго-небудзь з малодшых, ён адчуваў сябе пэўным і шчасьлівым, што нідзе ня быў, нікуды ня ўмешваўся. Тут Васіль Рыгоравіч дазваляў сабе нядбайна, легкаю рукою, кідаць на паперу—працаваў, служыў, працаваў... Яму нават хацелася пажартаваць з анкеты: нябойсь, ведаем, чаго ты хочаш, ды дудкі!..

Але „Вашае соцыяльнае пахаджэньне" атруціла яму ўсе пасьлякастрычнікавыя дні, калі трэба было садзіцца за анкету і з самае анкеты ўтварыла сапраўднага, няжывога сьледчага з двума пытлівымі вачмі-іголкамі, перад якім нічога не схаваеш, якому павінен гаварыць чыстую праўду. Васіль Рыгоравіч сумна перачытаў запытаньне другі раз, працёр бруднаю хустачкаю акуляры, паглядзеў цераз галаву машыністкі ў акно на аголенае крыху запарушанае сьвежым сьнегам гальлё тополі, глянуў на ўсьмешку Ленінскага портрэту і, прачытаўшы можа дваццаты раз, напісаў:

„Сын вельмі беднага сьвяшчэньніка вёскі Вярбоўкі".

Гэтае „сьвяшчэньніка" лягло чорным дакорам на белай анкеце і запалоніла ўсё—папярэдняе і далейшае. Васіль Рыгоравіч аж зжахнуўся чытэльнасьці і разьмеру сваіх літар; здавалася, яны закрычаць зараз на ўсё горла разяўленым ротам:—Сын сьвяшчэньніка, сьвяшчэньніка! Паповіч! Ага!..—панясуць гэтую праклятую вестку да пакою мясцкому, дзе чакае анкеты невядомы чалавек у скураной куртцы. Васілю Рыгоравічу да болю захацелася зьменшыць гэтыя лупатыя літары, зрабіць іх мала прыкметнымі; ён абводзіў іх дзеля таго кружочкамі, але неспадзявана ўсё слова зрабілася яшчэ выразьнейшым. Васіль Рыгоравіч глыбока ўздыхнуў і перашоў да чарговага пункту.

— Якой партыі спачуваеце?

Васіль Рыгоравіч зручней усеўся на зэдліку, спакойна памеркаваў і вырашыў на гэтым пункце апраўдаць папярэдняе запытаньне.

Спачуваю Р. К. П. Б. У. (Раптам прыпамятаў украінізацыю і размашыста дадаў):—Заўсёды стаяў за фэдэрацыю і аўтономію.

Каля дзьвярэй мясцкому Васіль Рыгоравіч крыху пастаяў, працёр акуляры, пагладзіў лысіну, абглядзеў яшчэ раз напісаную анкету і на пальчыках увашоў.

Невядомы ў скураной куртцы, нізка нахіліўшыся, вадзіў носам над нейкім сьпісам; каля яго стаяў з паперамі заклапочаны і сур'ёзны сакратар мясцкому. Васіль Рыгоравіч доўга ня мог адважыцца парушыць густую цішу, якую наводзіла скураная куртка і схіленая чорная, кучаравая галава. Ён пабожна аглядаў Чубароў портрэт і толькі тады, калі невядомы адарваўся ад сьпісу і кінуў сакратару—Далей!..—Васіль Рыгоравіч здрыгануўся. Невядомы, прыплюшчыўшы вочы, кінуў на ўсю мізэрную постаць Васіля Рыгоравіча пільны, анкетны погляд і голасна запытаў:

— Вы, таварыш, да мяне?

Васіль Рыгоравіч уздрыгнуў і, надаючы самы прыемны выгляд свайму твару, нячутна, праз кожныя пару крокаў спыняючыся, падышоў да стала.

— Анкету вы, здаецца, прасілі... выбачце—казалі... Дык я вось...

Васіль Рыгоравіч спахваціўся, што не сказаў самага галоўнага і пасьля паўзы ўставіў:—таварыш...

Невядомы энэргічна трасянуў чорнымі кудрамі, і скураны рукаў блісьнуў перад вачыма Васіля Рыгоравіча.

— А-а, анкета? Давайце. Ваша прозьвішча?

Васіль Рыгоравіч прыбітым голасам сказаў сваё прозьвішча і пераступіў з нагі на нагу.

Невядомы, ня гледзячы, пасьпешна сунуў анкету кудысь пад паперы, а Васіль Рыгоравіч адступіўся ад стала. Ён зусім ня ведаў, што ў такім выпадку трэба рабіць; з прычыны гэтага журботна глянуў на сьцены мясцкому, памацаў гузікі на сарочцы і, не абарачаючыся, ціха падаўся задам да дзьвярэй і зьнік.

У калідоры ён адчуваў сябе вальней, але прыпамятаў:

„Нашто яму маё прозьвішча?“ І ня мог даць сабе адказу, толькі праклятае анкетнае месца „соцыяльнае пахаджэньне“ яшчэ раз атруціла яму дзень.

Васіль Рыгоравіч бясьцікаўна клыпаў на сваё старое месца да „Морзэ“.

II

Васіль Рыгоравіч некалькі гадзін пераварочваўся з боку на бок і ня мог заснуць. Жыцьцё наўкола пакрысе замірала, на вуліцы калі-ні-калі тарахкацелі калёсы возьнікаў і, нарэшце, замёр на бруку запозьнены пась-

пешны крок. Тады Васіль Рыгоравіч супакоіўся і, напружаючы погляд, імкнуўся разглядзець на сьцяне цьмяныя контуры плямы ад якогась далёкага ліхтара. Ноч таемна вартуе наўкола і хціва слухае, а Васіль Рыгоравіч аддаецца ўспамінам. Яму здаецца, нібы ён ляжыць на дне нейкай казачнай ціхай сагі, а дзесь там на паверхні б'е нясупыннай крыніцай жыцьцё, цякуць празрыстыя воды, нясуцца ў невядомую далячыню чужыя гады і толькі яго гады тут, насподзе, марна адлятаюць, як апошнія асеньнія лісьці.

Вось яны 52. Цяпер страшна падумаць, што два гады ўжо прашло, як пераступіў поўсталецьця, а было—

— Як адчыстага празрыстага плёсу адбілася ў думках Васіля Рыгоравіча яго дзяцінства (вярбоўскія вербы, і толькі бацька-поп цяпер зусім не да рэчы—кадзіла, эпітрахіль, крыж), потым мільганула школа, пачатак службы (і ўжо не Вярбоўка, а места: каменныя дамы, брук, драты і—замест бацькавага ладану—распалены асфальт). Гэта яго маладасьць, калі чамусьці хацелася на Волгу, народу волі і канстытуцыі. Тоненькім тэнарком Васіль Рыгоравіч сьпяваў на чаўне сярод Дняпроўскіх прастораў на маёўках:

Укажи мне такую обитель
Я такого угла не видал...

Сьмяяліся ў праменьнях сонца залатыя вёжы украінскага бароко, а здавалася (хацелася думаць), што гэта—на Волзе, дзе Сьценька Разін, Пэрсыдзкая княгіня, „Дубінушка“ й бурлакі...

Выдь на Волгу,—чей стон раздается...

Яшчэ глыбей—і засьцілаюцца туманом перад Васілём Рыгоравічам яго першыя няўдачы і болі. На момант, на адзін толькі момант закрасавала яго каханьне, а потым—ажаніўся. І Кацярына Сідараўна (даўно ўжо не засталося і сьледу ад „мілае Кацінок“) патаўсьцела, і часткі яе цела сталі падобны на торбы, торбачкі і клубкі людзкога мяса...

І пацягнуліся дні, нібы заведзеная машына, аднастайныя дні, шэрыя і нудныя, як тэлеграфная стужка... Знашліся Наташа, Саша, Паўлуша, але ён пяцігадовым у рэчцы патануў, а потым дакоры, нагароды і кніжка касы ашчэднасьці.

А ўсё перавярнула рэвалюцыя—прапала трыста рублёў у касе ашчэднасьці, і стала ясна, што ня будуць даваць пэнсыі. Жыцьцё запшонілася, запаперылася і разлажылася на клясы, катэгорыі, пайкі.

Васіль Рыгоравіч сказаў Кацярыне Сідараўне:

— З пэнсіі не пражывеш... Апрычнікі...

. . . . . . . . . . . . . .

Яблычкі, яблычкі! Сьвежыя! Залаты ронэт. Тры мільёны фунт! Яблычкі!..

— А вось кошык з ружовымі жмэрынскімі яблыкамі на рынку, а пры ім Кацярына Сідараўна з лісьлівым, канфітурным галаском:

— Купіць, купіць! Яблычкі!..

Але далез, нарэшце, тыфус і да памяшканьня Васіля Рыгоравіча. Доўга валтузіўся ён наўкола, шныпарыўся калматы каля цэлых сем'яў, аж вось раптам, нібы іншымі дзьвярмі ўвашоў: гаручка, Кацярына Сідораўна маячыла пра залаты пярсьцёнак, які Васіль Рыгоравіч меўся панесьці на рынак, і потым—напоўсьвядомы, жаласьлівы, беспарадны галасок:

— Васінька,—яблычка мне... Дай яблычка!..

Праз якіясь сьмярдзючыя лекі пачуўся Васілю Рыгоравічу тады раптам ладан. Стала агідна й страшна. Сьмерць? У памяці стаяў нябожчык бацька-поп. Васіль Рыгоравіч глыбока ўздыхнуў і першы раз тады скэптычна і горка падумаў: „Папасьпявалі вы, тата, сорак восем год дaслужыліся камілаўкі і наперснага, а ўсё дарма: „опіум для народу“. Але ўраз раззлаваўся і буркнуў:

— Вось яны дзяржаўныя будаўнікі, можна сказаць—цэрквы зачыняць! Ды... Што гэта значыць—Расія! (Украіну—немцы ды Грышэўскі выдумалі: дописувач, переписувач, контролювач, позадники, попередники й самопер—ну й народ!..).

У сыры дзень сакавіка, калі намагалася зьвярнуцца зіма і баязьліва брала свае прыродныя правы вясна і ад гэтага з неба секла снегам і ймглою, Кацярыну Сідораўну адвезьлі на могілкі. За драбінамі, што грукаючы па бруку, везьлі непафарбаваную труну, пашло на могілкі пяцёра: сям'я, зямляк скарбнік з чыгункі ды суседка перакупка з рынку. Калі Васіль Рыгоравіч удвох з цьвінтарным сторажам кінулі на магілу апошнюю рыдлёўку вільготнае зямлі і Саша акуратна ўтаптаў краі магілы сваімі старэнькімі ботамі, каб не рассыпалася, Васіль Рыгоравіч адышоў у бок. Ён глянуў на сьвежую магілу, і цёплая сьляза заструменіла па шчацэ і зьнікла пад вусам.

Няма кошыкаў, яблык, няма самое Кацярыны Сідораўны. Цяпер прыбавілі ўжо пэнсію (пайкі, „лімоны“, клясы, здаецца, назаўсёды адышлі ў мінулае), жыцьцё ўвашло ў новыя берагі, але пастарому закруціла свайго адвечнага млына.

І Васіль Рыгоравіч, нарэшце, пытае сябе зьдзіўлена:

— Ціж-ж такі й сапраўды была вялікая бура—агонь, пошасьць, голад, ці толькі насьнілася?.. А ўсё-ж пэнсіі ня бачыць і юбілею свайго Васіль Рыгоравіч так і ня справіць, бо калі стукнула 25 год—грымнула рэвалюцыя...

Чаго-сь баліць у лытцы правая нага і муляе пад бокам.

Цік-так, цік-так...

Васіль Рыгоравіч прыслухаўся, як цікае будзільнік і з сэрцам падумаў:

„Гэта мае гадзіны адбівае, бэстыя!“

Хацелася такі закруціць яго, каб ня цікаў і наўкола была-б толькі ціша, але Васіль Рыгоравіч успомніў, што заўтра а восьмай трэба на службу.

Ён перавярнуўся на другі бок, падумаў яшчэ пра скарачэньне штату і, нарэшце, заснуў.

Цік-так, цік-так...

III

Васіль Рыгоравіч прачнуўся а сёмай. Яшчэ толькі разьвіднялася і кароценькі сон толькі змарыў яго, ня даўшы ні супачыць ні забыцца, але сёньня на тэлеграфе яго зьмена і трэба зьбірацца.

Васіль Рыгоравіч яшчэ паварочаўся трохі на ложку, потым устаў і, не спадзяючыся ад новага дня нічога лепшага, млява пачаў адзявацца. За дзьвярмі полюдкалася каля самавару Наташа. Лёгкімі шорахамі старамоднае сукенкі праплыла ў суседні пакой Капачыха і наліла вару. Капачыха—суседка. Ёй 75 год. Яна даўняя ўдава якогась акцызнага Андрэева. Цэлымі днямі яна поркаецца каля якогась рызьзя—стужак, нітак, засушаных лісточкаў, пляшачак, і за гэта Саша празваў яе Капачыхаю. Так і прышчапілася паміж усімі: „Паклічце Капачыху“, „дайце Капачысе вару“... Капачыха прадае праз трэція рукі старыя капоты, завушніцы, ложачкі і залатыя пацеркі. З таго й дажывае свае пратрухлыя дні. Адзіная ўцеха ў яе і ўсё, што засталося ад мінулага: уранку і ўвечары гарбата, удзень—„кава“. Капачыха дае тры разы ў месяц на вугаль і за гэта атрымоўвае вар.

У сенцах лаяўся з Наташаю Саша. З Сашаю Васілю Рыгоравічу няма рады. Саша два гады ўжо ня вучыцца. Раней ён прадаваў цыгаркі на вуліцы, а цяпер няможна: патэнт і міліцыя. Саша зьбірае чужаземныя маркі і невядома на якія грошы кожны тыдзень ходзіць у цырк. З сянец зноў даляцелі яго пісклівыя словы да Наташы:

— Вось панна! Падумаеш!.. З сексотам цягаецца...

Наташа нэрвова крычыць:—Сашка!.. І потым злосна грукаюць дзьверы.

Даўно ўжо Васіль Рыгоравіч ломіць сабе галаву над Сашаю, ён ня раз думаў над гэтым пытаньнем, падыходзіў да яго з усіх бакоў, прыпамінаў усю сваю жыцьцёвую практыку, а цяпер канчаткова вырашыў:

— Сашу трэба аддаць у комсамол.—Між тым гэта думка зараз-жа прытупілася і пакрылася іржою:—Але як-жа гэта зрабіць? Ці-ж прымуць?.. (Усюды трэба анкеты і „Вашае соцыяльнае пахаджэньне“).

Праз колькі хвілін самавар ужо шумеў у суседнім пакоі, а з-за дзьвярэй пачулася Наташынае:

— Папа, гарбату піць.

Васіль Рыгоравіч мімавольна здрыгануўся. З таго часу, як Наташа зрабіла сабе другі аборт, Васіль Рыгоравіч нібы баіцца яе нэрвовага голасу, але разам з тым і хоча яго чуць. У рысах Наташынага абліччa—

маладая Кацярына Сідораўна і кароткае падабенства далёкае моладасьці Васіля Рыгоравіча.

Васіль Рыгоравіч пасьпешна надзеў старую „гімнасьцёрку“, накінуў марынарку і пашоў піць гарбату.

Дзесь з-за кругавіду, цераз награмоджаныя кубы каменных будынкаў кінула сонца свой першы прамень і афарбавала квола-ружовым колерам залаты краёчак вежы. Ад гэтага старая, нахмурая званьніца нібы павесялела, і выпуклая вежа, пакрыўшыся дзіцячым румянцам, пасьміхалася наіўна й прыветна. Гэта наганяе людзям спакой і бяздум'е. Васіль Рыгоравіч пасьпешна імчаўся на службу ў сваім старым урадавым шынэлі, што справіў, думаючы сьвяткаваць свой дваццаціпяцігадовы юбілей. Ён праміnуў адрэмантаваны выканком, прапусьціў каля сябе трамвай, які дзінькнуў і рушыў сабе далей, паблісківаючы на дроце бледнымі іскрамі, прашоў каля дошкі, дзе калматы хлапчына расклейваў сьвежыя афішы і, нарэшце, вышаўшы на рог, глянуў на царкву. Ружовая вежа яшчэ пасьміхалася і перахмала новыя праменьні, што выляталі з усходу.

Але ў Васіля Рыгоравіча было цяжка на душы, і нават вежа ўсьміхалася не яму. Заўсёды, калі Васіль Рыгоравіч падыходзіць да тэлеграфу, яго апаноўвае неспакой, і старое сэрца адбівае свае ўдары часьцей. Штодня ён чакае новае няпрыемнасьці. Яму здаецца, што якаясь скураная рука (тая самая, што—„конкретно“, „по сути“, „опіум для народа“) закельзала тэлеграф, дні, усё жыцьцё, і толькі ён, Васіль Рыгоравіч, яшчэ неяк мітусіцца між пальцаў.

Але час прыдзе...

Прадчуцьцё ня здрадзіла Васілю Рыгоравічу і на гэты раз. У апаратнай яго спаткала чарговая навіна. У куце, каля акна, там, дзе заўсёды працавалі „Юзы“, пастаўлены апарат новае сыстэмы—„Клёпфэра“. З вялікім, драўляным, смуглым рупарам ён быў падобны на дзюбу якогась фантастычнага драпежніка і яшчэ здалёку ўядаўся ў вочы.

Пра „Клёпфэра“ даўно ужо пачалі гаварыць на тэлеграфе, і паміж служачымі пашыраліся рознастайныя чуткі, разважаньні і нават часам хваляваньні. Гаварылася, што неўзабаве ўсе сыстэмы пераменяць на „Клёпфэр“, што ўсе тэлеграфістыя павінны навучыцца за месяц працаваць на ім, а тых, што ня змогуць выўчыцца, выкінуць са службы (спэцыяльна дзеля гэтага і скарачэньне штату выдумалі—між намі кажучы!). Хтось перадаваў, што ў Маскве дактары зрабілі досьлед і вынашлі, нібы пасьля трохгадовае працы на „Клёпфэры“ людзі вар'яцеюць, і з прычыны гэтага ў Наркомпоштэлі яшчэ ня прышлі да канчатковага вываду—заводзіць „Клёпфэр“ ці не. Гаварылася багата, але пэўнага яшчэ нічога ня было.

Ды вось тры дні таму назад адбыўся агульны сход. Старшыня мясцкому Рабашэін, расказваючы пра астатнюю нараду з адміністрацыяй

і, як заўсёды, трымаючы адну руку ў кішэні, а другою робячы перад тварам выкрутасы, сказаў:

... Такім чынам „Клёпфэр“, таварышы,—гэта нашае найбліжэйшае заданьне. Ён захоўвае для нашае рэспублікі шмат страт. Для „Клёпфэра“ ня трэба папяровае стужкі, ён не патрабуе фарбы, „Клёпфэр“ працуе на слух. Праз тыдзень мы распачынаем навучаньне. Усе таварышы павінны як найхутчэй выўчыцца. Папераджаю.

Потым пачаў гаварыць сакратар Комсамолу, таварыш Юшкевіч:

— Мы, таварышы,—ваша зьмена. Тое, чаго вы не пасьціглі—давяршым мы. Новы, чырвоны тэлеграфісты ня будзе ведаць ніякіх „Морзэ“! „Клёпфэр“ і Радые—вось наша зброя да перамогі. А дзеля таго мы, маладая гвардыя, кажам:

„Даёш „Клёпфэр!..“

Што гаварылі далей—Васіль Рыгоравіч забыў, затое два словы ўрэзаліся ў памяці і выціснулі дзьве чорныя кропкі:

„Клёпфэр“ і зьмена...

Васіль Рыгоравіч раней толькі дагадваўся, што так павінна быць, але ўпарта адганяў гэтыя думкі і нават разважаў:—Гаварыць яны ўмеюць, ведаем,—„Свабода, роўнасьць і братэрства“, а вось як да справы, то (як тыя дзядзькі кажуць?)—„каму—на, каму—не, каму—дуля, каму—дзьве“. Кажэце, кажэце!.. Але сёньня ў апаратнай стаяў „Клёпфэр“ і гэта ўжо гаварыла цяпер выразна і рашуча—трэба зьмена, трэба новых людзей...

Васіль Рыгоравіч падышоў да „Клёпфэра“, паглядзеў на яго скэптычна паверх сваіх акуляраў спадлоб'я, зазірнуў яшчэ раз у рупар і ціха адышоў на сваё месца. Ён журботна падумаў:

„Так, так—новых, а мы стапталіся, адстукалі сваё. Ну і няхай“...

Цяпер Васіль Рыгоравіч ужо добра ўявіў сабе, што рана ці позна (нават, як відаць, неўзабаве) прыдуць іншыя, чужыя людзі.—і тады ўжо ніколі не сагнецца яго пагорбленая сьпіна над старым „Морзэ“, і жаўтаватая тэлеграфная стужка не перакажа яму чужых думак з неасяжных прастораў Расіі.

Там пры апараце на зэдліку будзе сядзець новы. Васіль Рыгоравіч уяўляе яго сабе досыць конкрэтна: ён—у скураной куртцы, рашпілены каўнер і неахайна адкінуты назад буйныя валасы, а з боку, дзе ляжаў пацёрты ўрадавы з спружынаю ў сярэдзіне каскет Васіля Рыгоравіча, упадзе на Марксаў „Капітал“ адчайная сіняя кепка.

І сягоньня Васіль Рыгоравіч пакорна схіліўся перад гэтым няміну-чым фатумам свайго жыцьця. Толькі адно ўпілося ў самую душу і ня пускала: 32 гады ён аддаў апарату, прытупіў каля яго свой зрок, высушыў рукі, палысеў і пажаўцеў, як лімон, а любіць яго ніколі ня любіў. Наадварот. Апарат прыкоўваў яго да пэўнага месца, абмяжоўваў рухі, думку, волю, але Васіль Рыгоравіч ведаў, што па-за апаратам яму няма

месца на зямлі. І ён пагаджаўся з ім бяз прыхільнасьці і без нянавісьці.

Цяпер-жа, калі ў апаратнай стаяў, праўда, яшчэ адзіны, але такі нахальны і дужы „Клёпфэр“, што пагражаў заняць усе сталы і драты, у Васіля Рыгоравіча асеньнім захадам зарумянілася профэсыянальнае замілаваньне.

Блізкім ды родным стаў яму маленькі апарат сыстэмы „Морзэ“. І Васіль Рыгоравіч, думаючы пра скарачэньне штату, пацяшаў сябе:

— Ды не, „Клёпфэр“ калі й будзе, то толькі часткова—два-тры апараты, а „Морзэ“ будзе стаяць, зразумела, і надалей.

Васіль Рыгоравіч нізка схіліўся над апаратам і ціха сказаў пра сябе:

— Мяне ўжо ня будзе, ня будзе зусім. Скора ўжо. А ты, мой апараціку, мой „Морзэ“, усё будзеш стукаць, усё будзеш няўтомна працаваць...

І нібы адказваючы яму, журботна шуршэла стужка і ціха цокала кольца.

## IV

Наташа шпаркімі крокамі ўвашла ў пакой Васіля Рыгоравіча і, нэрвова сьціскаючы пальцы, сказала другі раз за сёнешні дзень:

— Толькі будзь ласкаў, папа, я вас надта прашу, калі прыдзе Трахім—ані слова пра бога і, наогул...

Васіль Рыгоравіч вінавата і ніякава матнуўся на крэсьле і, паглядаючы ўкрадкам на Наташу, зашапацеў:

— Я, я ўласна—нічога... то тады толькі так—да слова прыпала... Але я—не, не...

Наташа яшчэ раз з прыціскам і маленькаю дозаю агіды сказала:

— Дык будзь ласкаў, папа, прашу...

Наташа вышла, а Васіль Рыгоравіч пачаў разважаць.

— Так, так—гэта ён. Гэты комунісьцік няшчасны, ці нават кандыдат у комуністыя, Трахім Загарулька, што служыць начальнікам чыгуначнае варты, гэта ён вінаваты ў тым, што Васіль Рыгоравіч прымушан непакоіцца за Наташу. Бязумоўна, апошні аборт ад яго. Нашла з кім! І не разьбярэш, ці сапраўды ён начальнік, ці такі сексот Одотэгепеу, як запэўняе Саша?.. Эх, Наташа, Наташа!..

Васіль Рыгоравіч злаваў на ўвесь той новы, але такі чужы яму сьвет, што перавярнуў уверх дном усё дагэтуль яго жыцьцё, зьвёў на нішто яго, як бацьку, зрабіў з Наташы (хоць і не партыйная) „таварышку Нату“, а з Сашы—звычайнага шалапута, і нават пах былое сьвятасьці каляд, вялікадню і храмавога спаса цяпер нібы аддаваў яму нафталінам („опіум для народу“). Васіль Рыгоравіч сэрцам адчуваў, што ўсё гэта—і бацькава камілаўка з наперсным, і яго ўласная пэнсія, і юбілей загінулі без звароту. Яны прапалі тады, калі ўпаў на тротуар з тэлеграфу двохгаловы арол і разьбіўся на друзачкі, калі злазілі з п'едэсталаў па горадзе чыгунныя цары, міністры і дзеячы...

Спачатку яшчэ можна было спадзявацца перавароту (гэта тады, калі—„лімоны“, „усе на барацьбу“,—транспорт, вугаль, тыфус,—матросы, палякі, Урангель і бандытызм). Тады Васіль Рыгоравіч—на твары сумна-сур'ёзна, а ў душы—сьмехам-злосьцю:

„Зруйнавалі дзяржаву сукіныя сыны! „Весь мир—до основания“...

І Васіль Рыгоравіч рад быў шчыпаць сваю далонь за тое, што ў лютым 1917 году вітаў Рэволюцыю: радаваўся чамусь з дурнога розуму.

Але з пекла, з руіны, з убоства, пад сьвіст куль і гром гармат паўстала зноў дзяржава. І лява, што палкім агнём зьнішчыла на сваім шляху ўсё папярэдняе, цяпер заскарынела, стала цьвярдзейшай, стала халоднай і непарушанай. Яе падперазаў новымі дратамі, зьвязаў дзяржаўным апаратам, папстрыкаў скрозь ячэйкамі, упоўнаважнымі, агентамі той самы, што—скураная куртка, „ураз выканаць“ або—„у Чэка—да сьценкі“!..

Васіль Рыгоравіч адчуваў бясьсільле свае злосьці. І гэты Загарулька, адзін з тых, што „ўраз выканаць“ зможа—так, так! бязумоўна зможа: ня два аборты Наташа зробіць, а чатыры, пяць, восем, покуль ня скажа таварыш Загарулька:—„Вопрос исчерпан“. А калі-б Наташа і радзіла ад яго, то ўсё адно: будзе малады ленінец, дзіцянё Кастрычніка, піонэр, толькі ня звычайнае, хрышчонае дзіцянё. Будзе так, бо з гэтым трэба пагадзіцца, але бацькаў наперсны, былы спас і мажлівая пэнсія не дазваляюць... Васіль Рыгоравіч можа толькі безнадзейна і моўчкі, вінавата і боязна скарыцца...

З сянец пачуліся тры моцныя ўдары кулаком у дзьверы, Наташыныя крокі, скрып заржавелых завес, і ў суседні пакой, цьвёрда ступаючы хромавымі ботамі, увашоў Загарулька. Васіль Рыгоравіч адразу пазнаў яго пэўныя, крыху важкія крокі і спакойны, хрыплаваты ад прамоў, сходаў і каманды голас. Васіль Рыгоравіч насгаражыўся. Яго сэрца на хвіліну дало перабой, а потым ён прашоўся па пакоі, каб супакоіцца, сеў зноў на крэсла, але сэрца зараз-жа адбіла: — ён, ён... Васіль Рыгоравіч рашуча высмаркаўся ў старую з блакітнымі акрайкамі хустачку і ўвашоў да Загарулькі.

Загарулька нязграбна і нібы стомлены разваліўся на старой канапцы, перакінуўшы нагу на нагу, і не ўстаючы прывітаўся.

— Здаровы, папаша!.. Ну, як там?

Наташа порстка глянула вялікімі сьветла-карымі вачыма і з абразаю перарвала:

— Троша! колькі разоў казала!..

Загарулька адказаў спагадліва-ўсьмешлівым поглядам, але паправіўся:

— Што ў вас, Васіль Рыгоравіч, пра радыё гавораць? Скажам, фотографія, прыкладам, і зноў-жа такі концэрты з Масквы? Кажуць, што і ў нас скора будзе?

Васіль Рыгоравіч, паклаўшы на калені рукі і нібы апраўдваючыся за тэлеграфныя парадкі, ціхенька адказаў:

— Зразумела, гэта праўда, магло-б быць і радыё, але толькі-ж у нас, ведаеце, як гэта заўсёды... Наташа асьцярожна павярнулася ў яго бок, і Васіль Рыгоравіч, пералякаўшыся, змоўк. Загарулька ляснуў рукою па краі скураное курткі і выпукласьці „галіфэ“ і, падбадзёрваючы, кінуў:

— Нічога, усё будзе... (Ен зноў хацеў сказаць „папаша“, але апамятаўся і вытрымана працадзіў):—Васіль Рыгоравіч!.. Прашлі, можна сказаць, фронты, а цяпер—„пожалуйте бриться“: гаспадарчае будаўніцтва і зноў-жа такі—культура. Але радыё—гэта, бясспрэчна, без яго ніяк да комунізму няможна... Вось, скажам, Марс, там таксама, кажуць, людзі ёсьць, а як з імі зьвязацца—„змычку“ так-бы сказаць?.. Звычайна, навука не дашла яшчэ да гэтага, але я пэўны, што тут бяз радыё не абыдзецца.

Загарулька сказаў апошнія словы пераконана, як знаўца справы, ён задаволена зірнуў на Наташу, закінуў бот вышэй калена і закурыў цыгарку. Потым прыпамятаў і працягнуў каробачку Васілю Рыгоравічу:

— Прашу!

Васіль Рыгоравіч узяў трыма пальцамі цыгарку і, раструсваючы на майткі попел, прыкурыў ад Загарулькавай. А Загарулька казаў далей:

— Ну, а як толькі з Марсам наладзім сувязь, тады—бяры бога за бараду! Аман усякім дурманом!

Наташа, заплюшчыўшы вока, глянула на бацьку, Васіль Рыгоравіч паварушыўся на зэдліку, праглынуў сьліну і сказаў:

— Будзьце ласкавы, пеце гарбату. Наташа, прысунь цукар.

Яму хацелася запярэчыць наконт бога, але прыпамятаў Наташынае засьцеражэньне і перашоў на іншае:

— З украінізацыяю, ведаеце, нам бяда. Вось мне ўжо, дзякуй богу, 52, а йдзі вучыць—назоўнікі, галосныя... І як гэта так, не дабяру—у насжа цяпер Інтэрнацыянал, сказаць-бы, і тут вам „мова“. Яно зразумела, фэдэрацыю нам трэба, вось, напрыклад, РСФСР, толькі навошта-ж нацыяналізм?

Загарулька не без задаваленьня глянуў на бляск свае курткі, які тонка адпавядаў газавай лямпе „Ампір“, і хітра ўсьміхнуўся:

— Так, так... Васіль Рыгоравіч (Загарулька даўно ўжо адвык называць людзей па бацьку, і яму зноў назойліва чаплялася да слова і хацела вырвацца на вусны „папаша“, але—„чудная Натка“: абражаецца...)—вучыцца! З новага году будзе пагалоўная украінізацыя. У нас на парткон-фэрэнцыі („у нас“—у Загарулькі выходзіць паважна, многазначна і з прыціскам) так і сказана было—усе павінны украінізавацца.

— І комуністым таксама?—шчыра зьдзівіўся Васіль Рыгоравіч. Загарулька спусьціў з калена ногу і крыху нахіліўся наперад:

— Абавязкова, абавязкова, Васіль Рыгоравіч! Комуністым—у першую чаргу. З гэтым не жартуйце. Без украінізацыі ніяк нельга: „змычка“ і нацыянальнае пытаньне! Гэта абавязкова...—Загарулька перасеў да стала і падсунуў шклянку.

Васіль Рыгоравіч пацокаў аб сподачак лыжачкаю і задумёна дадаў:

— Царква таксама украінізуецца... Наша—Міколы, на рагу, ужо другі тыдзень правіць...

Наташа з мукаю паглядзела на бацьку. Заўсёды, пасьля такіх размоў Трахім жартаваў з яго, з яе сям'і, у яго голасе гучэлі тады рэзкія ноткі свае перавагі, і ад гэтага было прыкра й балюча. У такія хвіліны Наташы здавалася, што Трахім зусім ня той, якім уяўляла яна яго калісьці. Гэта было там, у чыгуначнай сталоўцы, на мітынгах, куды Наташа прыходзіла з свайго галоўнага складу па газэты. Тады Трахім быў сьмелы, рашучы, і яго моцнае цела ў скураной куртцы нібы выкавана. Наташа адчувала, што гэты Трахім—з таго шэрагу адчайных, напоўказачных людзей, што аднэй рукою перавярнулі-б сьвет. З таго часу Наташа ходзіць у Жанаддзел, на дэлегацкія сходы і ў клюб. Бо тыя людзі маюць вывесьці ўсіх з брудных канур, з цёмных хлявоў, з-пад сарамотных комплімэнтаў адміністрацый у невядомыя прыгожыя будучыя дні.

Але Наташа цяпер пагадзілася: няхай ня дойдзе яна за сваё жыцьцё да тых далёкіх дзён, аб якіх яна марыць, абы Трахім быў такім, як тады. Сьмелы, дужы і добры. Гэта будзе зарукай к таму далёкаму, прыгожаму... Наташа спрабавала затушаваць бацькавы словы:

— Трахім, ты заўтра будзеш у нас на адчыненьні кутка добрахіму?

Загарулька нядбайна кінуў:—Мабыць,—і захадзіўся каля Васіля Рыгоравіча:

— Кажаце—царква украінізуецца? О-го-о!.. Яна яшчэ не такіх конікаў выкіне, каб толькі ёй надалей дурман разводзіць. Што такое, так-бы сказаць, з навуковага пагляду царква?—Самаабман! Вось, скажам, Вішня ў газэце піша (як гэта ў яго?):—„Сьвяціцелю отча Карле Марксе малі бога за нас“... Ха-ха-ха. Вось стрыгануў!

Наташа ўжо нічога не казала, яна страціла ініцыятыву і безнадзейна перасьцерагала, схіліўшы на руку галаву. Аднак, Васіль Рыгоравіч на гэты раз ня вытрываў. Ён палажыў накрыж далоні на стале, потым адсунуў шклянку, кашлянуў і сказаў:

— Я, таварыш Загарулька, з сім-тым не магу пагадзіцца. Рэлігія, бачыце...

Загарулька перабіў яго:

— Ды што вы, папаша! Вам трэба антырэлігізавацца.

Наташа прамаўчала.

— Бо, калі, уласна, разабрацца і падумаць добра—што такое рэлігія? Дурман! Зноў-жа такі, возьмем, мошчы—парахня. Калі-б іх, разумееце, на паветра выцягнуць і потым дзьмухнуць на іх добра—нічо-

га-б і не засталося! Перад навукаю, папаша, усякая рэлігія засыпецца!

Наташу часамі корчылі шурпатыя Загарулькавы словы (4 клясы гімназіі скончыла, а потым праз беднасьць няможна было, затое на стале ляжала „Самообразование“ і „Гимназия на дому“). Тады Наташа намагалася пераканаць сябе і выбачыць:

— Трахім раней быў нагрузчыкам—няма нічога дзіўнага. Затое... Васіль Рыгоравіч апошні раз глытнуў з шклянкі, глыбока ўздыхнуў і, каб не зайсьці ў размове далёка, устаў:

— На службу заўтра, выбачайце... Ён сунуў сваю руку ў дзябёлую Загарулькаву далонь і вышаў.

Наташа лягчэй уздыхнула і наліла сабе гарбаты.

— Троша, на што ты пачынаеш пра рэлігію? Усё роўна-ж не пераканаеш старога...

Загарулька адчуваў, што для „папашы“ яго патугі былі зусім лішнія, але ён міргануў Наташы:

— Нічога, трэба з'агітнуць папашу!

— І потым гэта зноў—„папаша!“ я-ж прасіла... Але Загарулька ня даў ёй скончыць. Ён у момант падсунуў свой зэдлік да краю стала і, абхапіўшы моцнымі рукамі Наташыну постаць, затуліў пацалункам ёй губы.

— Ну, ну, ня гневайся, ня буду...

Наташа адказала яму кволым рухам губ, і на твары яе закрасавала ўсьмешка.

Загарулька выпусьціў яе і спакойна сказаў:

— Ляжам, Ната?

Наташа кіўнула галавою ў бок пакою Васіля Рыгоравіча:

— Бацька-ж яшчэ ня сьпіць...

Загарулька нядбайна ўсьміхнуўся і махнуў рукою:

— Ат, папаша! Ну й няхай ня сьпіць. Ната!..

Ён зноў сьціснуў яе крохкацелую постаць, і Наташа бязвольна адкінула на Загарулькаў локаць галаву і замерла.

## V

Васіль Рыгоравіч увашоў у свой пакой, але спаць ня лёг. Ён сеў каля свайго століка, дзе ня раз цыравала калісь панчохі Кацярына Сідораўна, і задумаўся. У яго вушах яшчэ грымеў упэўнены Загарулькаў голас, і сам Загарулька, нібы неабмежаваны ўладар над Наташаю, Васілём Рыгоравічам і ўсім цяперашнім жыцьцём, стаяў упарта прад вачыма і жартаўліва пасьміхаўся:—Бяры бога за бараду!..

Васіль Рыгоравіч злучаў свае думкі і адганяў іх, баючыся блюзьнерства. Але дражліва і спакусьліва якісь унутраны свой і ня свой голас гаварыў яму: „І Загарулька, і ўсе тыя бязбожнікі—адчайныя людзі, для якіх няма мінулага, змогуць дайсьці да ўсяго. Прыходзілі немцы, бяздушныя і цьвёрдыя, як камень, немцы, езьдзілі па месту бліскучыя афі-

цэры, мігнулі на месяц палякі, і што-ж—прышоў бязбожнік, абарваны галодны бальшавік. Ён быў супроць усіх і ўсе супроць яго. Але ён коратка і рашуча сказаў:—Ураз выканаць!—І Васіль Рыгоравіч і ўсе іншыя пашлі служыць, як і служылі раней. Ці-ж можна было паверыць, што будзе гэтак заўсёды? Але ўтварылася—так і будзе, бесьпярэчна, таксама і далей. І бяда ў тым, што бліжэй і бліжэй ён, гэты незразумелы, цудоўны бальшавік, падлазіць да Васіля Рыгоравіча, апутвае жыцьцё сваімі жалезнымі ланцугамі. І ўжо небагата засталося, калі ад усяго таго, што было, не застанецца нічога. Яны зруйнавалі ўсё і адбудоўваюць пасвойму. Яны зьневажалі бога, і бог маўчаў. Маўчаў увесь сьвет, бо наверсе стаіць бязбожнік, непераможны бальшавік. Ён зможа ўзяць бога за бараду! Зможа... Вось плякат на тэлеграфе: рабочы—і на далоні ў яго самалёт—„лети железный соловей и миру пой освобождение“... І Васіль Рыгоравіч цяпер напэўна ведае, што ён, гэты бальшавіцкі самалёт паляціць і засьпявае! І пра Марс Загарулька не дарэмна: яны так, як відаць, зьвяжуцца з Марсам. Яны зьнішчаць „Морзэ“ і „Юз“, і з аднаго толькі наказу будзе тарахкацець „Клёпфэр“ і гудзець радыё!..

Яны змогуць усё. Гэта сапраўдныя чэрці. Яны мудрыя, хітрыя й непераможныя, як сам шатан!..

Васіль Рыгоравіч журботна схіліўся на стол і да яго ўедліва далятаў з другога пакою глухі скрып канапкі. Але ён сядзеў моўчкі і не варушыўся.

Было ўжо больш дванаццаці, калі Загарулька ўстаў, прашоўся шырокімі крокамі па пакоі, голасна загаварыў і чыркнуў запалкам. Ён трохі яшчэ пасядзеў, засьмяяўся чамусьці і вышаў з дому.

Наташа ціха паслала на канапцы пасьцель, спынілася на хвіліну задуменна каля стала, потым патушыла лямпу, і ў пакоі ўсё сьціхла. Васіль Рыгоравіч злавіў вухам ледзь чутны шорах Наташынае коўдры і ўстаў. Ён закруціў будзільнік на восьмую, паволі разьдзеўся, пацёр пераседжаныя ногі і лёг спаць.

Але зноў ня спалася. Ноч вартавала яго і вось цяпер ціхенька падступае да ложка і не дае старому спакою. Васіль Рыгоравіч нацягнуў на галаву коўдру і падгарнуў к жывату ногі, але й гэта не давала рады: усё роўна за коўдраю—ноч, пакой, вуліцы, цемра...

Дзесь каля першае гадзіны, калі даўно ўжо сьціхла на вуліцы, вярнуўся з цырку дадому Саша. Ён адчыніў дзьверы адмычкаю, і з сянец даляцела да Васіля Рыгоравіча яго няроўная хада і грукат каля вешалкі. Саша нядбайна грукнуў дзьвярыма і ў цемнаце пачаў шукаць на стале стравы. Яго худзенькія пальцы спрытна абмацалі сподачак, талерку і цукарніцу, але, апрача некалькіх кавалкаў цукру, нічога не знашлі. Саша злосна забурчэў:

— Гадасьць! З сэксотам усё злопала... Хоць-бы крыху каўбаскі пакінула!

Наташа моўчкі перавярнулася на другі бок і шчыльней зашылася ў коўдру. Саша грыз цукар і шныпарыўся ўжо ў шафе. Наташа боезна прыслухалася і зьвярнулася да Сашы:

— Што ты там робіш? Гэта сала—бацьку на сьнеданьне.

Саша выцягнуў шматок хлеба і злосна прашыпеў:

— Усё вам!.. А мне дык пухні...

Ён са смакам зьнішчыў фунт хлеба і рэшту цукру. Неўзабаве Васіль Рыгоравіч пачуў яго роўны, бястурботны, салодкі хрып. Васіль Рыгоравіч перажагнаўся шырокім крыжам, прыціскаючы да цела свае касьцістыя пальцы, і з вераю прашапацеў:

— Госпадзі! Міласэрды госпадзі! Дапамажы, каб Сашу прынялі ў комсамол...

VI

Васіль Рыгоравіч сядзеў на задняй лаўцы і слухаў. Ён такі мусіў хадзіць на гэтыя бязглуздыя лекцыі ненавіснае „мовы“. Кожны раз лектар памячаў у сшытку прысутных, і кожны тыдзень адміністратар курсаў—старая налпа загканц Журавель—правяраў прысутнасьць. Мала таго—Васіль Рыгоравіч мусіў крыху ўрэзаць свой месячны бюджэт, купіўшы „Украинский язык“ Сіняўскага і чытанку „Шляхом життя“. Так, у гэтым была якаясь свая вынайдзеная праўда: бальшавік (той самы былы босы і галодны з паўночы бальшавік) прымусіў яго хадзіць на лекцыі, чытаць украінскія газэты і вучыць граматыку. Гадоў дзесяць таму Васілю Рыгоравічу і ня прысьнілася-б, нават, што яму яшчэ давядзецца калісьці пад старасьць вучыцца. І хоць-бы чаму путнаму, а то!.. Але шэсьць год таму назад першы раз загаварылі пра „мову“. Сідарэнка пачаў насіць пад урадаваю курткаю вышыванүю сарочку з поясам і дакараў Васілю Рыгоравічу:

— Дабрадзею Гусяцінскі! Вы-ж з дзеда-прадзеда, можна сказаць, а тут, у дзяржаўнай украінскай установе ўсё „чтокаеце“ ды „какаеце“!

Але Васіль Рыгоравіч не зважаў на тое: усе знаюць, што Сідарэнка, хоць і старшы, але ў галаве яго таго... „Увлекающийся“!

Паміж іншым, Васіль Рыгоравіч павінен тлумачыць з украінскае мовы на расійскую наказы гэтманскага міністэрства і праглядзець пачатковую граматыку О. Курыла. Гэта было глупства. І калі сотня гэтманскіх гвардзейцаў, маршыруючы, сьпявала на вуліцы: „Бо за ту едину неньку Україну“, Васіль Рыгоравіч добра ведаў, што ўсе дамы вялікага места, уся славутая, усеяная нямецкімі шлемамі краіна, нават самае паветра падцягвалі тады—„Паўстане вольная Украіна ад Каўказу да Бэрліна“...

А потым, хіба-ж можна паверыць, каб „жалязяку на пузяку“ трывала доўга! Але прышлі іншыя дні і засьпявалі нашыя песьні.

Бальшавік пасвойму ўзяўся за украінізацыю: „Атрымаўшы гэта, наказваю вам хутка... Утварыць праверку; асоб, што будуць залічаны ў

4-ую катэгорыю, звальняць з пасады...“ Ну, і што-ж Васіль Рыгоравіч мог супроць гэтага зрабіць? Ён чуў, што нават тым, якія апынуліся ў 3-яй катэгорыі, старая налпа Журавель, разводзячы безнадзейна рукамі, адказваў заўсёды адно:

— Я нічога, таварыш, не магу!—зразумейце, што нічога! Вы лічыцеся за таварышам Смалянскім,—зайдзеце ў губпрофасьветы да яго—і ён вам назначыць экзамен. Купеце Гладкага, Сіняўскага і падвучэце. Нічога не магу болей!..

Не, Васіль Рыгоравіч жадаў лепш вучыцца украінскай мове і хадзіць рэгулярна на лекцыі, чым лічыцца за галоўным украінізатарскім чакістым і абіваць парогі Нарасьветы.

Васіль Рыгоравіч затуманіў сабе галаву галоснымі ды зычнымі і налягаў на назоўнікі. І вось цяпер ён сочыць за праворным, бязвусым хлапцом, лектарам, і дзівіцца.

Лектар дэклямацыйна і з мігамі паясьняе:

...—Назоўнікі жаночага роду з асноваю на зычную ў родным склоне...

Лектар хоча быць папулярным і, калі вымаўляе „жаночага роду“, ён бярэ на поўтона вышэй і дадае нежнасьці. Між іншым, лектар унёс у жыцьцё тэлеграфістак багата зьмен: Ніна Мойська шукала ў слоўніку „любить“ і, калі знашла „кохати“, яна цалком пагадзілася з лектарам наконт мілагучнасьці украінскае мовы. Сьлівачнікава справіла сабе новы капялюх, і нават старая дзева Ўласа Нічыпараўна намагалася выглядаць маладзейшаю і цікавейшаю. Калі лектар просіць слухачоў прывесьці якінебудзь прыклад, Уласа Нічыпараўна старанна варушыць губамі, заігрываючы, выгінае ўперад локці і папраўляе валасы.

Але Васіль Рыгоравіч упарта зачыніўся ў сабе і хоча быць няпрыкметным. Ён старанна запісвае лектаравы заўвагі ды правілы, але калі лектар падыходзіць да яго, ён беспарадна маўчыць і нават падказы суседзяў не ратуюць яго. Не, куды там яму выўчыць назоўнікі, прыметнікі, ніякі род і ўсю бязглуздую прамудрасьць праклятае мовы!..

Васіль Рыгоравіч пабойваецца лектара і, калі сустрачае яго на вуліцы, ён імкнецца прывітацца з ім першы.

Лекцыя скончылася. Васіль Рыгоравіч глыбока ўздыхнуў, забраў кніжкі ды сшытак і пашоў вучыцца на „Клёпфэры“.

— Ну, Васіль Рыгоравіч, цяпер—на „Клёпфэр“ тарабаніць?—весела сказаў, даганяючы, старэйшы даглядач Балабай і падміргнуў Васілю Рыгоравічу:—бяруць нашага брата за рэбры! Вучыся дый вучыся, з лекцыі на лекцыю... Проста табе не тэлеграф, а унівэрсытэт, сучага сына!..

Васіль Рыгоравіч сумнавата адказаў:—Да... і паклыпаў на трэці паверх да „Клёпфэра“.

І вось перад ім на стале стаіць гэты непераможны „Клёпфэр“, на якім ніколі не навучыцца працаваць Васіль Рыгоравіч, але які выцісьне

з апаратнае „Морзэ“ і „Юза“ і сатрэ нават успаміны пра былога тэлеграфістага, што працаваў на тэлеграфе 32 гады.

Васіль Рыгоравіч сеў на зэдлік і пачаў выстукваць альфабэт. Драўляны рупар узмацняў стукі, і яны голасна ўжо далятаді да вушэй Васіля Рыгоравіча—Тук... тук-тук-тук...

Праз сьцену, з комсамольскага клюбу, далятаў шум і сьмех. Так блізка, зусім ужо блізка падлазіла тое новае, чужое і невядомае да Васіля Рыгоравіча...

Але Васіль Рыгоравіч сьціскае сваю асалапелую думку і напружае даўно ўжо прытуплены слух. Ён хоча запамятаць умоўныя стукі альфабэту, ён павінен іх запамятаць, бо інакш—будзе скарачэньне штату, Собес і старасьць, глыбокая, закінутая старасьць.

І ў гэты час за сьцяною ўзарвалася маладое, бязбрэжнае, заўзятае і дужае:

Наш паротяг, лети вперед!
В комуні будем скоро,
Нам більше нікуди іти,
Над намі—зорі, зорі!..

Гэта сьпяваў Комсамол. Сьпяваў радасна, весела і бястурботна. Пэўныя сваёй сілай маладыя галасы разьбівалі сьцену і рассыпаліся па пакою, дзе вучыўся Васіль Рыгоравіч. І нельга было стрымаць. Яны пераплятаціся са стукамі, і „Клёпфэр“, замест альфабэту, выстукоўваў іншае, ён утурыў ім:—Тук-тук-тук... тук... тук... тук...

Яны парыўча ляцелі наперад, у тыя бязьмежныя сінія далі, куды не магла сягнуць думка Васіля Рыгоравіча. Яны ляцелі, мінаючы яго,—у іх свая мэта і ім зусім няма справы да падарожных старцоў, што плішчуцца, крэкчучы, да свае магілы. Але Васілю Рыгоравічу яны і гэты іх „Клёпфэр“ (ён—„іх“: Васіль Рыгоравіч ніколі ня зрадзіць свайму „Морзэ“),—яны сьпявалі яму іншае.

— Тук-тук... тук... тук...

Ён ня мог адгадаць, ці гэта стукае новае жыцьцё і іншыя людзі, што сядуць на яго зэдліку, ці, можа, прышла, нарэшце, сьмерць... Васіль Рыгоравіч мэханічна націскае стукаўку, і рупар выкрыквае свае гарэзныя адозвы: Тук-тук... тук...

Васілю Рыгоравічу стала цяпер сусім ясна: бяда ня ў тым скарачэньні штату, што павінна быць на тэлеграфе—не: ідзе вялікае скарачэньне штатаў самога жыцьця і яго, Васіля Рыгоравіча Гусяцінскага, ужо не занясуць у сьпісы новых працаўнікоў! Так будзе... А чаму, пашто—хіба ня ўсё роўна, калі слух ня можа адрозьніваць Клёпфэравых стукаў, і душа Васіля Рыгоравіча назаўсёды засталася з „Морзэ“?

А песьня ляцела ўперад у новыя буры, громы, навальніцы, сьнягі і весны. Не, гэта сьпяваў ня звычайны Комсамол, куды хацелася Васілю

Рыгоравічу прапхнуць Сашу, каб мог вучыцца! Гэта сьпявала зусім іншае, новае племя людзей, для якіх і пшано дваццатых гадоў, і фунты лаўровага лісту, замест пайкоў з мукою, і тыя фронты, і ўсе бурныя страшныя дні была сама толькі радасьць і бязупынная патуга—наперад.

Васіль Рыгоравіч ня мог сягоньня далей вучыцца. Галаву цiснулі якіясь нявыразныя, але ўпартыя думкі, і галава балела. Ён адсунуў сваю руку ад стукаўкі, забраў свае кніжкі, надзеў каскет і вышаў.

Ён, не зважаючы ні на што, ішоў вуліцамі места, і вулічны шум ня мог прабіцца да Васіля Рыгоравіча, ён не парушаў яго настрою. Васіль Рыгоравіч адчуваў толькі адно: было шкада. Было шкада і „Морзэ“ што яго давядзецца неўзабаве пакінуць, і ўсіх клопатаў тых вечных будняў свайго жыцьця, і самога сябе, і ўсіх тых, што адыдуць ад апарату—шкада... Хацелася сесьці на тротуар і ціхенька, каб ніхто ня чуў, заплакаць. Але Васіль Рыгоравіч ішоў сабе далей: ён адпачне і ўздыхне ня тут, сярод натоўпу чужых людзей,—Васіль Рыгоравіч проста ідзе на могілкі да магілы Кацярыны Сідораўны. Зіма ў гэтым годзе жартавала з Васіля Рыгоравіча: цяпер, калі ў яго было трохі дроў і ня трэба было ўжо ламаць свае і чужыя платы або выпраўляцца за места ў лес, яна, сьмяючыся, скавала тоненькаю крыжаною плеўкаю лужы і крыху напудрыла намаразьзю галінкі дрэў. Дрэвы ніякава і сарамліва ківалі голымі ралкамі, і студзень быў падобны на паганенькі і дзяшовы фарс. Але Васілю Рыгоравічу было не да яго. Хтось, каму гэта рабіць належыць (можа, той самы, што ў скураной куртцы), заводзіў дні, сачыў за імі, і яны гультайскі млява, аднастайнаю чарадою праходзілі каля Васіля Рыгоравіча і зьнікалі ў няпамяць—серада, чацьвер, пятніца...

Вось, нарэшце, высунулася з-за дрэў царква на могілках, брама з пахілым крыжом, сумныя, урачыстыя таполі, пагорбленыя крыжы на магілах—белыя, чорныя, шэрыя... І расплывалася па надгробных помніках і мерзлай, зморшчанай зямлі старая журба Васіля Рыгоравіча.

Могілкі...

Ціха і спакойна тут Васіль Рыгоравіч прашоў алею і зьвярнуў пад гару, да знаёмае магілы. Крыжа ўжо ня было на ёй: хтось, пэўна, узяў яго на дровы, сама магіла абсыпалася, апала ў зямлю, і ніштo не магло цяпер сказаць Васілю Рыгоравічу, што тут ляжала яго Кацярына Сідораўна, з якою правёў ён 27 год свайго жыцьця. Сухое, пагорбленае лісьце і паніклая ад марозу трава боезна прытуліліся да магілы—вось і ўсё.

Васіль Рыгоравіч стаў і нізка схіліў галаву. Яму хацелася паскардзіцца, сказаць Кацярыне Сідораўне, што яму цяжка жывецца, і як жыць далей, і што рабіць з Наташаю і Сашаю, ён зусім ня ведае. Сказаць, што ў яго няма чыстае бялізны, і ніхто больш ня варыць яму яго ўлюбёнай канфітуры з трускавак і ніколі ня зварыць... Хацелася ўдваіх успомніць аба ўсім тым, што было і што цяпер навекі зьнікла...

Васіль Рыгоравіч глыбока ўздыхнуў і, як наўмысьня, з усяе яго моладасьці, ад зьвялых пялесткаў хлапечых гадоў, яму ўзышоў на думку толькі кароценькі адрывак вершу:

"Спи спокойно, моя дорогая,
Только в смерти желанный покой...

Дзесь недалёка сьвіснуў манэўравы паравоз, праз галінкі дрэў паказваліся каменныя будынкі места і зьнікалі ў сіняй вячэрняй цемры, а тут было ціха і зацішна. Ясень падняў беспарадна да неба голае гальлё, нібы маліўся за душы нябожчыкаў, а нямы, пахілы крыж нібы казаў пра марнасьць людзкіх надзей, працы і барацьбы, і нават вецер не далятаў сюды: спыніўся каля брамы.

Васіль Рыгоравіч спусьціўся на калені і ціха прысеў каля магілы. У гэты куток могілак не зазіраў ніхто, і постаць Васіля Рыгоравіча, нібы цень апошняга нябожчыка, фантастычна зьлівалася з магільным сумам, цішаю і самотнасьцю...

Ён пашоў да дому толькі тады, калі на крыжох і дрэвах павіснуў густы вячэрні змрок і ў царкве на могілках зазванілі на вячэрню.

## VII

У гэты вечар Саша прыбег да дому з чалавечым чэрапам. У дзень ён прыбіўся да якойсьці экскурсіі аглядаць клініку! Клінічны спакой, высокія белыя столі, чыстая падлога і безьліч усякіх касьцякоў, пляшак ды слоікаў з засьпіртаванымі маленькімі, нібы лялькі, людзьмі зрабілі ўражаньне на Сашу. Спачатку ён далікатна аглядаў сталы і шафы, а потым асвойтаўся і, калі экскурсанты падаліся кудысь наперад, Саша праворна сарваў чэрап з ланцужка і схаваў за пазуху. Хацелася прыцягнуць да дому цэлы шкілет, але яго не пранясеш: старож у дзьвярах. Саша для віду паглядзеў яшчэ на якіясь малюнкі і шчасьліва вылецеў на вуліцу.

Неба зацяжарыла густымі алавянымі хмарамі, з завулкаў, рагоў і сутачак вылазіў вечар. Дома нікога ня было, і Сашы хацелася выкарыстаць гэта. Ён уважліва аглядаў чэрапавы дзюркі, памацаў зубы і пстрыкнуў пальцам па касьцяным ілбу.

Думкі Сашы, нібы бляскі люстэрка, круціліся каля аднаго—што рабіць з чэрапам? Яго можна палажыць Наташцы пад коўдру, можна прырабіць да шчэлеп матузкі, і чэрап будзе цапкаць зубамі, можна... Саша сьвіснуў і ястрабам кінуўся да Наташыных шуфлядак шукаць матузоў.

Саша забыў нават скінуць з сябе паліто і шапку. Ён горача пачаў прывязваць да шчэлеп матузкі, утыкаць у чэрапавы дзюрачкі запалкі, знашоў здесь спрунжынку і прыладзіў яе да косткі. Яго праца некаторы час не давала ніякіх вынікаў: пазьвязаны і паўтыканы чэрап упарта не хацеў выконваць Сашынае волі, але Саша з падвойнаю энэргіяй, сапучы, браўся за работу зноў, старанна вымерваў, разьвязваў і зноў вязаў.

Ужо зусім сьцямнела, калі Саша выпрастаў сагнутую сьпіну і шчасьліва агляднуў сваю вынаходку. Досыць тузануць ззаду матузок, і чэрап паслухмяна адчыняе выскаленую страшную пастку і потым глуха, пагрозьліва стукае мёртвымі зубамі. Саша вышаў на сярэдзіну пакою, лёгка ўздыхнуў і раптам адчуў голад і ламоту ў сьпіне. Ён кінуў на канапку паліто і жвава мятнуўся ў сенцы настаўляць самавар.

Калі самавар зашыпеў і падаў сваю першую мінорную ноту, Капачыха выявіла ў сваім пакоі кволыя адзнакі свайго жыцьця.

Пачулася бразганьне лыжачкаю, звон шклянкі і ціхія пантопліныя крокі па пакоі. Праз дзесяць хвілін Капачыха прыдзе браць ваду. У Сашы раптам блiснуў геніяльны плян.

— Трэба напужаць Капачыху!

Саша выцягнуў з шафы недагарак сьвечкі, запаліў яго дрыжачымі пасьпешнымі рукамі і ўставіў у ліхтар, з якім хадзіў на страсьці ў царкву. Потым абгарнуў яго чырвонаю паперaю, пазавешваў коўдраю і палітом вокны і ўнёс самавар. Ён падумаў крыху, паклаў поруч з ліхтаром чэрап і накрыў іх абодвух густою хусткаю. Хату апавіла непраглядная, густая цемра.

Тоненькае самаварнае шыпеньне яшчэ парушала крыху ілюзію, нагадваючы пра жыцьцё і сьвет.

Саша закрыў самавар накрыўкаю, паставіў яго за шафу і ў хаце замерла, нібы ўсё апусьцілася ў магілу.

У сенцах зашурхала Капачыха. Саша прысеў на карачкі і ўзяў матуз. Капачыха не знашла ў сенцах самавара і адчыніла палачкаю дзьверы:

— А дзе-ж шамавар?...

У пакоі было ціха. Капачыха зноў зашамкала і ўвашла ў сярэдзіну.

— Шаша! Наташа!.. Дзе-ж вы?..

Саша павольна пацягнуў да сябе хустку і тузануў матуз. У пакоі злавесна глянула чырвонае зарава і чэрап, нібы пасланец самага пекла, ашатанела зацапкаў зубамі.

Капачыха зжахнулася і выпусьціла чайнік.

Чэрап змоўк, і ціша, нібы клетка, з усіх бакоў абступіла Капачыху. Яна крыху апамяталася і, падняўшы палку, ступіла ўперад. Чэрап нядобра глядзеў ёй у вочы. Капачышыныя губы самі зашапацелі:—Шьвят, шьвят, шьвят... і яна падсунулася яшчэ, але толькі што хацела тыкнуць у чэрап палкаю, як зноў паднялася шчэлепа і чэрап цудоўна ўсьміхнуўся. Капачыха запішчала і што сілы гахнула палкаю па ліхтары. Дзенькнула шкло, пакаціўся чэрап, мігнула сьвечка і патухла. Саша з дзікім крыкам выскачыў з-пад стала і схапіў Капачыху за нагу. Капачыха зашалясьцела шлейфам старамоднае сукенкі і бязмоўна грымнула на падлогу.

У дзьверы нецярпліва стукала Наташа. Саша пабег адчыніць, і калі Наташа запаліла лямпу, яна ўбачыла нязвычайны малюнак: на падлозе

ляжала жоўтая мізэрная Капачыха і ледзь дыхала, крыху далей—палка, чарапкі і абломкі чэрапа. Саша вінавата чухаў патыліцу:

— Пералякалася, дурніца...

Наташа пырскала на Капачыху вадою, расьцірала ёй чымсьці скроні і, нарэшце, Капачыха прышла ў прытомнасьць. Але ўстаць ужо не магла: ёй адняло правую руку і нагу. Саша накінуў кажушок, схапіў пад паху шапку і выбег з хаты, каб забыцца. Наташа клікала кагось на дапамогу, лаяла і праклінала Сашку, упрашвала Капачыху падняцца і ледзь-ледзь дацягла яе да канапкі.

Капачыха ня скардзілася. Важка ўздыхаючы, яна тупа глядзела перад сабою сваімі высахшымі вачыма і маўчала. Наташа зусім ня ведала, што рабіць.

Праз адчыненыя дзьверы бясшумна ступіў Васіль Рыгоравіч і асьцярожна ўвашоў у пакой. Наташа парыўча і з хваляваньнем пераказала яму падзею, лаяла Сашу, казала, што трэба-ж, нарэшце, зьвярнуць на гэтага бандыта нейкую ўвагу і заявіла, што дома яна ня можа больш жыць.

Васіль Рыгоравіч сядзеў на краі зэдліка, не распранаючы паліта, нібы не да свае хаты ён прышоў, і моўчкі, панура слухаў. Калі Наташа крыху супакоілася, Васіль Рыгоравіч устаў і пра сябе сказаў:

— Не, абавязкова трэба будзе папрасіць Загарулька, каб дапамог—Сашу да комсамолу...—а потым, спачуваючы і крыху ніякава, нібы вінавата, сказаў да Наташы:

— Гэта—праўда, праўда, так ня можна, звычайна. Хлопец ня вучыцца, што з яго будзе... Трэба нейкае выйсьце...

## VIII

Як і ўсе іншыя, папярэднія дні, прышоў, нарэшце, і гэты дзень. Там, за дубовымі дзьвярыма габінэту загадчыка, дзе было накурана і людна, разглядалі штаты, абмяркоўвалі, спрачаліся і запісвалі.

І як гэта дзіўна здарылася! Ніхто іншы, а сам Васіль Рыгоравіч учора прыняў на сваім „Морзэ“ кароценькую тэлеграму: „Правесьці скарачэньне штату на дваццаць процантаў“... Але цяпер гэта нават не зжахнула і не заварушыла: Васіль Рыгоравіч старанна і ахайна запісаў у кнігу ўваходзячых гэты ордэр на сваю ўласную сьмерць... Запісаў, супачыў хвілінку і зноў пачаў працаваць. Ён далікатна накручваў стужку, млява пастукваў стукаўкаю і любаваўся разьмеранаю, чытэльнаю працаю свайго „Морзэ“.

Васіль Рыгоравіч увашоў увесь у сваю працу, ён не заўважваў нічога і нікога, як быццам дзіцянём калісь будаваў з пяску хату. І калі прышла зьмена, Васілю Рыгоравічу першы раз за ўсе гады не захацелася пакідаць апарат і йсьці да дому адпачываць. Хацелася яшчэ стукаць, запісваць тэлеграмы далей і далей, каб напрацавацца на ўсё жыцьцё, на Созабез і старасьць... Але тэлеграфісты з новае зьмены спынілі:

— Ахвота—марочыць галаву! Усё адно заўтра скарачэньне... Кідайце...

Васіль Рыгоравіч раптам расшыфраваў сваёю душою зьмест тэлеграмы пра скарачэньне і асалапеў. Сапраўды, навошта працаваць, калі заўтра за прозьвішчам „Гусяцінскі" зьявіцца чорная чарнільная кропка і спыніцца назаўсёды тое, што цягнулася 32 гады! Ня трэба больш...

Васіль Рыгоравіч глянуў сваімі халоднымі вачыма на „Морзэ", сьветлую, прасторную апаратную і вышаў.

Сёньня Васіль Рыгоравіч зноў прышоў на тэлеграф. Праўда, ён дарэмна сланяецца тут: вынікі скарачэньня будуць вядомы толькі заўтра, а сёньня яго зьмена павінна адпачываць. Аднак нейкі нутраны неспакой, ад якога халадзела сэрца і цiснула ў жываце, прыбіў яго зраньня да знаёмага калідору, высокіх сьцен і вялікіх акон.

Апаратная сёньня абязьлюдзела. Гурткамі разышліся па калідоры тэлеграфістыя і шэптам перамаўляліся, нібы за габінэтнымі дзьвярыма загадчыка, дзе засядала камісія, уміралі безнадзейна-хворыя людзі.

Васіль Рыгоравіч на пальчыках прашоў каля габінэту, палахліва, нібы спадзяваўся адтуль удару, зірнуў на дзьверы і далучыўся да гурту.

Кабеты нэрвавалі і жагналі пад палітамі грудзі, мужчыны стаялі сур'ёзныя і пахмурыя. Хтось перадаваў якуюсь навіну, прышоў старшы і клікнуў чарговых да апаратаў, нарэшце, пасяджэньне перапынілася.

З габінэту вышлі змораныя ад тутуну і сядзеньня людзі, і калідор дрыготна-дапытлівымі вачыма павярнуўся да іх вымучаных твараў і замёр.

Толькі адзін Рабашэін вышаў, як і заўсёды, спакойны і ўроўнаважны. Роўным голасам ён зьвярнуўся да тэлеграфістых:

— Таварышы, вы дарэмна чакаеце. Сьпіс скарочаных будзе вывешаны заўтра.

Тэлеграфістыя, аднак, пастаялі колькі хвілін, нібы спадзяваліся яшчэ чагосьці, а потым, незадаволеныя, паволі пачалі разыходзіцца.

Васіль Рыгоравіч зашоў у бухгальтэрыю і атрымаў свае сорак рублёў за апошні месяц. Ён уважліва пералічыў грошы і схаваў кудысь у сярэдзіну, за „гімнасьцёрку". Потым азірнуўся яшчэ па калідоры і пашоў.

Студзеньскі дзень бясьсьнежнае зімы, сьпяшаючыся, пакаваў свае ўбогія рыштункі, і на вуліцы цямнела. Васіль Рыгоравіч флегматычна клыпаў да дому. Яму хацелася цяпер толькі аднаго: легчы і заснуць, спаць доўга, спакойна, каб ніхто не турбаваў яго і нічога ня сьнілася. Але Васіля Рыгоравіча дагнаў Балабай.

— Куды, Васіль Рыгоравіч, ідзем?

Васіль Рыгоравіч з болем усьміхнуўся:

— Ды куды-ж мне больш—да дому...

Балабай зразумеў: куды-ж яму больш ісьці, калі скароцяць,—і ён, спачуваючы, кіўнуў галавою:

— Так, круцяць нашым братам, круцяць і ня пытаюць! Ой, надакучыла, ой надакучыла-ж!

Жоўтаватыя Балабаевы вусы злосна зьвесіліся на голены падбародак, але ўраз выпнуліся ўгару:

— Піўца-б выпіць, Васіль Рыгоравіч?

Васіль Рыгоравіч ня чуў; расьсеяным поглядам ён глядзеў на асьвечаную электрычнасьцю пэрспэктыву шырокае вуліцы. З абодвух бакоў ужо сьвяціліся пышныя вітрыны крам, паштэтных і піўных. Кволае сьвятло каляровых лампачак разьлівалася па дарагіх аксамітах, шаўкох, паркалі, модных польтах і вабіла прахожага са сходаў, беганіны і кампаній да комфортабэльнага, ажурнага жыцьця. Васіль Рыгоравіч журботна глянуў на гладкія каўбасы, бутэлькі віна і кучу селядцоў, што кожную хвіліну маглі быць к паслугам грашавітаму чалавеку, і ўздыхнуў:

— Як усё-ж такі перайначылася жыцьцё...

На мерзлы тротуар з піўных далятталі разьбітымі скалкамі сьмехі скрыпкі і нэпаўскае хрыпеньне басэтлі. Чыхнуць асьветленым вокнам і палкай музыцы на скарачэньне штатаў, даклады, выпрацаваныя пляны і ўсё тое, што абгаварваецца за дзьвярамі габінэтаў, камцэнтраў і клюбаў. Музыка грае, паліскаюцца каўбасы і павабна расьсеўся гандаль—на сягоньня. Сягоньня ёсьць вольны гандаль, рынак, тэатр, кіно... а заўтра—усё роўна!..

Балабай, надаўшы свайму голасу цяпла і шчырасьці, .азаў друг раз:

— Дык, хадзем, Вася? Чорт яго бяры ўсё! Вып'ем...

Васіль Рыгоравіч лыпнуў зьдзіўленымі вачыма і не зразумеў. З таго часу, як бахнула рэволюцыя, ён не раскідаў безаглядна грошы. Васіль Рыгоравіч нават не падпускаў блізка думкі зайсьці ў піўную. Але Балабай ужо адчыніў у піўную дзьверы і штурхаў яго пад локаць.

— Ды ну там! Вып'ем! Піўцо, Вася,—гэта, брат, такая штука... Васіль Рыгоравіч раптам падумаў:—Праўда—заўтра будзе вывешаны сьпіс скарочаных з штату, будзе паблытаны чаргамі Созабез...

Усё роўна... і згадзіўся.

— Ды што-ж, зойдзем, мусіць, Гаўрыла Мітрафанавіч...

IX

Яны пераступілі парог вядомае піўніцы „Косьцік". Балабай, як свой чалавек, прашоў па зале, затарахцеў крэсламі і выбраў зацішны куток пад штучнаю пальмаю.

Васіль Рыгоравіч зірнуў на якісь паганенькі жоўтаваты малюнак, нясьмела падсунуў сабе крэсла і, падабраўшы полы шынэлі, умасьціўся. Падбег афіцыянт Грышка. На вузкім Грышкавым лобе, расьцягнутых чорнымі стужачкамі брывах і чубку канарэйкаю—адвечнае запытаньне:

— Асобны габінэт і дзяўчыну прыкажаце?

І калі прышоўшы заказвае сабе гэта, Грышка салодзенька ўсьміхнецца (гаворачы—разумеецца), матне з радасьці сарвэткаю і хутка йдзе завешваць у габінэце вокны.

Грышка знае Балабаева жаданьне.

— Сонька цяпер вольная, на кухні цяпер біточкі паджарвае...—Балабай сур'ёзна гыкнуў і, матнуўшы дзябёлаю шыяю, крытычна зірнуў на Васіля Рыгоравіча. Ён нейкую хвіліну моўчкі хістаўся, да чаго ён мае нахіл, і не даваў Грышку адказу. Грышка закінуў за плячо сарвэтку і папанібрацку ўпёрся рукамі ў стол.

— Можна і Маньку, яна ў „Бары" сядзіць...

Але Балабай паважна апусьціў на стол руку і сказаў:

— Не.—Потым узяў Грышку за локаць і перагнуўся да яго грудзей:—Пяць бутэлек піва і „горкае" дзьве.

Праз хвіліну Грышка паставіў піва, два бокалы „горкае" і для віду парожні сіфон (на выпадак міліцыя або што-небудзь такое: гэта сэльтэрская ў бокалах, а ня сьпірытусовы напітак).

Балабай прызвычаенаю рукою наліў у шклянкі піва і зараз-жа апаражніў, потым уцёр нос і закусіў салоным піражком.

— Цяжкае, брат, жыцьцё нашае, Вася...

Васіль Рыгоравіч выпіў дробнымі глыткамі сваю шклянку і палажыў на калені рукі. Было нібы сорамна: Сашу трэба вучыць і Наташы—паліто, а ён грошы на піва...

— Дзе хто і ўмее ўстрайвацца, Вася,—працягваў Балабай далей, пырхаючы ад піва.—Вось, скажам, Бандарэнка: ажаніўся другі раз, жонка, ведаеш, з фэрмамі (Балабай салодзенька падміргнуў), памяшканьне ў яго нічога сабе, карова, малако сваё...

Васіль Рыгоравіч журботна слухаў музыку. Яна грала штосьць тужліва і сантымэнтальна-безнадзейнае. Каля прылаўку сядзеў уласьнік піўніцы Бляхер і вызначаў па абліччы, каму з новых гасьцей трэба асобны габінэт. Бляхер—чалавек практыкі і комэрцыі. Гэта ў яго ўсё роўна, як мастацтва для мастацтва. Ён дакладна ведае абавязковыя пастановы Губвыканкому, артыкулы крымінальнага кодэксу і адчувае нэп. Адно толькі перашкаджае Бляхеру—нос. Ён заўсёды сапе, сьвішча, выпінае з шырокіх ноздраў чорныя валаскі, а паветра не прапускае: там поліпы. Праз гэта Бляхер дыхае адчыненым ротам з маленькімі, як смаркачы, ангельскімі вусікамі і, каб забыцца, запіхае туды таўшчэзную цыгару з найлепшага тутуну.

У дзьверах зазьвінелі шпоры і ўвашло некалькі вайсковых.

Бляхер клікнуў на мігі Грышку.

— Скажы Варкоўскаму, хай „матроскага" грае—вайсковыя.

Падаваць вайсковым пашоў сам Бляхер. Яго кароткія, тоўстыя і крывыя, як калоды, ногі аднесьлі нязграбнае, разьляпанае цела да стала і назад. Першая скрыпка паслухмяна адрэзала скібачку „матрос-

кага“, а за ёю сарвалася басэтля і ўдарыла піяніно. Асобныя гукі начнымі матылькамі пырхалі па залі, па асобных габінэтах і кажанамі ляцелі назад, у мінулае, у былыя загародныя рэстораны, шантаны і кабарэ. Першая скрыпка (Варковіч) то выгіналася ўюном, то прысядала, нібы хацела кагось падсадзіць, то выпроствалася стрэлкаю і гатова была разарвацца. На потным, з акуратным бясспрэчным праборам, абліччы Варковіча — успаміны і жаль: хіба вось такой шантрапе ён граў калісь у „Вэнэцыі“! Хіба гэта — афіцэры! Хіба гэтыя павеі з залатымі панчохамі — шансонэткі!..

Не, Варковіч хоча орыгіналу, а не дзяшовенькай, Бляхеравай імітацыі...

Паміж сталоў хадзіў офіцыянт-грузін. Ён зусім не пагрузінску лысы, на смуглым твары яго сядзяць два пасрэбленыя вусы, і пара чорных вачэй чамусь не мітусяцца цяпер, не хвалююцца і не запальваюцца. Сіняя талстоўка і майткі ў ботах аддаюць першаю фазаю нэп'у і не пасуюць да Бляхеравага каўнерыка і востраносых чаравікаў. Паміж іншым, Бляхер мірыцца з грузінам: ён можа часамі быць прыгодны, як фізычная сіла.

Васіль Рыгоравіч агледзеў Бляхера, Грышку, Варковіча і падумаў: „Вось-жа разьмясьціліся людзі, кожны неяк жыве“... І зноў густою васеньняю цемраю апавіла яго неадчэпная туга. Чаму-ж ён ня можа зачапіцца, чаму заўтра ён будзе па-за штатам і, замест працы, пасады, спраў, будзе сьлізкі брук і шэрая пэрспэктыва гарадзкое вуліцы?

Васіль Рыгоравіч спусьціў галаву на растапыраную далонь і схіліўся да Балабая.

— Ну, скажы мне, Гаўрыла Мітрафанавіч, і што гэта ўсё азначае? Вось мучылі нас з тэю украінскаю моваю, потым „Клёпфэра“ завялі, цяпер скарочваюць... Дзеля чаго гэта? Не разумею...

Балабай, многазначна міргануў сваімі густымі чорнымі брывамі і падняў палец угору:

— Ёсьць-ёсьць... Тут, Вася, махінацыя, сыстэма, брат, цэлая!

Балабай, пстрыкнуўшы задаволена пальцамі, як знаўца вялікае таемнасьці, падсунуўся к Васілю Рыгоравічу. Васіль Рыгоравіч падпёр галаву яшчэ і другою рукою і зноў запытаў:

— Вось, хоць-бы ўзяць украінізацыю: яны-ж—бальшавікі. Сказаць-бы Пятлюра, гэтман — я разумею; а цяпер і яны туды-ж гнуць...

Васіль Рыгоравіч уставіўся цьмянымі вачыма ў зморшчаны Балабаяў лоб і чакаў адказу; Балабай узяў яго за рукаў і таемна пачаў:

— Кажаш, Васіль Рыгоравіч, яны украінізацыю заводзяць? Так, так, заводзяць... А ты заўважыў, што ўсе яўрэі вучаць цяпер украінскую мову? Ты думаеш — гэта яно так сабе, дарма?

Васіль Рыгоравіч пытальна глядзеў на Балабая. Балабай спыніўся і скрыжаваў на стале свае жылістыя рукі.

— Добра. А цяпер ты-ж ведаеш, Вася, цэрквы таксама украінізуюць? Аўтокефальна... Найлепшыя цэрквы ім усюды пааддавалі. Гэта ты заўважыў? Ты чуў, як там служаць?..

Балабай шаптаў п'яным дыханьнем над самым тварам Васіля Рыгоравіча. Васіль Рыгоравіч кашлянуў, прыхіліўся к сталу і далікатна аглянуўся наўкола. Паблізу сядзеў якісь флегматычны дзядзька ў картузе з раменчыкам і ахайна, каб не разьліць, з прагавітасьцю піў піва; далей— вайсковыя, нейкае чэрава і пры асобным стале з левага боку — засмоктаныя, нафарбованыя дзеўкі.

Чэрава паролася каля талеркі з ракамі, дзеўкі блукалі ўпалымі вачыма па зале і цярпліва чакалі попыту.

Дзесь, у васобных габінэтах ласкаталі кабету, і адтуль далятаў сьмех і шум. Васіль Рыгоравіч яшчэ раз агледзеў дзядзьку ў картузе і, супакоіўшыся, павярнуўся да Балабая:

— Ну так, яно, звычайна, праўда ўсё, толькі я, Гаўрыла Мітрафанавіч, не разумею...

Балабай задаволена матнуў рукою.

— Заўважыў-жа, Вася? Ды яно адразу відаць, калі прыглядзецца добра!

Балабай падсунуў крэсла і ўрачыста сказаў:

— Ну, дык вось што. Гэта ўсё — адна крамка! Разумееш! Масонства! Во!

Васіль Рыгоравіч апусьціў рукі і зьдзіўлёна разявіў рот:

— Як гэта так?

— А так: і комуністыя, і яўрэі, і аўтокефальна — гэта ўсё організацыя. Так, так. Саюз такі. Па ўсім сьвеце сваіх шпікаў трымаюць. А ў Парыжы дык іх галоўны штаб. Там і протокол сіонскіх мудрацоў напісаны. Чуў пра іх? Інтэрнацыянал у Маскве — гэта толькі так, для віду, каб з панталыку зьбіць.

Васіль Рыгоравіч яшчэ болей зьдзівіўся:

— І як-жа іх поліцыя там — не таго?..

— Ня можа, брат, пакуль што: у масках на сходы ходзяць. У іх, Вася, усё таемна, шыта-крыта. Вось скажам, хто-небудзь з іх працуе ў Гішпаніі, — то ён толькі Гішпанію і ведае, а хто сядзіць у Галоўным Штабе — пра гэта яму начальнік ні-ні. Організацыя, Вася!

Васіль Рыгоравіч задумёна прамовіў:

— Вось яно як!..

А Балабай з захапленьнем гаварыў:—Гэта ўсё, Вася, хітра пабудована. Але толькі дзе-ні-дзе ўжо раскусілі. Вось, возьмем — пяцікутная зара. Ты думаеш — яна так сабе, абы гэрб? А гэта, Вася, самы сапраўдны масонскі знак: усе пяць частак сьвету заграбці. Во! Бач, куды яны гнуць!.. А аўтокефалістыя, дык тыя яшчэ і з рымскім папаю сувязь

трымаюць, каб у каталіцтва, значыць. А ты-ж ведаеш, рымскага папу яўрэі падкупілі, абы іх у Польшчы не чапалі... Вось якая, брат, штука!

Музыка выцінала „Карапэт“. Варковічу замала піва, ён хоча зноў, як калісь, шампанскага і пад шаўкамі лякеркі, а далей голыя ногі і ўсё жыцьцё — як першаклясны публічны дом.

Ĭ скрыпка ўюніцца ў тонкіх руках Варковіча, ях заўзятая, практычная шансонэтка і — эх!..

Карапэт наш бедны,
Ад чаго ты бледны?..

... Бледны, бедны... Эх, жыцьцё — капейка! Пі, лясь, трэсь, дай!..

Васіль Рыгоравіч быў прыглушаны. Над ім нібы вісела вялічэзная, як самое неба, таемная ўсясьветная змова і гатова была кожную хвіліну грымнуць на зямлю і разам з Васілём Рыгоравічам зьнішчыць увесь дацяперашні ўстрой сьвету. Хацелася ня верыць Балабаю, але Балабай, усім вядома, — чалавек сур'ёзны, рэлігійны і сем'янін. Ён першы даведаўся, што на тэлеграфе завядуць „Клёпфэр“ і якія вымаганьні на экзамене па украінскай мове. Балабай дарма ня скажа. Дый потым, як гэта ён сам раней не зразумеў, — украінскія папы ўсе паголеныя і архірэй жонку мае, дый хіба-ж яны ў царкве ня кажуць — „роўнасьць, братэрства?..“ Ну, зусім, як комунізм, толькі яшчэ хаваюцца чагось!..

Варковіч заплюшчыў натхненна вочы, і яго смычок, прадчуваючы канец, шалёна забегаў па скрыпцы і рассыпаў па залі безьліч ачумелых карапэтаў. Афіцыянт-грузін рашпіліў каўнер талстоўкі і зацягнуўся цыгаркаю. Ён любіць слухаць „Карапэта“, яму ўспамінаецца тады Каўказ, Аляксандраўскі сад і Тыфліс.

Васіль Рыгоравіч лыпнуў каламутнымі вачыма па залі, ікнуў і ці ад музыкі, ці ад піва з „горкаю“ зрабілася нібы лягчэй. Сапраўды, жыцьцё — капейка, нават, проста нішто. Вось, прышоў бы хто-небудзь і раздушыў. Ĭ дарма! Няхай... Бо дзеля чаго-ж так жыць далей, калі вось такое распачынаецца!..

— Так, Вася, жыцьцё нашае, што не кажы, — цяжкае, брат. Падкручваюць, сьцервы...

Балабай прывольна раздуў шчокі і выпусьціў фонтанам паветра, потым зірнуў на парожнія шклянкі і гаркнуў да прылаўку:

— Грыша-а! Яшчэ адну. П'ем, Вася! Чорт яго бяры ўсё!..

Васіль Рыгоравіч за адзін раз выпіў аж поўшклянкі „горкае“: якава вось на сьвеце пашло — толькі хіба піць... Але зірнуў на грузіна і раптам чамусь з горкім сумам падумаў: — Лепш, тата, што вы памерлі да сіонскіх мудрацоў і аўтокефальнае...

Балабая пачало падштурхоўваць:

— Ды што яны, сапраўды, усё казённае якоесьці граюць! — Ён пачухаў пад пахаю, адкінуўся на сьпінку крэсла і крыкнуў музыкам:

— А ну, калі ласка — „Маларасійскія попуры“! — потым зараз-жа пачаў падпяваць—„В кінці греблі“.

Варковіч уцёр са лба пот, выпіў каля прылаўку сэльтэрскае і зноў павярнуўся да скрыпкі. Паправіўшы гальштук, ён спрытна ўзяў смычок, і родная, знаёмая з далёкіх Вярбоўскіх гадоў, мэлёдыя даляцела да Васіля Рыгоравіча. Варковіч мобілізаваў усе свае здольнасьці, і скрыпка галасіла, сумавала, ламала з самазабыцьцём рукі, адбівала гапака і зноў галасіла... З туману забыцьця, праз даўгія тэлеграфныя гады, перад Васілём Рыгоравічам паўстаў яго ўласны загублены рай, далёкая барвістая араматная Вярбоўка і маладыя гады пад бацькаўскім дахам папоўскага дому.

Не, гэта не абыякія вербы стаяць „в кінці греблі“, — гэта Вярбоўскія вербы — прыгожыя, пахілыя, сумныя... Гэта—ня звычайная дзяўчына „ждала, ждала козаченька“... Гэта—чорнавокая, загарэлая Марына чакае паповіча за сялом каля ветрака... А той паповіч — сам Васіль Рыгоравіч! Сам... Хто ён?.. „Гей, не дивуйте, добрії люди, що на Вкраїні повстало“... Украінец? А сапраўды?.. Не, не, гэта магло-б быць толькі там, пад Вярбоўскімі вербамі, што нагадвалі гэтманшчыну і казакоў... А тут няма. „Переписувач, дописувач, з огляду“ — гэта не Украіна. І потым — украінізацыя?.. Гэта — ад сіонскіх мудрацоў і штабу! Не, ён ня будзе тут! Ды яго і няма цяпер, гэта зусім іншае — „таварыш Гусяцінскі“ і скарачэньне штатаў.

Балабай, як пудзіла, разваліўся на крэсьле і выводзіў кліраснаю октаваю: ... пад Сарокаю мноства ляхаў прапала...

Музыка перашла на вясёлае, і Балабаю захацелася. выкідаць штукі. Ён схапіў нож, блісвуў пад сьвятлом сваім чырвоным з жоўтымі крапленкамі, як трускаўка, носам і пачаў выстукваць тронкам па стале:

— Тук-тук-тук... тук... Таварыш Гусяцінскі! Прымайце „Клёпфэрам“: Кіеў, Кіеў, на адлегласьці Бровары-Нежын сапсуты правады, выслаць дагледача... Кіеў, Жмерынка не адказвае... На адлегласьці Бранск... Тук-тук-тук...

Разьмераныя стукі жывымі адскаквалі ад стала і даляталі да самага сэрца Васіля Рыгоравіча. Васіль Рыгоравіч шырока адчыніў вочы і ўставіўся ў Балабаеву руку.

— ... Кіеў, Кіеу... Прымайце тэрміновую... Казяцін. Наказваю вам... Тук-тук... тук...

Васіль Рыгоравіч здрыгануўся і раптам запаліла мазгі:

— „Клёпфэр“?!. Ага, гэта ён — „Клёпфэр“.

Васіль Рыгоравіч падаўся наперад і сьцягнуў да аднэй напруджанай ніткі свае разьвеяныя думкі. І адразу зрабілася ясна, аж усьміхнуўся—гэта „Клёпфэр“ вінаваты ва ўсім, гэта праз яго Васіля Рыгоравіча — у чаргу на Созабес. „Клёпфэр“ атруціў яму апошнія дні і не

дае спакойна пахрысьціянску памерці... Васіль Рыгоравіч, устаючы, хрыпла крыкнуў:

— Хоча, каб я на ім стукаў? А я не магу, не магу!—Я—на „Морзэ“. Мне іншага не патрэбна... Хіба я што такое? Гаўрыла Мітрафанавіч, хто я такі?!

Васіль Рыгоравіч усьпёрся дрыжачымі рукамі аб стол і з хваляваньнем глядзеў на Балабая. Балабай задзёрыста падміргнуў брывою і выстукаў:

— Таварыш Гусяцінскі ня ведае украінскае мовы, ня ўмее на „Клёпфэры“...

Варковіч уздыхнуў і пагардліва выпрастаўся. Ен напасьледак хацеў зрабіць уражаньне на слухачоў, закрануць іх за самую п‘яную душу, і таму яго смычок мігнуў у паветры і ўрачыста разьліў трыумфальныя ноты маларасійскае ідэолёгіі:—„Де згода в сімействі, там мир і тишина“...

Балабай размашыста сербануў са шлянкі піва і, нібы спрунжынаю, закінуў нагу за ножку крэсла.

— А вось скажы, Васіль Рыгоравіч, як па бацьку Маркса?

Васіль Рыгоравіч незразумела лыпаў на Балабая вачыма.

— Ня ведаеш? Скараціць, скараціць Гусяцінскага!..

Васіль Рыгоравіч глухім голасам перапытаў:

— Мяне скараціць?..

Але Балабай перакруціўся на крэсьле да музыкі і, махаючы рукамі, ужо грымеў басам:

— І бог блага-аслаўля-а-е, дабро ім па-а-а-сылае, і з імі ве-ек жыве-е...

Васіль Рыгоравіч перастаў дыхаць і з просьбаю глядзеў на Балабая. Зьнянацку на яго твар упаў цень, губы заварушыліся, вочы заміргалі, ён усхліпнуў—і з громам гопнуў на стол... Яго слабыя рукі ўпалі да Балабая на край стала, а галава ўваткнулася ў парожнюю талерку і дробна задрыжэла ад плачу. На падлозе зьвінела начыньне і каціліся бутэлькі. Балабай вытарашчыў зьдзіўлёныя вочы і разявіў ад неспадзеўку рот. З-за прылаўку пасьпешна вылазіў Бляхер, і перапалоханы Варковіч на поўноце адарваў смычок. Балабай апамятаўся і прабаваў было супакоіць:

— Вася!.. А, Вася! Кінь. Вып‘ем. Я за начыньне заплачу...

Але Васіль Рыгоравіч ня чуў. Яго цела, нібы ад udараў батогамі, раз-по-раз конвульсыйна ўздрыгвала, з грудзей вырваліся роспачлівыя надарваныя стогны і пад галавою, як стары электрычны званок, стукацела талерка.

Да іх століка пачала зыходзіцца публіка, стаяў зьдзіўлёны Бляхер, з асобных габінэтаў прыбег зьбіты з панталыку, Грышка, і толькі адзін грузін у талстоўцы спакойна сядзеў каля прылаўку і дакурваў цыгарку.

Да Васіля Рыгоравіча нахілілася якаясь дзеўка ў шэрым кімоно і чула шаптала:

— Галубчык, дзетка, ня трэба, ня трэба...

Балабай тузаў яго за рукаў, падносіў шклянку піва, але Васіль Рыгоравіч не супакойваўся. Бляхер пачаў сур'ёзна пабойвацца за скандал, ён, крэкчучы, пазьбіраў з падлогі разьбітае начыньне і падышоў да грузіна.

— Дай яму лімону на кухні. Ды глядзі, каб вырыгаўся раней добра.

Балабай траціў усякую надзею супакоіць Васіля Рыгоравіча.

Ён ужо стаяў над ім і шчыра тузаў за плечы, бакі, рукі:

— Вася! падумай... Ці-ж варта так!.. Чуеш?..

На момант Васіль Рыгоравіч змоўк і падняў галаву. Па шчацэ цурком цяклі сьлёзы і да вуса прыліпла костка з тарана. Згорбіўшыся, маленькі, ён зьвярнуўся да Балабая, глянуў яму ў вочы і з болем вырваў з самое душы:

— Гаўрыла Мітрафанавіч! Трыццаць два-ж гады! Трыццаць два!..

Балабай радасна працягнуў да яго рукі, хацеў штось сказаць, але Васіль Рыгоравіч сарваўся з крэсла і шырокімі, пасьпешнымі крокамі вышаў без каскету на вуліцу.

Балабай мятнуўся было яго даганяць, але на дарозе яму стаў грузін:

— Сначала платыт, гражданін, а патом—пожаліста сібе...

Балабай разгарнуў кашалёк і з дасадаю адлічыў грошы. Да яго падскочыў Грышка і далікатна падаў каскет:

— Не извольте беспокоиться!

## X

Вецер дагнаў Васіля Рыгоравіча на рагу вуліцы і закруціўся каля афішнае дошкі. Ён гайдануў ліхтар, пад якім паваліўся з непакрытаю галавою Васіль Рыгоравіч, адарваў шматок афішы і падаўся кудысь па тротуары.

Васіль Рыгоравіч цесна прытуліўся гарачаю шчакою да халоднага чыгуннага слупа і ласкава перабіраў пальцамі яго халодныя выразкі. Мэталёвы холад, вылечваючы, прахалоджваў яго і заспакойваў. Васіль Рыгоравіч адчуваў тут сваё месца і далей ісьці яму некуды і няма чаго. Дадому?—Сашы няма: ён, пэўна, пашоў паглядзець, як гуляюць у рулетку, а Наташа—Васіль Рыгоравіч уздыхнуў і апусьціў павекі—Наташа—зноў цяжарная, палахлівая і нэрвовая. Дома зноў можа сядзіць Загарулька, і Васіль Рыгоравіч другі раз праз дзьверы пачуе, як ён будзе радзіць Наташы зрабіць аборт. Не, Васілю Рыгоравічу абсолютна няма куды ісьці. Зрываўся пухкі сьняжок і, выбіраючы месца, куды яму ўпасьці, павольна асядаў на тротуары, брук, залаты абаранак каля шыльды і малады ствол каштану. Ліхтары цягнуліся ўдоўж вуліцы і зьнікалі за паваротам. Бруднае, нібы расквецаны атрамант, неба апавіло цемраю места і адсвечвала над цэнтрам бледным заравам.

З правага боку, каля ўваходу ў кіно снавалі парамі і адзінкамі бязжурботныя, вясёлыя людзі; яны рады, што йдзе сьнег, яны жадаюць сапраўднае зімы; ім трэба сьнегу для наступнага ўраджаю, для паляваньня, для санак, для ціхага зімовага вечару, калі, абняўшы мілую, так прыемна зірнуць праз акно цёплага пакою на аблепленыя, ціхія, пухкія дрэвы. Залітыя сьвятлом размалёваныя плякаты, разьдзіраючыся, заклікалі людзей паглядзець новую фільму. Затарахкацеў па каменьнях возьнік і павярнуў за рог. Ён таксама радуецца. Яго рабрыстая кляча заўтра будзе валачыць санкі, а сёньня ўвечары ён будзе піць у кума самагон-пяршак і будзе есьці кумавыя піражкі. З прычыны гэтага ён ня дрэмле і яго цыгарка зацішна пыхціць у цемры, нібы лямпадка перад нядзеляю.

Але для Васіля Рыгоравіча ўсё гэта ня мела вартасьці. Яго нахілы і жаданьні на працягу ўсяго жыцьця жоўклі і ападалі, як лісьці з дрэва ў восень, і цяпер яму больш нічога не патрэбна. Яму прыемна пад ліхтаром, дзе ніхто яго ня пытае, не вымагае анкет і нічога ад яго ня хоча. Вось толькі-б з нагамі як-небудзь—яны здаюцца яму бясьсільнымі, нібы з іх выцекла кроў, і, як тоненькія сьцяблінкі, згінаюцца пад шынэлем. Трэба спусьціцца і прысесьці крыху. Тады будзе спакой, тады будзе ўсё добра і Васіль Рыгоравіч пазбавіцца, нарэшце, апошняга жаданьня.

Ён адняў ад слупа рукі і павярнуўся, каб добра ўмасьціцца на зямлі, але раптам, амаль што поруч з сабою, заўважыў Балабая. Нібы паравоз, ён ляцеў па тротуары, стукаючы цяжкімі ботамі, і чмыхаў. Яго рашпіленае паліто, нібы Балабаеў падвойнік, учапілася яму ў плечы і неслася ў назіркі. Васіль Рыгоравіч, як ашпараны, скочыў за ліхтар і, зацяўшы дыханьне, прысеў. Балабай, размахваючы каскетам у руцэ, праляцеў, не заўважыўшы, паўз яго далей. Васіль Рыгоравіч далікатна, каб быць няпрыкметным, перашоў на другі бок ліхтара і пільна сачыў за постацьцю Балабая. Балабай перабег праз вуліцу, кінуў вачыма ўдоўж і поперак і, не знашоўшы Васіля Рыгоравіча, злосна вылаяўся і паволі ўжо пашоў на гору.

Васіль Рыгоравіч хацеў было зноў умасьціцца, але каля слупа ўжо спыніўся якісь цікавы,—пасярэдзіне вуліцы блытаючыся ў даўгім шынэлі, ішоў на стойку міліцыянэр. Васіль Рыгоравіч абражана зірнуў на цікавую, зьдзіўлёную кепку і паклыпаў на другі бок. Не прыпыняючы хады, ён памаленьку аглянуўся і, калі пераканаўся, што больш ужо за ім ніхто ня сочыць, пашоў напрасьцяк. І вось зноў перад ім, адбіваючы нагамі адзін супольны, рашучы крок, стройна выступіў комсамол. Не зважаючы на сьнег і вецер, яны йшлі з расьцягнутымі курткамі і рашпіленымі сарочкамі. Іх маладое цела хацела руху, размаху і змаганьня. І таму ўся колёна была як пераплецены маток жывое сілы на маладых і ўпругіх цягліцах. Параўнаўшыся з Васілём Рыгоравічам, яны гучна крыкнулі: Раз! два! тры!—і зразу-ж засьпявалі. Яны не адчувалі пасьля дзеннае працы

стомленасьці, і іх галасы рассыпаліся па вуліцы адчайна, зухавата і размашыста.

Васіль Рыгоравіч глыбока ўсунуў сваю непакрытую галаву ў падняты каўнер і пасьпяшыў прамінуць комсамол. Ён ведаў, што яны ідуць у клюб рыхтавацца да якогась рэволюцыйнага сьвята. Яны таксама вясёлыя і радасныя. Перад імі—іх новае жыцьцё, перад імі—праца і сьвята.

Васіль Рыгоравіч крута зьвярнуў у нейкі цёмны завулачак. Песьня ўжо далятала слабымі, разарванымі водгукамі і застывала сярод чорнае масы каменных будынкаў. Тут ня было людзей, і Васіль Рыгоравіч пусьціўся бегчы. Вецер вырваўся з падвароцень і, саткнуўшыся з ім, пасьпешна абмінаў і ляцеў да сьвятла, людзей і гутарак. Сэрца Васіля Рыгоравіча шпарка білася, на губах выступіла сьлізкая пена, але ён бег, не абарачаючыся, далей.

Трэба ўцячы ад людзей, ад іх сьвят, рэволюцый, вымаганьняў...

Трэба высьлізнуць ад іх пытлівых, падазроных вачэй. Трэба, каб ніхто не заўважваў і ня чуў. Трэба...

Васіль Рыгоравіч дабег да руін нейкага вялікага будынку і, каб адсапціся, спыніўся. Высокія муры, нібы разьдзетыя, выпяліся ўгору і вытарашчылі страшныя дзюры, дзе былі калісь вокны і дзьверы. У сярэдзіне, замест падлогі, столі і даху, была глухая прастора, дзе-ні дзе зьвісалі жалезныя бэлькі, ляжалі кучы грузу разьбітае цэглы, высоўвалася сухое бадыльле бур'яну, зьнізу быў відзён угары кавалачак густое хмары і, кружачыся, падалі далікатныя сьняжынкі. Васіль Рыгоравіч, спатыкаючыся на каменьне, пераступіў праз выстаўленыя дзьверы і, мацаючы рукою за сьцяну, увашоў у сярэдзіну. Вецер адчуваў сябе тут вольна і, як у пустцы, шмыгаў праз вокны, дзьверы, угору, уніз... Васіль Рыгоравіч умясьціўся на цэлай цэгліне ў куце, пад сьцяною, вынуў з шынэлі рукі і накрыўся з галавою. Зрабілася зусім ціха. Нават вецер цяпер не дабіраўся сюды і, памарудзіўшы крыху каля ног, кідаўся ў бок.

Васіль Рыгоравіч адчуваў тут сябе нядбайна і вольна. Частыя ўздыхі ад беганіны саграvalі рукі, ногі соладка выцягнуліся і толькі перашкаджалі яшчэ акуляры. Ён зьняў іх і выкінуў за шынэль: яму цяпер не патрэбны яны. Ён працаваў з імі каля „Морзэ“, чытаў праз іх Кацярыне Сідораўне газэту, разьбіраўся калісь у Сашыных задачках, якіх Саша ня мог падолець, нарэшце, выўчыў падваеньне зычных, але жыцьця, гэтага дзіўнага новага жыцьця, ён ня выўчыў. І ніхто ня выўчыць яго, ніхто не парадзіць, як трэба пражыць... Васілю Рыгоравічу, як малому, бяспрытульнаму дзіцяці, на момант захацелася кінуцца да Рабашэіна, нават да Загарулькі, схапіць руку, прыпасьці да пляча і прасіць, вельмі ўпрашваць іх:

— Скажэце! Навучэце! Як-жа трэба жыць?..

Але за мурам, праз завулак, далей за дамамі, плошчай, вуліцамі, там, у цемры пад гарою, замярзае цяпер Дняпро, дзе гуляў калісь мала-

дым тэлеграфістым Васіль Рыгоравіч... А калі пайсьці проста па месьце, абагнуць кварталаў з пяць і выйсьці на прадмесьце—там дом, дзе ён пазнаёміўся з Кацярынаю Сідораўнаю. Пайсьці ўгору назад—за царквою тэлеграф. Над ім гэтымі днямі паставілі жэрдку для радыо. З жэрдкі, мусіць, відаць цьвінтар, дзе пахована Кацярына Сідораўна. Там таксама цяпер цёмна, маўкліва і самотна... У магіле цёпла, як і пад шынэлем. У магіле ціха і нішто ня турбуе. Нябожчыкам турбавацца ня трэба. Яны чуюць толькі, як звоняць у царкве і ў весну сьпяваюць птушкі... Созабезу на цьвінтары няма, бо Созабез—толькі для жывых, тых, што па-за штатам. Ім толькі—крыж. Прыемна, калі крыж жалезны і на ім напісана, хто памёр, калі нарадзіўся і хто паставіў. Жалезны крыж не пасякуць на дровы, асабліва, калі паставіць краты і кветачак крыху... Белых, чырвоных, блакітных...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Васіль Рыгоравіч схіліў на паднятае плячо галаву і ціха, ціха спаў. Сьнег ляжаў ужо на тротуарах, заслаў ужо вуліцы, заслаў наўкола дахі і запарушыў яго шынэль. Ціхенька праскакваючы бэлькі і балты, ён прабіраўся цяпер за адхілены на бок каўнер і садзіўся на пасрэбленыя валасы. Левая рука Васіля Рыгоравіча выпрасталася з-пад шынэля і выставіла, як-бы просячы падарыць, сагнутую далонь; на патаптаным чараўіку разьвязаўся шнурок і беспарадна зьвісаў у кучу замёрзлага калу.

Недалёка па тротуары прашла якаясь закаханая пара, яны шчыльна прытуліліся адно да другога і голасна сьмяяліся. Ён хукаў на яе маленькую ручку, сьціскаў яе і, калі яна, заходзячыся ад рассыпчатага рогату, намагалася яго выцяць па шчацэ, ён шпарка перагнуў яе стан і пацалаваў у вадкрытыя, зьлёгку нафарбованыя губы.

Дзесь на бліжэйшай вуліцы люта зарычэў аўтомобіль і забрахаў сабака.

З украінскае мовы пералажыў **П. Жарскі.**

# З ПОЭМЫ „ЦЫГАНКА“

**Паўлюк Трус**

I

Маўчала ноч па-над палянай,
Зялёны гай не гаманіў...
Няначай ў сінім акіяне
Над рэчкай месяц ціха плыў...

Ў ружова-мутным футарале,
Яго сузорысты вянок
Буйныя пацеркі-каралі
Каціў на жвірастае дно...

. . . . . . . . . . . .

Маўчала дно...
Пад багавіньнем
Адвечнай цемені глыбінь
Яшчэ зары пунсова-сіняй,
Ня ўсьпела чырваньню адбіць!..

І толькі ў золкасьці даліны,
Над чаркай соннае вады
Снаваў прыгожую тканіну
З прадоньня месяц залаты.

Маўчала возера ў тумане
Ды вербы плакалі ў цішы.
На дне сінеючае твані
Лілеі вецер варушыў...

Яны гайдаліся паволі,
Гайдалі цёмную глыбінь,
Бы ў полі стромкія таполі
Гайдаюць стан пад ветравінь.

А там,
за морам аксаміту,
Каціўся песень пераліў.
Журбою ночы апавіты,
Драмалі ў шэрані палі.

І ў тоне песень жыватворчых
Я чуў разгульнае жыцьцё.
Аб ім у лузе,
апаўночы
Шумела ў беразе трысьцё!..

. . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . .

Ой песьні,
песьні-веснаплыні,
Маёй душы зялёнацьвет!..
Па ўлоньні цьмянае даліны
Крыніцай сочыцеся ў сьвет!..

Вы з кветак
рожаў сонцавею
Ўяце вянок жывых былін
Пад ветра-буйныя павевы,
Пад гоман сонечных калін.

Бурлівым подыхам прадвесьня
Вы сны калышаце нізін.
Даўно я вас,
акорды-песьні,
У зрэбнай радасьці насіў...

. . . . . . . . . . . . .

Яшчэ з маленства,
як ніколі,
Мне матка зычыла сьпяваць,—
Калі трымала на прыполе
У сьпелай постаці жніва.

А ў полі,
полі красавалі
Красою-цьветам васількі,
Ды ў лузе гусьлі заміралі,
Пад кволым шэпатам ракіт.

Я. доўга слухаў,
як далёка
Танула водгульле ў бары.
Душа ў бяскрайнасьці глыбокай
Ўспрымала матчыны дары.

Таму,—
ў сузор'і сенажаці,
Як тухне прозалацъ зары,

Люблю касынкі завіваці
Каліне сочнай на гары!..

. . . . . . . . . . . .

Люблю я ноч на сенакосе,—
У срэбрацьвецені кусты!..
Як радасьць звонкую у восень,
Хоць долу сьцелюцца лісты.

Люблю
на водарных пракосах
Журбу душы закалыхаць—
Калі заўецца ў сьветлых росах
Травы мурожнай павіха,

Калі зара
цьвіце над гаем...
А буйны вецер ля ракі,
Ў зацішку вербы нагінае,
Гайдае мора асакі...

О!..
Вас, лугі,
мне не забыцца!..
Дзе так разгульваўся з касой,
Дзе я цыганку-чараўніцу
Спаткаў пад нізкаю вярбой!..

II

Маўчала ноч у цьвеце долу,
Зялёны гай не гэманіў...
Успомніў сёньня мімаволі
Цябе—
ў разгульнасьці вясёлай—
Цыганскі табар пры агні!

Гарыць агонь...
На сьвежым сене
Сядзяць маўкліва цыганы.
Ў вачох адбітак задуменьня—
Аб нечым думаюць яны?..

Глядзіш...
На тварах загарэлых
Сьляды глыбокія маршчын,—
Ўздымаюць погляд горда-сьмелы!..

. . . . . . . . . . . . . . . .

А там,
за табарам у змроку
Мігае постаць цыгана.
Ў тумане сінім недалёка
Зьвініць мінорная струна.

Зьвініць...
і ў гаі замірае,
Калыша водгульле ў душы.
Чаму цыганка маладая
Ня прыдзе мне паваражыць?

Чаму у лузе,
апаўночы,
Як зоры ў цемені—на дне,
Яе прадоністыя вочы
Журбы ня высеюць ва мне?..

Няўжо надзей маіх
півоні
Завялі ў інеі густым?..
І буду заўтра, як сягоньня,
Зьбіраць пажоўклыя лісты?..

І буду ў полі,
пры даліне,
Красу цыганкі ўспамінаць.
Чаму пад месяц смугла-сіні
Ня выйдзе з табару яна?..

Чаму
за табарам вясёлым
Ня бачу постаці ў імгле?..
І толькі ў прозалаці кволай
З расою стыне яе сьлед . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Была
цыганка Марыула,
Мяне пакінула яна...
І сэрца поўнае разгулу
Крыніцай сочыцца да дна.

Ў грудзёх
хвалюецца адвага,—
Хвалюе буйну галаву.

І ён, упоены развагай,
Схіліўся ў думках на траву.

Шумелі вербы над вадою,
З-за хмараў месяц выплываў.
Сядзеў цыган...
І між сабою
Пад подых ветру разважаў...

І доўга,
доўга ў сэрцы чулым,
Пад чорнай сьвіткаю—на дне,
Прыгожы вобраз Марыулы
Сьмяяўся ціха, як у сьне.

Маўчала ноч...
Драмалі нівы...
І толькі ў зелені кустоў
Танула ў хвалях-пералівах
Стальное бразганьне падкоў.

Ды коняй
звонкае іржаньне
Пад небам вольнай шырыні,
Парою дзе-ні-дзе ў тумане,—
Ў туманных далях празьвініць.

І ціха зноў...
Трымцяць даліны...
Ракіты водар напаіў.
І плачуць сінім верхавіньнем
Ў зялёнацьвецені гаі.

Ужо даўно
ў тумане волкім
Над лесам месяц патануў.
Ў прасторах сон...
Ня сьпіцца толькі
Старому дзеду-цыгану.

Выходзіць з табару у ночы,
Шукае некага,
заве...
Глядзяць асмугленыя вочы,
І кануць думкі ў галаве.

Агонь паволі патухае,
Гамоніць з вербамі лаза.

Сядзіць цыган...
І ўспамінае,
Што ўжо ня вернецца назад . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Была ў мяне дачка Зарайя;
На ўлоні вольнасьці яна
Расла, як кветка маладая,
Ў цыганскім табары адна.

Сям‘я
па сьвету вандравала...
Зарайя—роднае дзіця,
З гадоў маленства пакахала
Разгул цыганскага жыцьця.

Яна
любіла апаўночы
Сьпяваць у табары адна.
Глядзеў у чорныя я вочы
І слухаў песьні да відна.

Глядзеў...
І ў сэрцы стылі чары,
Ўсплывалі вобразы на дне.
А струны звонкае гітары
Складалі казкі яны мне.

У гэтых казках—
успамінах
Майго жыцьця—
разгулу дні
Насілі ветры па даліне,
Ды гай у ветры гаманіў.

## НУ, ЧЫМ ВІНАВАТЫ Я...

### А. Гурло

Ну, чым вінаваты я, чым,
Што сэрца так моцна галосіць?
Ну, чым вінаваты я, чым,
Што плакаць яму давялося?

Хоць, праўда, бяз сьлёз і жуды,
А толькі вось нейкаю больлю...
Хоць, праўда, бяз сьлёз і жуды,
А толькі жаданьнем к раздольлю.

Ну, што-ж—няхай ные душа
І сэрца жаданьнем галосіць,
Ну, што ж—няхай ные душа
Пад песьняў маіх сугалосьсі.

Мо' сьціхне сардэчная боль,
Як песьня скрозь млявасьць
прарвецца,
Мо' сьціхне сардэчная боль,
Як песьня на плач адгукнецца.

## ЗВОН МАІХ ПЕСЬНЯЎ, ЗЬВІНІ...

**А. Гурло**

Звон маіх песьняў, зьвіні!
Радасьць ва мне плюскоча...
Зьзяюць праменна агні,
Льлюць свае бляскі мне ў вочы...

Эй, захлыніся туга—
Кроў забурліла крыніцай!
Сёньня мне хочацца ў гай,
Дзе чырванеюць суніцы,

Дзе засьпяваў салавей,
Радасьць, як я, пачуўшы.
Лягу я ў мяккай траве
І растапыру ўшыр вушы.

Слухаць я буду, сьпяваць
Стройна пад сьпеў салаўіны.
Хай адпачне галава
І распрастаецца сьпіна.

Вельмі я шмат перажыў
Ў дні, што нядаўна мінулі.
Совалі ў бок мне нажы
І песьняў маіх ня чулі.

Можа пачуюць цяпер
Песьню маю і шчырасьць...
Вельмі я многа цярпеў,
Каб разгарнуцца у шыры,

Каб прывітацца з вясной,
Што надкрыла раздольлем
З думкай у сэрцы адной,
Што я ў жыцьці задаволен.

## МАРЫНКА

**М. Грамыка**

У Марынкі—нічога, ані!
Як калінка яна—адзінота.
Ні бацькоў у яе, ні радні,
Ёй адно толькі,—жыць ёй ахвота,
Грызьці кніжку, стаяць каля плоту
Ды глядзецца ў ліпнёвыя дні.

Але-ж вочкі ў Марынкі—агні!
Не пазнаеш, ці сінь, ці чарнота,
Так стаяў-бы, здаецца, ля плоту,
І ні гуку, ні слова,—ані!
Хоць шапнуць ёй даўно ёсьць ахвота,
Што па сэрцу мы, мусіць, з радні...

Мо' як высьветляць ў небе агні
Ды туманчык пацягне з балота,
Крадучысь я прайду каля плоту,
І, як сьпевы заціхнуць,—ані,
Я шапну ёй, што жыць мне ахвота,
Што праходзяць ліпнёвыя дні.

## ТЭТРАМЭТРЫ

**М. Грамыка**

Сунічку апошнюю гэтага лета
Сарваў я сягоньня ды зьеў на мяжы.
Была яна сонцам ужо перагрэта,
Раўнаньняў тут колькі і дум для поэты
На восеньскім гэтым сухім рубяжы!

Салодка у роце. На сэрцы-ж гаркотна.
Хоць жоўтага лісьця навокал няма.
Ды вецер ад лесу навевам сьмяротным
Даводзіць, што сум мой ня так і дарма.

Сунічка і сэрца маё перагрэты,—
Бывай-жа здарова ты, сінь цяплыні.
Сунічка праглынута сёньня поэтам,
Навокал дажатае жыта—зірні!

Калодзішчы, 26/VII-25 г.

## ПАДБІТЫ ВОЎК

**Аркадзь Моркаўка**

1

Не замоўкнуць, знаю, гучныя цымбалы,
Завіхрыцца пылам малаточкаў медзь.
Буду сёньня п'яны, буду сёньня шалы,
Бо павінна сэрца з крыкам дагарэць.

Недарма лявоняць пад грудзямі ведзьмы
Непяяных песень, неказаных слоў;
Недарма паслана поле жоўтай медзьдзю,
Па якім шнурую я—падбіты воўк.

Значыць, нешта плача, значыць, нешта гіне,
Калі вочы сеюць і імжу і золь.
Але хто-ж замоўкне, але хто-ж застыне,
Калі душыць сэрца нетароны боль?!

2

Ты—скуты Промэтэй! Баюся я цябе.
Баюся пазіраць, як кожны нэрв трапеча.
Твой кожны ёнк душу, бы серп тупы, скрабе,
І мукі мора у вачох нечалавечых.

Вось зараз ты уздымеш вуліцу-руку,
Вось зараз уздыхне твой брук—жывыя грудзі,—
І мы, павісшыя на тоненькім суку,
Мы ў процьму звалімся, мы—вараньнё, мы—людзі.

А ты... а ты пэрсыдзкай казкі дзіўны ўзор,
Узор, які наш дух сьмяротнасьцю запляміў,
Ты мог-бы быць другім, ты мог-бы шапкай зор
Зьлячыць наш боль нямы, зьлячыць гнілыя раны...

І будзе гэта так. Настане гэты дзень.
Праз мора чырвані, пад боль кляцьбы і енкаў
Ты—сёньня, гад, ты—сёньня, чорны, млявы цень,
Ты створыш ясную блакітную старонку.

3

Ой горкі хлеб! Ой горкае віно!..
Я буду піць, я буду піць адзін,
Бо лёс ня ўсім круціць верацяно
Сьвінцовых дзён і матылькоў-гадзін.

Ой буду піць! на кожным кроку піць
І слодач, і смугу, і чырвань, і крышталь!
Сучыся-ж, ніць, сучыся крута, ніць:
Табой зьвяжу і блізкае і даль.

4

Сыпле ў вочы дробным жорсткім шротам,
Сыпле ў вочы п'яны, злосны студзень.
Нехта душыць алавяным ботам
Вузкай вуліцы нямыя грудзі.

— Братка мой, пашоў-бы ты да хаты.
Цёпла там... Зусім другая справа!
— Кінуць варту?!
Марш направа!..

Вецер толькі круціць коўдрай зрэбнай.
Рогат толькі вадабежнае трубы:
„Вартаваць патрэбна?!
Вы—рабы!"

5

Хай душаць брудныя скляпеньні,
Хай вільгаць на сьцяне—ня ўзор, а тлусты гад,—
Пад імі вырасьце вар'ят і гені,
Што растлумачыць сэнс нямых шарад.

Пад імі вырасьце вар'ят і гені,
І затрапеча сонца, бы крышталь ракі;
Я-ж, чалавек, я стану на калені,
Бо я ўвесь твой, прыгожая Рахіль.

6

Вараньнё абсела чорнай хмарай
На шляху—на паску—конскі шрот.
А на ўсходзе шчодра сее чары,
А на ўсходзе шчурыць вочы кот.

Як зірне—дарога затрапеча,
Як зірне—дарога чулы нэрв...
Пабягу к варонам яна веча,
Можа прымуць, мо' ёсьць месца мне.

Там душу ня выдзюбяць ашчэмы,
Не залезе ў грудзі з сьмердзю спрут.
Пабягу, і буду немы-немы,
Пабягу ў вароні сіні кут.

7

Закульгаў паволі да асіны,
Хвост, бы дрот, узьдзюбіў ззаду сьнег.
Рагатаў марозам вечар сіні
І балюча крыўдзіў скуру сьмех.

Падышоў. Спыніўся. І на месяц
Нема-нема, бы скула, заныў.
І адказ бяззубым ротам месяць
Пад званічнай вопраткай званы.

## ПЕРШАЯ ПЕСЬНЯ

*(Пасьвячаецца Ўл. Дубоўку)*

**Міхась Дуброўскі**

Ach! die küheste Harmonin Wirft das Saitenspiel zu Trummer[1]). Schiller.

І было у восень, калі сумна тлела
Тое, што учора весела жыло,
На іржавых петлях сэрца заскрыпела
І драпежнай песьняй
Ўсё абвалакло.

І было у восень... Нылі сэрца гукі,
Змрок лізалі ласа, быццам гады пыл,
І дзе тры завулкі разьнімалі рукі,
Я пакляўся біцца
З крыўдай колькі сіл.

І было у восень... Разагрэла гневам,
Растапіла думкай волава ў грудзях.
Назаўжды растаўся я з ваўчыным сьпевам
І з адкрытай грудзьдзю ўзяў на торны шлях.

Імглі, мая песьня, сыстэмай міроў,
Дзе заравы бунтаў рассыпала кроў,
Дзе з нітак-маланак на кроснах грымотаў
Тчэ новую сукню Зямля;
Дзе сукрыць і сучыць экватар народаў
На Памірс рука Каваля.
Бушуй, мая песьня, як лямант у жылах пустыні,
Руйнуй саркофагі, дзе ўсё чалавечнае гіне,

Дзе дыша міазмамі сум,
Дзе зоры клубяцца ў сьлязу.

Зьбірай, мая песьня, паўдзённага сонца праменьні;
Растаплівай стогны і каменны жуд пакаленьняў

---

[1]) Ах! акордам надта сьмелым можна струны гарпы абарваць. *Шылер.*

У стопак сьпіжовы;
Гудзі і грымі
І гамай ружовай
Сусьвет абыймі.
Хай дзівяцца скаргі халодных плянэт
На твой агнядышачы сьлед...
І было у восень... Мільганула песьня
Маленькай стралою
Кволага стральца,
І прапала зноўку ў шапялявым лесе
Маёй роднай вёскі—
Майго Каганца.

# НОВЫ АСАБЛІВЫ ДАКУМАНТ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАВАТВОРЧАСЬЦІ

*(Проект кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы Нар. Каміс. Юст. РСФСР)*

**І. Герчыкаў**

Падчас другой сэсіі Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту на двух пасяджэньнях 17 і 19 кастрычніка 1925 году абгаварваўся проект кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і й апецы, які быў пастаўлены на абгавор сэсіі Народным Камісарам Юстыцыі РСФСР. Гэты проект выклікаў надзвычайна гарачыя, часам нават бурныя, спрэчкі і, не зважаючы на тое, што баранілі яго буйнейшыя аўторытэты савецкай юстыцыі і што ўхваліў яго Саўнарком РСФСР,—на гэтай сэсіі проекту не прынялі. Пастанавілі даць законапроект на абмеркаваньне шырокім колам грамадзянства, а пасьля абгаварыць яго на чарговай сэсіі.

У сучасны момант законапроект горача абмяркоўваецца ня толькі грамадзянствам РСФСР. Ён выклікаў ажыўленую дыскусію па ўсім Саюзе, ува ўсіх многалічных незалежных і аўтономных нацыянальных рэспубліках, хоць законапроект датычыць як быццам толькі РСФСР, і на сэсіі ЦВК прадстаўнікі нацыянальных рэспублік выявілі да гэтага законапроекту малую зацікаўленасьць у параўнаньні з тэй зацікаўленасьцю, якую выявілі прадстаўнікі РСФСР. Некаторыя нацыянальныя рэспублікі, асабліва Украінская, пашлі сваім шляхам у пытаньнях шлюбнага заканадаўства. Усё-ж такі проект кодэксу Нарком'юсту РСФСР выклікаў агульную ўсесаюзную зацікаўленасьць, і, незалежна ад таго, ці будзе ён наогул прыняты і ў якім відзе, зьяўляецца ў сучасны момант і назаўсёды застанецца самым цікавым дакумантам соцыялістычнай праватворчасьці наогул і ў галіне шлюбу—паасобку. Гэты дакумант тым больш важны, што ўжо цяпер ён мае сваю цікавую гісторыю і зьяўляецца выяўленьнем надзвычайна шырокай і аўторытэтнай соцыялістычнай думкі.

---

Выданы ў 1918 г. кодэкс законаў аб актах грамадзянскага стану, які да гэтага часу рэгуляваў у Савецкім Саюзе пытаньні сям'і і шлюбу, ужо даўно даказаў усю сваю няпрыгоднасьць, і даўно выясьнілася патрэба замяніць яго новым законам.

Проект 1918 г. быў завостраны ў бок барацьбы з старымі рэлігійнымі і юрыдычнымі ўяўленьнямі аб шлюбе, а ня ў бок дадатнага вываясь-

неньня соцыялістычнага погляду на шлюб. І дзеля гэтага ў аснове сваёй быў пераважна антыклерыкальны, пасьля ўжо антыбуржуазны, але не соцыялістычны, бо ўнутры сябе пакідаў шмат пэражыткаў буржуазных уяўленьняў.

З ростам агульнага законадаўства Саюзу, з аслабленьнем значэньня клерыкальных элемэнтаў, з якімі змагаўся кодэкс 1918 г., з ростам новых бытавых адносін у савецкіх дзяржавах зьявілася патрэба новага кодэксу.

Згодна паведамленьня проф. В. Вярхоўскага [1]), ініцыятыва ў гэтай справе належыць Народнаму Камісарыяту Ўнутраных Спраў, які яшчэ ў 1923 г. з гэтай прычыны зьвярнуўся ў Народны Камісарыят Юстыцыі. Пры апошнім была ўтворана камісія т. Гойхбарга, якая і распрацавала першапачатковы тэкст проекту. Але прадстаўнікі НКУС не знашлі магчымым поўнасьцю з ім згадзіцца, і справа часова замёрла.

Паводле паведамленьня т. Лавіна, на другой сэсіі ЎЦВК (кастр. 1925 г.), закон аб шлюбе абгаварваўся „два гады таму назад на сэсіі ЎЦВК і ў выніку гэтага абгаварваньня даручана было Наркам'юсту выпрацаваць закон. Закон выпрацоўваўся два гады і абмяркоўваўся ва ўсялякіх установах“ [2]). Выпрацаваны НКЮ згодна пропозыцыі ЎЦВК проект быў надрукованы ў „Еженедельнике Советской Юстиции“ ў № 48 за 12 сьнежня 1924 г. Проект НКЮ абгаварваўся ў камісіі Саўнаркому, а пасьля ў самым Саўнаркоме, дзе асноўная яго лінія была ўхвалена“ [3]). Такім чынам, мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што—будзе прыняты гэты законапроект ці не—ён ужо ў сучасны момант зьяўляецца важным гістарычным дакумантам і выяўленьнем праўдзіва соцыялістычнага погляду на шлюб.

Мы і падыдзем да гэтага кодэксу, пераважна як да гістарычнага дакуманту.

Дамаганьне рабочай клясы роўных праў для жанчыны таксама старое, як і сам рабочы рух, з якім яно цесна зьвязана. Яшчэ ангельскія чартыстыя дамагаліся для жанчыны палітычнай роўнасьці ў правох з мужчынамі шляхам наданьня жанчыне выбарных праў у парлямант і толькі часова вылучылі гэта дамаганьне з сваёй першай пэтыцыі, якая была падана ў парлямант [4]).

Вядомы камітэт дваццаці акруг нацыянальнай гвардыі, які дзякуючы выпадковасьці меў у сваіх руках уладу ў першыя дні паўстаньня Парыскай Комуны 1871 г., ярка выказаў сваю адсталасьць ад рабочага

---

[1]) Проф. В. Верховский „Новые формы брака и семьи по советскому законодательству“. Госиздат. Ленинград 1925 г., стр. 28.

[2]) Всерос. ЦИК XII созыва. II-я сессия стенографич. отчет. Издание ВЦИК. Москва. 1925 г., стр. 309.

[3]) Тамсама, стр. 22. Паведамленьне т. Курскага.

[4]) Н. Лукин. „Новейшая история Зап. Европы“. Выпуск I. Изд. „Красная Новь“. Москва. 1923 г., стр. 458.

руху шмат якімі фактамі і, паміж іншым, тым, што пры выбарах у Комуну гораду Парыжу не надаў выбарных праў жанчынам.

Сапраўднае соцыялістычнае законадаўства, якое мае сваёй мэтай роўнапраўнасьць жанчын, пачынаецца толькі дзейнасьцю Комуны 1871 г. Прычым надзвычайна важна адзначыць, што яно здолела сябе выявіць не ў галіне констытуцыйна-дзяржаўных політычных нормаў, а ў галіне грамадзянскіх праваадносін, у галіне законадаўства аб шлюбе і сям'і.

Дэкрэт Комуны ад 11 красавіка 71 году прызначаў пэнсію ўдовам і дзецям нацыянальнага гвардзейца, „загінуўшага ў барацьбе за правы народу", ня робячы розьніцы паміж „законнымі і незаконнымі" жонкамі і дзяцьмі.

Père Duchêne (рэволюцыйная газэта) з радасьцю вітаў гэты дэкрэт, як разрыў з недарэчнымі забабонамі і вітаў членаў Комуны з „выражанай у ім багатай ідэяй". Артур Арну ў сваёй „Народнай гісторыі Парыскай Комуны" піша: „Для вызваленьня жанчыны, для падтрыманьня яе годнасьці, гэтыя шэсьць слоў дэкрэту Комуны зрабілі больш, чым любы з маралістых і законадаўцаў мінулага".

Комуна пашла далей па шляху палепшаньня становішча жанчыны, прыгнечанай усімі старымі політычнымі і грамадзянскімі праваадносінамі. Яна дае права старшыні нова-організаванага грамадзянскага трыбуналу назначаць жанчыне, якая дамагаецца разводу, часовую, да аканчацельнага вырашэньня суду, пэнсію на пражыцьцё. Гэтым самым значна аблягчаліся труднасьці разводу.

На пасяджэньні Комуны 7 траўня Везінье запрапанаваў узаконіць усіх дзяцей, якія былі прызнаны сваімі бацькамі, няпрызнаных—усынавіць Комуне, а таксама ўвесьці свабодны грамадзянскі шлюб для мужчын, дасягнуўшых 18-летняга, а для жанчын 16-летняга ўзросту. Выдаць адпаведны дэкрэт Комуна не пасьпела.

Паказаная законадаўчая дзейнасьць Парыскай Комуны, пачынаючы вызваленьне жанчыны з вызваленьня яе ў шлюбных і сямейных адносінах, пачала з больш важнага, чым тое, што ў першую чаргу заўсёды высоўваў лібэральна-буржуазны фэміністычны рух, а іменна—зраўнаньне жанчыны з мужчынай у правох у дзяржаўна-політычных адносінах.

Зраўнаньне жанчыны ў політычных правох бяз зьмены ў грамадзянскіх, маемасных і шлюбных праваадносінах істотна не зьмяняе залежнага становішча жанчыны. Яркім довадам гэтага можа служыць політычна—роўнапраўнасьць, а фактычна—грамадзянска-бяспраўнае становішча жанчыны ў Нямеччыне, Аўстрыі, Англіі. Буржуазнае законадаўства пад націскам мас здало свае позыцыі ў галіне політычнай роўнапраўнасьці жанчын, аднак, не дарма яно ня йдзе на грамадзянскае зраўнаньне жанчыны ў маемасных і шлюбных адносінах. Нават рэволюцыя ў Нямеччыне нічога ў гэтым напрамку не зьмяніла. Па дарэволюцыйным нямецкім законадаўстве правы дзяцей, якія радзіліся бяз шлюбу, і іх матак былі

абураюча ўрэзаны ў параўнаньні з правамі дзяцей і матак шлюбных. І пасьля рэволюцыйнай канстытуцыі Нямеччыны 1919 г. буржуазнае законадаўства, як быццам, пашло на ўступку і ў § 121 канстытуцыі сказана аб тым, што „законадаўства рэспублікі павінна стварыць для фізычнага, духоўнага і грамадзкага разьвіцьця няшлюбных дзяцей тыя самыя варункі, як і для дзяцей шлюбных“ [1]). Ні ў далейшых артыкулах канстытуцыі, ні ўва ўсім далейшым законадаўстве пасьлярэволюцыйнай Нямеччыны гэты артыкул канстытуцыі не конкрэтызаваны і ня зроблены ніякія вывады, якія-б удакладнялі гэты артыкул. У той самы час судовая практыка кіруецца старымі палажэньнямі і, такім чынам, на гэтым найбольш істотным прыкладзе відаць, як упарта не зьмяняецца грамадзянскае становішча жанчыны пры зьмене яе палітычнага становішча.

Зусім іншае становішча займае шлюбнае законадаўства ў сыстэме савецкага законадаўства, паколькі рэволюцыя, якая прынесла палітычную роўнапраўнасьць жанчыне, прынесла і грамадзянскую роўнапраўнасьць. І артыкул 4-ы грамадзянскага кодэксу СССР устанавіў, што „род, раса, нацыянальнасьць, рэлігія, пахаджэньне ня маюць ніякага ўплыву на аб‘ём грамадзянскай праваздольнасьці“. Гэты артыкул ясна і цьвёрда ўстанаўляе роўнапраўнае *ўва ўсіх адносінах* становішча жанчыны, а таксама і дзяцей, якія радзіліся бяз шлюбу.

Далей савецкае аконадаўства можа толькі зрабіць больш дакладнымі маемасныя і ўсялякія іншыя адносіны, якія вынікаюць з шлюбных адносін, не дапаўняючы, не корэктуючы, а толькі конкрэтызуючы роўнапраўнасьць жанчыны. Вось чаму савецкае шлюбнае законадаўства траціць той свой важны і прынцыповы характар, які яно мае ў законадаўстве буржуазных краін і мела ў законадаўстве Парыскай Комуны.

Гэта палажэньне, якое выцякае з савецкага законадаўства, падмацоўваецца тым, што рэволюцыя, якая гвалтам перавяла багацьці на карысьць даўней прыгнечанага насяленьня, перавяла іх і на карысьць даўней прыгнечанай жанчыны і дадатна і адмоўна.

Адмоўна ў тым сэнсе, што ўсё старое законадаўства было скіравана да награмаджэньня багацьця пераважна ў мужчынскай частцы пануючай буржуазіі. Цяпер гэта мужчынская буржуазія ўтраціла сваё багацьце.

Дадатна ў тым сэнсе, што нацыяналізаваным багацьцем буржуазіі цяпер карыстаюцца жанчыны аднолькава з мужчынамі.

Такім чынам, у Савецкім Саюзе жанчына зроўнена экономічна і палітычна, а дзеля гэтага ніякіх прынцыпова аьначаючых становішча момантаў у спэцыяльна шлюбным законадаўстве быць ня можа.

У галіне законадаўства аб аплаце працы, буржуазныя краіны ведаюць больш танную жаночую і больш дарагую мужчынскую працу. Савец-

[1]) С. И. Гаевич. „Вопросы семейного права в законодательстве“.

кае законадаўства гэтага падзелу ня ведае і раўнае аплату мужчынскай і жаночай працы.

Буржуазнае шлюбнае законадаўства было скірована на падтрыманьне *буржуазна-монагамнага шлюбу*. Мы гаворым аб буржуазна-моногамным шлюбе, як аб буржуазна-юрыдычнай установе, якая вынікае не з натуральных адносін родаў, а з уласьніцкіх адносін буржуазнага грамадзтва, з прыорытэтам мужчыны над жанчынай. Усю філёзофію буржуазна-моногамічнага шлюбу Энгельс вылажыў у сваёй гісторыі сям'і ў наступных словах: „Моногамія паўстала з награмаджэньня вялікіх багацьцяў у вадных руках, пры тым у руках мужчыны і з патрэбы перадаць гэтыя багацьці ў спадчыну дзецям гэтага мужчыны. Вось чаму, прыкрываючыся ўсялякімі старымі і новымі тэстамэнтамі, падтрымліваючы і паглыбляючы забабоны ў народных масах, буржуазнае законадаўства затрудняла развод, ставіла ў бяспраўнае становішча „няшлюбных“ матку і дзіця, крывадушна прасьледвала блудніцтва і стаяла на варце „вернасьці жонкі мужу“ і г. д. і г. д.

Усе гэтыя моманты ў савецкім законадаўстве адпадаюць, а разам з імі і наогул умешваньне закону ў адносіны паміж родамі, за выключэньнем адзінкавых выпадкаў,—як гвалт, дэфлёрацыя і г. д., што адносіцца да галіны крымінальных правапраступкаў.

У савецкім шлюбным кодэксе 1918 г. лік прычын, якія перашкаджаюць шлюбу, даведзены да мінімуму: а) немагчымасьць свабоднага і сьвядомага выяўленьня волі, куды трэба аднесьці псыхічную хваробу; б) неразарваны і зарэгістраваны шлюб; в) сваяцтва па простай лініі і ўбочнай да 2-ой ступені ўключна (брат і сястра); г) недасягненьне шлюбнага поўналецьця, г. зн. 16 год для жанчыны і 18 год для мужчыны.

Па савецкім шлюбным кодэксе 1918 г. „шлюб, які адбыўся з вышэйпаказанымі перашкодамі, прызнаецца няважным. Дамагацца скасаваньня шлюбу могуць муж, або жонка, асобы, інтарэсы якіх нарушаны гэтым шлюбам, *і прадстаўнікі дзяржаўнай улады*[1]).

Проект кодэксу законаў аб шлюбе 24 г., як паказвае проф. П. В. Гідулянаў, прынцыпова *вылучае дзяржаўную санкцыю ў прызнаньні шлюбу няважным*, пасколькі „новы проект нічога не гаворыць аб шлюбе, як такім, а мае на ўвазе толькі *рэгістрацыю* шлюбу“.

Як кажа арт. 1 проекту,—„Рэгістрацыя шлюбу ўстанаўляецца з мэтай зрабіць палёгку ў ахове асабістых і маемасных праў і інтарэсаў мужа, жонкі і дзяцей“. Для законапроекту, далей кажа проф. П. В. Гідулянаў, усе шлюбы зьяўляюцца прыватнай справай грамадзян, якія жадаюць пажаніцца.

---

1) Проф. П. В. Гидулянов. „Недействительность браков и новый проект кодекса законов о браке, семье и опеке“—„Еженедельник Советской Юстиции“ № 4, 1925 г.

Савецкае права не бароніць абяцаньня вернасьці і не карае блуду. Дзеля гэтага фактычныя шлюбныя адносіны само сабой магчымы пры існаваньні зарэгістраванага шлюбу, прычым „ашуканы муж зарэгістраванага шлюбу можа з гэтага факту зрабіць адпаведны вывад, г. зн. застацца ў шлюбе або разьвясьціся, але *дзяржава ня ўмешваецца ў гэту галіну родавых адносін*".

„З нашага права,—зусім справядліва заканчвае проф. Гідулянаў свой артыкул,—аканчальна зьніклі апошнія сьляды буржуазнага шлюбнага права, у якім магчыма разарваньне шлюбу супроць волі саміх мужа і жонкі шляхам уладнага ўмешваньня „прадстаўнікоў дзяржаўнай улады"[1]).

Проект шлюбнага кодэксу заканчвае процэс выражэньня соцыялістычнага погляду на шлюб у галіне права, зусім адсоўваючы шлюб, як юрыдычны інстытут, і гэта яго *найвялікшая гістарычнай важнасьці заслуга.*

Вось дзеля чаго зусім лёгічна, што ў новым кодэксе няма азначэньня таго, што такое шлюб. Цяпер гэта галіна толькі фізыолёгіі і ня мае ніякіх адносін да юрыспрудэнцыі.

*Соцыялістычнае грамадзянства ні ў якой меры і ні з якога пункту гледжаньня не зацікаўлена ў захаваньні моногамнага шлюбу, калі ён ня мае пад сабой здаваляючай фізыолёгічнай асновы, калі ён не ўстанов іцца фізыолегічна. Соцыялістычнае грамадзянства ніякім чынам не зацікаўлена ў па-зафізыолёгічных (юрыдычных і ўсялякіх іншых) уплывах на родавую сфэру чалавечых адносін.*

Адначасна з проектам кодэксу аб шлюбе, які быў створаны НКЮ РСФСР, другі проект шлюбнага кодэксу быў распрацаваны Нар. Камісарыят Унутр. Спраў.

У прадмове да гэтага проекту, які служыць адначасна абаснаваньнем яго, проф. П. В. Вярхоўскі выказваецца па пытаньні аб няпрыгоднасьці проекту, які быў выпрацаваны Нар. Каміс. Юстыцыі. Ён зьвяртае ўвагу на шмат якія моманты і асабліва на тое, што зьяўляецца найбольш істотнай і характэрнай часткай проекту НКЮ—на адсутнасьць азначэньня шлюбу. Побач з гэтым нехацькі падкрэсьлівае надзвычайна важны дадатны бок проекту Наркомʻюсту, кажучы, што „проект НКЮ ідзе насустрач новаму быту, які імкнецца да свабоды шлюбных адносін і рэгістрацыю іх ня лічыць заўсёды патрэбнай для прызнаньня іх сапраўдным шлюбам. Але згодна погляду проф. Вярхоўскага, тэндэнцыі новага быту не адпавядаюць інтарэсам Савецкай дзяржавы, якая, прызнаючы іх прынцыпова правільнымі, з непрынцыповых часовых практычных меркаваньняў павінна ў законадаўчым парадку паставіць перашкоды тэндэнцыям быту. „Свабода шлюбных узаемаадносін,—кажа проф. Вярхоўскі,—можа быць зьдзейсьнена толькі ў пэўных межах. Гэтыя межы павінны быць, зразумела, бясконца шырэйшымі ад усіх тых, якія можна спаткаць *у любым самым лі-*

[1]) Проф. П. В. Гидулянов. „Недействительность браков и новый проект кодекса законов о браке, семье и опеке"—„Еженедельник Советской Юстиции" № 4, 1925 г.

*бэральным буржуазным законадаўстве* (падкрэсьлена мною. І. Г.). Але ў кожным выпадку савецкая ўлада ня можа зусім сьцерці межаў паміж фактычным шлюбам, невядомым ёй, і шлюбам, прызнаным ёю ў форме рэгістрацыі органамі ЗАГС або ў форме пастановы компэтэнтнага суду. Прававыя вынікі яна можа прысвоіць толькі другому, а ня першаму".

Такім чынам, раўнаючы лібэральна-буржуазнае законадаўства з савецка-соцыялістычным, устанаўляючы паміж імі розьніцу толькі лікавую, а ня якасную, проф. Вярхоўскі ў далейшым спадае да старадаўніх формаў буржуазна-лібэральных адносін да шлюбу. Ён зьвяртае ўвагу на тое, што кодэкс НКЮ „не дае ніякіх адзнак, па якіх можна было-б выдзеліць *сапраўды шлюбныя адносіны* ад усіх іншых „*шлюбападобных*". Устанаўляючы пад новым толькі абазначэньнем законныя і па-за законныя шлюбы. проф. Вярхоўскі яшчэ не дагаварыўся аб „*шлюбападобных*" дзецях.

Няўдала папраўляючы кодэкс НКЮ ў важнэй частцы, ён ня менш няўдала папраўляе яго азначэньнем таго, што такое шлюб, і дае наступнае азначэньне: „Шлюб—гэта ёсьць неабмяжованае тэрмінам добраахвотнае сужыцьцё, якое ідзе побач з усімі юрыдычнымі вынікамі, аснованае на свабоднай умове мужчыны і жанчыны аб прызнаньні адзін другога мужам і жонкай".

Гэта азначэньне, відавочное для кожнага, зьмяшчае шэраг надзвычайна рызыкоўных момантаў і не ахоплівае ўсяго таго складанага комплексу адносін, якія ствараюцца на грунце фізыолёгічнага шлюбу. Але наркам'юст Курскі на паседжаньні другой сэсіі ЦВК прывёў надзвычайна важны аргумант, дзеля якога немагчыма ўлучыць гэта азначэньне ў савецкае законадаўства.

„Даволі апавясьціць гэта азначэньне,—сказаў тав. Крупскі,—каб убачыць, якая небясьпека для праў жанчыны крыецца ў такім азначэньні, бо гэтым зьнішчаецца ўсялякая, па істоце кажучы, юрыдычная магчымасьць абароны гэтых праў, калі адна з старон адмовіцца прызнаць існаваньне добравольнай згоды. Тут адпадае ўсялякая абарона праў". Другога азначэньня шлюбу, якое-б давала магчымасьць ухіляцца ад гэтага становішча, знайсьці нельга, дзеля гэтага такое азначэньне шлюбу зусім не вырашае задачы і ня будзе абараняць праў жанчыны. Наадварот,—уводзячы такое азначэньне шлюбу, мы фактычна зьнішчаем усё тое, што будзем гаварыць у наступных артыкулах аб правох мужа і жонкі. Дзеля гэтага ў камісіях і ў Саўнаркоме была адкінута пропозыцыя даць азначэньне самога шлюбу"[1]).

Што-ж гэта за прычыны, якія змушаюць, па думцы проф. Вярхоўскага, зварачаць савецкае законадаўства са шляху соцыялістычнага на шлях буржуазна-лібэральны? Выдзяляючы асобна пытаньні аб дзецях, мы з прычын, якія паказвае проф. Вярхоўскі, выдзяляем дзьве важнейшыя.

[1]) Стенограф. отчет II сессии ЦИК'а XII созыва. Стр. 227, 228.

„Свабоду шлюбных адносін у сучасных умовах ня зусім можна зьдзейсьніць. Дзеля гэтага,—кажа профэсар,—патрэбна, папершае, *аднолькавая надіатоўленасьць мужчыны і жанчыны з дзіцячых гадоў да вытворчай працы* (падкрэсьлена мною І. Г.), што мае на ўвазе зусім новую, якая цяпер уводзіцца, сыстэму выхаваньня і адукацыі, сыстэму, якая можа адчувацца толькі ў будучыне, калі будзе падрастаць новае пакаленьне дарослых мужчын і жанчын. Апрача гэтага, патрэбна магчымасьць роўнага ўдзелу ў працы, а між тым наша прамысловасьць і гаспадарка ў сучасны момант не настолькі яшчэ паднялася, каб жанчына заўсёды магла знайсьці сабе заработак і быць экономічна незалежнай ад мужчыны“[1]).

Першы довад, зразумела, не датычыць пераважаючай масы сялянства і даволі значных пластоў гарадзкога насяленьня, дзе прыстасаванасьць да фізычнай працы мужчын і жанчын амаль аднолькавая. Што-ж датычыць высокіх колаў гарадзкога насяленьня—інтэлігенцыі і кваліфікаваных рабочых, то захаваньне перажыткаў старых адносін паміж мужам і жонкай, калі жонка магла маральна і юрыдычна лічыць зусім нормальным зьявішчам знаходзіцца на ўтрыманьні мужа,—будзе служыць толькі перашкодай да ўтварэньня тых новых формаў, да якіх імкнецца Савецкая дзяржава шляхам новай сыстэмы выхаваньня і адукацыі і да якіх быт ідзе сам сабой.

А другая прычына замяняе шлюб у спосаб змаганьня з жаночым беспрацоўем і чамусьці толькі жаночым, а ня з мужчынскім.

„Свабода шлюбных узаемаадносін,—кажа проф. Вярхоўскі,—можа быць зьдзейсьнена толькі ў пэўных межах“. З чаго выводзіць профэсар, што тыя, хоць і больш шырокія межы, якія будуць пастаўлены свабодзе шлюбных адносін у савецкім законадаўстве, будуць больш сапраўднымі, чым тыя межы, якія ставіла буржуазнае законадаўства? А побач з гэтым межы, якія буржуазнае законадаўства паставіла шлюбным адносінам, на справе аказаліся вельмі мала сапраўднымі.

Калі прыняць пад увагу тыя ўсялякія няпрыемнасьці для жанчыны буржуазнага грамадзтва, якія зьяўляюцца вынікам бязшлюбнай цяжарнасьці, то будзе зусім зразумела, што пераважная частка ўсялякага штучнага вызваленьня ад цяжарнасьці падае на бясшлюбныя цяжарнасьці. Разам з тым процант няшлюбных нараджэньняў у буржуазных краёх вельмі вялікі. Вось якія зьвесткі па гэтым пытаньні дае проф. А. Гойбарг у сваёй працы, якая нядаўна вышла—„Сравнительное семейное право“[2]). У канцы мінулага сталецьця ў Гватэмале (рэспубліка ў Сярэдняй Амэрыцы) процант няшлюбных дасягаў 50 проц. усяго ліку народжаных. У Вэнэцуэле (рэспубліка Паўднёвай Амэрыкі) у 1908 г. радзілася 70.548, з гэтага ліку законных 21.464; у 1909 г. (за 9 мес.)—49.172, з іх

[1]) Проф. В. Верховский—„Новые формы брака и семьи“.
[2]) Юрид. Изд. Нарком'юста РСФСР. Москва. 1925.

законных—14.804; у 1910 г.—82.487, з іх законных—24.345; у 1911 г.—83.753, з іх законных—24.184, г. зн. амаль праз увесь час 70 проц. усіх народжаных складалі „незаконнароджаныя". Наступная таблічка паказвае разьмер такога зьявішча, як незаконнароджаныя, у вялікіх гарадох да пачатку сучаснага сталецьця:

На 1.000 народжаных—няшлюбных:

| | |
|---|---|
| у Вене | 449 |
| „ Празе | 439 |
| „ Мюнхэне | 439 |
| „ Стокгольме | 396 |
| „ Маскве | 300 |
| „ Будапэшце | 299 |
| „ Мілане | 204 |
| „ Рыме | 194 |
| „ Бухарэсьце | 175 |
| „ Копэнгагене | 279 |
| „ Парыжы | 268 |
| „ Пецярбургу | 236 |
| „ Трыесьце | 214 |
| „ Лейпцыгу | 211 |
| „ Дрэздэне | 208 |
| „ Хрыстыяніі | 162 |
| „ Бэрліне | 154 |

Да таго-ж часу лік няшлюбных дзяцей дасягаў:

| | |
|---|---|
| у Бразыліі | 25% |
| „ Коста-Рыко | 24 „ |
| „ Верхн. Баварыі | 16 „ |
| „ Ніжн. Аўстрыі | 26 „ |
| „ Швэцыі | 15 „ |
| „ Португаліі | 14 „ |

У Нямеччыне ў 1918 г. было каля $2^1/_2$ мільёнаў няшлюбных дзяцей: менш 14 гадоў—1 мільён і менш 20-ці гадоў—$1^1/_2$ мільёна.

Гэтыя лічбы ў даволі значнай ступені паказваюць, наколькі ўсе межы для шлюбу, якія устанаўляе дзяржаўнае заканадаўства, мала істотны. Але яшчэ больш паказальнымі ў сэнсе малога ўплыву шлюбнага заканадаўства на ўзаемаадносіны ў шлюбе зьяўляюцца зьвесткі аб разводах.

Здавалася-б, што ў СССР, дзе для разводу няма ніякіх перашкод, разводы мусілі-б быць найбольш частымі ў параўнаньні з буржуазнымі краінамі, дзе развод абстаўлены ўсялякімі перашкодамі. А ўсё-ж такі:

„У РСФСР у 1921—23 г.г. лік разводаў дасягаў 85.000 у год, а ў Паўн.-Амэр. Злуч. Штатах, пры тым самым, прыблізна, ліку жыхарства, лік разводаў ўзрастаў такім чынам: у 1900 г. разводаў 55.502, у 1905 г.—

67.791, у 1906—1915 г.г.—у сярэднім 112. 036 разводаў у год, а пачынаючы з вайны, лік разводаў яшчэ больш узрос. У Францыі, дзе жыхарства ў тры разы менш, чым у РСФСР, лік разводаў павялічаўся ў надзвычайнай пропорцыі: у 1884 г. (год уводу інстытуту разводу)—1.657 разводаў, 1898 г.—больш 8.000, у 1913 г.—больш 16.000 і 1921 г.—32.557. Калі ўзяць сталіцы, то пабачым яшчэ больш дзіўнае зьявішча, якое паказвае, што сам па сабе закон аб поўнай свабодзе разводу зусім не зьяўляецца прычынай асаблівага росту ліку разводаў. У часы француской рэволюцыі, у 1792 годзе, калі была ўведзена поўная свобода разводаў, у Парыжы было 3.000 разводаў. У 1921 г. ў Парыжы больш 5.000 разводаў, а ў Маскве ў 1923 г.—912 разводаў. У Маскве ў 1923 г. на 100.000 жых.—45—50 разводаў, а ў Бэрліне ў 1920 г. на 100.000 жых.—219,7 разводаў і нават ува ўсёй Нямеччыне больш, чым у нас у сталіцы 59,1 разводаў.

Справядліва кажа вядомы статыстык Бэртыльён, што „шлюб і развод—закон ня мае над імі ніякай улады. Праўда, закон можа давесьці да таго, каб заместа законнага шлюбу жылі ў конкубінаце; закон, праўда, можа давесьці да таго, каб заместа абвяшчэньня рэгулярнага разводу рабілі таемную разлуку; але зусім таксама закон ня можа перашкодзіць мужчыне і жанчыне, зьвязаным пачуцьцём глыбокага каханьня, злучыцца, не зважаючы на ўсе перашкоды, якія ён ставіць іх шлюбу,—ён ня можа перашкодзіць мужчыне і жанчыне, якія ненавідзяць адзін другога, разлучыцца, не зважаючы на ўсе перашкоды, якія ён паставіў-бы да іх разводу“ [1]).

Не зважаючы на ўсё гэта, шлюбнае законадаўства ў буржуазных краінах мае свой сэнс і, зразумела, не такі, як гэта здаецца людзям з наіўным поглядам на буржуазнае грамадзтва, каб у імя моральнасьці захаваць моногамны шлюб. Яно мае сэнс такі, каб даць і гарантаваць у галіне шлюбу юрыдычнымі нормамі тыя соцыяльныя адносіны, якія характарызуюць буржуазнае грамадзтва.

Мы ня будзем спыняцца на пытаньні аб тым, у якой меры буржуазнае законадаўства аб шлюбе руйнавала натуральныя моногамічныя шлюбныя адносіны і дапамагала росту простытуцыі і самых дзікіх, распусных і бязладных шлюбных адносін. Мы ня будзем спыняцца ні на „комэдыі шлюбу“, ні на „трагэдыі шлюбу“ буржуазнага грамадзтва.

Мы тут мусім зьвярнуць увагу на тое, што зьнішчэньне моногаміі ў шлюбе не зьяўляецца няўхільным вывадам з зьнішчэньня буржуазнай сям'і і шлюбнага законадаўства.—„Шлюб, асновань на родавым каханьні, па сваёй прыродзе павінен быць моногамным“,—кажа Фрыдрых Энгельс.

---

Калі ў грамадзтве ня толькі соцыялістычным, але і ў тым, якое ідзе да соцыялізму, зьнікае шлюбнае законадаўства, то гэта не азначае яшчэ, што зьнішчаецца моногамія і зусім зьнікае сям'я. Зьнікае буржуазная сям'я—інстытут, які вырас ня столькі на аснове каханьня і супрацоў-

[1]) А. Гойбарг, Стр. 6.

ніцтва, колькі на буржуазна-ўласьніцкай аснове. Але вельмі магчыма, што соцыялістычнае грамадзтва будзе знаць сям'ю, наладжаную на зусім іншых асновах, чым сям'я буржуазная. У кожным выпадку захаваньне і ўзгадаваньне дзяцей нямінуча мусіць прыняць грамадзкі характар у большай меры, чым да гэтага часу. У сваёй абароне мацярынства і маладзенства савецкае законадаўства выходзіць, зразумела, з гэтых палажэньняў. А Савецкая дзяржава, якая ідзе да соцыялізму прынцыпова, бярэ на сябе выхаваньне дзяцей, якія па тых ці іншых прычынах апынуліся без сям'і, бяз бацькаўскай апекі. З прынцыповага пункту гледжаньня, пытаньне аб дзецях у Савецкай дзяржаве мусіла-б ляжаць толькі ў плошчы найбольш рацыянальнай організацыі грамадзкага масавага дашкольнага выхаваньня.

Юрыдычныя нормы мусілі-б толькі азначаць месца, якое займаюць інстытуты дашкольнага выхаваньня сярод іншых дзяржаўных організацый і інстытутаў. Аб дзіцяці, як такім, мусіла-б клапаціцца толькі пэдагогіка, але не юрыспрудэнцыя. Ажыцьцёвіць на практыцы гэтыя бязумоўныя для Савецкай дзяржавы прынцыповыя палажэньні перашкаджае толькі адсутнасьць матэрыяльных магчымасьцяй. Вось што прымушае сучаснае савецкае законадаўства біцца над вырашэньнем пытаньня аб дзецях, якія апынуліся па-за сям'ёй, і займацца так популярным пытаньнем аб алімэнтах (сродкі, якія бацькі ў дзяржаўным парадку прымушаны выдаваць на ўзгадаваньне дзяцей).

Законадаўства па пытаньні аб алімэнтах зьяўляецца толькі латай на бюджэце Савецкай дзяржавы, латай, якая будзе ўсё зьмяншацца разам з узмацненьнем дзяржаўнага бюджэту.

Таму гэта частка шлюбнага кодэксу ня мае прынцыповага значэньня з пункту гледжаньня будаўніцтва соцыялістычнага грамадзтва; яна мае значэньне толькі ў сэнсе практыкі сёнешняга дня.

# ДЫАЛЕКТЫЧНЫ МАТЭРЫЯЛІЗМ І МЭХАНІСТЫЧНЫ СЬВЕТАПАГЛЯД [1])

С. Кацэнбоген

## I

Маркс, Энгельс, Плеханаў і Ленін адносіліся заўсёды з выключнай увагай к дасягненьням прыродазнаўства. Маркс пакінуў шэраг ненадрукаваных матэматычных прац. Энгельс—„Дыалектыку прыроды“. Плеханаў, хоць і не займаўся спэцыяльна прыродазнаўствам, праяўляў, аднак, да яго посьпехаў вялікую ўвагу.

Ленін у сваёй кніжцы „Мат и Эмпир“ прысьвяціў найноўшай рэвалюцыі ў прыродазнаўстве цэлы разьдзел.

Гэта, зразумела, зусім не выпадкова.

Маркс і Энгельс—стварыцелі дыалектычна-матэрыялістычнага сьветапагляду. У сваёй навуцы яны выходзяць, паперш за ўсё, з наступных асноўных прадпасылак:

1. Сьвет ёсьць нішто іншае, як адзінства рознастайных формаў матэрыі, якая рухаецца.

2. Гэта матэрыя (або прырода) існуе об'ектыўна, незалежна ад нашай сьвядомасьці.

3. Розныя формы матэрыі, якая рухаецца, знаходзяць свой адбітак у мысьленьні. Значыцца, быцьцё вызначае сьвядомасьць. Nihil est in intellectu guod non fuerit in sensu. Значыцца, зьмест сьвядомасьці чэрпаецца з сьвету матэрыі.

4. Формы мысьленьня адбіваюць формы матэрыі, якая рухаецца.

5. Дыалектыка ёсьць навука пра агульныя формы руху матэрыі ў прыродзе, гісторыі і мысьленьні.

6. Асноўнымі законамі дыалектыкі зьяўляюцца наступныя:

а) пераход колькасьці ў якасьць і наадварот (прынцып якасна-колькаснага адзінства);

б) узаемнае пранікненьне супярэчнасьцяй (або закон палярызацыі);

в) закон адмаўленьня адмаўленьняў.

Такім чынам, асноўнай выходнай пасылкай філёзофскае навукі Маркса і Энгельса зьяўляецца навука пра матэрыю, як об'ектыўную рэальнасьць, розныя формы руху якой разьвіваюцца згодна законаў дыалек-

[1]) Дакладзена ў навуковым таварыстве пры БДУ 25-III 1926 г.

тыкі, прычым дыалектыка гэтая, у розьніцу ад Гегелеўскай, не навязана прыродзе і гісторыі, а зьяўляецца рэальным законам іх быцьця і тольکі таму зьяўляецца асноўным законам навуковага пазнаньня.

Усе элемэнты марксызму—яго філёзофія, соцыолёгія і экономічная навука моцна зьвязаны адно з адным у вадзіную лёгічнаю сістэму. Але філёзофская навука Маркса—матэрыялізм і дыалектыка—азначае сабою ўсе элемэнты Марксавае навукі. Грэблівыя адносіны к філёзофіі марксызму азначаюць таму падкоп фундаманту навукі Маркса і Энгэльса.

Зразумела таму і выключная цікавасьць пакладальнікаў асновы дыалектычнага матэрыялізму да прыродазнаўства. „Прырода,—кажа Энгэльс (у Анты-Дзюрынгу),—зьяўляецца пробным каменем для дыалектыкі, і мы павінны быць удзячны прыродазнаўству за тое, што яно дае для яе апрабаваньня матэрыял, які з кожным днём усё ўзрастае, і тым самым даводзіць, што ў прыродзе, у вапошнім падрахунку, усё зьдзяйсьняецца дыалектычна, а не мэтафізычна“.

Ці могуць посьпехі прыродазнаўства—розныя найноўшыя тэорыі будовы матэрыі—энэргэтычныя, электрычныя—прымусіць нас паставіць перад сабою пытаньне аб праве матэрыялізму, як філёзофскае навукі на існаваньне?—Ні ў якім выпадку.

Прыродазнаўства, на ўсіх этапах свайго рьзьвіцьця, мае справу з прыродай або матэрыяй, як об'ектыўнай рэальнасьцю, і кожнае новае вынайдзеньне ў галіне прыродазнаўства толькі пашырае межы пазнаньня матэрыі. Пытаньне-ж аб *ўласьцівасьцях* матэрыі ні каліва не адбіваецца на лёсе асноўнай выходнай пасылкі матэрыялізму—самага існаваньня матэрыі прынцыпу об'ектыўнай рэальнасьці фізычнага сьвету.

Ленін быў таму, зразумела, праўдзіў, калі ён пераконваў у канечнасьці строга адрозьніваць філёзофскае разуменьне матэрыі ад эмпірычнага, ня зьвязваць лёсу гносэолёгіі матэрыялізму з найноўшымі вынайдзеньнямі ў галіне будовы матэрыі. Ці адчувае патрэбу прыродазнаўства ў посьпехах філёзофіі? Ці ня ёсьць прыродазнаўства сама сабе філёзофія? На гэтае пытаньне дае вычарпальны адказ цяпер знойдзеная новая праца Ф. Энгэльса *„Дыалектыка прыроды“*. Гэта праца мае фрагмэнтарны характар. Магчыма, што ў асьвятленьні сучасных дасягненьняў фізыка-хэмічных навук, яна шмат у чым пастарэла. Энгельс, заўсёды заклікаючы ўсіх глядзець на гісторыю навукі, як на дыалектычны процэс, у якім няўпынна адбываецца процэс аднаўленьня, ня мог ня прадбачыць, што шмат якія з яго фактычных палажэньняў з галіны фізыка-хэмічных навук пастарэюць. Ён шчыра сам пра гэта пісаў: „Можа, урэшце, здарыцца тое, што процэс тэорытычнага прыродазнаўства зробіць большую частку маёй працы, або ўсю яе, зусім непатрэбнай. Бо рэволюцыя, да якой тэорытычнае прыродазнаўства прымушаецца простай канечнасьцю сыстэматызаваць масу чыста эмпірычных вынайдзеньняў, што зьбіраюцца,

прымусіць нават самага ўпартага эмпірыка прызнаць дыалектычны характар зьявішчаў прыроды".

Але калі, магчыма, фактычна матэрыял новай працы і пастарэў у шмат чым, дык усё-ткі ўся кніжка ў цэлым мае выключнае значэньне і для дыалектычнага матэрыялізму і для прыродазнаўства. Гэта кніга даводзіць, што дыалектычны матэрыялізм ёсьць вялізарны і складаны філёзофскі сьветапагляд, які спрабуе ў шматстайнасьці сусьвету знайсьці адзіны прынцып, які сынтэзуе ўсё. Імкненьне к абагуленьню, гармонічнаму сынтэзу ўсіх нашых вед а знадворным сьвеце, усё роўна як і імкненьне ўва ўсіх дзівосных шматстайных праяўленьнях прыроды, знайсьці адзіны пачатак, які ахоплівае ўсё, было вядома яшчэ і выдатным мысьліцелям старажытнасьці і вялікім мэханіцыстым XVII ст.—Дэкарту, Гобсу, Сьпінозе і францускім матэрыялістым XVIII ст.—Ля-Мэтры, Гольбаху, Гэльвэцыю, Дзідро.

Аднак, перашкодай для пабудовы свайго строга навуковага матэрыялістычнага сьветапагляду зьяўлялася слабае разьвіцьцё прыродазнаўства, з асобных галін якога былі ў гэты час асабліва разьвіты толькі мэханіка, матэматыка і астрономія. Мэханістычнае і матэматычнае мысьленьне наклала сваю пячатку на ўсе філёзофскія навукі XVII і XVIII ст. Адгэтуль і такое моцнае разьвіцьцё так званага соцыяльнага натуралізму або соцыяльнай фізыкі. Адгэтуль і захапленьне ўва ўсіх навуках мэтодай „more geometrorum", панаваньне матэматычнага спосабу выкладаньня і наможнае імкненьне ўсе зьявішчы грамадзкага жыцьця вытлумачыць з пункту погляду законаў мэханікі.

Прыродазнаўства і філёзофія XVII і XVIII ст. былі наскрозь мэтафізычны. „За прыродай,—кажа Энгельс,—адмаўлялі ўсякую зьмену, усякае разьвіцьцё". Думка пра абсолютную нязьменнасьць прыроды зьяўлялася перашкодай для пабудовы правільнага навуковага сьветапагляду. „Навука ўсё яшчэ глыбока сядзела ў тэолёгіі".

Філёзоф Кант сваёй „Усеагульнай гісторыяй прыродазнаўства і тэорыяй неба", сваім, як кажа Энгельс, геніяльным вынайдзеньнем прабіў шчыліну ў гэтым „акамянелым сьветапаглядзе".

Разьвіцьцё фізыкі і хэміі, геолёгіі, палеонтолёгіі і асабліва эволюцыйная навука Дарвіна праклалі мост к стварэньню навуковага сучаснага прыродазнаўства.

Сучаснае прыродазнаўства прасякнута бесьсьвядомым „стыхійным" матэрыялізмам.

Для таго, каб мінулы назьбіраны сучасным прыродазнаўствам эмпірычны матэрыял мог лёгчы ў аснову правільнага навуковага разуменьня прыроды, яму патрэбна сьвядомае кіраўніцтва з боку дыалектычнай мэтоды.

Адзін толькі эмпірызм, без тэорытычнага мэтодолёгічнага кіраўніцтва, ахвяроваи на ўбогае апісаньне—элемэнтарную, першастковую ступень навуковай працы.

„Адно эмпірычнае нагляданьне,—піша Энгельс,—ніколі ня можа давесьці выстарчаючым чынам канечнасьці. Post hoc, але ня propter hoc“.

Так званы „паўзучы эмпірызм“ прыводзіў выдатных вучоных да самых нечаканых вынікаў. Даўшы веры грубаму эмпірызму Уольлес і Крукс трапілі ў сетку самага абскуранцкага сьпірытызму, аб чым Энгельс грунтоўна піша ў артыкуле „Прыродазнаўства ў сьвеце духаў“.

Асноўнае палажэньне сучаснага прыродазнаўства аб непарушальнасьці руху запазычана ім у філёзофіі (у Дэкарта).

Сучасная навуковая тэорыя паходжаньня сонечнай сыстэмы была папярэджана навукай Гегеля пра дыялектычную сувязь працэсаў прыцягваньня і адштурхваньня.

Прыродазнаўства прымушана карыстацца паслугамі філёзофіі. Ці ня лепей яму, аднак, пытаецца Энгельс, замест таго, каб карыстацца паслугамі дрэннай мэтафізычнай і ідэялістычнай філёзофіі, якая прыводзіць яго то к сьпірытызму, то к віталізму, узброіцца філёзофіяй дыялектычнага матэрыялізму, якая дае ў яго рукі магутную мэтоду пазнаньня рэальных працэсаў, якія дзейнічаюць об‘ектыўна, і іх законаў у прыродзе.

Паміж сучасным навуковым прыродазнаўствам, якое стыхійна цягнецца к матэрыялізму, і сучаснай навуковай дыялектычна-матэрыялістычнай мэтодай павінна ўсталявацца цесная ўзаемная сувязь.

Калісь Вірхаў гаварыў пра тое, што кожны дасьледца прыроды паза сваёй уласнай спэцыяльнасьцю зьяўляецца таксама толькі напоўзнайкай, невукам.

Калі, справядліва дадае к гэтаму Энгельс, тэорэтыкі зьяўляюцца напоўзнайкамі ў галіне прыродазнаўства, дык такімі самымі напоўзнайкамі зьяўляюцца сучасныя дасьледцы прыроды ў галіне тэорыі, у галіне таго, што да гэтых часоў называлася філёзофіяй...

І іменна дыялектыка зьяўляецца для сучаснага прыродазнаўства самай правільнай формай мысьленьня, бо яна адна дае аналёгію і, значыцца, мэтоду вытлумачэньня працэсаў разьвіцьця, якія адбываюцца ў прыродзе, для ўсеагульных сувязяй прыроды для пераходаў ад аднэй галіны дасьледзін к другой.

Стыхійны матэрыялізм сучаснага прыродазнаўства недахватны. „Зварот прыродазнаўства к матэрыялізму,—кажа Ф. Энгельс,—можа *прарвацца стыхійна*, дзякуючы проста сіле самых прырода-навуковых вынайдзеньняў“... „Ён можа быць значна скарочан, калі дасьледцы прыроды, якія займаюцца тэорыяй, захочуць азнаёміцца грунтоўней з дыялектычнай філёзофіяй у яе гістарычна даных формах“.

Калісьці, у пэрыод недасканалага разьвіцьця прыродазнаўчых і соцыяльных навук, філёзофія была абвешчана за навуку навук, за царыцу навук, за навуку пра абагульненьні навук, якая стаіць над іншымі навукамі. Цяпер, калі энтолёгічныя і гносэолёгічныя проблемы філёзофіі могуць лічыцца канчаткова разьвязанымі Марксам і Энгельсам, філёзофія

матэрыялізму зьмяняецца ў навуку пра законы мысьленьня і пра дыялектыку.

Так іменна глядзелі заснавальнікі дыялектычнага матэрыялізму на задачы сучаснай філёзофіі.

У сваёй працы „Дыялектыка прыроды“ Энгельс, значыцца, перш за ўсё непарушна ўстанаўляе, што сучаснае прыродазнаўства, як, між іншым, і соцыяльныя навукі, ня можа плянавіта разьвівацца без сьвядомага, а ня стыхійнага прысваеньня дыялектычна-матэрыялістычнай мэтоды. Гэтым дадзен адказ і ўсім сучасным касавальнікам філёзофіі, якія сьцьвярджаюць, што „навука сама сабе філёзофія“.

Дыялектычны матэрыялізм, будучы навуковай філёзофіяй марксызму—зьяўляецца разам з тым незаменнай навуковай мэтодай для ўсіх навук.

II

Сіла дыялектычна-матэрыялістычнай мэтоды заключаецца ў тым, што яна формулюе агульныя законы, якія дзейнічаюць у прыродзе, гісторыі і мысьленьні.

Выключнае значэньне новай працы Энгельса і заключаецца ў тым, што яна вучыць нас умела карыстацца гэтай найценшай прыладай навуковага мысьленьня—дыялектыкай. Энгельс на шэрагу шмат якіх прыкладаў з галіны прыродазнаўства выяўляе дыялектычныя законы прыроды.

Асноўная, цэнтральная ідэя працы заключаецца ў вызначэньні *адзінства* ўсіх формаў сусьветнага процэсу, якое выяўляецца ў *агульнаабавязковых законах руху матэрыі*.

У гэтых адносінах выключнае значэньне грае закон захаваньня і зьмены энэргіі і матэрыі, які зазначае нестваральнасьць матэрыі і энэргіі, іх нязьнішчальнасьць, адзінства прыроды, адсутнасьць рэзкіх, непраходных, мэтафізычных граніц у ёй.

Дыялектыка выяўляе „ўсеагульныя сувязі“ прыроды, пераход ад разуменьня адзінкавага к разуменьню цэлага, к пранікненьню ўва ўсеагульную сувязь зьявішчаў“.

Асноўнай уласьцівасьцю матэрыі зьяўляецца рух. Пазнаньне розных формаў руху матэрыі—зьмена мэханічнага руху ў цяплыню, электрычнасьць, сьвет і г. д. і наадварот—і ёсьць пазнаньне матэрыі.

Рух матэрыі ўстанаўляе ўнівэрсальную сувязь зьявішчаў, дыялектычнае адзінства рознастайнасьцяй у прыродзе і ланцуг незамежных пераходаў. Мэтафізыка знаходзіла рэзкія непраходныя межы паміж асобнымі формамі матэрыі. Дыялектыка гэтыя непраходныя, адвечныя межы зьнішчае ў адзінстве ўсіх процэсаў, выяўляючы розьніцу і ў гэтых розьніцах устанаўляючы адзінства. Ідэя разьвіцьця руху—цэнтральны нэрв дыялектыкі.

Рух матэрыі, які разьвіваецца шляхам зьмены аднэй яе формы ў другую ланцугом незаметных пераходаў, вузловых пунктаў, скачкоў

зьвязвае ўсе зьвеньні адзінага ланцуга сусьветнай матэрыі. Канта-Ляпласаўская тэорыя пахаджэньня сонечнай сыстэмы нанесла зьнішчальны ўдар тэолёгічна-мэтафізычнаму пагляду на сьвет і зямлю, як на нешта, што раз назаўсёды створана, застыла і што не разьвіваецца. Спэктральны аналіз устанавіў хэмічную тоесамасьць сусьветнай матэрыі. Навуковая геолёгія ўстанавіла шэраг этапаў у гісторыі зямлі. Тэорыя мэханічнага эквіваленту цяплыні давяла зьмену мэханічнай сілы ў цяпло і наадварот. Гровэ давёў пераход усіх так званых фізычных сіл—мэханічнай цяплыні, сьвету, электрычнасьці, магнэтызму і хэмічнай—адна ў адну (сьцьвердзіўшы тым самым тэорыю філёзофіі Дэкарта пра тое, што колькасьць руху, якая ёсьць у сьвеце, нязьменна). З моманту штучнага ўтварэньня ў хэмічнай лябораторыі органічных злучэньняў, здавалася, запоўнілася непраходная шчыліна паміж неорганічнай і органічнай матэрыяй. Даныя параўнаўчай анатоміі, фізыолёгіі, эмбрыолёгіі і палеонтолёгіі зьнішчылі ўяўленьне пра нязьменную органічную прыроду. Зьніклі граніцы паміж асобнымі відамі расьлін і жывёл.

„І вось,—кажа Энгэльс,—мы зноў зьвярнуліся да концэпцый вялікіх асноўнікаў грэцкай філёзофіі пра тое, што ўся прырода, пачынаючы ад найдрабнейшых часьцін яе да аграмаднейшых цел, пачынаючы ад пясчынкі і канчаючы сонцам, пачынаючы ад протысту і канчаючы чалавекам, знаходзіцца ў вечным узьнікненьні і зьнішчэньні, у заўсёдным цячэньні, у няўтомным руху і зьмене“.

Дыалектычны закон пераходу колькасьці ў якасьць і разьвіцьця шляхам супярэчнасьцяй зацьвярджаецца Энгельсам шматлікімі прыкладамі з фізыкі, хэміі, матэматыкі, біолёгіі і гісторыі. З пункту пагляду дыалектыкі абсолютных розьніц няма. Здавалася-б, кажа Энгельс, рэзкая непраходная граніца адлучае *сьвет ад цемры*. Аднак і гэта памылкова. Так, існуюць цёмныя косы сьвету. Вялікая цемра і яскравы сьвет сьлепяць аднолькава. „У залежнасьці ад даўжыні ваганьняў, сонечныя косы праяўляюць розныя дзеяньні. Косы з самай большай даўжынёю хвалі пераносяць цяплыню, з сярэдняй—сьвет, з самай меншай—хэмічнае дзеяньне“.

Рух матэрыі шляхам супярэчнасьцяй—закон, канечны для электрычнасьці, магнэтызму і г. д.

Увесь сьвет—усе формы матэрыі знаходзяцца ў заўсёдным узаемадзеяньні, выходзячы з якога „мы прыходзім к рэальным каузальным адносінам“.

З пункту пагляду сучаснага прыродазнаўства няма прынцыповых, непраходных граніц унутры і ўсяго сьвету жывёл, уключаючы і чалавека. Жывая матэрыя ёсьць толькі асаблівая гістарычная ступень у разьвіцьці мёртвай матэрыі, якая раджае на пэўнай ступені, шляхам пераходу колькасьці ў якасьць, першастковую каморку. І мысьленьне ёсьць, зразумела, таксама нішто іншае, як уласьцівасьць організаванай асаблівым парадкам матэрыі.

Гэтак сама ценкая граніца, якая аддзяляе чалавека ад антропоморфных. І тут прынцыповых розьніц амаль што няма. Асноўны элемэнт псыхікі—рэфлекс мае месца і ў жывёл і ў чалавека: элемэнт мовы ёсьць і ў мурашак („мова вусікаў"), равуноў, папугаяў; „общение", „стаднасьць"—асабліва ў антропоморфных. Граніца тут умоўная. Яна і ёсьць і няма яе.

Асноўнае пытаньне тут, як і ў шмат іншых выпадках, у пануючым значэньні пэўных адзнак у іх пераважваючай ролі ў жыцьці пэўных жывёл. У жывёл, якія нават карыстаюцца прыладамі, на 99 проц. умовы барацьбы за існаваньне вызначаюцца натуральнымі органамі. Таму і Pithecanthropos Erestus і нават Homo Heidelbergentis яшчэ ня могуць быць названы людзьмі. Антропоморфныя нашы продкі толькі ў тым стопні робяцца людзьмі, паколькі ўсё больш і больш карыстаюцца, што выраб-ляюць, прыладамі, якія ўплываюць на іх фізычнае перараджэньне.

І тут таксама, значыцца, даўгі шлях павольных шматвяковых, колькасных напластаваньняў дае якасна новы жывёлінны від—Homo Sapiens.

І будучы супроцьлеглы па шэрагу адзнак іншым жывёлінным відам, чалавек гэнэтычна адзін з імі.

*І тут, значыцца, дзейнічае палажэньне дыялектыкі пра адзінства супроцьлегласьці.*

Такім парадкам, асноўнай уласьцівасьцю матэрыі зьяўляецца рух, і ланцуг шматстайных формаў яе дае нам малюнак сьвету.

Асноўнай формай руху зьяўляецца мэханічны рух.

Ці могуць, аднак, усе іншыя формы матэрыі, якія вывучае фізыка, хэмія, біолёгія і тым больш соцыолёгія,—ці могуць быць проста абмежаваны мэханікай?

Ці даволі наяўнасьці адных толькі мэханічных законаў, каб вытлумачыць усю сумеснасьць складаных формаў матэрыі, якая рухаецца?

Як мы ўжо вышэй адзначылі, прыродазнаўства і „соцыяльная фізыка" XVII і XVIII стагодзьдзяў давалі на гэтае пытаньне станоўчы адказ.

Адзінымі разьвітымі навукамі, на якіх грунтавалася прыродазнаўства, былі матэматыка і мэханіка. Матэматычна-мэханістычны сьветапагляд знашоў сваіх першых і выдатных выказьнікаў у Дэкарце, Гобсе, Сьпінозе і францускіх матэрыялістых XVIII стагодзьдзя.

Н. Н. Аляксееў („Науки общественные и естественные в историческом взаимоотношении их методов",—„Очерки по истории методологии общественных наук", ч. 1-я, стар. 5) наогул правільна зазначыў асноўную існасьць гэтага мэханіцызму, які выяўляецца ў тым, што тут „навуковае тлумачэньне мае справу ня проста з прычынамі, а з прычынамі *зьмерными*, якія выяўляюцца ў колькасных формулах".

Дэкарт ва ўсіх зьявішчах матэрыі бачыў адну толькі катэгорыю колькасьці. Таму ён лічыў, што ўнівэрсальная матэматычная мэтода вымагае адцягненьня ад усякай асаблівай матэрыі.

На пункце погляду чыста колькаснага аналізу зьявішчаў прыроды стаялі францускія матэрыялістыя XVIII ст.

Значэньне Гегеля, уся існасьць яго дыалектычнай мэтоды, знаходзіцца галоўным чынам у тым, што ён ня лічыў магчымым абмежавацца адным толькі колькасным вывучэньнем зьявішчаў. У сваёй „навуцы лёгікі“ Гегель рашуча ўпірае на важнасьць конкрэтна-якаснага вывучэньня рачаіснасьці. Асноўнае палажэньне Гегелеўскай дыялектыкі, і пра тое, штоісьціна заўсёды павінна быць конкрэтна, прымушае ў сьвеце адзінай матэрыі (адзінай колькасьці) знаходзіць і вывучаць яе якасныя асаблівасьці.

Зусім пэўна адзначаў недахватнасьць мэханічнага пункту погляду Л. Фэйербах.

У сваёй „Гісторыі новай філёзофіі“ ён пісаў: „Гэта бясспрэчна ўзвышаная і праўдзівая думка, што рух ёсьць прынцып прыроды“, але памылка Гобса і Дэкарта была ў тым, што „яны ўзвышалі на ступень усеагульнага пачатку толькі паасобны выпадак руху, іменна рух мэханічны, вызначаны ў матэматычных адзнаках“... „Якасьць, якая іменна ажыўляе прыроду і складае яеісьцінны фізычны бок, зводзіцца да яе матэматычнай концэпцыі, да нечага „превзойденного“, ідэальнага, зьяўляецца простай акцыдэнцыяй, чымсьці нярэальным.

Фрыдрых Энгэльс таксама рашуча пярэчыць супроць вузкага мэханіцызму.

Дасканальным ўпрасьціцельствам і вульгарызацыяй матэрыялізму было-б вывучаць сьвет толькі з боку яго мэханічных процэсаў—процэсаў прасторавага перамяшчэньня. Дыялектычны матэрыялізм разглядае адзінства супроцьлегласьцяй, але не адзінства тожсамасьцяй. Колькасны аналіз зьявішчаў сам па сабе бяз уліку якасна-конкрэтнай шматстайнасьці зьявішчаў матэрыі ўпрошчвае рэальную рачаіснасьць.

Прадстаўнікі мэханіцызму самы рух разумеюць надзвычайна ўпрошчана, выключна як мэханічны рух—перамяшчэньне. Тымчасам рух пры дастасаваньні да матэрыі—гэта зьмена наогул. Энгельс зазначае, што яраснае імкненьне зьвесьці ўсё к мэханічнаму руху сьцірае спэцыфічны характар іншых формаў руху. Вышэйшыя формы руху хоць заўсёды і зьвязаны з мэханічным рухам, але ён „ня вычэрпвае існасьці галоўнай формы ў кожным выпадку“. Хэмічнае дзеяньне немагчыма бяз зьмены тэмпэратуры і электрычнасьці, органічнае жыцьцё немагчыма без мэханічных, молекулярных, хэмічных і іншых зьмен, але ад гэтага іх *спэцыфічная прырода ня зьнішчаецца*. „Мы,—кажа Энгельс,—бяз сумненьня „зьвядзем“ калі-небудзь экспэрымэнтальным чынам мысьленьне да молекулярных і хэмічных рухаў у мазгох, але ці вычэрпваецца гэтым існасьць мысьленьня?“

Значыцца, аснаўное пытаньне, якое вымагае разьвязваньня—гэта „ці можна зьвесьці фізыку, хэмію, біолёгію, псыхолёгію, а тым больш соцыолёгію да простых законаў мэханікі“.

Пытаньне гэта ні ў якім разе ня трэба разумець у тым сэнсе, ці дзейнічаюць законы мэханікі ў паказаных галінах.

Супроць таго, што фізыка-хэмічныя законы захоўваюць усё сваё значэньне ў сьвеце неорганічным, органічным і псыхічным, пярэчаньняў ні з чыйго боку ў лягэры матэрыялістых няма.

Спробы зьвесьці зьявішчы фізыкі і хэміі да нейкіх незразумелых містычных сіл, усё роўна як і жаданьне некаторых біолёгаў, якія рэакцыйна мысьляць, уваскросіць жыцьцёвую сілу на столькі нясур'ёзны, што пра іх казаць ня прыходзіцца. Пытаньне зводзіцца, значыцца, да іншага— ці даволі адных законаў мэханікі для тлумачэньня, для законамернага высьвятленьня зьявішчаў фізыка-хэмічных, псыхічных і соцыолёгічных.

Мы зацьвярджаем, што імкненьне ўсе сфэры жыцьця тлумачыць выключна законамі мэханікі, нічога ў гэтым жыцьці ня тлумачыць, бо адзін толькі факт руху нічога не гаворыць нам пра зьмест або пра спэцыфічны характар гэтага руху. Прадстаўнікі мэханіцызму, падобна Ляплясу, шукаюць тую магічную матэматычную формулу, у пракруства ложка якой можна было-б укласьці ўсю якасную шматстайнасьць сьвету.

Нэомэханіцыстыя—тав. Сьцяпанаў і іншыя—з усёй катэгорычнасьцю заяўляюць, што мэханічнае прыродазнаўства гэта і ёсьць дыялектычны матэрыялізм.

Падобныя погляды ні ў якім разе прызнаць нельга. Папершае, таму, што дыялектычны матэрыялізм ня ёсьць „апошнія вынікі прыродазнаўства“, не зьяўляецца магічнай пасудзінай, у якой мэханічна сабраны ўсе выціскі з сучаснага прыродазнаўства. Падругое, таму, што дыялектычны матэрыялізм, як гносэолёгія і мэтода, ніколькі *не залежыць* ад тых ці іншых плыняў у пытаньні пра будову матэрыі і г. д. Патрэцяе, таму, што сучаснае прыродазнаўства нават стыхійна матэрыялістычнае патрабуе сьвядомага кіраўніцтва з боку дыялектычна-матэрыялістычнай мэтоды. У праціўным выпадку яно няўхільна будзе, падобна Уольлесу і Круксу, заставацца ў роўніцы матэфізычнага паўзучага эмпірызму. Чацьвертае, таму, што мэханістычнае прыродазнаўства звужае задачы, якія стаяць перад рознымі сфэрамі прыродазнаўства. Пятае, урэшце, таму, *што мэханічны сьветапагляд ёсьць нешта зусім іншае чымся дыялектычны матэрыялізм.*

### III

Дыялектычны матэрыялізм прызнае ўнівэрсальную непарарыўную сувязь усіх зьявішчаў сьвету і дзейнасьць для прыроды гісторыі і мысьленьня адных і тых самых законаў дыялектыкі.

Але ці паказвае *адзінства* сьвету тожсамасьць усіх процэсаў, што ў ім разьвіваюцца?

Нэомэханіцыстыя, як і іх папярэднікі, усе зьявішчы сьвету зводзяць выключна да мэханічнага руху тожсамых найдрабнейшых часьцінак—дадатных ядзер і адмоўных электронаў, зводзяць тым самым якасную шматстайнасьць матэрыі выключна да колькасьці.

Ці ёсьць, аднак, рух матэрыі выключна аднабаковы колькасны працэс?

Мы зацьвярджаем супроцьлеглае: дыялектычны матэрыялізм ня ігнаруе вузловых момантаў у разьвіцьці матэрыі, знаходзячы перарыўнасьць у неперарыўным руху. Няма абстрактных колькасьцяй, усё роўна як і якасьцяй. Сутнасьць рэчы або матэрыі, якія прадстаўляюць яе, колькасна-якаснае адзінства. Такім чынам, у кожнай колькасьці ўжо няўхільна ёсьць і нейкая якасьць, усё роўна як і наадварот—у якой хочаш якасьці ёсьць нейкая яго колькасьць. Нельга, значыцца, зводзіць якасьць выключна да колькасьці. У руху матэрыі мы наглядаем складаны шматбаковы працэс—зьмены і ігнараваньне якаснай шматстайнасьці матэрыі забіваюць асноўны жыцьцёвы нэрв дыялектычнага матэрыялізму—вывучэньне конкрэтнай рачаіснасьці.

Шмат якія буржуазныя філёзофы і соцыолёгі, нападаючы на мэханістычнае тлумачэньне гістарычнага працэсу, маюць на ўвазе толькі адно— дэтэрмінізм і законамернасьць. Паводле, напрыклад, „L. Steina“ у прыродзе пануе бязумоўная мэханічная законамернасьць. У грамадзкім-жа жыцьці—іманэнтная тэлеолёгія. Таму ў прыродзе мы наглядаем адвечныя і бязумоўныя законы, у грамадзкім-жа жыцьці—адны толькі „рытмы“... Падобныя абвяржэньні „мэханіцызму“, зразумела, мы прыняць ня можам. Каузальнасьць мэханічная мае месца ня толькі ў неорганічным і органічным сьвеце, але і ў соцыяльным. *Прырода, характар гэтай каузальнасьці*, усё роўна як і законаў, якія дзейнічаюць ува ўсіх межах універсуму, адна. І тут і там толькі пры наяўнасьці пэўных умоў мы наглядаем пэўныя вынікі. Ці вынікае, аднак, з гэтага, што *зьмест* законаў, якія дзейнічаюць у сьвеце неорганічным, псыхічным і соцыолёгічным, тожсамы? Ці вынікае з гэтага, што ў кожнай з гэтых формаў матэрыяльнага сьвету няма сваіх асаблівых спэцыфічных законаў?

Ці можа дыялектычны матэрыялізм абмежавацца адным толькі пераносам фізыка-хэмічных законаў або законаў тэрмодынамікі на галіны органічнага, псыхічнага і соцыяльнага жыцьця?

Ці ня зьменяцца тады ўсе, што існуюць, навукі ў аддзелы ўнівэрсальнай мэханікі?

Ці ня будуць зьнішчаны гэтым спэцыфічныя об'екты навук або нават спэцыфічныя мэтоды разгляду адзінага об'екту, або-ж—што тое самае—ці не закасуюцца мэханічным (або мэханістычным) сьветапаглядам усе навукі?

Нэомэханіцыстыя на чале з тав. Сьцяпанавым у вабарону сваіх замераў замяніць дыялектычны матэрыялізм мэханістычным прабавалі паказаць на аўторытэт Энгельса. Апошняя праца Энгельса прымусіла іх, аднак, паставіць пад сумненьне аўторытэт самога Энгельса. Тав. Сьцяпанаў цяпер яшчэ спробуе давесьці, што калі-б Энгельс быў сучаснікам цяперашняга прыродазнаўства, дык ён, бязумоўна, не нападаў-бы на мэ-

ханістычнае сьветаразуменьне. Гэта, аднак, гаданьне на кофэйнай гушчы. Ці ня лепш зьвярнуцца да самой першакрыніцы—да самога Энгельса і ў яго самога, ні ў якім разе ня ўжываючы сьпірытызму, запытацца—якія-ж адносіны пакладальніка дыялектычнага матэрыялізму да мэханістычнага сьветаразуменьня.

У „Людвігу Фэйербаху“ Энгельс, крытыкуючы францускі мэханічны матэрыялізм пісаў: „Выключнае ўжываньне меркі, якая запазычана з мэханікі, да хэмічных і органічных зьявішчаў, г. зн. да такіх зьявішчаў, у галіне якіх мэханічныя законы, хоць і прадоўжваюць, зразумела, дзейнічаць, але адыходзяць на задні плян перад іншымі, вышэйшымі законамі—складаюць першую спэцыфічную няўхільную тады рысу абмежаванасьці клясычнага францускага матэрыялізму“. Мэтафізычнасьць францускіх матэрыялістых складалася значыцца, перш за ўсё, з адсутнасьці ў іх гістарычнага пагляду на прыроду і грамадзтва, з ігнараваньня конкрэтнаякаснай асаблівасьці зьявішчаў прыроды і грамадзтва.

Мы ўжо вышэй адзначалі, што і ў новай працы „Дыялектыка прыроды“ Энгельс таксама нападае на „яраснае імкненьне зьвесьці ўсё да мэханічнага руху“, што „сьцірае спэцыфічны характар іншых формаў руху“. Падамо з гэтае працы яшчэ шэраг вынятак. Усе яны цалком даводзяць, што Ф. Энгельс бачыў надзвычайную абмежаванасьць, вузкасьць і ўпрошчаньне шматстайнасьці зьявішчаў прыроды ў мэханіцызьме: „Колькасныя зьмены асобных формаў руху адна ў другую яшчэ нічога не гавораць пра якасную прыроду гэтых асобных формаў руху, „калі мы ведаем, у якую колькасьць мэханічнага руху зьмяняецца пэўная маса цеплавога руху“, дык мы яшчэ нічога ня ведаем аб прыродзе цяплыні, якбы ні патрэбна было вывучэньне гэтых зьмен для дасьледзін гэтае прыроды цяплыні“... „Прыродазнаўства ў апошнія часы давяло ў падрабязнасьцях той факт, штоісьцінная конкрэтная тожсамасьць гадзіцца толькі для хатняга ўжываньня, дзе разглядаюцца нязначныя адносіны, або кароткія прамежкі часу. Але для сынтэтычнага прыродазнаўства абстрактная тожсамасьць зусім недахватна“... „Мэханізм у дастасаваньні да жыцьця—бясьсільная катэгорыя; мы можам, у лепшым выпадку, гаварыць пра хэмізм, калі не жадаем расстацца канчаткова з сэнсам слоў“...

Пра мэханічнае прыродазнаўства Ф. Энгельс кажа: „Мэханіка, як навука пра масы, зьяўляецца асновай хэміі (як навукі пра атомы) і фізыкі (як навукі пра молекулы). Аднак, „бязумоўнае зьвядзеньне нават хэмічных процэсаў к чыста мэханічным, звужае непатрэбным чынам поле хэміі“.

Гэта тэндэнцыя зрабілася так моцнай, што Гэккэль проста лічыць тожсамымі словы „мэханічны“ і „моністычны“, зацьвярджаючы, што сучасная фізыолёгія дае ў сваёй галіне месца толькі мэханічным сілам. „Называючы фізыку мэханікай молекул, хэмію—фізыкай атомаў, далей—біолёгію—хэміяй бялкоў, я хачу выразіць гэтым пераход аднэй з гэтых

навук у другую і, значыцца, сувязь, неперарыўнасьць, а таксама розьніцу, разрыў між абедзьвюма галінамі.Ісьці-ж далей гэтага, называць хэмію свайго роду мэханікай, на мой погляд, нерацыянальна. Мэханіка—у больш шырокім або вузкім сэнсе слова—ведае толькі колькасьці, яна опэруе скорасьцямі і масамі і, у лепшым выпадку, аб'ёмамі. Там, дзе на дарозе ў яе стаіць якасьць, як, напрыклад, у гідростатыцы і аэростатыцы,—яна ня можа прысьці да здавальняючых вынікаў"... „Але ў фізыцы, а яшчэ больш у хэміі, ня толькі адбываецца заўсёдная якасная зьмена ў выніку колькаснай зьмены, ня толькі наглядаецца пераход колькасьці ў якасьць, але прыходзіцца таксама разглядаць мноства зьмен якасьці, адносна каторых зусім не давседзена, што яны выключаны колькаснымі зьменамі". Колькасным аналізам нельга вычарпаць фізыку і хэмію. „Мэханічны рух зусім ня вычэрпвае руху наагул. Рух зусім ня ёсьць простае перамяшчэньне, простая зьмена месца, у надмэханічных галінах ён зьяўляецца таксама і зьменай якасьці. Мысьленьне ёсьць таксама рух". З таго, што цяплыня ўяўляе з сябе молекулярны рух, яшчэ няма аналізу цяплыні. „Мэханічная концэпцыя зводзіцца іменна да гэтага і яна тлумачыць розныя зьмены з зьмен месца, усе якасныя розьніцы з колькасных і не заўважвае, што адносіны між якасьцю і колькасьцю ўзаемны, што якасьць таксама пераходзіць у колькасьць, як колькасьць у якасьць, што тут ёсьць узаемадзеяньне. Калі мы павінны зводзіць усе розьніцы і зьмены якасьці да колькасных розьніц і зьмен да мэханічных перамяшчэньняў, дык мы з канечнасьцю прыходзім к таму палажэньню, што ўся матэрыя складаецца з *тожсамых* найдрабнейшых часьцін і што ўсе якасныя розьніцы хэмічных элемэнтаў матэрыі выклікаюцца колькаснымі розьніцамі ў ліку і прасторавай групоўцы найдрабнейшых частак пры іх аб'яднаньні ў атомы. Але да гэтага нам яшчэ далёка". Паводле Энгельса толькі незнаёмства сучасных дасьледцаў прыроды з іншай філёзофіяй, апрача „самай ордынарнай, вульгарнай філёзофіі", якая красуе ў нямецкіх унівэрсытэтах, дазваляе ім опэраваць выразам „мэханічны", зусім не даючы сабе ў ім справаздачы.—Энгельс рэзка нападае на ідэю „якаснай тожсамасьці матэрыі".

Гегель хацеў зьнізіць матэрыялізм, надаючы яму тожсамасьць з „мэханічным", але „францускі матэрыялізм XVIII сталецьця быў сапраўды мэханічным", бо фізыка, хэмія і біолёгія былі тады яшчэ ў зусім пачатковым стане.

„Матэрыя, як такая, гэта—чыстае стварэньне думкі і абстракцыя. Таму матэрыя ў розьніцу ад пэўных матэрый, што існуюць, не зьяўляецца чымсьці існуючым". Нападаючы на мэханічнае, выключна колькаснае тлумачэньне матэрыі, Энгельс піша пра тое, што імкненьне прыродазнаўства адшукаць матэрыю, як такую, зводзячы ўсе якасныя розьніцы выключна да колькасных розьніц складу тожсамых найдрабнейшых частак, аналёгічна шуканьням замест ігруш, яблык, вішань—плоду, як такога.

„Як давёў ужо Гегель, гэты пагляд, гэты „аднабаковы матэматычны пункт пагляду“, згодна з якім матэрыю можна лічыць толькі колькасным чынам, а якасна матэрыя спрадвеку аднолькава, зьяўляецца „іменна пунктам пагляду французскага матэрыялізму XVIII сталецьця. Ён зьяўляецца нават зваротам да Пітагора, каторы ўжо разглядаў лік, колькасную азначнасьць, як існасьць рэчаў“.

Такім чынам, пасьля ўсіх паданых вынятак пункт пагляду Ф. Энгельса можна лічыць у выстарчаючым стопні высьветленым. Ф. Энгельс *мэханічнае сьветаразуменьне адхіляў*: мэханічнае сьветаразуменьне або, больш правільна, нэомэханічнае ёсьць зварот назад, зразумелы рух у гісторыі матэрыялістычнай думкі—адраджэньне іонічнай прымітыўна-матэрыялістычнай натур-філёзофіі. Да беспасрэдных папярэднікаў сучасных нэомэханіцыстых—Фогта, К. Бюхэра, Малешота—Маркс, Энгельс, Ленін і Пляханаў адносіліся самым адмоўным чынам.

## IV

Нашы нэомэханіцыстыя, аднак, не абмяжоўваюць сябе сфэрай аднаго толькі прыродазнаўства. Не! Тав. Сьцяпанаў у законе захаваньня энэргіі і зьмены яе формаў з адных у другія знаходзіць унівэрсальны ключ, якім можна адмыкаць дзьверы ўсіх навук. Ён сьцьвярджае, што і псыхічнае і соцыяльнае жыцьцё „цалком“ тлумачацца гэтым унівэрсальным законам.

Такім чынам, і псыхолёгія і соцыолёгія таксама абвяшчаюцца нічым іншым, як аддзеламі тэрмодынамікі. Нажаль!

У Навіне тваёй
Старына чуецца!

І да таго-ж старадаўная і даўно выжытая старына!

Шмат што ў словах сучасных нэомэханіцыстых прымушае ўспомніць і энэргетычную натурфілёзофію Оствальда і эмпірыомонізм Багданава, рэакцыйнасьць каторага так рашуча выкрыў У. І. Ленін.

Але мы пераканаемся хутка, якую няплодную смакоўніцу нарадзіла так званая мэханічная соцыолёгія.

Мэханічная соцыолёгія нарадзілася ў XVII і XVIII стал. Яшчэ Галілей раіў Гобсу пабудаваць этыку матэматычнай мэтодай і політыку more phisico et geometrico. Пра імкненьні Дэкарта прадставіць чалавека як машыну і зьвесьці ўсё яго жыцьцё да матэматычна-мэханістычных законаў мы ўжо казалі. Яшчэ больш рашучы быў Гобс. Ён заклікаў „вывучыць аснову дзеяньняў чалавека з тэй-жа дакладнасьцю, з якой пазнаюцца асновы велічыні ў фігурах“.

Органічна-дагаворная тэорыя грамадзтва і дзяржавы Гобса ёсьць таксама нішто іншае, як іх мэханістычнае разуменьне.

Згодна думкі Гобса, асноўная задача філёзофіі—зьвесьці ўсе зьявішчы да асноўных і ўнівэрсальных законаў руху. Падобна таму, як мэханістычнае прыродазнаўства, раскладаючы ўвесь сьвет на прасьцейшыя эле-

мэнты, нічога апрача іх ня бачыць, так і мэханістычны погляд на грамадзтва (Гобса і іншых) раскладае і соцыяльны сьвет на асобы, атомы. Таму Гобс ня ведае гістарычнага погляду на грамадзтва. Праўда Ноўгародцава („Кризис современного правосознания", стр. 261), зразумела, была, калі той кажа, што для Гобса грамадзтва ёсьць „злучэньне аднолькавых атомаў, якія знаходзяць у сваім зьяднаньні толькі тое, што мае кожны з іх паасобку і што ў грамадзкіх абставінах паўтараецца ня якасна—павышаным, але колькасна—памноженым". Грамадзтва, такім чынам, прадстаўляецца, як мэханічная колькасная сума элемэнтаў. „Соцыяльны натуралізм"—мэханіцызм Гобса быў зусім бясьсільны ў аналізе соцыяльных зьявішчаў. Соцыяльныя зьявішчы—ёсьць зьявішчы sui generis. Іх вывучыць і зразумець можна ня шляхам пустых аналёгій, што ня маюць зьместу з мэханізмам і організмам, але толькі шляхам вывучэньня тых спэцыфічных асаблівасьцяй, якія вылучаюць пэўнае кола зьявішчаў у зьявішчы соцыяльныя.

Comparaison n' est pas raison! У гісторыі соцыолёгічнай думкі мы ведаем шмат няплодных спроб угрунтаваць соцыолёгію шляхам аналёгій. Органічны кірунак Шэфле, Ліліенфэльда, Вормса і інш. прывёў толькі да дзівосных параўнаньняў чалавечых нэрваў з чыгуначнымі шляхамі, сэрца—з мэханізмам часоў і г. д.

Спэнсэр і Конт пашлі далей: шляхам аналёгіі розных кляс грамадзтва з рознымі пластамі скуры—экзодэрмай, эндодэрмай і мэзодэрмай—яны спрабавалі ўгрунтаваць непарушнасьць клясавай будовы сучаснага грамадзтва.

Гэтак сама моцна было жаданьне мэханістычна прыкласьці да аналізу грамадзкіх зьявішчаў Дарвінаў закон барацьбы за існаваньне.

Выходзячы з гэтага закону, Спэнсэр і яго пасьлядоўцы даводзілі шкоду розных спроб дапамагчы прыгнечаным, слабым, прыдушаным клясам грамадзтва.

Такія самыя няплодныя спробы тлумачэньня грамадзкіх зьявішчаў за дапамогай прыроднага падбору рабіў і Багданаў.

Разам падамо даведку пра тое, як глядзеў на спробы тлумачэньня грамадзкага жыцьця законамі Дарвіна Ф. Энгельс.

Фрыдрых Энгельс адзначае, што сучасныя прыхільнікі Дарвінавага закону барацьбы за існаваньне калісь абаранялі ідэю „гармонічнага супрацоўніцтва ў органічнай прыродзе". Аднак, выключнае палажэньне пра барацьбу, як і пра супрацоўніцтва, аднабакова. „Але зусім дзяцінства падводзіць усю шматстайнасьць гістарычнага разьвіцьця і ўскладненьні жыцьця пад аднабаковую худую формулу барацьбы за існаваньне—гэта значыць нічога не сказаць, або і таго меней. Навука Дарвіна—адбітак навукі Гобса і буржуазнае экономічнае навукі пра конкурэнцыю—яна ня можа быць „вечным законам грамадзкага жыцьця". Розьніца вось у чым: „жывёла ў лепшым выпадку даходзіць да зьбіраньня сродкаў існаваньня

чалавек-жа вытварае іх, ён здабывае такія сродкі існаваньня (у самым шырокім сэнсе слова), якіх прырода без яго ня вытварыла-б. Гэта робіць адразу недапусьцімым усякае перанясеньне без адпаведных абмаўленьняў законаў жыцьця жывёлінных грамад на чалавечае грамадзтва. „Тут пры грамадзкім вырабе сродкаў разьвіцьця зусім нельга ўжо ўжываць катэгорыі з сьвету жывёлін. Ужо разуменьне гісторыі, як шэрагу клясавых боек, куды больш зьмесна і глыбей, чым простае зьвядзеньне яе да фаз барацьбы за існаваньне, якія слаба адрозьніваюцца адна ад другое".

Мы ведаем у сучаснай соцыолёгіі цэлую мэханістычную школу, каторая выходзіць у большасьці выпадкаў з закону захаваньня энэргіі, прыходзячы да зусім недарэчных, няплодных і часта вельмі рэакцыйных вынікаў.

Эволюцыйная тэорыя *Спэнсэра* трымаецца на абагуленьні і ўжываньні фізычных прынцыпаў захаваньня матэрыі і энэргіі, рытмаў руху або роўнавагі, інтэграцыі матэрыі і дыфэрэнцыяцыі формы. Гіддынгс справядліва называе філёзофію *Спэнсэра фізычнай соцыяльнай філёзофіяй.*

Неорганічнае жыцьцё пераходзіць у органічнае, апошняе-ж—у надорганічнае. Фактарам соцыяльных зьявішчаў трэба лічыць унутраныя і знадворныя абставіны. Знадворныя—гэта клімат, глеба, флёра і фауна, унутраныя—гэта фізычныя асаблівасьці, пачуцьці і інтэлект. Грамадзтва Спэнсэр падзяляе на простае, складанае і ўдубальт складанае. Усеагульныя фізычныя законы захоўваюць сваю сілу ў біолёгіі, усё роўна як і ў соцыолёгіі. Таму соцыолёгічныя фэномэны павінны быць зьведзены да біолёгічных, апошнія-ж разьведзены ў чыста фізычных законах. Таму Дарвінаў закон барацьбы за існаваньне Спэнсэр вітаў, хоць і ня быў ім зусім здаволены, бо ў 1859 годзе ён яшчэ ня мог знайсьці моста ад біолёгіі Дарвіна да фізыкі свае эволюцыйнае навукі. Але ў 1864 годзе Спэнсэр знашоў мост між біолёгіяй і фізыкай у *законе роўналежнабочніка сіл*,—у навуцы Клаўзыуса, паводле якога энтрэпія або распыленьне сусьветнай энэргіі імкнецца да максымуму—што павінна, відочна, надысьці тады, калі ўстановіцца скрозь роўнамерная тэмпэратура.

Так стварылася Спэнсэрава унівэрсальная *навука пра роўнавагу.* Усе зьмены ў прыродзе, вучыць Спэнсэр, імкнуцца да роўнавагі. Па шляху да абсолютнае роўнавагі, г.-зн. да спакою, адбываецца ў шмат выпадках процэс адноснай або лябільнай роўнавагі. Кожны організм уяўляе з сябе прыклад падобнай адноснай роўнавагі, спыненьне якой азначае сьмерць. Кожнае пакаленьне ведае індывідаў з меншымі ваганьнямі роўнавагі і таму яны захоўваюцца лепшымі; яны пераважываюць іншых індывідаў, сыстэма роўнавагі якіх фунцыянуе менш спрыяюча. Яны, кажучы мовай Дарвіна, і зьяўляюцца найбольш дастасаванымі.

Такім чынам, пераважываньне і вытварэньне найбольш дастасаваных ёсьць нішто іншае, як чыста *фізычны процэс*, беспасрэдны вынік усеагульнага распыленьня матэрыі і руху.

Так Спэнсэр соцыолёгічныя фэномэны робіць падлеглымі агульным біолёгічным, апошнія-ж—законам фізыкі.

Выходзячы з сваёй мэханістычнай концэпцыі, Спэнсэр прыходзіць:

1) Да моністычнага агностыцызму і прымірэньня навукі з рэлігіяй.

2) Да сьцьвярджэньня, што тэорыя прыроднага падбору, адбіваючы агульна-сусьветны унівэрсальны закон імкненьня да роўнавагі, вымагае абыякіх адносін да прыгнечаных, соцыяльна слабых і г. д.

3) Да зацьвярджэньня, што клясавая барацьба—канечны сродак для ўсталяваньня ў грамадзтве тэй соцыяльнай гармоніі (або ўмацаваньня соцыяльна больш моцных кляс), якая ёсьць нішто іншае, як паасобны выпадак агульна-сусьветнага закону роўнавагі.

Так клясавая барацьба атрымоўвае благаславеньне ад самых спрадвечных законаў космосу.

4) Адгэтуль зусім зразумелы варожыя адносіны Спэнсэра да соцыялістычнае навукі, якая разьбівае яго навуку пра соцыяльную, а значыцца, і сусьветную гармонію, на дробныя часткі.

Ангельскі вучоны *Фіске* таксама разьвівае навуку пра ўжываньне эволюцыйных законаў сьвету да соцыяльных зьявішчаў.

*Місмэр* (францускі вучоны) шукае падстаў соцыолёгіі ў прыродазнаўчых законах. Соцыяльныя зьявішчы ён грунтуе на агульным *законе цяжэньня*. Адгэтуль узьнікаюць соцыяльныя законы: 1) закон згоднасьці, 2) прогрэсу, удасканаленьня.

Першы закон ёсьць нішто іншае, як выяўленьне закону прыцягваньня молекул. Разам з тым з законаў цяжэньня і згоднасьці ён робіць вынік пра канечнасьць і непарушнасьць кляс і арыстократыі.

Бэльгійскі вучоны *Баксвэнлер* даводзіць, што соцыяльнае жыцьцё—вынік заўсёдных узаемаадносін між індывідам і сьветам, што яго абкружае. Соцыолёгія ёсьць фізыолёгія процэсаў рэакцый на знадворны сьвет.

Ангельскі вучоны *Карэй* зацьвярджае, што законы соцыяльнага жыцьця грунтуюцца на формуле—*чалавек—молекулярная адзінка грамадзтва і як такі ўяўляе з сябе об'ект соцыяльных навук*. Канечная ўмова існаваньня чалавека—*закон молекулярнага цяжэньня*. Чалавецтва ўтварае агульны організм,—фізыолёгічныя законы дзейсны і для грамадзтва. Так, фізыолёгічны падзел функцый людзей на органы, якія цыркулююць і рэгулююць дастасоўна і да грамадзтва: урад—гэта соцыяльны розум, прылада дыханьня—рабочыя, коордынаваная нэрвовая сыстэма—улада закілзаньня.

Францускі вучоны *Вінярскі* спрабаваў даць сыстэму соцыяльнай мэханікі. Ён разглядаў кожны огрэгат, як сыстэму частак, якія знаходзяцца ў заўсёдным руху і якія прыцягваюцца і адштурхваюцца.

*Энэргэтыка* павінна легчы ў аснову ўсіх навук. Аснова новай філёзофіі—*закон захаваньня матэрыі і энэргіі*: біолёгічныя зьявішчы зводзяцца

да мэханічных. Усе інтэлектуальныя, гаспадарчыя, палітычныя, грамадзкія, моральныя, рэлігійныя і інш. зьявішчы грунтуюцца на фізыолёгічнай аснове жыцьця (голадзе й каханьні) і зьяўляюцца толькі барацьбой нашых організмаў супроць іншых. Мэханічная энэргія зьмяняецца ў біолёгічную й соцыолёгічную. Соцыяльная энэргія падлегла косьмічным законам, г. зн. тэрмодынамічнай энэргіі. Соцыяльная маса энэргіі безнабыцьця і страты масы зьмяняецца ў псыхічную.

Раз усе формы косьмічнай энэргіі грунтуюцца на цяплыні, дык і ўсе формы біолёгічнай энэргіі грунтуюцца на законах экономіі энэргіі. Але раз і ў тэрмодынаміцы пры роўнамерным разьмеркаваньні тэмпэратуры немагчыма ніякая пленавітая праца, дык і ў грамадзтве поўная роўнасьць кляс азначае зьнішчэньне працы. Сродкамі для вывучэньня дзеяньня соцыяльнай энэргіі зьяўляецца—статыстыка, адзінкай вывучэньня соцыяльнай энэргіі, іх эквівалентам зьяўляюцца—грошы. Біолёгічная энэргія—цэнтральны мотор соцыяльных зьявішчаў, які абумоўлівае палітычныя, юрыдычныя, моральныя процэсы і канчаецца яна ў экономічнай энэргіі, якую мераюць грашыма. Соцыяльнае разьвіцьцё ёсьць паасобнае праяўленьне імкненьня матэрыі да роўнавагі.

*Марынас,* падзяляючы мэханічны пункт погляду на соцыяльныя зьявішчы і разглядаючы іх як вынік адзінага закону, які кіруе рухам матэрыі, устанаўляе, што проблема соцыолёгіі ня можа быць адлучана ад мэханікі. Адзінства соцыяльнага сьвету адбівае адзінства космосу—прычынная канечнасьць у соцыяльным сьвеце—мэханічнай прыроды і таму вольная рознага адвольства. Мэханічныя законы таму зьяўляюцца законамі соцыяльнымі. Дзякуючы адзінству прыроды, між рознымі навукамі няма прынцыповай розьніцы, і затым мэханіка зьяўляецца ўнівэрсальнай навукай, што яна грунтуецца на ўсеагульнай рачаіснасьці. Адзіным і першым прынцыпам мэханікі зьяўляецца рух матэрыі. Розныя ваганьні ў злучэньнях матэрыі ўтвараюць шматстайнасьць сьвету—экономічныя, фізыолёгічныя, хэмічныя, фізычныя, біолёгічныя, псыхічныя і соцыяльныя процэсы. Грамадзтва разьвіваецца адпаведна законаў энэргіі сьвету, але каб гэта занатаваць, няма дакладных матэматычных мэтодаў. З прычыны фундамантальнай тожсамасьці прыроды і навукі ня можа быць абсолютнай розьніцы, а толькі спэцыфічная паміж біолёгічнымі і соцыолёгічнымі фэномэнамі. Затым, што сьвет соцыяльны зьвязан з біолёгіяй, і грамады жывёл ня могуць быць ухілены з сфэры соцыолёгіі. Клясыфікацыя грамад: 1) аснаваныя на кармленьні і 2) на „воспроизводстве“. Соцыяльны сьвет, апошняя частка косьмічнага цэлага, соцыяльныя фэномэны—гэта толькі ўзаемадзеяньні псыхічных структур індывідаў. І ў нас у Расіі ў 1889 г. зьявіўся свой родны мэханіцысты ў палітычнай экономіцы Н. Бацюшкаў, які ў кнізе „Связь Экономических явлений с законами энергии“, выходзячы з прынцыпаў мэханікі, адвяргае экономічную навуку

К. Маркса, глыбокамысьлена даводзячы, што трэба „глядзець на працу чалавека з пункту погляду прыцёку энэргіі косаў сонца".

Такім чынам, мы бачым да якіх няплодных, часта вельмі рэакцыйных вынікаў прыводзіць мэханіцызм у соцыолёгіі.

*Абагульняючы, зазначым наступнае.*

Тав. Сьцяпанаў у сваёй „Электрофикации РСФСР" спрабаваў даць энэргэтычнае тлумачэньне тэхнічным процэсам, лічачы, што тым самым ён даў абаснаваньне ўсяму грамадзкаму жыцьцю. Закон захаваньня энэргіі ніколі ня можа дапамагчы нам уразумець законы грамадзкага жыцьця. Наўрад ці можна хоць-бы закон клясавае барацьбы растлумачыць, выходзячы з унівэрсальнага закону тав. Сьцяпанава. Законы захаваньня энэргіі тлумачаць нам толькі процэсы, якія маюць месца ў тэхніцы, але ні ў якім разе не ў гаспадарцы. Таксама ня зьнішчаецца і псыхіка ў яе індывідуальнай асабістасьці, простым зьвядзеньнем яе да фізыка-хэмічных процэсаў. Адзінства ўсіх формаў сусьветнага процэсу выражаецца толькі ў адным—у вагульна-абавязковых законах руху матэрыі або ў агульна-абавязковых законах дыалектыкі. (Але зьмест гэтых законаў будзе іншы ў розных сфэрах матэрыяльнага сьвету—неорганічнага, органічнага, псыхічнага і соцыяльнага).

Агульны процэс руху матэрыі зусім ня сьцірае, не зьнішчажае якасных меж паміж рознымі формамі руху матэрыі.

Мэханічнае сьветаразуменьне ўпрашчае матэрыялістычнае сьветаразуменьне, робячы яго з конкрэтнага матэматычна-адцягненым. У сьвеце адцягненага мэтафізычнага Пітагорыйскага ліку няма месца для закону супярэчнасьцяй, няма месца для дыалектыкі.

Ня могуць тым больш законы мэханікі праглыгнуць псыхолёгію і соцыолёгію. Машына з мэханічнага пункту погляду ёсьць нішто іншае, як сыстэма мёртвых рухаючыхся падважнікаў. Машына, як экономічная катэгорыя, ёсьць элемэнт вытворчых сіл.

Рабочы, як організм,—об'ект біолёгіі. Рабочы, як элемэнт вытворчых сіл,—катэгорыя соцыяльная, і ніякія фізыка-хэмічныя законы ня могуць растлумачыць нам грамадзкага жыцьця.

## V

Рэсэрфорд у сваім выдатным артыкуле пра „Электрычную прыроду матэрыі" гаворыць пра тое, што наша эпоха ёсьць эпоха „рэнэсансу ў фізыцы". „Атом зьяўляецца найбольш асноўнай для нас сыстэмай. Яго ўласьцівасьці, наогул кажучы, павінны растлумачыць уласьцівасьці ўсіх больш складаных сыстэм...

Электрычнасьць мае—атомную будову.

І атом мае—электрычную будову.

Рэсэрфорд прыходзіць наогул да зусім матэрыялістычных вынікаў. „Згодныя вынікі, якія былі атрыманы за дапамогай надзвычайна рознастайных фізычных мэтодаў, далі вялікую пераконанасьць у правільнасьці атомістычнага ўяўленьня аб матэрыі. Мэтода, якая зьявілася найбольш

дакладнай, грунтуецца на канчатковым даказе атомістычнай прыроды электрычнасьці і на дакладным азначэньні асноўнай адзінкі набою“.

Такім чынам, выдатны фізык, відавочна, у найноўшых тэорыях электрычнасьці бачыць толькі зацьвярджэньне навукі пра матэрыю. Бясспрэчна, гэты вынік заслугоўвае большай увагі, чымся зацьвярджэньне італьлянскага фізыка Аўгуста Рыша пра тое, што новая сыстэма проста ставіць электрычнасьць на месца матэрыі.

Прыродазнаўства ў сваім разьвіцьці толькі зацьвярджае гносэолёгію матэрыялізму—асноўны прынцып об'ектыўнай рэальнасьці „фізычнага сьвету“. У гэтых адносінах выключную цікавасьць маюць словы *У. І. Леніна*:

„Матэрыялізм і ідэалізм розьняцца тым або іншым разьвязваньнем пытаньня пра *крыніцу* нашага пазнаньня, пра адносіны пазнаньня (і „псыхічнага“, наагул) к *фізычнаму* сьвету, а пытаньне пра будову матэрыі і электроны ёсьць пытаньне, якое тычыцца толькі гэтага „фізычнага сьвету“. Калі фізыкі кажуць „матэрыя зьнікае“, яны хочуць гэтым сказаць, што да гэтага часу прыродазнаўства прыводзіла ўсе свае досьледы фізычнага сьвету да трох апошніх разуменьняў—матэрыя, электрычнасьць, эфір; цяпер-жа застаюцца *толькі* два апошнія, бо матэрыю ўдаецца зьвесьці да электрычнасьці, атом удаецца растлумачыць, як падобнасьць надзвычайна малой сонечнай сыстэмы, у сярэдзіне якой наўкола дадатнага электрону рухаюцца з пэўнай (і неахватна вялізнай, як мы бачым) скорасьцю адмоўныя электроны. Замест дзесяткаў элемэнтаў удаецца, значыцца, зьвесьці фізычны сьвет да двох або трох (паколькі дадатны і адмоўны электроны складаюць „дзьве істотна розныя матэрыі“, як кажа фізык Пэлла). Прыродазнаўства вядзе, значыцца, да *адзінства матэрыі*“,— вось сапраўдны зьмест таго сказу, пра зьнікненьне матэрыі, пра зьмену матэрыі электрычнасьцю і г. д., які вельмі многіх зьбівае з сэнсу. „Матэрыя зьнікае“, гэта значыць, зьнікае тая граніца, да якой мы ведалі матэрыю да гэтага часу, нашыя веды паглыбляюцца і зьнікаюць—такія ўласьцівасьці матэрыі, якія здаваліся раней за абсолютныя, нязьменныя, першапачатковыя (непрапушчальнасьць, інэрцыя, маса і г. д.) і якія цяпер выяўляюцца, як адносныя, прысутныя толькі некаторым станам матэрыі. Бо *адзіная* „ўласьцівасьць“ матэрыі, з прызнаньнем якой зьвязан філёзофскі матэрыялізм, ёсьць уласьцівасьць *быць об'ектыўнай рэальнасьцю*, існаваць па-за нашай сьвядомасьцю.

Таму Энгельс прыводзіў свой прыклад з вынайдзеньнем алізарыну ў дзёгці з каменнага вугалю і крытыкаваў мэханічны матэрыялізм. Каб паставіць пытаньне пра адзіна-правільны, г. зн. дыалектычна-матэрыялістычны пункт погляду, трэба запытаць: ці існуюць электроны, эфір і гэтак далей па-за сьвядомасьцю чалавека, як об'ектыўная рэальнасьць ці не?

*Такім чынам наш агульны вынік:*

Мэханічнае сьветаразуменьне—вульгарызацыя дыалектычнага матэрыялізму. Дыалектычны матэрыялізм вывучае матэрыяльны сьвет, як складанае колькасна-якаснае адзінства, але ня тожсамасьць.

# ТАМ, ДЗЕ ТКУЦЦА ДЫВАНЫ

*(Да проблемы вызваленчага руху ў сучаснай Пэрсіі)*

**Л. Каган**

I

Мы ўжо пазнаёміліся ў папярэдніх сьцісłых нарысах[1]) з нацыянальным вызваленчым рухам у Кітаі, Індыі, Эгіпце. Пяройдзем цяпер да Пэрсіі.

Ангельцы азначаюць Пэрсію, скарэй увесь Іран (Пэрсія—толькі частка Іранскага плоскаўзвышша; апрача яе, сюды яшчэ ўваходзяць Афганістан і Бэлуджыстан, палітычна самастойныя; самі пэрсы сваю радзіму называюць Іранам), як „сталбавы шлях народаў“ (the higway of nations). Берар кажа, што „тут перакрыжоўваюцца сукосьніцы старога сьвету“. І сапраўды, калі прыглядзецца да географічнага палажэньня Пэрсіі, стане зразумелай тая вялікая роля, якую адыграў гэты край у сусьветнай гісторыі, стане зразумелай зацікаўленасьць двух дужых драпежнікаў-суседзяў—царскае Расіі й імпэрыялістычнае Англіі—гэтай дзяржавай. Іранскае плоскаўзвышша, вышынёю 5-6 тыс. футаў, уздымаецца над цэлым шэрагам, акаляючых яго вадазбораў і нізін: Мэсопотаміі, Аракса, Арало-Касьпія, Інда. У дадатак яно абнесена высокімі хрыбтамі Загроша, Арменіі, Карадагу, Эльбруса, Копэт-Дагу, Паропаміса, Гіндукушу, Сефід-Куха і Сулейманавых гор.

Але маюцца праломы, цераз якія зручна прайсьці ў глыбіню краіны: на заходняй мяжы рака Дзіала разрывае горы Загроша і адчыняе шлях з Мэсопотаміі ў Пэрсію; на паўночным захадзе рака Котур-Чай стварае цясьніну, якая вядзе ў Малую Азію і далей к Чорнаму мору; на ўсходзе рака Тэджэн прарываецца цераз горныя ланцугі, якія аддзяляюць Іран ад Арало-Касьпія, і тут-жа, урэшце, некалькі пераваłаў і праломаў у Гіндукушы ў Сулейманавых горах адчыняюць гістарычныя шляхі, якія ідуць з Пярэдняе і Сярэдняе Азіі ў Індыю.

Вось гэтае палажэньне Пэрсіі, як горнае крэпасьці, цераз якую праходзяць шляхі сусьветнага значэньня, ключ ад якіх знаходзіцца ўва ўласьніка Ірану, і вырашае значэньне краіны і сэнс барацьбы за яе на працягу тысячалецьцяў, барацьбы, якая ня скончылася і цяпер.

---

[1]) Гл. „Полымя“ №№ 3, 4, 6 за 1925 г.

Было-б занадта шмат у невялічкім нарысе спыняцца на ўсіх этапах гэтае барацьбы—мы возьмем з яе толькі пару характэрных момантаў.

Ужо за пяць сталецьцяў да нашае эпохі так званы „царскі шлях“ (ад Міжземна-морскага паўднёвага ўзьбярэжжа к старадаўняй сталіцы Экбатане і потым па паўночнай Пэрсіі цераз Тэгеран і Нішапур к межам цяперашняга Афганістану і далей—часткаю к оазам Сярэдняй Азіі, часткаю к Індыі) быў крыніцаю сілы царства ахэмэнідаў.

Праходзіць пяць вякоў—і сіла арабскага халіфату засталася ў тым самым уладаньні „варотамі Ірану“, якія даюць адзіны доступ у Індыю, Кітай і Сярэднюю Азію. Вынаходка морскага шляху ў Індыю робіць няўхільным заняпад італьлянскіх рэспублік, Турцыі, урэшце, Пэрсіі. Але ўсё-ж Пэрсія пацярпела менш за другія краіны: якраз к гэтаму часу ажыўляецца шэраг вялікіх гандлёвых шляхоў, якія ідуць цераз Пэрсію з Масковіі; галоўны з іх—ад Астрахані ўздоўж заходняга берагу Каспійскага мора, заходзячы ў Тэркі і Дэрбэнт, далей ужо сухім шляхам на Шэмаху Ардэбіль—Зенджан—Казьвін—Кашан і, урэшце, Ісхафан.

Да таго-ж і сама Пэрсія набывае ня столькі значэньне транспортнае краіны, колькі краю, адкуль экспортуецца шоўк. Прыблізна з XVII в. пачынаецца з-за гэтага заўзятая барацьба паміж Расіяй і Англіяй, каб мець монополію на пэрсыдзкім рынку. Мы зачэпім ніжэй толькі тыя моманты гэтае барацьбы, якія маюць непасрэдныя адносіны да вызваленчага руху ў Пэрсіі.

## II

Пэрсія—краіна- пераважна земляробская, і мотывы рэволюцыйнага руху ў Іране трэба шукаць раней за ўсё ў зямельных адносінах.

Тэорытычна да зрынуцьця старога рэжыму ўся тэрыторыя Ірану належала „ценю божаму“—шаху. Але фактычна ўжо ад глыбокай даўнасьці існавала кляса самастойных зямляўласьнікаў—ханаў, залежнасьць якіх ад шаха абмяжоўвалася абавязкам плаціць „дзім“—дзесятую частку продуктаў зямлі. Існавала і ўласнасьць сялян на „рышу“—сельскі надзел, які належаў асобнаму земляробу (сялянская сядзіба з гародам, садам і г. д.). Наогул, фактычна землі ў Пэрсіі падзяляюцца на тры катэгорыі: 1) халісса—дзяржаўныя землі, якія належаць шаху і ўраду, 2) вакуф—землі мечэцяў і рэлігійных устаноў, 3) мульк або арбабі—землі прыватнай уласнасьці.

Карыстаючыся слабасьцю цэнтральнага ўраду, ханы захапілі амаль усю халіссу і да сярэдзіны XIX веку былі магутнымі лендлёрдамі, асабліва ў паўночнай Пэрсіі.

Разьвіцьцё гандлю і павялічэньне вывазу з краіны рыжу, бавоўны, фруктаў і г. д. вабяць буржуазію і царкву да покупу зямлі;—вось чаму з другое паловы XIX в. арыстократыя страны—ханы трацяць і землі і значэньне,—амаль уся зямля пераходзіць у рукі мулькадораў—звычайных зямляўласьнікаў-абшарнікаў.

Чаму зямля сконцэнтроўваецца ў руках буйных мулькадораў? Асноўная прычына—фіскальная сыстэма, панаваўшая ў краіне. Як толькі зьявіўся капіталізм, натуральныя падаткі замяняюцца грашовымі, і гэта наносіць страшэнны ўдар дробным зямляўласьнікам: урадавыя чыноўнікі падкупны, у кіраваньні краінай пануе анархія, і ў той час, як буйны мулькадор за 200—300 руб. вызваляе свае землі ад усякага ўмяшацельства збоку дзяржаўных чыноўнікаў, астатняя маемасьць дробных і сярэдніх зямляўласьнікаў прадаецца за няздачу непасільных падаткаў.

Страшэнна паменшыліся прыбыткі ўраду. Калі ў 1803 г. яны складалі 150 міл. фр., 1815 г. яны роўны толькі 75 міл., 1850 г.—57 міл. 1889 г.—40 міл., у часе ўзыходу на трон Музафэра-эд-Дзіна (1895) прыбыткі казны складалі толькі 32,5 міл. руб. Прычына памяншэньня прыбыткаў ураду—зьмяншэньне цаны срэбра: кран у 1864 г. каштаваў 1,4 фр., 1880 г.—0,90 фр., 1893 г.—ад 85 да 66 сантымаў, у 1904-5 г. г. ён каштуе толькі 50 сант. Робіць уплыў на зьніжэньне прыбыткаў і „утечка" пэрсыдзкае монэты ў Індыю, дзе яна з прыбыткам пераліваецца на рупію.

А няўхільным вынікам гэтага памяншэньня прыбыткаў казны—зноў такі павялічэньне падаткаў на клясу дробных і сярэдніх зямляўласьнікаў.

Справа ў тым, што ў Пэрсіі за гарадзкую ўласнасьць падаткаў ня плацяць; ня плацяць іх і за рухомую маемасьць; няма падаходнага падатку, няма патэнтаў. Падаткі плацяць выключна зямляўласьнікі, да яшчэ бяруцца падаткі з унутранога і замежнага гандлю. І замест ранейшых двух дзімаў—аднаго ў карысьць ураду, другога ў карысьць хана—селянін у канцы XIX в. прымушан аддаваць мулькадору 33 проц. са збору, калі ён мае ўсё сваё, і 85 проц.—калі насеньне, рабочая жывёла і прылады ўласнасьць мулькадора.

Селянін паступова пападае пад прыгон мулькадора, хоць юрыдычна і захоўвае сваю незалежнасьць. Вось прыклады—за карыстаньне зямлёю селянін адбывае павіннасьці (пералічваюцца далёка ня ўсе):

1) трэцюю частку ўраджаю з паліўных вучасткаў і пятую з непаліўных трэба заплаціць абшарніку;

2) збор долі абшарніка даручаецца ўпраўляючаму з некалькімі коньнікамі, якіх павінна харчаваць вёска. Гэтыя ўпраўляючыя—вялікая напасьць для вёскі;

3) сваю долю абшарнік зысквае пераважна грашыма, а не натураю;

4) зімою абшарнік раздае сваіх коняй сялянам, якіх апошнія павінны карміць і даглядаць 3-4 месяцы бясплатна;

5) калі „пан" будуе дом, сяляне даюць бясплатную рабочую сілу, якая харчуецца за свой кошт;

6) апал „пану" бясплатна загатаўляюць сяляне;

7) даставіць усякія купленыя абшарнікам рэчы ў яго маёнтак, хоцьбы гэта было нават за 200 вёрст, павінны (таксама дарам) сяляне;

8) сяляне нясуць падвойную вайсковую павіннасьць—і на абшарніка і на дзяржаву.

Вось найбольш характэрныя павіннасьці „свабоднага“ сялянства Пэрсіі. Каб пералічыць іх усе, трэба было-б заняць значна больш месца.

Зразумела, сяляне нездаволены сваім становішчам і часта пасылаюць скаргі на абшарнікаў „вялікім муштэхідам“ („сьвятым айцом“) Кербелы, Нэджэфа. Абароны, аднак, яны ў іх не знаходзяць, бо самі муштэхіды („лжэ-муштэхіды“—як іх абзывае народ у вабурэньні) у большасьці сталі мулькадорамі.

Але апрача мулькадораў і зборшчыкаў падаткаў, у працоўнага пэрсыдзкага сялянства ёсьць яшчэ адзін вораг: гэта бадзяжныя пляменьні, якія жывуць дзякуючы арганізованаму бандытызму. Вось програма, адкрыта выказваемая, адным з гэтых пляменьняў, Джаншакумлі: „Мы храбрыя, лоўкія, умеем карыстацца зброяй; сяляне-зямляробы ня больш, як пудлівыя авечкі; іх можна стрыгчы без перашкод і з прыемнасьцю,—яны створаны для гэтага“. Бадзяжныя пляменьні—напасьць вялікая і паўсюдная: уваднэй толькі ўсходняй частцы Азэрбэйджанскае провінцыі жыве іх 39 пляменьняў, сярод якіх некаторыя, як Алі-Гассанлу-Коджабэтлу, Талішмікэйлу, Гаджы-Коджалу, вельмі значныя і добра ўзброеныя. І горш за ўсё тое, што гэтыя номады падтрымліваюцца ўрадам шаха, бо яны зьяўляюцца крыніцаю даходаў для яго: бадзяжныя пляменьні плацяць шаху і валіагду (насьледніку трона) вельмі значныя сумы грошай за „дазвол“.

Бадзяжныя пляменьні ў Пэрсіі складаюць 3,5 міл. насельніцтва і роля іх ва ўнутраным жыцьці Пэрсіі заўсёды была вельмі значная.

Такім чынам, бадай што нідзе на Ўсходзе няма такога цяжкага становішча сялян, як у Пэрсіі. Вось чаму пэрсыдзкае сялянства захоўвае ў сабе вялізарныя запасы рэволюцыйнай энэргіі, пакуль што, праўда, потэнцыяльнай. Ужо ў 1905 годзе сяляне шмат якіх вёсак павыганялі мўбашыраў, адмовіліся заплаціць падаткі і ўтварылі ў сваіх вёсках анджумэны—мясцовыя саветы. Але гэта быў толькі першы слабы выбух тэй рэволюцыйнай хвалі, якая прышла шмат пазьней і ў якой сялянства іграла не астатнюю ролю.

## III

Не адно толькі сялянства мела падставу быць нездаволеным урадам шаха. Ім нездаволена была і гандлёвая буржуазія краіны і пры тым зусім правільна.

Але спачатку некалькі слоў аб тым, як нарадзілася кляса буржуазіі ў Пэрсіі.

Ня так даўно Пэрсія была дзікаю краінай, краінай чыста-натуральнае гаспадаркі. Яна ў канцы мінулага веку мела адну толькі чыгунку,

даўжынёю 5 кілёмэтраў—ад Тэгерану да мястэчка „Шах-Абдул-Азім“, куды насельніцтва сталіцы езьдзіла на багамольле. Праўда, урад шаха Наср-Эдзіна, забітага ў 1896 г., рабіў спробы індустрыялізаваць краіну: выпісваў машыны з заграніцы, пабудаваў шэраг фабрык—папяровую, стэарынавую і цукраварную; але ўсе гэтыя фабрыкі хутка пазачыняліся, і Пэрсія зноў стала спажываць выключна замежныя тавары.

Паступовае зьніканьне натуральнае гаспадаркі ў Пэрсіі адбываецца пад уплывам двух магутных суседзяў—Расіі й Англіі. Гэтаму дапамагае палажэньне краіны на перакрыжаваньні паміж Расіяй, Англіяй і Турцыяй. Тут мае значэньне і тое, што, дзякуючы Багдадзкаму чыгуначнаму шляху, да межаў Пэрсіі прыбліжылася і трэцяя магутная дзяржава—Германія.

Расія прарэзвае ўвесь паўночны Іран вельмі добра пабудаванымі шосамі і дзякуючы ім выцясьняе сваімі таварамі тыя тавары, якія доўгім і дарагім караванным шляхам ішлі раней з Малое Азіі і з берагоў Пэрсыдзкае затокі. Ангельцы ўжываюць другі спосаб для замацаваньня свайго ўплыву ў Пэрсіі: яны па ўсёй Пэрсіі праводзяць густую сетку тэлеграфных ліній, злучаных з тэлеграфнаю сеткаю Індыйскай імпэрыі. Па ўсёй тэрыторыі Пэрсыі, ад паўночна-заходняй да паўднёва-заходняй мяжы яе, адчыняюцца ангельскія тэлеграфныя бюро, як-бы маленькія крэпасьці, дзе тэлеграфістыя, ня маючы іншае працы, актыўна вядуць гандаль і дзе знаходзяць бэст [1]) ад гвалтоўна-злых учынкаў мясцовай адміністрацыі тубыльцы. Апрача таго, ангельцы ў кожным горадзе адчыняюць аддзяленьні імпэрскага банку, куды пэрсыдзкія купцы могуць спакойна ўкладаць свае капіталы.

Мала-па-малу пад уплывам Расіі і Англіі ажываюць адзін за другім старадаўнія пэрсыдзкія гарады—Тэгеран, Таўрыз, Рэшт, Іспагань робяцца буйнымі гандлёвымі цэнтрамі. Так, напр., ужо ў 1895 г. з Таўрызу выходзіла штогод тавараў прыблізна на 40 міл. руб. У 1889 годзе, паводле вылічэньня Кэрзона, гандлёвыя звароты Пэрсіі з Англіяй складалі 75 міл. франкаў, з Расіяй—50 міл. франкаў; у 1901-2 г. г., Расія ўжо выпярэджвае Англію: паводле вылічэньняў бэльгійскай адміністрацыі з пэрсыдзкай мытніцы ангельска-пэрсыдзкі гандаль складае 59 міл. франкаў, расійска-пэрсыдзкі—96 міл. франкаў; у 1905-6 г. г., згодна тых самых даных, дзякуючы выгаднаму дагавору, гэтыя лічбы павялічваюцца да 170 міл. франк. Расія, такім чынам, пачынае займаць першае месца на пэрсыдзкім рынку і гэтую ролю захоўвае яна аж да імпэрыялістычнай вайны.

Вось табліца разьмеркаваньня розных краін па лічбах звароту з Пэрсіяй (у кранах):

---

[1]) Бэст—месца ўкрыцьця, дыплёматычна недатыкальнае.

| | | Імпорт | Экспорт | Разам |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Расія . . . | 219.559.206 | 262.226.136 | 481.785.342 |
| 2. | Брытанская імпэрыя . . | 189.665 159 | 37.412.841 | 227.078.000 |
| 3. | Турцыя . . . | 16.268.388 | 40.002.678 | 55.271.066 |
| 4. | Францыя . . . | 13.637.802 | 12.101.022 | 26.738.824 |
| 5. | Германія . . . | 13.977.445 | 2.088.500 | 16.0 5.945 |
| 6. | Аўстра-Вэнгрыя . . | 10.847.818 | 98.924 | 10.946.742 |
| 7. | Бэльгія . . | 8.134.773 | 436.411 | 8.593.184 |
| 8 | Афганістан . . | 4.125.598 | 2.411.279 | 6.536.877 |
| 9. | Італія . . . | 2.781.859 | 3.974.953 | 6.756.812 |
| 10. | Маскат . . . | 153.814 | 215.889 | 369.703 |
| 11. | Кітай . . . | 403.375 | 2.337.000 | 2.740.375 |
| 12. | Злуч. Штаты . . | 292.138 | 5.040.194 | 5.332.332 |
| 13. | Ост. краіны . . | 5.858.256 | 6.138.076 | 11.996.332 |

Такім чынам, у 1910-11 г. г. Расія ўвязла ў Пэрсію тавараў на 219 міл. кранаў (39,14 міл. руб.), г. ё. 45,13 проц. усіх тавараў, якія ўвазіліся ў Пэрсію, і Пэрсія экспартавала ў Расію 70 проц. усіх сваіх вывазных тавараў. Галоўныя прадметы расійскага ўвозу ў Пэрсію—баваўняна-папяровая крама, цукар, газа, чай. Вывозіўся-ж з Пэрсіі ў пераважнасьці шоўк.

1910-11 г. г. усё-ж такі не зьяўляюцца гадамі найбольшага ўздыму гандлю Пэрсіі з іншымі краінамі. Ён ідзе crescendo і пазьней. Гэта відно хоць-бы з таго, што замежны гандаль Пэрсіі з Расіяй з 481.875.342 кранаў у 1910-11 г. г. у 1911-12 г. г. падняўся да 552.077.671 кранаў. У 1911-12 г. г. розныя краіны па свайму гандлю з Пэрсіяй разьмяркоўваліся ў такім парадку (у кранах):

| | Імпорт | Экспорт | Разам |
|---|---|---|---|
| Расія . . . | 267.797.875 | 284.279.796 | 552.077.671 |
| Англія . . . | 220.703.973 | 55.370.343 | 276.074.316 |
| Турцыя . . . | 24.440.785 | 37.883.555 | 59.324.340 |
| Германія . . | 16.626 094 | 4.925.357 | 21.551.451 |
| Францыя . . . | 11.489.045 | 2.590.590 | 14.089.735 |
| Бэльгія . . . | 9 947.714 | 674.522 | 10.622.436 |
| Аўстра-Вэнгрыя . . | 9 636.458 | 80.150 | 9.716.608 |
| Афганістан . . | 5.657 183 | 3.239.075 | 8.896.258 |
| Італія. . . . | 2.152.291 | 10.382.472 | 12.534.763 |
| Голяндыя . . . | 1.451.641 | 308.845 | 1.760 486 |
| Оман . . . | 1.350.310 | 5.994.372 | 7.344.682 |
| Швайцарыя . . | 801 230 | 20.686 | 821.916 |
| Злучан. Штаты. . | 734.811 | 6.409.230 | 7.144.141 |
| Кітай . . . . | 587.491 | 6.870.450 | 7.457.941 |

Такім чынам, напярэдадні сусьветнае вайны Расія была гегемонам на пэрсыдзкім рынку.

Зусім натуральна—ажыўленьне экономічных адносін у краіне выклікае да жыцьця мясцовую гандлёвую буржуазію—і за апошнія тры дзесяцігодзьдзі гэта буржуазія робіцца вялікаю сілаю. Яна ўтварае свае

колёніі ў Багдадзе, на Каўказе (у Баку і Тыфлісе), у Індыі (пераважна ў Калькуцьце), у Марсэлі, Лёндоне, Манчэстэры. І колёніі гэтыя падтрымліваюць жывую сувязь з Пэрсіяй, распаўсюджваюць па ўсім сьвеце продукцыю свае радзімы: пэрсыдзкія дываны, опіум, шоўк, сухія фрукты. Яна пазычае таксама грошы ўраду пад розныя гарантыі.

І сталася так, што гэтая буржуазія, таксама як і сялянства, мае падставу быць нездаволенаю шахскім урадам і становіцца да яго ў опозыцыю.

Прычын для гэтага дзьве. Першая—дэспотызм шахскага ўраду, які супярэчыць таму ладу нараджаючагася капіталізму, які пачынае ў Пэрсіі прад'яўляць свае правы: надбудоўка ўлады там к пачатку XX в. відочна ня можа пагадзіцца з экономікай краіны. Другая—ня менш важная прычына—антагонізм інтарэсаў мясцовага капіталу і капіталаў Англіі і Расіі. Пэрсія сьціскаецца, як абручамі, цэлым шэрагам кабальных дагавораў з абедзьвюма гэтымі дзяржавамі ў адшуканьні пазык для шахскага ўраду[1]).

Гэтыя вельмі нявыгадныя гандлёвыя дагаворы не даюць магчымасьці мясцовай буржуазіі абараняцца ад ангельска-расійскай конкурэнцыі, і тут трэба шукаць прычыны злосьці набываючай моц пэрсыдзкае буржуазіі і проці знадворнага ангельска-расійскага ярма і проці шахскага ўраду. Лепшая частка гэтае буржуазіі вельмі добра бачыць і ведае, што эўропэізацыя іх радзімы магчыма толькі ў тым выпадку, калі ўдасца скінуць шахскі ўрад і скасаваць несправядлівыя дагаворы гэтага ўраду з чужаземнымі капіталістымі. І яна пачынае ў саюзе з сялянствам вайну проці гэтага ўраду.

Гаворачы пра барацьбу з абсолютызмам у Пэрсіі, трэба выдзеліць яшчэ адну актыўную антыўрадавую грамадзкую групу—духавенства. Гутарка йдзе, зразумела, не аб вышэйшым духавенстве, бязумоўна, варожым вызваленчаму руху, а аб сярэдняй і нізшай яго частцы. Гаворачы аб пэрсыдзкім духавенстве, трэба мець на ўвазе дзьве яго адменнасьці—офіцыяльную (шэйх-уль-ісламы, казіі, імамы—назіральшчыкі над мечэцямі, судзьдзі, звычайна чыноўнікі), якая не карысталася сярод народу аўторытэтам, і неофіцыяльную—„муштэхідаў", якіх народ лічыць амаль што сьвятымі і ўсё ведаючымі. Калі прыняць пад увагу, што сьвецкіх школ у Пэрсіі амаль што няма, што гэтыя „муштэхіды" разам з сваімі памоцнікамі муламі і сэідамі—адзіны адукаваны пролетарыят краіны, яе настаўнікі, адвакаты і г. д., пролетарыят, які жыве амаль што галадаючы і жыве радасьцямі і пакутамі шырокіх народных мас,—нам стане зразумелай рэволюцыйнасьць пэрсыдзкага духавенства.

---

[1]) У 1892 г. ўрад шаха Наср-Эдзіна робіць пазыку ў Англіі і ў забесьпячэньне яе аддае Англіі прыбыткі са сваіх мытніц на Пэрсыдзкай затоцы.

У 1897 г. расійскі ўрад пры ўступленьні на трон Музафэр-эд-Дзіна пазычае яму цераз свой банк у Тэгеране 22 міл. руб. і ў забесьпячэньне гэтае пазыкі атрымлівае права эксплёатацыі астатняе мытнае лініі краіны.

Падобныя пазыкі былі зроблены і ў 1901, 1903, 1910 г.г.

Парадокс—удзельная вага гэтага опозыцыйнага духавенства такая вялікая, што калі (пад уплывам рэволюцыі 1905 г. ў Расіі) пры ўзьмежнай частцы Азэрбэйджану ўзьнікае соцыял-дэмократычная партыя, то яна выступае пад сьцягам ісламу. У 1908 годзе, калі ў Таўрыз прыходзіць вестка аб констытуцыйным перавароце ў Тэгеране, мясцовы с.-д. камітэт выдае такую адозву (мы, з прычыны цікавасьці гэтае адозвы, цытуем яе поўнасьцю):

„Злучэцеся, усе беднякі! Мы, соцыял-дэмократы, *абаронцы ісламу ў Пэрсіі* (падкрэсьлена мною. Л. К.) вітаем у гэты ўрачысты дзень агалашэньне пэрсыдзкай констытуцыі ўсіх прыхільнікаў свабоды, у якой бы частцы сьвету яны ні знаходзіліся. Мы вітаем асабліва улемаў і купцоў, гэтых рупных працаўнікоў на ніве народнай і абаронцаў ісламу ў Тэгеране, якія аддавалі ў ахвяру сваё жыцьцё і ўсю сваю маемасьць, каб дабіцца сьвятое мэты. Скажам-жа нашым тэгеранскім братом: о, нашыя землякі, о, нашыя браты! Прынясем хвалу ўсемагутнаму, які ў сваёй вышэйшай справядлівасьці даў нам магчымасьць, дзякуючы яднаньню і натугам прыхільнікаў свабоды, зрабіць першы крок да сьвятое мэты, якая стаіць перад намі... Маленькая, але прасякнутая энтузыязмам і аб'яднаная Японія змагла перамагчы такога ворага, як Расія. Стала быць, мы, абаронцы ісламу, ідучы па шляху, указанаму аллахам, не павінны ні на хвіліну спыняць сваю працу, як быццам мы дабіліся ўсяго. к чаму імкнуліся. Падымем-жа чырвоны сьцяг свабоды і не дазволім кучцы людзей, ворагам справядлівасьці, закрываць сваімі асабовымі інтарэсамі сьветлыя праменьні гэтае констытуцыі, якую мы заваявалі сваёю працаю, аддаючы сваё жыцьцё.

Няхай жывуць сябры свабоды і констытуцыі! Няхай зьнявага і паражэньне будуць лёсам эгоістых!

Партыя абаронцаў ісламу, соцыял-дэмократаў Пэрсіі, 11,1324“.

Каб пералік дзейных сіл вызваленчага руху ў Пэрсіі быў вычэрпваючым, трэба ўпамянуць, апрача сялянства, гандлёвае буржуазіі і ніжэйшага духавенства яшчэ таксама пра рабочых фабрыкі, рамесьнікаў. Статыстыкі фабрычнага пролетарыяту ў Пэрсіі, зразумела, няма, але адно бясспрэчна: з пачатку XX в. йдзе ўзрост індустрыялізацыі краіны. Толькі ў Таўрызе ў 1905-10 г. г. налічвалася больш ста фабрык з 10.000 рабочых. Былі таксама фабрыкі і ў Тэгеране, Іспагані, Рэшце, звароты якіх дасягалі да 30 міл. руб. за год.

Есьць, зразумела, у краіне і праслойка з рамесьнікаў.

І рабочыя і рамесьнікі з'організованы ў асобныя корпорацыі з уласнымі сакратарамі і скарбнікамі.

## IV

Вось тыя экономічныя прычыны вазваленчага руху ў Пэрсіі. Паглядзім цяпер, як гэты вызваленчы рух паступова разьвінаўся.

Яшчэ да XX веку ў Пэрсіі адбываліся бунты, але ўсе яны мелі характар рэлігійны, інсьпіраваліся духавенствам[1]).

Толькі з XX веку рухі набываюць характар масавы, паколькі экономічная неабходнасьць уцягвае ў іх амаль усе колы грамадзтва: сялянства, духавенства, буржуазію, рамесьнікаў, рабочых. Але перад тым, як гаварыць аб фактах вызваленчага руху ў Пэрсіі, трэба прыняць пад увагу вось што: цэнтрамі руху ў Пэрсіі былі толькі паўночныя провінцыі—Азэрбэйджан і Гілян. Гэтыя провінцыі найбольш разьвіты экономічна дзякуючы наліччу сваіх прыродных багацьцяў, найбольш цярпелі ад расійскага капіталізму, сюды скарэй даходзіў уплыў расійскай рэволюцыі 1905 г., сюды заўсёды пранікалі закаўкаскія рэволюцыянэры, тысячы рэволюцыянізаваных пэрсыдзкіх рабочых з Баку і іншых расійскіх прамысловых цэнтраў.

Зусім іншае—Хорасан. У рэволюцыйным руху гэта провінцыя—пэрсыдзкая Вандэя, і вось чаму: Хорасан, у процілегласьць рэшце Пэрсіі, ад праніканьня расійскага капіталу толькі выйграў. Закасьпійская чыгунка цераз Асхабад у два разы паменшыла кошт увазімых тавараў. Замірэньне туркмэнаў унесла заспакаеньне ў жыцьцё краіны. Урэшце, гэтыя акалічнасьці далі магчымасьць масе пілігрымаў наведваць шыіцкую сьвятыню ў Хорасане—грабніцу імама Рызы ў Мешхэдзе, што ў сваю чаргу палепшыла матарыяльнае становішча Хорасанскага духавенства. Што-ж датычыцца да цэнтральных і паўднёвых провінцый Пэрсіі—Кірману, Іезды, Шыразы—яны былі пад экономічным уплывам Англіі, якая трымалася тактыкі больш разумнай і асьцярожнай, чым Расія, і к таму-ж гэтыя провінцыі былі наогул вельмі заняпаўшымі для таго, каб актыўна прымаць удзел у першым констытуцыйным руху.

Рэволюцыя 1905 г. ў Расіі была тым штурхачом, які трэба было атрымаць пэрсыдзкай грамадзкасьці, каб пачаць барацьбу за констытуцыю. І гэтая барацьба распачынаецца, прычым шахскі ўрад да яе быў зусім не падрыхтованы. Шах Музафэр-эд-Дзін (1896—1907), які набыў сабе славу сваім распуствам і марнаю тратаю грошай, робіць пазыку за пазыкай, аддаючы за іх усё новыя й новыя чужынцам прывілеі, якія былі шкодны для інтарэсаў пэрсыдзкай буржуазіі. Ускладаюцца большыя падаткі на насельніцтва: бяруцца падаткі з прадметаў самых патрэбных

[1]) Першы такі рух узнік яшчэ ў палавіне XIX в., відаць, у сувязі з рэволюцыяй 1848 г. і насіў назву бабізму. Бабізм агітаваў за яднаньне і солідарнасьць людзей усяго сьвету, роўнапраўе жанчын, адмаўленьне ўсякіх забабон. Гэты рух, пасьля чатырохгадовае барацьбы з ім, быў затоплены ў крыві шахам Наср-эд-Дзінам. Пэрыод панаваньня апошняга—1848-1896—самы рэакцыйны ў новай гісторыі Пэрсіі. Але й пры гэтым шаху опозыцыйны рух ні на хвіліну ня спыняўся. Гэта ў яго часы, у 80 г. г., вёў сваю пламенную агітацыю пан-ісламізму Сэід-Джэмаль-эд-дзін-аль-Афгані, выкрываючы адначасна і балячкі тагачаснага пэрсыдзкага ладу. Вучань Сэіда, Мірза Рыза, забіў Наср-эд-Дзіна. У гэтыя-ж часы адбывалася і дзейнасьць другога барацьбіта за констытуцыю, пэрсыдзкага Герцэна, армяніна Малькома Хана.

(мяса, хлеба, рыжу). У вадшуканьні новыя падаткавых рэсурсаў даходзяць нават да таго, што з самых бедных салдат (сарбазаў), якія ідуць на пабыўку, бяруць падатак куранятамі.

У вабедзьвюх сталіцах—шахскай Тэгеране і валіагдавай (насьледніка трону) Таврызе—пануе самая лютая рэакцыя: злоўленых рэволюцыянэраў страшэнна мучаць, зачыняюць эўропэйскія школы, учыняюць лютую цэнзуру над друкам. Так нацягваў шахскі ўрад і без таго гатовую восьвось лопнуць струну народнае цярплівасьці.

Прычына руху была чыста экономічная: не здавальняючыся ўсякага роду іншымі падаткамі, губарнатар Тэгерану ўвёў яшчэ падатак на цукар, што было ўжо лішняю капляю ў кубак. Падатак на цукар плаціць адмовіліся і паслалі да губарнатара шэраг дэпутацый з патрабаваньнем паменшыць падаткі наогул. У вадказ былі ўжыты рэпрэсіі, між іншым арыштавана 27 паважаных купцоў і некалькі сэідаў. Тады гараджане і духавенства зачынілі рынак і масамі сталі ўходзіць у сьвяцілішча Шах-Абдул-Азім, у бэст. Шах спужаўся і паабяцаў шэраг рэформаў, але зразумела, нічога з сваіх абяцанак ня выканаў. Тады насельніцтва ўжывае чыста пэрсыдзкі спосаб барацьбы: муштэхіды, якія маюць вялікі ўплыў на насельніцтва, разам з тысячамі ніжэйшага духавенства і сьвецкіх асоб ў ліпні 1906 г. ў адзнаку протэсту пакідаюць Тэгеран і йдуць у гарадок Кум. Адначасна 10 тыс. купцоў пасяліліся ў вялічэзным бэсьце, у тэгеранскім чужаземным прадстаўніцтве.

Шаху прышлося ўступіць: ненавідны вялікі візір Атабег быў зьменены і былі паабяцаны: скліканьне мэджылісу (парляманту), утварэньне вышэйшае судовае палаты, правядзеньне шэрагу рэформаў і амністыя. У кастрычніку 1906 г. быў скліканы першы мэджыліс, а цераз кароткі час памёр першы конституцыйны шах Музаффэр-эд-Дзін, пакінуўшы прастол заядламу рэакцыянэру Мэмэду-Алі. Над маладою пэрсыдзкаю свабодаю сабраліся хмары.

Работа першага мэджылісу шмат чым падобна да першае расійскае Думы: яна мела досыць прогрэсыўны характар. Вось некаторыя з дасягненьняў першага мэджылісу: адменены быў продаж пасад, мясцовыя саветы—энджумэны атрымалі права абіраць судзьдзяў, зьбіраньне дзіму (дзесятае часткі) з рук абшарнікаў перашоў у рукі адміністрацыі, скасаваны былі „тюили"—архаічныя фэўдальныя пажалаваньні, да таго часу яшчэ існаваўшыя ў Пэрсіі.

У верасьні 1905 г. вышлі шахскія „дапаўненьні да асноўных законаў"—па сутнасьці першая персыдзкая конституцыя. Гэта цікавы конгламэрат францускай дэклярацыі праў чалавека і грамадзяніна з шэрагам артыкулаў чыста клерыкальнага характару. Так, напрыклад, вышэйшыя функцыі назіраньня за захаваньнем конституцыі і контролёраў за заканадаўчай дзейнасьцю ў краіне гэтымі дапаўненьнямі даручаюцца „асьвечаным муштэхідам—няхай прадоўжыць усявышні блаславеньнем іх жыцьцё"

Кожны законапроект, згодна гэтаму выдатнаму параграфу, праходзіць цераз спэцыяльны назіральны камітэт з „пяці вялікіх муштэхідаў", якія разглядаюць яго і надаюць яму моц закону толькі ў тым выпадку, калі „ён ня супроць мусульманскае веры".

Але ў гэтай констытуцыі быў і адзін надзвычайна важны для Пэрсіі пункт—артыкул 106, паводле якога „ніякае чужаземнае войска ня можа быць запрошана на дзяржаўную службу і знаходзіцца на тэрыторыі імпэрыі альбо праходзіць цераз яе, за выключэньнем выпадкаў, прадугледжаных законам". Апошнюю агаворку літаральна вырвала ў пэрсыдзкіх констытуцыяналістых Расія.

Першы мэджыліс азлобіў проці сябе колы рэакцыйнага дваранства, якія былі не здаволены стратаю права зьбіраць дзім і скасаваньнем інстытуту „тюиляй" (фэўдальных пажалаваньняў); не здаволены былі мэджылісам і чыноўнікі (буйныя, зразумела) разам з прыдворнаю клікай. У цэнтры антымэджыліскага руху становіцца Мэмэд-шах, і з сьнежня 1907 году да яго пачынаюць зьяжджацца адусюль роялістыя для барацьбы за свае „попраныя правы". Контр-рэволюцыя падымае галаву: шах провоцыруе выступленьне шасьцітысячнага атраду, які захоплівае курдзкі цэнтр Соудж-Булак; брат шаха Салар-уд-Доуле падымае паўстаньне ў Хамадане; туркмэны пачынаюць нападаць на Хорасан—робяць гэта таксама заахвочваемыя шахам. Але ня дрэмлюць і рэволюцыйныя сілы: адбываецца шэраг палітычных забойстваў, між іншым, у Тэгеране забіты ненавідны „временщик" Атабег-і-Азама; арганізуецца тайны „камітэт помсты" пад кіраўніцтвам рэволюцыянэра Гайдархана (Рэджэба Бомбі[1]).

Актыўную дапамогу Мэмэду, па зусім зразумелых прычынах, далі Расія і Англія, і ў гэтай-то дапамозе і крыецца прычына жывучасьці антыконстытуцыйнага руху. Ужо ў сьнежні 1907 году шах, які толькі што чацьверты раз даў прысягу констытуцыі, абапіраючыся на „дзяржаўабароньніц", дае загад арыштаваць і закаваць у ланцугі дэмократычнага прэм'ера Назіра-уль-Мулька, але скора вымушан яго вызваліць. З-за гэтага першага coup d'etat Мэмэд чуць-чуць ня страціў свае кароны,—з Таўрызу і Мешхэду, як толькі распаўсюдзіліся чуткі аб пераваросце, які мае адбыцца, рушыліся партызанскія атрады муджэхідаў, г. ё. „барацьбітоў за сьвятую (рэволюцыйную) вайну", і шах быў-бы скінуты, калі-б у справу не ўмяшалася Англія: дзякуючы ёй арганізаваўся ў Тэгеране часовы „камітэт прымірэньня" паміж шахам і мэджылісам.

Вясною 1908 году шах робіць зноў вылазку супроць констытуцыі: ён перадае ўладу у Тэгеране ў рукі расійскага авантурніка—палкоўніка Ляхава, і апошні разганяе муджэхідаў, абстрэльвае з гармат мэджыліс (23 ліпня 1908 г.), некаторых небясьпечных дэпутатаў вешае (Мірзу Джэхангіра і яшчэ 7 чалавек). З гэтага моманту распачынаецца ў Пэрсіі

[1]) Гэты выдатны пэрсыдзкі рэволюцыянэр загінуў у Гіляне ў 1921 г.

грамадзянская вайна. Рэвалюцыйнымі цэнтрамі супраціўленьня зьяўляюцца Азэрбэйджан, Гілян і Бахтыярыя.

Умовы невялічкага часопіснага артыкулу прымушаюць нас застанавіцца на гэтай героічнай барацьбе вельмі сьцісла.

У Азэрбэйджане рухам кіруе Таўрыз. Два маладыя афіцэры—Сартар-хан і Багір-хан, пры дапамозе закаўкаскіх рэвалюцыянэраў-фідаяў (г. ё. ахвяруючых сабою), абвяшчаюць шаха скінутым, выганяюць з Таўрызу ўсіх рэакцыянэраў і організуюць абарону гораду. Горад вытрымлівае дзевяцімесячную асаду з боку падкупленага расійцамі павадыра разбойнічых атрадаў Рахім-хана, а потым—шахскага войска. Толькі 19 красавіка 1910 г., як быццам-бы для абароны расійскіх падданых, яго займае расійскае войска.

Рэвалюцыйным цэнтрам Гіляна быў горад Рэшт, які быў абвешчан „вольным горадам". Тут была галоўная база фідаяў.

Што датычыцца горцаў-бахтыяр, то яны выступілі супроць шаха дзякуючы не рэвалюцыйным пераконаньням, а інструктуемыя Англіяй, якая спалохалася ўзмацненьня ўплыву Расіі ў Тэгеране. Сілы былі амаль што роўныя—у шаха 5.000 чалавек з казачай брыгады Ляхава, у павадыра бахтыяр—Хаджы-Алі-Кулі-Хана (Сердара Асада)—2.000 бахтыяр і 1.500 рэшцян.

У чэрвені 1909 г. пачаўся паход насельнікаў паўночнай і паўднёвай часткі Пэрсіі на Тэгеран. Ня гледзячы на тое, што Расія рабіла актыўную дапамогу шаху—расійцы нават высадзілі 3-х тысячны дэсант у Энзелі—рэвалюцыйнае войска фідаяў, пад кіраўніцтвам Ефрэма, перамагло, і 16 жніўня 1909 г. шах прымушаны быў уцякаць з Тэгерану.

І ўсё такі рэвалюцыйны рух быў пераможан, і 1910—1914 г. г. найбольш пахмурыя ў навейшай гісторыі Пэрсіі. Прычын гэтаму дзьве: і ўнутраная слабасьць руху, і няпрыпыняўшыся націск на Пэрсію з боку Расіі і Англіі.

Мы ўжо паказвалі вышэй, што ніколі рух не захопліваў усю краіну, а концэнтраваўся пераважна ў некалькіх провінцыях. Дваранства і вышэйшае духавенства першымі з лягеру паўстаўшых перашлі ў лягер рэакцыі, таксама як у хуткім часе і буржуазія, якая спалохалася радыкалізму фідаяў. У краіне настаў хаос, штучна падтрымліваемы Расіяй і Англіяй. Часта зьмяняюцца габінэты, краіну задушвае аграмадная пэнсія экс-шаха, якую ангельцы прымушаюць мэджыліс плаціць яму,—словам, краіна ўвесь гэты час літаральна на краю пагібелі. Калі яе не анэксіруюць расійцы і ангельцы, то толькі таму, што кожны з гэтых драпежнікаў баіцца ўзмацненьня свайго супраціўніка. Адзіны прамень у гэтыя пахмурыя гады—карысная і самаахвярная дзейнасьць амэрыканскага грашовага дарадчыка Шустэра (май 1911 г.). Але лоўкія інтрыгі расійцаў і ангельцаў прымушаюць яго пакінуць Пэрсію, і краіна зноў пападае пад той самы ўціск.

## V

Вайна 1914—1918 г. г. дзякуючы таму, што на тэрыторыі Пэрсіі хоць яна афіцыяльна захоўвала нэўтралітэт, адбываліся ваенныя падзеі, ускладніла і зрабіла больш цяжкім разьвіцьцё нацыянальна-вызваленчага руху.

Новы магутны пад'ём руху быў выклікан Кастрычнікавай рэвалюцыяй у Расіі, выхадам апошняе з сусьветнае вайны, окупацыяй Пэрсіі ангельскім войскам [1]) і здрадай кіруючай клясы—фэўдалаў. За гэты час —з моманту выгнаньня Мэмэд-шаха і да провокацыйнага „перавароту" Сэід-Зія-эд-Дзіна 21 лютага 1921 г.—зьмянілася 20 урадаў: усе яны ня мелі сілы фэўдальна-конституцыйнымі мэтодамі вывесьці краіну з разбурэньня. Ня меў сілы зрабіць гэта і ўрад Сэід-Зія—„стаўленіка Англіі", які, абвясьціўшы шырокія рэформы, не хацеў праводзіць іх у жыцьцё.

Што-ж было прычынаю таго, што ўвесь гэты час улада была ў руках фэўдалаў? Тое, што рэакцыйна фэўдальныя колы пастаянна знаходзілі дапамогу ў царскай Расіі і Англіі, а потым у ваднэй толькі Англіі. Супроць гэтае фэўдальнае рэакцыі мог змагацца толькі такі рух, які-б абапіраўся на нацыянальныя ўзброеныя сілы і здаровы дзяржаўны бюджэт, незалежны ад чужаземных дзяржаў. Аздараўленьне Пэрсіі магло быць пры дапамозе вайсковай дыктатуры, якая абапіралася-б на прогрэсыўныя колы пэрсыдзкага грамадзтва, нацыянальную армію і здаровую грашовую сыстэму; і ўласна па гэтым шляху павёў рух новы правадыр яго Рэза-Хан.

Сваю кар'еру Рэза-хан пачаў простым салдатам у шэрагах пэрсыдзкай казачай брыгады і ў часе перавароту 21 лютага камандаваў палком. Пасьля перавароту ён назначан быў камандуючым казачай брыгадай, і гэта акалічнасьць стала паваротнаю ў гісторыі нацыянальнага адраджэньня Пэрсіі.

Зараз жа Рэза-хан выкідвае з казачай дывізіі ангельскіх інструктароў і наогул ставіць сваёй мэтай рэорганізаваць узброеныя сілы Пэрсіі. Англія робіць спробу адхіліць няпрыемнага афіцэра і дае адпаведныя інструкцыі свайму стаўленіку прэм'еру Сэіду-Зія-эд-Дзіну. Але ў Рэза-хана ўжо маецца многа прыхільнікаў сярод нацыяналістычна-настроенага, вышаўшага з народных гушчаў, афіцэрства, яго любяць салдаты,—і вынікам першае сутычкі Рэза-хана з прэм'ерам было тое, што першы становіцца вайсковым міністрам і галоўнакамандуючым усімі ваеннымі сіламі краіны, а Сэід-Зія прымушан кінуць пасаду... Новая пара, новыя песьні: ня тая ўжо Турцыя, не імпэратарская, а народная, ня тая і Расія—кабальны дагавор 1919 г. скасованы Савецкім урадам, і становішча Англіі ў Пэрсіі „пікавае",—у пэрсыдзкага нацыянальна-вызваленчага руху забясьпечаны тыл.

[1]) Ангельская окупацыя Пэрсіі цягнулася з 1918 па 1920 год.

Перамогшы Сэіда-Зія-эд-Дзіна, Рэза-хан разьвінае рэформіцкую дзейнасьць. Пачынае ён з арміі. Выгнаўшы ангельскіх інструктароў з казачае дывізіі, Рэза-хан робіць тое самае і ў цэнтральнай брыгадзе і зьлівае яе з казачай дывізіяй. Далей ён распушчае ў верасьні 1921 г. паўднёва-пэрсыдзкіх стралкоў, корпусы Харасанскі і Сэістанскі, жандарскі корпус з-пад ведама міністэрства ўнутраных спраў пераводзіць пад сваю каманду. Так ліквідаваў Рэза-хан пляны ангельцаў замацаваць за сабою Пэрсію шляхам арганізацый уласных узброеных сіл.

Але ўсё такі ў ангельцаў заставаліся яшчэ такія пункты, дзе яны панавалі без абмежаваньня: Бендзер-Бушыр з гарнізонам у 900 чалавек, Лінге—у 125 чал., Бендзер-Аббас—у 200 чал., Чабхар—у 150 чал. Пад уладаю ангельцаў была і провінцыя Арабістан, дзе знаходзіліся ангельскія прамысловасьці Паўднёвай Нарты. Апрача таго, Белуджыстан, Лурыстан і Бахтыярыя існавалі самастойна яшчэ з часоў Наср-эд-Дзін-шаха.

Усе гэтыя асобныя часткі трэба было аб'яднаць, выгнаць ангельцаў канчаткова; а для гэтага мала было тых узброеных сіл, якімі кіраваў Рэза-хан. Трэба было стварыць магутную нацыянальную цэнтралізаваную армію, не такую дэзарганізаваную і стракатую, якою армія была ўперад. І Рэза-хан энэргічна бярэцца за гэту справу.

Касуецца даўнейшы спэцыфічны воінскі падзел на казакаў, жандараў, сарбазаў (апошнія набіраліся згодна сярэднявяковаму фэўдальнаму закону „Бонічэ"), і ўзброеныя сілы маюць адну назву—„кошун" (войска). Краіна падзяляецца на шэсьць ваенных акруг—паўночна-заходнюю (Таўрыз), паўночную (Рэшт), усходнюю (Мэшхэд), заходнюю (Хамадан), цэнтральную (Тэгеран) і паўднёвую (Ісфаган),—і ў кожнай з іх эмісары Рэза-хана арганізуюць па армейскім корпусе. Замест закону „Бонічэ" ўводзіцца агульная вайсковая павіннасьць.

Сам Рэза хан зрокся констытуцыйных „забабон" і пры кожнай зьмене габінэту (а іх было шмат) ён не пакідае пасады і заўсёды ўваходзіць у кожны новы габінэт у якасьці вайсковага міністра і галоўнакамандуючага арміямі. Ня вельмі лічыцца Рэза-хан і з грамадзянскаю ўладаю, калі яе пастановы йдуць наперакор яго плянам і нярэдка замяньвае яе сваімі губарнатарамі. Ня спыняецца Рэза-хан перад самаўпраўным захопам сродкаў дзеля таго, каб правесьці ў жыцьцё свае вайсковыя рэформы: у пачатку 1922 г. ён узяў пад свой нагляд кіраўніцтва ўкоснымі падаткамі.

Як-жа рэагуюць ангельцы на дзейнасьць Рэза-хана?

Спачатку яны спрабуюць націснуць на тэгеранскі ўрад, каб ён абмежаваў лічбу нацыянальнае арміі 30.000-мі абяцаючы за гэта пазыку. А калі гэта спроба скончылася няўдачаю, то яны стараюцца падняць паўстаньні на акраінах проці цэнтру. Увесь 1921 і 1922 г. г. адбываюцца такія паўстаньні: Кербалай-Ібрагіма і Сэід Джэлала ў Гіляне, Мамэд-Тагіхана ў Харасане, Сьмітко ў Курдзістане, паўднёвых пляменьняў лураў і бах-

тыяр. Але разьлікі фэўдальна-ангельскага блёку ня спраўдзіліся: к 1923 г. ўсе гэтыя паўстаньні былі прыдушаны Рэза-ханам, і, апрача таго, яго арміяй была праароблена тытанічная работа ў справе разбраеньня і замірэньня разбойніцкіх пляменьняў [1]). Вось малюнак патрабаваньняў, якія прад'явіў Рэза-хан шахсевенам: „пагалоўнае разбраеньне, здача нявыплачаных падаткаў, задавальненьне ўсіх прэтэнзій насельніцтва, якое панесла страту ад іх нападаў, і зварот дзяржаўных зямель, захопленых у розныя часы асобнымі абшарнікамі (*Иранский, „Пути нац. освободительного движения в Персии*"). І ажыцьцяўляюцца гэтыя патрабаваньні надзвычайна рашуча: так, 11 красавіка 1923 г. ў горадзе Ардэбіле быў павешаны Гусэйн-Алі-хан-Талыскі, які спадзяваўся захаваць жыцьцё паказаньнем на тое, што ён „усё жыцьцё змагаўся з бальшавікамі", 27 красавіка там-жа быў павешан Эмір-Ашаір-Халькальскі, у лістападзе павешана яшчэ 12 халькальскіх ханаў.

Якое-ж значэньне мела гэта дзейнасьць Рэза-хана? Зразумела, вялізарнае. Гэта ня рэформы зьверху, а адбудаваньне новае Пэрсіі рукамі прыгнятаўшыхся мас. Вось нязначны выпадак, характэрны для гэтага моманту. Якісьці ваданос, служачы неякага хана Шызрота, панёс па загаду гаспадара цялесную кару. Гэта—рэч звычайная ў Пэрсіі, але камісія Рэза-хана арыштоўвае Шызрота і накладае на яго штраф. Такіх выпадкаў у дзейнасьці Рэза-хана шмат, і затым зусім зразумелы той аўтарытэт і дапамога, якімі карыстаецца Рэза-хан з боку сялянства і сярэдніх колаў насельніцтва краіны.

Рэза-хан рэформатар ня толькі ў галіне вайсковай. Ён наогул разбурвае стары фэўдальны парадак. У „захопленых" раёнах, дзе адміністрацыйныя пасады ўперад былі спадчынным прывілеем мясцовых ханаў, Рэзахан вызначае кіраўнікоў з „сваіх людзей". Гэта горача віталася падданымі „сэрдараў" (фэўдальных магнатаў), хоць і выклікала нездавальненьне ханаў.

Вялікім крокам наперад у справе аб'яднаньня Пэрсіі было, паміж іншым, разбурэньне Рэза-ханам Буджыурскага ханства, форпосту ангельцаў у Сярэдняй Азіі.

Фэўдальна жыцьцёвы ўклад зьменьваўся паступова ў Пэрсыі нормальна-буржуазным, што рабіла ўплыў на агульнае ажыўленьне краю, разьвіцьцё яго вытворчых сіл. Так іменна тады, у 1923 г. ўтвараюцца два пэрсыдзкія акцыянэрных таварыствы—„Шэркет Электрык" з капіталам у 50.000 туманаў для электрыфікацыі Керманшаха і „Колібафі" з капіталам у 10.000 туманаў для вырабу дываноў.

Ідзе дарожнае будаўніцтва ў сувязі з разьвіцьцём капіталізму: пачынаецца папраўка дарогі Маку-хой, дарогі на Ардэбіль, у Ардэбілі пракладаюцца маставыя—прогрэс для Пэрсіі сапраўды вялізарны.

---

[1]) Вышэй ўжо ўказвалася аб ролі гэтых пляменьняў, як аднаго з фактараў нездавальненьня шахскім урадам.

Народная асьвета таксама зьвяртае на сябе ўвагу Рэза-хана: між іншым адчыняецца ў Маку „Школа Арміі" і г. д.

Так, поруч з грамадзянскім апаратам, утвараецца вайскова-адміністрацыйны, гаспадарчы і судовы апарат Рэза-хана, які абапіраецца на купцоў, рамесьнікаў і сялянства і які ненавідзяць фэўдалы. Рэза-хан разумее ўсю небясьпеку такога становішча і энэргічна імкнецца да таго, каб V-ы мэджыліс быў пакорным яму парлямантам. Але перад усім Рэза-хан замірае непакорны поўдзень: дзе хітрасьцю і політыкай уступак (Арабістан, Бахтыярыя), а дзе сілай (Лурыстан) гэты энэргічны чалавек выконвае вызначаную мэту: 24 сьнежня 1923 г. публікуецца афіцыяльнае паведамленьне ўраду, што ўзяты Хорэм Абада, галоўны горад Лурыстану і, такім чынам, да Пэрсыі далучаны Белуджыстан і Лурыстан.

Цяпер, калі край аб'яднаны, Рэза-хану заставалася стаць на чале ўраду і ўзяць лёс выбараў у V-ы мэджыліс у свае рукі. Гэта зрабіць яму было няцяжка, абапіраючыся на сваю вайсковую сілу. І ён сапраўды дабіваецца таго, што шах згаджаецца зараз-жа выехаць за межы Пэрсіі як быццам з прычыны хваробы (Рэза-хан абяцаў яму за гэта рэгулярна аплачваць яго цывільны ліст), а сам па загаду шаха ад 29 сьнежня 1923 г. займае пасаду прэм'ера.

Пасаду прэм'ера Рэза-хан выкарыстоўвае для загатоўкі шэрагу законапроектаў і ўплыву на выбарную кампанію ў тым сэнсе, каб V-ы мэджыліс быў для яго „сваім".

Вось скарочаны пералік законапроектаў Рэза-Хана [1]):

„Складзены законапроект крымінальнага кодэксу; распрацованы праекты ўвядзеньня ў Пэрсіі агульнае вайсковае павіннасьці і гандлёвага кодэксу; пададзен на зацьвярджэньне ў Савет Міністраў проект утварэньня галоўнага Статыстычнага Дэпартаманту; зацьверджаны Саветам Міністраў закон аб даўнасьці ўладаньня; проект чыгуначнага будаўніцтва ў Пэрсіі; проект абавязковых экзаменаў для судовых чыноўнікаў; проект, згодна каторага абшарнікі страчваюць права бясконтрольна сысквацць падаткі з сялян і прапануецца ім заплаціць усе незаплачаныя імі за апошнія 11 год падаткі, якія лічацца за імі; проект скасаваньня крывавай помсты".

11 лютага 1924 году адчыніўся V-ы мэджыліс. Ён павінен быў зацьвердзіць законапроекты Рэза-хана, павінен быў таксама санкцыянаваць яго ўладу. Адбілася адсутнасьць партыі, на якую абапіраўся-б Рэза-хан: склад мэджылісу быў нявыяўлены—з 113 дэпутатаў дзьве групы бязумоўна „рэзісцкія" („Тэджэдотт" на чале з Тэдайенам) і група Сулеймана-мірзы агульнаю лічбаю ў 29 чалавек; варожая Рэза-хану група мела сваім правадыром Лекдэррэса і складалася з 22 чалавек, а рэшта складаліся з „балота" (людзей бяз сталай орыентацыі). І ўсё-ж такі іменна ў гэтым

[1]) Иранский—«Пути нац.-освоб. движения в Персии».

мэджылісе зараджаецца думка абвясьціць Пэрсію рэспублікай, праўда вельмі асьцярожна падтрымліваемая Рэза-ханам: далёказрочны рэформатар разумее, што акт абвяшчэньня рэспублікі можа выклікаць інтэрвэнцыю і іншыя няшчасьці для Пэрсіі. Вось што ён піша 31 сакавіка 1924 г. ў сваёй дэклярацыі: „Трэба думаць цяпер, галоўным чынам, не аб рэспубліцы, а аб тым, каб адхіліць перашкоды са шляху рэформаў і прогрэсу дзяржавы, дапамагчы мне ў сьвятой мэце замацаваньня асноў веры, незалежнасьці дзяржавы і нацыянальнае ўлады". І сапраўды, даведаўшыся, што ў Пэрсіі рыхтуюцца абвясьціць рэспубліку, Англія за прызнаньне, яе запатрабавала:

1) прызнаньня Пэрсіяй доўгу ў суме 21 міл. туманаў;

2) перадача Англіі концэсіі на Урлійскае возера;

3) працягу концэсіі на ангельскі банк у Пэрсіі.

Адначасна Англія, непакоячыся за свае нафтавыя концэсіі ў Хузістане (Арабістан), провоцыруе паўстаньне шэйха Хэзаля супроць ураду Рэза-хана. 13 верасьня 1924 г. шэйх Мохам-мэры Хэзаль ад імя рэакцыйнай паўстанцкай організацыі „Кіям-е-Саадэт" зьвяртаецца з тэлеграмаю „да ўсіх паслоў і дэпутатаў мэджылісу", у якой Рэза-хан абвяшчаецца гвалтаўніком і злодзеем і гаворыцца аб пастанове організацыі весьці барацьбу да астатняе каплі крыві за зрынуцьце прэм'ера, устанаўленьне старых парадкаў у краіне і „зварот выгнанага гэтым гвалтаўніком і узурпатарам у Эўропу нашага ўлюбёнага яго вялічаства шаха".

Але Англія ў гэтай гульні ў карты прайграла: 29 верасьня мэджыліс выказаўся проці Хэзаля, а ў першых ліках кастрычніка Рэза-хан, маючы забясьпечаны тыл СССР і абапіраючыся на народ, армію, мэджыліс, пачынае барацьбу проці Хэзаля. У выніку—слаўная перамога Рэза-хана над Хэзалем (адно, што маглі вытаргаваць ангельцы—гэта жыцьцё паўстаўшаму шэйху) і, што яшчэ важней—далучэньне Хузістану да ўсяе Пэрсіі.

У Тэгеран Рэза-хан вярнуўся трыумфатарам. Досьледамі была даведзена сувязь шаха з Англіяй і Хэзалем. Мэджыліс не адважыўся нізрынуць шаха, але адхіліў апошняга ад вярхоўнага камандваньня арміяй і перадаў каманду пэрсональна Рэза-хану. Так была адабрана ў шаха прэрогатыва ўлады, якую ён меў паводле пункту 50-га пэрсыдзкае конституцыі, і з 14 лютага 1925 году Рэза-хан пачаў кіраваць лёсам Пэрсіі.

Восень гэтага году—рашучы момант нацыянальна-вызваленчага руху ў Пэрсіі: скінута і, відаць, канчаткова монархія. Рэза-хан прапануе мэджылісу прыняць пастанову аб зрынуцьці Ахмеда-Каджана з шахскага трону і перадаць яму, Рэза-хану, усе поўнамоцтвы ўлады ў краіне да скліканьня ўстаноўчага сойму, і мэджыліс выконвае волю дыктатара.

Чаму-ж так робіць мэджыліс, які на 80% складаецца з буйных абшарнікаў і духавенства? Ён-жа гэтаю пастановаю, якая рашуча разбурае фэўдалізм у Пэрсіі, як-бы сам сябе б'е?

Тлумачэньне тут вельмі простае: самадзяржаўны рэжым Каджараў (Абдул—апошні прадстаўнік Каджарскае дынастыі) так сябе скомпромэтаваў перад шырокімі народнымі масамі, што мэджылісу нічога іншага (як у лютаўскія дні 1917 г. расійскай дзяржаўнай думе) не заставалася, як падтрымаць Рэза-хана Злыя языкі кажуць, што падтрыманьне мэджылісу Рэза-хан купіў абяцанкаю захаваць монархію ў Пэрсіі і сваёю асобаю ўтварыць новую шахскую дынастыю ў краіне. Мы не бяромся адмаўляць гэта катэгорычна, але больш пэўна, што гэта ня так. Рэза-хан надта разумны чалавек і вельмі аддаsuccessionлены справе нацыянальна-вызваленчага руху ў краіне, каб пайсьці на падобную авантуру. Растучая сьвядомасьць мас скінула ў Пэрсіі не рэжым Каджараў, а фэўдальны рэжым наогул, і Рэза-хану зразумела, што, калі ён у ролі шаха спрабуе гальванізаваць труп фэўдальнае монархіі, яму самому прыдзецца разьдзяліць лёс Абдула Каджара. Адно ясна—мэджыліс падтрымаў Рэза-хана, маючы, мабыць, надзею, што ён прыручыць яго.

У даны момант, напярэдадні скліканьня ўстаноўчага сойму, у Пэрсіі змагаюцца паміж сабою дзьве сілы—фэўдалы ў саюзе з чужаземцамі (пераважна з ангельцамі), якія імкнуцца адрадзіць монархію, з аднаго боку, і надта шырокія масы насяленьня—сялянства, рабочыя, рамесьнікі, духавенства, гандлёвая буржуазія—з другога. Для апошніх пільна патрэбны тыя рэформы, якія рашуча ўводзіў і ўводзіць Рэза-хан: свая армія, свая прамысловасьць, свой гандаль, разрыў кабальных дагавораў з Англіяй, разбурэньне фэўдальных прывілеяў. Расьце ўласны пэрсыдзкі капіталізм—на базе гэтага ўзросту ўласна і разьвіваецца нацыянальна-вызваленчы рух у краіне. І Рэза-хан на чале гэтага руху—гэта відно і з яго апошніх мерапрыемстваў. Хоць-бы ўзяць нядаўнія весткі з Пэрсіі аб тым, што організаваны залаты фонд у краіне (да гэтага часу Пэрсія моцна адчувала срэбраны мономэталізм), што распачата плянавае чыгуначнае будаўніцтва і г. д.

Ясна—Пэрсія далучылася да таго вялікага прогрэсу прабуджэньня Ўсходу, які йдзе цяпер і ў Турцыі, і ў Індыі, і ў Кітаі. Няхай шыпіць жоўтая прэса, што „Савецкія агенты“ быццам інсцэніравалі пэрсыдзкую рэволюцыю. Ніхто гэтаму сур'ёзна ня верыць.

І, з другога боку, пэрсыдзкі народ ужо вельмі добра зразумеў, сябра яму ці вораг СССР. Гэта відно з таго выключна прыветлівага прыёму, якім там карыстаюцца нашыя паслы[1]).

Пэрсія скінула з сябе путы фэўдальнай монархіі, Пэрсія рашуча разрывае ланцугі кабальных дагавораў, якія надзела на яе Ангія, рашуча йдзе да поўнага экономічнага і нацыянальнага самавызначэньня—дасягнуўшы гэтага, Пэрсія на гэтым этапе ня спыніцца, а павядзе барацьбу і далей, за яшчэ больш высокія ідэалы.

1) Характэрны факт. Нядаўна наш пасол пастановаю ўраду Рэза-хана ўзвышаны ў рангу.

## ЗНОЎ „ЗАПАДНАЯ РОССИЯ“

**Аляксандар Цьвікевіч**

Не вязе Беларусі на гістарычныя досьледы! Ужо з першых крокаў, што рабіла гістарычная навука ў стасунку да Беларусі, усе скардзіліся, што нашае мінулае дасьледавана і ня добра, і ня поўна. М. О. Каяловіч, выдаўшы свае „Лекции по истории Западной России“ ў 1884 годзе, жаліўся, што „як дваццаць год таму назад, калі я ўпяршыню чытаў свае лекцыі, так і цяпер паўстае „вопиющая нужда“ ведаць Заходнюю Расію“. Жаліўся на гэта акрэсьлена і Раманаў і ўсе іншыя этнографы і дасьледчыкі, жаліўся на гэта М. К. Любаўскі ў 1915 годзе, пісаўшы ў другім выданьні сваіх „Очерков по истории литовско-русского государства“, што „Літва і Заходняя Русь усё яшчэ застаюцца terra incognita ня толькі для шырокай публікі, але і для вучонага сьвету, за выключэньнем некалькіх спэцыялістых“. І вось, урэшце, жаліцца на тое самае ўжо ў 1924 годзе І. І. Лаппо, кажучы, што „веды расійскага грамадзянства аб Заходняй Расіі далёка не акрэсьленыя“.

Разам з гэтымі фарысейскімі жальбамі, у расійскай гістарычнай навуцы ў стасунку да Беларусі, з першага дня і да дзён апошніх цьвёрда праводзіцца прынцып „Западной России, как исконно русской земли“. Гэты факт, як ня трэба лепш, даводзіць нам, наколькі кожная гісторыяграфічная навука патрыотычна, і наколькі par excellence патрыотычны расійскія гісторыкі ў стасунку да Беларусі. Усе яны ідуць сьцежкамі Шлецэра, што хацеў выслужыцца прад Кацярынай II і абяцаўся напісаць расійскую гісторыю ня толькі згодна з гістарычным прогматызмам, але і згодна з інтарэсамі „яе вялічаства“.

Праўда, ні для Каяловіча, ні для Любаўскага, ні, урэшце, для Лаппо няма гэткай паваблівай мэты. Але, замест „яе вялічаства імпэратрыцы“ у іх ёсьць „яе вялічаства расійская дзяржава і яе інтарэсы“. Усе яны, як казаў Каяловіч, імкнуліся да таго, каб нашую краіну расійскае грамадзянства „ведала паруску“. А Любаўскі,—дык той яшчэ лепш пасьведчыў у прадмове да сваіх „Очерков“ „прысьпеў час ужо, каб Заходнюю Расію *аб'яднаць у навуковой сьвядомасьці з Расіяй таксама, як яна ўжо аб'яднана політычна*“ (курсіў мой—А. Ц.) Вось яны—„вучоныя патрыоты“!

І. І. Лаппо,—вядомы дасьледчык літоўска-рускага гаспадарства,— у сваёй працы, што вышла надовячы ў Празе, пад загалоўкам „Запад-

ная Россия и ее соединение с Польшей“ [1]), ужо аднэй назвай сваёй кнігі сьведчыць, што для яго ня існуе „духа времени“. Свой досьлед ён па прыкладзе Шлецэра робіць з тае прычыны, што „веды аб тым, што ўяўляюць сабой заходня-рускія землі *патрэбны для Расіі*, для народу рускага, *для організацыі яго дзяржавы і спакойнага, цэласнага разьвіцьця яго*, пасьля тых „потрясений“ якія ён перажывае.

Зьяўленьне кнігі Лаппо ўжо аднэй сваёй упартасьцю варта таго, каб спыніць на ёй увагу. Складаецца яна з дзьвёх частак: першай,— лікам 85 стар., у якой аўтар імкнецца „прасачыць галоўныя этапы паступовага вывучэньня таго краю, які атрымаў імя Заходняй Рассіі“,— і другой, больш значнай,—дзе ён хоча пазнаёміць чытача са ўсімі навуковымі вынікамі тых гістарычных досьледаў, якія былі зроблены ў расійскай і польскай літаратуры ў стасунку да мінулага гэтага краю.

У другой частцы І. І. Лаппо, як спэцыялісты, чуе сябе больш пэўна, чымся ў першай, дзе яму прыходзіцца опэраваць з матэрыялам ня стольकі гістарычным, колькі публіцыстычным. У гэтай другой частцы ён выкладае сьцісла гісторыю ўзьнікненьня літоўска-беларускага княства, яго „русскай“ (праз два *с*) культуры, яго ўнутрынацыянальных адносін ад першых часоў да вуній з Польшчай, урэшце,—падрабязна і абаснована,— гісторыю яднаньня літ.-бел. княства з Польшчай у люблінскай умове 1569 году. Заданьнем аўтара ёсьць давесьці, што сувязь літ.-бел. гаспадарства з Польшчай ні ў якім выпадку ня была „слиянием“ дзьвёх дзяржаў у вадну, як гэта проклямавалі самі творцы Люблінскае вуніі, але што гэта быў дзяржаўны саюз дзьвёх самастойных гаспадарстваў. Заданьне гэтае, як вядома, ня новае. Ім займаліся здаўна як расійскія, гэтак і польскія гісторыкі, і юрыстыя. Спрэчка йшла ў тым кірунку, што польскія вучоныя даводзілі поўную зьлітасьць літ.-беларускага гаспадарства з Польшчай, у якой зьлітасьці Літва і Беларусь ня толькі страцілі свой дзяржаўны сувэрэнітэт, але пазбыліся сваіх гаспадарчых і культурна-бытавых адзнак. Расійская-ж старана, наадварот, даводзіла, што, ня гледзячы на люблінскі акт, Літва-Русь захаваліся як дзяржаўная адзінка, як асобнае цэлае, што гэта быў толькі саюз дзьвёх роўных сіл супроць Масквы і немцаў і што дзеля гэтага ўся далейшая гісторыя Рэчы Посполітай ёсьць сужывецтва, часта штучнае, дзьвёх розных юрыдычна, экономічна і нацыянальна-культурна традыцый і сыстэм. Польскія дасьледчыкі пры гэтым сьпіраліся, галоўным чынам, на самы акт Люблінскай вуніі і на польскія хронікі XVI стагодзьдзя аб Люблінскім сойме, а расійскія—на юрыдычную кваліфікацыю далейшых дзяржаўных распарадкаў і факты жыцьця.

З польскага боку гэтым пытаньнем займаліся спэцыяльна проф. Кутржэба, Галецкі, Бальцэр і інш., а з расійскага боку Доўнар-

[1]) І. І. Лаппо—„Западная Россия и ея соединение с Польшей в их историческом прошлом“, 225 стр. изд. „Пламя“, Прага, 1924 г.

Запольскі, Леонтовіч, Любаўскі, Пічэта і—з праўна-дзяржаўнага пункту гледжаньня—бар. Нольдэ.

У сваёй працы І. І. Лаппо дае цэлы шэраг вельмі цікавых аргумэнтаў і новых матэрыялаў, што да гэтай справы. Так, прыкл., вельмі цікавы ссылкі аўтара на практыку соймаў *пасьля* вуніі, на іх акты, перапіску і дзеньнікі ня тых соймаў, што зьбіраліся на Літве Русі прад „вальнымі“ ці „каронным і“ і мелі мэтай падрыхтоўку матэрыялаў для апошніх,—а тых, што зьбіраліся самастойна і мелі сваё тэрытарыяльна-дзяржаўнае значэньне (як Волковыская рада 1577 і 1582 году, віленская рада 1584 г., і інш); цікавы ссылкі на абароны мытнай граніцы паміж княствам і „каронай“, а таксама начал „тубыльства“ (чужаземства жыхароў княства ў стасунку да Польшчы); аналіз адпаведных артыкулаў Статуту 1588 г., практыка Скарбовых Трыбуналаў і г. д. Цікавы цытаты з лістоў Міхаіла Агінскага, з часоў урадаваньня на Беларусі Адама Чартарыскага, у гэтых лістох Агінскі вельмі акрэсьлена падчырквае асобнасьць старой „Літвы“ ад Польшчы; паказаньні на погляды Міхаіла Бобржынскага, Анатолія Левіцкага і Сальвандзі.

Другім заданьнем аўтара ў тэй-жа частцы ёсьць давесьці асобнасьць нацыянальна-культурнай гісторыі літвінаў і беларусаў (па Лаппо расейцаў праз два *с*) за час іх сужывецтва з Польшчай. Што праўда,—тут І. Лаппо не дае нічога новага, паўтараючы вядомыя нам ужо весткі аб этнографічным, праўным і рэлігійным становішчы насяленьня Літоўска-Беларускага Княства, яго высокім культурным стане ў параўнаньні з Каронай, яго барацьбе за свае правы і сваё нацыянальнае „я“ і г. д.

Больш таго,—тут мы знаходзім літаральнае паўтарэньне традыцыйных характарыстык беларусаў, якімі поўна першая палова кніжкі Лаппо і якія гавораць аб беларусах, як „русских западной ветви“ і аб беларускай мове, як „западно-русском наречии“.

„Что представляет собой тот русский язык, которым говорило Великое Княжество Литовское“, пытаецца аўтар,—і адказвае: „само население называло его русским. Так же называла его и власть. Но этот язык неизбежно оказался несколько иным (!), чем тот, на котором говорила Русь Московская. Для него предполагалось несколько наименований, пока не установилось обозначение его белорусским для Русского Северо-Запада и малорусским для Русского Юго-Запада“ „Но еще долго“, падкрэсьлівае Лаппо, „предлагалось называть его просто русским“. Аўтар сьвядома ня робіць розьніцы паміж тагачаснай мовай „славянскай“ і жывой беларускай, хоць добра гэта ведае. Ен сьвядома абыходзіць пытаньне аб тэй вялікай розьніцы, якая існавала ў тыя часы паміж мовай Масквы і мовай Русі, аб тым, што ласьне ў тыя часы беларусы называлі мову літоўска-беларускага княства „рускай“, а мову маскоўскага княства—маскоўскай. Прыводзячы словы Льва Сапегі з прадмовы да трэцяга выданьня Статуту аб тым, што „жыхаром княства ўстыд ня ведаць

свайго права, на *уласнай мове* напісаннага";—Лаппо, не пакрывіўшыся, лічыць гэтыя словы „чистым русским языком", спакойна перапісваючы статутовыя словы „стан", „няхай" „лепшы", „уласны", „іншы" і гэтак бяз конца,—на „сословіе", „пусть", „лучший", „собственный" „иной" і г. д. Няма граніц „вучонай бесстароннасьці".

У артыкуле аб беларускіх старадруках І. Лаппо ні словам не ўспамінае аб постаці Францішка Скарыны і яго „паспалітай мове", аб розьніцы тагачаснай беларускай культуры ад маскоўскай і аб тых досьледах аб беларушчыне і маскоўшчыне ўдзедзіне слоўна-культурнай, якія пераведзены ў расійскай і польскай літаратуры і якія вельмі далёкі ад „патрыотычнага" падыходу пана Лаппы. Замест гэтага ён для абароны свайго „истинно русского" погляду адшуквае новы аўторытэт, польскага ксяндза-гісторыка, нейкага Францішка Сярчынскага, які яшчэ ў дваццатых гадох (!) XIX стаг. даводзіў, „што дарма вучоныя імкнуцца дзяліць адзіную расійскую мову на некалькі... у тым ліку на беларускую". „Як ніхто, зазначае ксёндз, ня дзеліць польскую мову на вялікапольскую, малапольскую, мазавецкую і інш , таксама нельга дзяліць расійскую мову на беларускую і маларускую". Калі да гэтай ксяндзоўскай апініі дадаць вызнаньне Лаппы, што „беларусы ўсё-ж такі маюць акрэсьлены этнографічны твар", што „белорусское наречие принимало участие в создании общего русского литературного языка, который в настоящее время является одним из самых богатых языков мира",—дык будзе ўсё, што „почтенный автор" удзяліў беларусам і беларушчыне на працягу ўсіх 225 старонак сваёй кнігі.

Прад намі ізноў „Западная Россия" са ўсімі яе прысмакамі і аздобамі. Калі-б ня было ні вайны, ні рэволюцыі і ў жыцьці, і ў навуцы, калі-б ня было гэткіх гістарычных зьявішчаў, як утварэньне нацыянальных рэспублік, замацаваньне ў аграмадным маштабе іх культуры ў форме тысяч школ, мільёнаў кніг, багатай нацыянальнай літаратуры, нацыянальнай навукі і тых народных мас, якія да канца прасякаюцца ідэяй свайго адраджэньня.

Прагледзеўшы першую частку кніжыцы, у якой аўтар выкладае ўсе папярэднія гістарычныя тэорыі аб „Западной России", мы бачым, што з асаблівым захапленьнем ён спыняецца на тых тэорыях, з якіх ніводная не ўспамінала аб асаблівасьцях гэтае „Западной России". Лаппо ў 1925 годзе—законны сын Іосіфа Семашко, М Мураўёва, М. О. Каяловіча, Устралава з яго „чатырма варункамі народнасьці", пазьней Салaневіча і tutti quanti. Для яго няма ні беларускага, ні украінскага пытаньня, аб якіх ужо каля стагодзьдзя йдзе гарачая спрэчка як расійскай, так і польскай і эўропэйскай літаратуры. Ён абыходзіць пры гэтым моўчкі і Кастамарава, і Кулішэра, і „Основу"; для яго Галіччына таксама „исконно-русский край", а галічане—„галицкие русские" (які энографічны ідыётызм,—быццам ёсьць „сибирския", ці „крымския" русския); нават

Прыкарпацкая Русь па яго тэрміналёгіі—„забытый уголок русской земли“. Для яго няма ні Шаўчэнкі, ні Франка, ні Драгаманіва, ні Антановіча. Зразумела, што ў яго кніжцы няма нават слова „Украіна“, за якую пралілося ўжо столькі крыві.

Ня існуе, зразумела, для яго і слова „Беларусь“. Ен абыходзіць моўчкі ўсіх тых расійскіх этнографаў, якія не гадзіліся з рэакцыйнымі апаніямі аб Беларусі і бачылі ў ёй „асаблівую краіну“, нават „з уласнымі географічнымі граніцамі“,—як казаў, прыкл. Бяссонаў,—а тым больш тых польскіх этнографаў і гісторыкаў, якія—horribile dictu!—цалкам процістаўлялі Беларусь Маскве. Цікава, ці чуў калі-небудзь пан Лаппо аб поглядзе на Беларусь гэткага выдатнага і глыбока-рускага чалавека, як Бакунін? Ня верыцца, каб яму ня былі вядомы бакунінскія лісты „ўсім славянскім братом“, у якіх лістох вялікі рэволюцыянэр поўнасьцю вызнае за Беларусьсю права на незалежнае нацыянальна-дзяржаўнае існаваньне.

Паўтараем, для Лаппо ня існуе нічога, апрача „Западной России“. Нават на такім дражлівым і складаным пытаньні, як пытаньне расійска-польскіх адносін, ён ня ідзе далей 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя, лічачы, што Самарын сказаў у гэтай справе апошняе слова.

Пры разглядзе артыкулу Самарына „Современный об'ем польского вопроса“, аўтар скромненька, але вельмі выразна, паказвае свой палітычны твар. Адмовіўшы Польшчы ў праве на беларускія і заходня-украінскія абшары, ён зазначае: „для Западной и Южной России в дальнейшем намечается вопрос о взаимных отношениях племен русских, т. е. восточных славян (великоруссов, малороссов и белоруссов) Но это уже *внутренний вопрос народа русского* (курсіў наш—А. Ц.), а не его и других народов“.

Іншымі словамі, Лаппо стаіць на тым, што беларусы і украінцы зьяўляюцца „гістарычнай спадчынай Расійскае Дзяржавы“—і ніхто ня мае права цікавіцца, як гэтая дзяржава акрэсьліць іх становішча. Чым не пэрыфраз славутага пушкінскага „мора, у якім павінны зьліцца ўсе славянскія рэкі“?.. Не дарма ад старонак „Западной России“ вее спэцыфічна лаппаўскім духам нават... вызнаньня Польшчы,—і было-б ня дзіва, калі-б у канцы кніжыцы мы прачыталі на гэтую тэму оду Хамякова (таксама вельмі блізкага сэрцу п. Лаппы):

И взор поэта вдохновенный
Уж видит новый век чудес...
До свода синяго небес
Орлы славянские летают,
Но мощную главу склоняют
Пред старшим северным орлом...

Ці ня гэты ідэал мігаціць прад „умственным взором“ паважанага профэсара?

Што да славянства, дык „прышый кабыле хвост“, а галоўней, канечна, дзеля паклону ў бок гасьцінных чэхаў, Лаппо расказвае нам і аб „славянском единстве и России, і аб славянскім зьезьдзе ў Маскве ў 1867 г., і аб іншых рэчах, якія калісьці міла зычэлі для вуха расійскага патрыота. але сёньня не заўсёды смачна зычаць для чэха. Не дарма чэхі, падтрымліваючы расійскіх зуброў, часам сьцерагуцца, каб іх госьці, дабраўшыся да ўлады, не абярнулі „забытый уголок земли русской“ разам з „златой Прагой“ у „Прыкарпацкую губэрню“.

Праца І. Лаппо шмат у чым зьяўляецца карыснай. У ёй мы знаходзім партатыўна вылажаны курс літоўска-беларускага княства і адносін яго да Польшчы. Карысна яна і тым, што ў канцы кніжкі прыложаны бібліографічны сьпіс патрэбнае літаратуры, даволі поўны, які дае магчымасьць чытачу орыентавацца ў адпаведным матэрыяле.

Але калі-б нас запыталі, чаго больш у гэтай працы—ці карысьці, ці шкоды,—дык мы без усялякага хістаньня сказалі-б: шкоды ад яе больш, чым карысьці. Для Беларусі і беларускага адраджэньня гэтая кніга безварункова шкодная. Асабліва новага важнага ў сэнсе навуковым яна не дае. Усё тое, што там ёсьць за малымі выключэньнямі, мы можам знайсьці ў больш поўных курсах літоўска-беларускага гаспадарства і ў спэцыяльных монографіях, хоць-бы таго-ж самага І. Лаппы.

Але, не даючы асабліва важнага для навукі, яна дае шмат што для політыкі. Ад гэтай кнігі аддае духам „Вестника Западной России“, што выдаваўся ў Вільні за часы мураўёўшчыны і крычаў на ўсю Расію аб патрэбе насыланьня на Беларусь вялікарускіх нянек і чыноўніцтва для „обрусения этого исконно-русского края“. Ад гэтае кнігі аддае духам сьвежай памяці Пабеданосцава і Сталыпіна, што насаджвалі на Беларусь сотні і тысячы царкоўна-прыходзкіх школ і загібалі ў баранаў рог ня толькі праявы беларускай нацыянальнай ідэі, але і праявы мясцовай ініцыятывы і краёвага патрыотызму. Ад гэтае кнігі вее такім чорнасоценным духам русіфікатарства, што бярэ і агіда, і злосьць: як у нашыя часы яшчэ знаходзяцца людзі, што з бруднымі лапамі лезуць на Беларусь. Асабліва агідна, што гэтыя людзі, узгадованыя паміж нашых родных сяліб, з выключнай актыўнасьцю даводзяць стары закон рэнэгацтва.

Аднак-жа факт ёсьць: лапы ў навуковых манжэтах працягваюцца і пры гэтым вельмі хціва. Што мы можам і павінны ім проціставіць? Першае, зразумела,—факты жыцьця: Савецкую Беларусь, як самастойнае гаспадарства, як дзяржаўную адзінку з беларускай культурай, беларускай школай, беларускім тэатрам і беларускай навукай. Але гэтага мала. Павінен быць органічны аргумэнт,—трэба біць ворага яго зброяю.

Зьяўленьне кнігі І. Лаппо ў Празе чэскай надзвычайна характэрна. Сучасная Прага ёсьць цэнтр расійскай эміграцыі ўсялякіх гатункаў—ад царскіх зуброў да прыхільнікаў Саветаў. Яна зьяўляецца цэнтрам навуковай і політычнай думкі старой расійскай профэсуры і ў гэтым сэнсе

імкнецца адыгрываць ролю бесстароннага арбітра і судзьдзі прад Эўропай у стасунку да ўсіх пытаньняў старой Расіі. Тут у Празе вядзецца ўпартая барацьба за вызнаньне раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй,—у тым ліку і беларусаў,—ня столькі прад чэскай навукай і грамадзянствам, але праз іх—прад грамадзянствам і навукай Нямеччыны. Францыі, Італіі і іншых краін. Ня дзіва, што расійская чорная сотня дакладае ўсіх высілкаў, каб пераканаць адсюль Эўропу, што ніякіх беларусаў няма, што гэта адзін толькі бальшавізм, выдумка Комінтэрну і іншых „ворагаў цывілізацыі“.

Беларускай навуцы нельга махаць на гэта рукой і абыходзіць гэтае зьявішча бяз увагі. Мы не павінны забывацца аб тым, што калі гэтыя рэчы мала абыходзяць Савецкую Беларусь, дык яны вельмі і вельмі абыходзяць Беларусь Заходнюю. Ня трэба забывацца, што кнігі кшталтам „Западной России“ І. Лаппо,—гэта на рэдкасьць карысная рэч для польскай улады, для барацьбы яе з беларускім рухам. Большага падарунку для п. п. Грабскіх і Обстаў, як гэтая кніжыца, трудна і прыдумаць. Дарма І. Лаппо імкнецца давесьці адсутнасьць у Польшчы праў на Беларусь, як на „истинно-русский край“. Аб гэтым яго ніхто слухаць ня будзе і пажаданых для яго вывадаў ня зробіць. Але вось той вывад, што ніякіх беларусаў няма, што іх выдумалі комуністыя, што беларускі рух небясьпечны для „цывілізацыі“, што для барацьбы з ім можна атрымаць грошы ў французаў,—вось гэтыя ўсе вывады як для ўнутранага, так і для замежнага ўжываньня польская навука і за ёй польская політыка зробяць адразу-ж. Аўторытэт І. Лаппы будзе для іх найлепшай падвалінай.

Паўтараю, кніга Лаппы для беларускага адраджэньня, асабліва Заходняй Беларусі,—выключна шкодная. І таму важна, каб на тым самым грунце, дзе яна мае і можа мець уплыў,—на грунце эўропэйскім, была нашая кніга і нашая літаратура, але толькі з другім зьместам і другімі лёзунгамі. У барацьбе за сваё жыцьцё Беларусі нельга пакідаць без адказу гэткія паважныя напады. Маючы прад сваімі вачыма тыя 400 гадоў, што прашлі бяз сьледу для нас з часу першае беларускае кнігі,—мы ня можам пазволіць сабе роскашы пакідаць бяз увагі пропаганду ўсялякіх „Западных Россий“.

# ПОЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ І АБ'ЯДНАНЬНІ Ў СУЧАСНАЙ ПОЛЬШЧЫ

*(Кароткая характарыстыка)*

**Ул. Каліноўскі**

У сучаснай Польшчы, больш чым дзе-небудзь у іншай дзяржаве з буржуазна капіталістычным ладам, чырвонай ніткай праходзіць клясавы падзел.

У існасьці змагаюцца дзьве клясы, дзьве групы, два напрамкі: адзін— прагнецца моцна асталяваць дыктатуру памешчыкаў і паноў, другі— напірае ўсе свае сілы на тое, каб вызваліцца з-пад гэтага панскага ярма і зьдзейсьніць дыктатуру пролетарыяту.

Політычная барацьба ў Рэчы Паспалітай робіцца living разнастайнай з прычыны цэлага шэрагу спэцыфічных польскіх умоў. Да ліку гэтых спэцыфічных умоў у першую чаргу патрэбна аднесьці так званае нацыянальнае пытаньне.

Нават згодна з офіцыяльнымі данымі Польшчы, адна трэцяя частка насельнікаў Польшчы, г. зн. каля 10-ці мільёнаў, ня-польскай нацыянальнасьці. І вось гэтая частка насельніцтва, якую ўціскаюць і якая ўсё-ж такі імкнецца выйсьці з гэтых сьціскаючых яе з усіх бакоў абцугоў, вядзе ўпартую барацьбу за сваё клясавае і нацыянальнае вызваленьне.

Шлях да гэтага вызваленьня вядомы, яго прашлі народы, якія жывуць на тэрыторыі быўш. Расійскай імпэрыі, але ісьці па гэтым шляху надзвычайна цяжка. Польская буржуазія, якая складаецца, як і ў быўшай Расіі, галоуным чынам, з памешчыкаў, робіць самыя складаныя перашкоды перад кожным пераможным выступленьнем польскага пролетарыяту, і самым бесчалавечным спосабам, нават з гуманітарнага пункту погляду, вядзе барацьбу з ім.

Буржуазія Польшчы ўжывае самыя жорсткія рэпрэсіі супроць Комуністычнае партыі, але ня менш даводзіцца і нацыянальным меншасьцям.

Бязумоўна, род бяз вырадка ня бывае. І сярод нацыянальных меншасьцяй знаходзяцца людзі, якія за сачывічную поліўку прадаюць буржуазіі інтарэсы працоўных.

Экономічныя і політычныя ўмовы надзвычайна абвастрылі клясавую і нацыянальную барацьбу ў Польшчы. Здавалася-б, што пры такой барацьбе

бе паміж памешчыкамі і іх прыхільнікамі—з аднаго боку, і з другога боку—эксплёатаванымі і прыгнечанымі павінны існаваць два політычных лягеры. „Хто ня з намі, той супроць нас“,—вось крытэры, які ня тольні ў Польшчы, але і ў іншых капіталістычных краінах павінен вызначаць прыхільнікаў да аднаго і да другога лягераў.

Але ўсё-ж такі мы бачым што ў Польшчы політычных партый і груп, мабыць, больш, чым у якой-небудзь іншай краіне. Калі ў лік політычных партый і аб'яднаньняў уключыць саюзы вучнёўскай моладзі, то агульная лічба ўсіх партый і груповак у Польшчы будзе каля 95—колькасьць даволі значная. 32 партыі ад гэтай колькасьці маюць сваіх прадстаўнікоў у Сойме і Сэнаце. У гэтых парляманцкіх установах зазначаныя партыі аб'яднаны ў 18 клюбаў альбо фракцый.

Такая вялікая колькасьць політычных партый у Польшчы зусім ня сьведчыць аб вялікай удасканаленасьці політычных програм або аб політычным рэзонёрстве. Гэтае несканчонае драбленьне на партыі вельмі часта тлумачыцца ўсім, чым хочаце, толькі не політычнай ідэолёгіяй. Для сьцьвярджэньня гэтае думкі спашлемся на аўторытэтную, па даным пытаньні, заяву польскай свабоднай а обы—маршалка Сойму—Ратая.

Вясною 1925 году ў газэце „Кур'ер Польскі“[1]) быў зьмешчаны яго артыкул пад назвай „Польскі парлямантарызм“. У гэтым артыкуле, зазначаючы аб парляманцкіх партыях, Ратай кажа: „Яны часткова зьяўляюцца хутчэй паняцьцям і парлямантарна географічнымі, чымся парлямантарна-політычнымі. На левых лаўках Сойму засядае адна з рабочых партый, якая ў нацыяналізьме ня горш за правых“.

Сьвядома ці выпадкова, але ў гэтым выпадку Ратай сказаў шчырую праўду.

Аб'яднаньне польскіх соцыялістых (ППС) з крайнімі правымі можна было ўжо ня раз заўважыць у дзейнасьці і сучаснага і так званага першага конституцыйнага Сойму.

Цэлы шэраг пытаньняў, вельмі важных у гісторыі рабочага руху ў Польшчы, быў правалены ў Сойме толькі дзякуючы гэтай здрадніцкай ролі польскіх „соцыялістых“ у адносінах да ідэй соцыялізму.

Пераходзячы да апісаньня паасобных політычных партый і аб'яднаньняў у сучаснай Польшчы, падзелім іх на дзьве вялікія групы: парляманцкую, гэта значыць тую, якая мае сваіх прадстаўнікоў у Сойме і Сэнаце, і запарляманцкую, гэта тую, якая яшчэ ня мае сваіх прадстаўнікоў у гэтых законадаўчых установах. Кожную з гэтых дзьвюх вялікіх груп падзелім на чатыры традыцыйныя часткі: правую або „правіцу“, цэнтр, левую або „лявіцу“ і групоўкі нацыянальных меншасьцяй, пры гэтым да групы запарляманцкіх партый патрэбна аднесьці і саюзы вучнёўскай моладзі.

---

[1]) № 149 ад 31-V.

# I
# СОЙМАВЫЯ ПАРТЫІ

## А. Правыя („правіца“)

### Хрысьціянскі Саюз Народнага Адзінства

Гэты саюз яднае тры правыя партыі: а) Народна-Нацыянальны саюз, б) Хрысьціянска-Народную партыю і в) Хрысьціянска-Дэмократычную партыю.

Так званая польская „правіца“ яднае тры парляманцкія фракцыі. У часе выбараў у Сойм у 1922 годзе гэтыя тры правыя партыі аб‘ядналіся і выступілі пад назвай „Chrześcjanski Związek Jedności Narodowej“ (Хрысьціянскі-Саюз Народнай Еднасьці).

Пачатковыя літары слоў, якія азначаюць назву гэтага саюзу—„ХЕН“, або ў вымаўленьні „Хіена,“—зьяўляецца мянюшкаю правых, таксама як і слова „Усэмка“ (васьмёрка). Справа ў тым, што ў часе выбараў у Сойм ў 1922 годзе сьпіс кандыдатаў „Хіены“ пр.ходзіў пад № 8. Такім парадкам, словы „Хіена“ і „Усэмка“ сталі сынонімамі „правіцы“.

У складзе „Хіены“ самай правай партыяй зьяўляецца „Związek Ludowa-Narodowy“ (Народна-Нацыянальны саюз).

### Народна-Нацыянальны саюз

Гэтая партыя яднае самых заўзятых чорнасоценцаў-памешчыкаў, фабрыкантаў, уласьнікаў прамысловых прадпрыемстваў, банкіраў і г. д.

Народна-Нацыянальны саюз з‘арганізаваўся ў 1919 г. шляхам аб‘яднаньня наступных партый: а) Нацыянальна-Дэмократычнай, б) часткі Хрысьціянска-Народнай партыі, в) часткі Нацыянальнага Аб‘яднаньня і, нарэшце, паасобных рэакцыянэраў.

Програма Народна-Дэмократычнай партыі была грунтам для гэтай аб‘яднанай партыі Народна-Нацыянальнага саюзу. Гісторыя гэтае партыі лічыцца гісторыяй Народна-Нацыянальнага саюзу, які, у сваю чаргу, вядзе праця дзейнасьці Народна-Дэмократычнай партыі.

Нацыянальна-Дэмократычная партыя ў 1887 годзе адышла ад існаваўшай у Варшаве партыі „Польская Ліга“; заснавацелямі-ж Нацыянальна-Дэмократычнай партыі лічацца Ян Паплаўскі, Жыгімонт Баліцкі і Раман Дмоўскі.

Прадстаўнікі гэтае партыі высоўвалі ў Дзяржаўнай Думе запатрабаваньні аб аўтономіі і аб самакіраваньні Царства Польскага.

У часе рэволюцыйнага руху ў Расіі ў 1905-1906 г. Нацыянальна-Дэмократычная партыя вельмі варожа адносілася да рэволюцыянэраў, у многіх выпадках пераходзіла на бок царскага ўраду і разам з ім вельмі актыўна вяла барацьбу супроць рэволюцыі, якая несла свабоду і польскаму народу.

Гэтыя паводзіны Нацыянальна-Дэмократычнай партыі яскрава сьведчаць аб тым, што сярод сяброў гэтае партыі ёсьць цьвёрдая клясавая самасьвядомасьць. У тую хвіліну, калі з боку рэволюцыі пагражала не-

бясьпека матэрыяльным інтарэсам сяброў гэтае партыі, то, не зважаючы на нацыянальны антагонізм і шовінізм, польскіе „паны“ ішлі дружна рука ў руку з царскімі паліцэйскімі, прыносячы гэтым у вахвяру „радзіму, свабоду, незалежнасьць“ і іншыя прыгожыя лёзунгі, якімі капіталістыя любяць забіваць галовы клясава-несьвядомым рабочым і сялянам.

У 1906 годзе ў Нацыянальна-Дэмократычнай партыі адбываецца раскол. Частка яе адкалолася тады, калі заўважыла, што двухасабовасьць партыі ў яе нацыянальнай барацьбе з расійскім урадам ужо вельмі відавочна, і што ў далейшым гэта можа падарваць або нават зусім зьнішчыць усякі ўплыў партыі на польскія масы. З гэтай групы, якая адкалолася ад Нацыянальна-Дэмократычнай партыі, а па існасьці партыі памешчыкаў, у далейшым утварыліся дзьве партыі, якія існуюць і зараз. Першая—гэта „Narodowa Partja Robotnicza“ (Нацыянальная Рабочая партыя), так званая НПР, і другая—якая ў 1915 г. ўвашла, у якасьці сустаўное часткі, у партыю ZPSZ[1]) „Wyzwolenje“ і „Jedność ludowa“ (Саюз польскіх народных партый: „Вызваленьне“ і „Народнае Адзінства“). Цікава зазначыць, што ў першыя часы распаду адна частка памешчыкаў і капіталістых, што адкалоліся ад Нацыянальна-Дэмократычнай партыі, мела назву „Нацыянальна-Рабочы саюз“, а другая—„Нацыянальна-Сялянскі саюз“.

Калі ў 1905 годзе ў Расіі адбывалася рэволюцыя і польскія рабочыя і сяляне змагаліся за сваё клясавае і нацыянальнае вызваленьне, Нацыянальна-Дэмократычная партыя ўсімі сродкамі дапамагала царскаму ўраду прыдушыць рэволюцыю. Але, як толькі гэта рэволюцыя была прыдушана, значная частка польскіх паноў з Нацыянальна-Дэмократычнай партыі, як мы бачылі, прымаюць назву „рабочы“ і „сялянскі“ саюзы.

З Нацыянальна-Дэмократычнай Польскай партыі і Хрысьціянска-Народнай партыі ў Аўстрыі ў 1908 годзе з'арганізоўваўся „Нацыянальна-Народны саюз“. Як бачым, гэтую назву, толькі пераставіўшы словы, партыя мае і ў сучасны момант, аб'яднаўшы ўсіх чорнасоценцаў, якія былі пад уладай „трох імпэратараў“ быўшых трох частак Польшчы, альбо, як кажуць палякі, „забораў“.

Калі ў 1917 годзе Нацыянальна-Дэмократычная партыя ўбачыла, што памешчыцкі лад у Расіі разбураецца, яна парвала ўсю сваю дружбу з быўш. вялікім князем Мікалаем Мікалаевічам і ў асобе сваіх лідэраў выбрала месцам для сваёй дзейнасьці Лёзанну ў Швайцарыі, дзе і з'арганізавала Польскі Нацыянальны Камітэт.

Гэты самазванны Народны Камітэт узурпаваў права прадстаўляць сабою ўвесь працоўны польскі народ.

28 верасьня 1918 году Францыя пачынае весьці афіцыяльныя дагаворныя зносіны з гэтым Нацыянальным Польскім Камітэтам. У пачатку 1919 году, г. зн. пасьля адчыненьня першага так званага Ўстаноў-

[1]) ZPSZ пачатковыя літары слоў: «Związek Polskich Stronnictw Ludowych».

чага Сойму ў Варшаве, партыя, у васобе сваіх прадстаўнікоў у Сойме, прымае назву, якую яна мае і ў сучасны момант—„Народна-Нацыянальны Саюз". Але ўсё-ж такі першая пачатковая назва партыі—„Народна-Дэмакратычная" яшчэ захавалася ў тым, што яе называюць „эндэцыяй"—пачатковыя літары слоў: „Народна-Дэмократычная".

Програму Народна Нацыянальнага саюзу ня варта зазначаць. Яна грунтуецца на тым-жа самым, як і програма ўсякай чорнасоценнай партыі ў кожнай буржуазнай староньцы. Баявымі лёзунгамі гэтай партыі зьяўляюцца—барацьба супроць 8-мі гадзіннага працоўнага дня і змаганьне ўсімі сродкамі супроць надзелу сялян зямлёю, а царква і мілітарызм зьяўляюцца сродкамі барацьбы з пролетарыятам.

Народна-Нацыянальны саюз выдае ў Польшчы 25 газэт і адну часопісь і тры газэты ў Амэрыцы. Офіцыяльным органам партыі зьяўляецца „Gazeta Poranna Warszawska". Дзьве газэты з азначанага ліку выдаюцца ў Заходняй Беларусі: „Nowe Życie" (Новае жыцьцё)—у Горадні і „Dziennik Wileński" (Віленскі дзеньнік)—у Вільні.

На выбарах у так званы першы Констытуцыйны Сойм[1]), якія адбываліся ў лістападзе 1922 году пад аб'яднаным флянгам „Хіены", Народна-Нацыянальны саюз правёў у Сойм 98 дэлегатаў і 29—у Сэнат. У сучасны момант фракцыя Народна-Нацыянальнага саюзу ў Сойме мае 101 дэпутата.

Адным з галоўных лідэраў партыі і старшынёй фракцыі ў сойме зьяўляецца Станіслаў Гламбінскі (радз. ў 1862 г.), профэсар экономіі ў Львоўскім унівэрсытэце. Ужо ў 1902 годзе ён быў сябрам Аўстрыйскага парляманту.

У мінулым ён быў выразны кар'ерысты, уладалюбец і карысталюбец, а ў сучасны момант ён яшчэ зьяўляецца непрымірымым польскім шовіністым.

Аўстрыйская палітычная школа—самая нікчэмная—палажыла на пана Гламбінскага значны адбітак. Гэты Гламбінскі на пасяджэньні аднэй з соймавых камісій сказаў, што ў Польшчы ёсьць грамадзяне і жыхары (obywateli i mieszkańcy). Жыхары—гэта ненавісныя „правіцы" нацыянальныя меншасьці. Адно права, якое дарue ім пан Гламбінскі—гэта вольна ўдыхаць паветра, але ня марыць аб нейкіх грамадзянскіх правох. Гламбінскі заўзяты монархісты. Да аўстрыйскага імпэратара Франца-Ёсіфа ён пісаў ліст, у якім выказваў сваё чульлівае каханьне і адданасьць. Калі ў 1914 годзе ў Аўстрыі была абвешчана вайна, то Гламбінскі ад імя палякаў Галіцыі паслаў Францу-Ёсіфу вернападданую тэлеграму, у якой і казаў: „Przy tobie stoimy, Najjaśniejszy Panie, i stać będziemy" (каля цябе стаімо мы, найясьнейшы павяліцель, і стаяць будзем).

[1]) У 1919 годзе былі выбары ў так званы Ўстаноўчы Сойм, які зацьвердзіў констытуцыю. Згодна з констытуцыяй у 1922 г. былі выбары ў другі па ліку Сойм, але ён быў першы пасьля зацьвярджэньня констытуцыі.

З лідэраў партыі, апрача Гламбінскага, патрэбна таксама зазначыць і Грабскага Станіслава—брат быўшага прэм'ера—Уладыслава Грабскага.

Трошкі малодшы за Гламбінскага (радз. ў 1871 г.), ён зьяўляецца вельмі дзейным памоцнікам Гламбінскага. Перш за ўсё ён займае пасаду віцэ-старшыні фракцыі. Ужо ў некалькіх габінэтах ён захоўвае за сабой портфэль міністра асьветы і рэлігійных вызнаньняў. Сам ён грамадзкі дзеяч у той частцы Польшчы, якая знаходзілася ў Аўстрыі; у свой час у Львоўскім унівэрсытэце ён быў профэсарам юрыдычнага факультэту. Польскае „кола", якое ў першай расійскай Дзяржаўнай Думе запрасіла яго ў якасьці экспэрта па выпрацоўцы проекту аўтономіі быўшага „Царства Польскага", у далейшым гэты проект быў прадстаўлен польскім „колам" у Думу для разгляду.

Улетку 1924 году Станіслаў Грабскі разам з Станіславам Тугутам распрацавалі вядомыя законы „аб мове нацыянальных меншасьцяй" у Польшчы.

Вышэйшымі органамі Народна-Нацыянальнай партыі зьяўляецца: „Zjazd Wszechpolski" (Усяпольскі зьезд) альбо конгрэс, які выбірае „Radę Naczelną" (Пачатковы Савет). Гэты савет выбірае „галоўнае кіраўніцтва", якое кіруе штодзенным жыцьцём партыі. Організацыя на мясцох утворана па наступным прынцыпе: сельскія, гарадзкія і гмінныя аб'яднаньні (koła) аб'яднаюцца ў павятовыя „колы". апошнія, у сваю чаргу, у ваяводзкія „колы", ваяводзкія—у краёвыя.

*Хрысьціянска-нацыянальная партыя аб'ядпае: а) хрысьціянска-нацыянальна-земляробчую партыю і б) хрысьціянска-нацыянальную партыю.*

Другой фракцыяй, якая ўваходзіць у соймавую „правіцу" альбо „Хіену", зьяўляецца „Klub Chrześćjańsko-Narodowy" (Клюб Хрысьціянска-Нацыянальны). Гэты клюб альбо фракцыя па існасьці яднае ў сойме дзьве партыі: 1) „Chrześćjańsko-Narodowe Stronnictwo Robotnicze" (Хрысьціянска-Нацыянальная Земляробчая партыя) і 2) Stronnictwo Chrześćjańsko-Narodowe (Хрысьціянска-Нацыянальная партыя). Абедзьве гэтыя партыі аб'яднаюць амаль што выключна памешчыкаў і частку так званай інтэлігенцыі. Першая партыя ўтварылася ў 1920 годзе на тэрыторыі тэй часткі Польшчы, якая знаходзілася ў Аўстрыі. Другая партыя організавалася трошкі раней і таксама ў тэй частцы Польшчы, якая знаходзілася ў Аўстрыі.

Ад 1909 да 1922 году Хрысьціянска-Нацыянальная партыя ў сваім гістарычным разьвіцьці перажыла некалькі эволюцыйных момантаў, якія адбіліся, галоўным чынам, на назвах партыі.

Па сваёй ідэолёгіі ўвагуле „Клюб Хрысьціянска-Нацыянальны", які яднае дзьве вышэй азначаныя партыі, нічым не адрозьніваецца ад Народна-Нацыянальнага саюзу. Нязначныя тэорытычныя рознагалосьсі паміж імі ў програме хутчэй зьяўляюцца штучна створанымі, чымся істот-

нымі політычнымі супрэчнасьцямі. У сучасны момант Хрысьціянска-Нацыянальны клюб мае 20 дэпутатаў у Сойме і 9—у сэнаце.

Старшынёй гэтай фракцыі і адным з самых выдатных працаўнікоў правай часткі Сойму зьяўляецца Дубановіч Эдвард (радз. ў 1889 г.), родам з тэй часткі Польшчы, якая была пад Аўстрыяй. Профэсыя яго—профэсар-юрысты. Да вайны ён чытаў лекцыі ў Львоўскім унівэрсытэце. У часе вайны служыў у аўстрыйскай арміі. У сучасны момант, як заснавацель тэорыі постулятаў „правіцы" ў правай частцы Сойму, мае досыць вялікае значэньне. Фракцыю Дубановіча гіронічна называюць „Дубадэцыяй".

Другім лідэрам „Дубадэцыі" зьяўляецца Станіслаў Стронскі (радз. ў 1882 г.), родам з тэй часткі Польшчы, якая знаходзілася пад Аўстрыяй. З 1920 году Стронскі кіраваў газэтай „Рэч Паспаліта"—гэтым польскім „Новым Временем" (да апошняга часу ўласьнікам гэтай газэты быў Падарэўскі, а цяпер—Карфанты).

У сваіх газэтных артыкулах Стронскі заўсёды выяўляў і выяўляе страшэнны антысэмітызм і нянавісьць да нацыянальных меншасьцяй. Стронскага патрэбна залічыць да групы публіцыстых так званых „пажырацеляў нацыянальных меншасьцяй", на чале якіх стаяў Навачынскі Адольф і нябожчык Замарскі Ян. Адказнасьць за цяжкую долю беларусаў, украінцаў і іншых нацыянальных меншасьцяй ляжыць на сумленьні гэтых паноў.

Поўофіцыяльным органам Хрысьціянска-Нацыянальнага клюбу зьяўляецца газэта „Warszawianka" (Варшавянка), на чале якой стаіць Стронскі, выдаецца ў Варшаве, а да нядаўняга часу была „Rzeczpospolita" [1]). (Рэч Паспаліта). Організацыя Хрысьціянска-Нацыянальнай партыі як у цэнтры, таксама і на мясцох пабудавана па такой-жа схэме, як і організацыя Народна-Нацыянальнага саюзу; розьніца толькі ў тым, што павятовыя організацыі Хрысьціянска-Нацыянальнай партыі падзяляюцца не на сельскія і гарадзкія, а на царкоўна-прыходзкія.

**Хрысьціянска-Дэмократычная альбо Хрысьціянска-Нацыянальная партыя працы**

Трэцяй фракцыяй „правіцы" альбо „Хіены" ў Сойме зьяўляецца „Klub Chrześcjanskiej demokracji" (Клюб Хрысьціянскай дэмократыі), альбо „Хадэцыя". Апрача зазначанай назвы гэтая соймавая фракцыя мае яшчэ адну назву „Chrześcjańsko-Narodowe stronnictwo Pracy" (Хрысьціянска-Нацыянальная партыя працы).

Па сваёй ідэолёгіі фракцыя гэтай партыі ў Сойме нічым не адрозьніваецца ад папярэдніх. Адно толькі чым яна вызначаецца, дык гэта „хрысьціянскім ухілам". Першымі організацыямі гэтай партыі былі: 1) „Stowarzyszenia robotników chrześcjan" (Аб'яднаньне працаўнікоў-хрысьціян), якое організавалася ў рэволюцыйны час у 1905 годзе на сучасных польскіх

[1]) Цяпер „Rzeczpospolita" зьяўляецца офіцыозам Хрысьціянска-Дэмократычнай партыі.

„крэсах усходніх“ і 2) Chrześcjańsko-Socjalistyczne Stronnictwo“ (Хрысьціянска-Соцыялістычная партыя), якая з'арганізавалася ў 1908 годзе ў Кракаве. У верасьні 1919 году гэтыя дзьве партыі злучыліся ў адну і прынялі назву „Хрысьціянска-Нацыянальная Партыя Працы“, або „Хрысьціянская Дэмократыя“. У сучасны момант партыя мае ў Сойме 40 дэпутатаў і ў Сэнаце 8, выдае 14 газэт і часопісаў у Польшчы і адну газэту ў Парыжы.

Адным з лідэраў фракцыі ў Сойме зьяўляецца Корфанты (радз. ў 1873 г.), досыць выдатны палітычны дзеяч Польшчы. Ён прашоў нямецкую палітычную школу тады, калі быў прадстаўніком ад палякаў горнай Сілезіі ў нямецкім Рэйхстагу (парляманце). Корфанты, спэкулюючы быццам-бы сваім пролетарскім пахаджэньнем, стварыў у горнай Сілезіі польскі рух.

У пэрыод, калі пасьля сусьветнай вайны адбывалася рэстаўрацыя Польскай рэспублікі, Корфанты зьяўляўся адным з галоўных ініцыятараў тых польскіх паўстаньняў, якія былі ў Сілезіі, і ўсімі сродкамі дапамагаў таму, каб гэтую частку Нямеччыны далучыць да Польшчы. Сваё палітычнае становішча ён выкарыстаў для асабістых матэрыяльных выгад. У сучасны момант Корфанты служыць нямецкаму капіталу не за страх, а за сумленьне, і зьяўляецца адным з галоўных кіраўнікоў і сябрам нямецкіх каменнавугальных таварыстваў Горнай Сілезіі (як, напрыклад, таварыства „Гогэнлёэ“).

У сучасны момант высьветлілася, што ў Сілезіі ў 1924 годзе цэлы шэраг нямецкіх прамысловых прадпрыемстваў, пры падтрыманьні сяброў Сойму Корфанты і Сэйды, у афіцыяльных ведах зьменшылі свой даход з тэй мэтай, каб зьменшыць, на даволі значную суму, свой падаходны падатак. Гэтая афёра выклікала шмат шуму сярод польскай грамадзкай думкі, але—дзякуючы заступніцтву Корфанты—прэм'ер і міністар фінансаў Грабскі захаваў гэтую справу пад сукно і на гэтым пытаньне скончылася.

У вапошні час Корфанты купіў у Падарэўскага газэту „Рэч Паспаліта“.

Можна быць упэўненым у тым, што гэтую газэту Корфанты купіў калі ня цалкам, то ў значнай меры за грошы нямецкіх прамыслоўцаў дзеля таго, каб апрацоўваць у пэўным кірунку грамадзкую думку, каб згладжваць розныя „нячыстыя“ фінансавыя комбінацыі.

У вапошні час, зрабіўшыся ўласьнікам буйнага капіталу, Корфанты менш займаецца палітычнай дзейнасьцю і на палітычную арэну выступае тады, калі яму гэта патрэбна дзеля таго, каб правесьці або абараніць розныя „дзелавыя“ грашовыя опэрацыі.

З другарадных прадстаўнікоў фракцыі, да якіх належыць і старшыня Хацінскі, асабліва вызначаецца сваёй нянавісьцю да нацыянальных меншасьцяй малады юрысты расійскай школы Бітнэр Вацлаў.

Калі Бітнэр аднойчы выступаў у Сойме ад імя сваёй фракцыі і калі з месцаў адзін з беларускіх дэпутатаў даў пытаньне аб тым, што польскія суды несправядліва адносяцца да беларусаў і ўкраінцаў, то ён адказаў, што прыгавары польскіх судоў ня ёсьць „Wymiar sprawiedliwości“ (вызначэньне справядлівае кары, якая-б адпавядала зробленаму праступленьню), а „zemsta prawa“.

Для нацыянальных меншасьцяй гэтае прызнаньне было ня новым і не нечаканым: яны ўсё гэта адчулі на практыцы пад польскім „заборам“[1]).

Організацыя хрысьціянска-нацыянальнай партыі пабудована амаль што па такой схэме, як і народна-нацыянальнага саюзу.

Вось такая ў кароткіх рысах характарыстыка польскай „правіцы“ ў Сойме.

## Б. Цэнтр

### Каталіцка-Народная партыя

У Сойме за правымі партыямі йдзе так званы цэнтр.

Непасрэдна пасьля „правіцы“ месца цэнтру ў Сойме займае фракцыя „Klub stronnictwa Katolicko-Ludowego“ (Клюб Каталіцка-Народнай партыі).

Гэтая партыя заснавалася ў 1913 годзе ў Галіцыі па ініцыятыве духавенства Тарнопальскай эпархіі, якое, па яго словах, старалася „памірыць барацьбу за народныя ідэалы з асновамі каталіцкай рэлігіі“.

У програме гэтае партыі і ў яе дзейнасьці домінуе каталіцкая рэлігія і яе інтарэсы.

Па існасьці ў вогуле Каталіцка-Народная партыя нічым не адрозьніваецца ад соймавай „правіцы“. У пытаньні аб „Крэсах“, Каталіцка-Народная партыя лічыць патрэбным „абкружыць крэсы асаблівай апекай ураду“.

У пытаньні адносна яўрэяў у програме гэтае партыі таксама вызначылася пэўная ідэолёгія. У програме партыі па гэтым пытаньні гаворыцца: „...маючы на ўвазе, што яўрэяў у Польшчы вельмі многа і што ўплыў іх на жыцьцё агулам вельмі адмоўны і шкодны... Каталіцка-Народная партыя будзе і г. д.“ Што яна „будзе“ рабіць—гэта ясна і без комэнтарый. На тэрыторыі Польшчы гэта мы назіраем у працягу некалькіх гадоў. Частка насельнікаў Польшчы, так званыя нацыянальныя меншасьці, зьяўляюцца толькі жыхарамі, але не поўнапраўнымі грамадзянамі дзяржавы.

---

[1]) На польскай мове „забор“ азначае частку тэрыторыі, якая ў свой час пры падзеле сілком была далучана да аднэй з трох быўшых імпэрый: Расійскай, Аўстрыйскай і Нямецкай.

Згодна з гэтым тэрыторыю сучаснай Польшчы дзеляць на тры „заборы“—расійскі, аўстрыйскі і нямецкі.

Каталіцка-Народная партыя вельмі прыхільна адносіцца да такога падзелу насельнікаў і да такой унутранай політыкі. У часе выбараў у 1922 годзе Каталіцка-Народная партыя паслала ў Сойм пяць дэпутатаў, але ніводнага сэнатара. Лідэрам фракцыі ў Сойме зяўляецца Матакевіч, быўшы судзьдзя ў аўстрыйскай частцы Польшчы.

Офіцыяльным органам зьяўляецца тыднёвік „Lud katolicki" (Каталіцкі народ), які выдаецца ў Кракаве.

Програма партыі, як было зазначана вышэй, зьяўляецца ультрачорнасоценнай. Рэакцыйнасьць памножаная на каталіцкі фанатызм дасьць праўдзівае ўяўленьне аб „Каталіцка-Народнай" партыі, якая займае месца ў Сойме ў цэнтры, дзякуючы „географічным" умовам, інакш кажучы, трэба-ж каму-небудзь заняць і гэтыя месцы.

Організацыя Каталіцка-Народнай партыі пабудована па зьмешанай схэме правых партый, г. зн. нізавымі організацыямі зьяўляюцца як гмінныя, таксама і царкоўна-прыходзкія аб'яднаньні.

## Польская Народная партыя (Пяст)

Другою па парадку фракцыяй цэнтру ў Сойме зьяўляецца: „Klub polskiego stronnictwa ludowego „Piast" (Клюб польскай народнай партыі „Пяст").

Гэтая партыя ўтварылася з сяброў польскага „кола", якое знаходзілася ў аўстрыйскім парляманце. Ужо ў 1911 годзе група „Пяста" была самай моцнай у польскім „коле" ў парляманце. На чале партыі стаяў тады Ян Стапінскі, які цяпер зьяўляецца лідэрам „Związku chłopskiego" (Сялянскага саюзу). Вітас, Тэтмайер, Длугош і Едынак былі лідэрамі партыі „Пяста" ў Аўстрыі.

Першы конгрэс партыі „Пяста" быў склікаты ў 1914 г. ў горадзе Кракаве. На гэтым конгрэсе былі прыняты: рэзолюцыя аб тым, каб партыя „Пяст" выдзелілася з польскага кола, якое знаходзілася ў аўстрыйскім парляманце, і програмная рэзолюцыя *Вітаса*.

З самага пачатку сусьветнай вайны пястаўцы былі прыхільнікамі Пілсудзкага і яго легіёнаў і дапамагалі гэтай організацыі як матэрыяльна, таксама і моральна. З 1917 году пястаўцы зьмяняюць свае адносіны да Аўстрыйскай імпэрыі і прымаюць рэзолюцыю аб „стварэньні свабоднай, аб'яднанай і незалежнай Польшчы".

У 1919 годзе, калі адбываліся выбары ў першы „ўстаноўчы" Сойм Польшчы, пястаўцы правялі ў яго больш як сто дэпутатаў.

У чэрвені 1919 году ў Варшаве адбыўся другі конгрэс „Пяста". На гэтым конгрэсе Вітас сказаў вялікую прамову, у якой, між іншым, зазначыў: „Польшча пала, як дзяржава шляхецкая (дваранская) і, як гэткая ніколі не змагла-б адрадзіцца. Цяпер Польшча адраджаецца, як дзяржава народная і, як гэткая, можа ўтрымацца і павінна ўтрымацца".

У часе савецка-польскай вайны ўлада ў Польшчы знаходзілася ў руках пястаўцаў. Старшынёй Савету Міністраў быў Вітас, а міністрам асьветы—Ратай, які ў сучасны момант зьяўляецца маршалкам Сойму.

У канцы 1921 году ў Варшаве адбыўся трэці конгрэс партыі „Пяст", на якім была прынята новая програма партыі.

У часе выбараў у 1922 г. пястаўцы паслалі ў Сойм да 70 дэпутатаў і 17 у Сэнат.

У пачатку 1923 году, калі Вітас утварыў блёк з „правіцай" для таго, каб стварыць у Сойме ўрад і парляманцкую большасьць, у соймавай фракцыі „Пяста" адбываўся раскол. Ад фракцыі адкалолася група дэпутатаў у колькасьці 11 дэпутатаў Сойму і Сэнату з Домбскім Янам на чале. Гэтая частка пястаўцаў утварыла фракцыю „Jedności ludowej" (Народнага адзінства). У далейшым гэтая фракцыя аб'ядналася з фракцыяй „Вызваленьне".

У канцы 1923 году ў соймавай фракцыі „Пяста" адбыўся другі раскол. З фракцыі альбо, як у Польшчы называюць, клюбу, вышла йзноў 12 дэпутатаў з Брылем і Плютай на чале, якія заснавалі новую фракцыю пад назвай „Клюб сялянскага саюзу".

Трэба зазначыць, што пры абодвух расколах аднэй з галоўных прычын было—прагнасьць да гонару тых лідэраў „Пяста", якія адколваліся; у першым выпадку—Яна Домбскага, а ў другім—Брыля. У выніку гэтых расколаў у фракцыі „Пяста" ў Сойме з ліку 70 дэпутатаў засталося 52.

Па ёмкасьці програма „Пяст" даволі вялікая. Зьмест-жа яе дае толькі шэраг агульных нявыразных абяцанак сялянства аб надзеле зямлёй, але прынцыпова пытаньне не вырашаецца ні аб спосабе ні аб часе гэтага надзелу.

Маючы на чале партыі фракцыі Вітаса і іншых лідэраў, якія хітра кіравалі ёю, фракцыя „Пяста" заўсёды больш сымпатызавала праваму боку.

На тэорыі лідэры гэтае фракцыі, бязумоўна, не адважваюцца аб'ядноцца з правымі фракцыямі памешчыкаў таму што, як-ні-як, а сярод людзей фракцыя „Пяста" лічыцца сялянскай фракцыяй. Перад выбарамі асноўным лёзунгам гэтае партыі была зямельная рэформа, гэта значыць, задавальненьне сялян зямлёй, а зямлю ўзяць можна толькі ў памешчыкаў, і дзеля гэтага, шляхі пястаўцаў, хаця-б на тэорыі, ніколі не павінны быць падобнымі да шляхоў правых фракцый Сойму. Але як відаць, дык лідэрам пястаўцаў больш, чым каму небудзь іншаму, язык дадзены для таго, каб прыкрываць свае думкі.

Па існасьці пястаўцы—кулакі, буйныя сяляне-зямляўласьнікі. Інтарэсы іх такія-ж, як і ў памешчыкаў, можа па ёмкасьці трошкі і меншыя, але якасьць іх такая самая. Яны вельмі добра разумелі і разумеюць, што зямельная рэформа ім нічога ня дасьць таму, што яны зямлі даволі маюць, а вось згубіць дык яны могуць што-колечы, як і памешчыкі.

Зразумела, што ўсе тыя прыгожыя словы і ўсе абяцанкі, якія даюць пястаўскія агенты безьзямельным і малазямельным сялянам,—у меншай меры—сьвядомае скажэньне праўды. Для абароны сваіх кулацкіх і памешчыцкіх інтарэсаў ім неабходна, папершае, мець у Сойме колькасна больш прыхільнікаў, а падругое—ім таксама неабходна не выпускаць з сваіх рук кіраўніцтва хаця-б над часткай сялянскай масы.

На чале партыі „Пяст" і соймавай яе фракцыі знаходзіцца Вітас Вікенці (радзіўся ў 1874 г. ў Галіцыі).

Па пахаджэньні ён—селянін. Скончыў пачатковую школу, служыў простым жаўнерам у аўстрыйскай арміі—у артылерыі; быў войтам у сваёй воласьці. У 1908 годзе быў абраны ў сябры Галіцыйскага Сойму, а з 1911 году да 1918 году быў сябрам Аўстрыйскага парляманту. У Польшчы Вітас ужо два разы быў прэм'ерам. Пазнаёміўшыся з яго політычнай кар'ерай, у чытача можа зьявіцца пытаньне: чаму гэта просты селянін у Польшчы змог набыць такую популярнасьць і політычную вагу? Адказ на гэтае незразумелае пытаньне вельмі просты. Вітас сапраўды селянін-кулак і чалавек зусім ня дурны, але з сумленьнем, гібкасьць якога пераважвае над усімі яго здольнасьцямі, узятымі разам.

Польскія-ж паны і памешчыкі, якім патрэбна мець у сваіх руках хаця-б частку сялянства, стварылі ілжывую сялянскую партыю „Пяст" і для адводу вачэй на чале гэтае партыі павінны мець селяніна. Селянін гэты павінен быць досыць разумным і, як кажуць, „сабе на ўме", які шмат чаго бачыў і гонар і сумленьне лічыць лішнім балястам. Для гэтае ролі больш падходнага чалавека, чым Вітас, знайсьці цяжка.

За яго плячыма знаходзяцца польскія інтэлігенты-шовіністыя, якія працу партыі накіроўваюць у тым кірунку, які пажаданы для буржуазіі.

У соймавай фракцыі „Пяста", апрача групы сялян, якія знаходзяцца для мэблі, куды Вітас прывёў і свайго роднага брата, маюцца і такія „панскія" асобы, як Ратай—цяперашні маршалак Сойму, Кернік, Бырка—быўшы міністар фінансаў, Асецкі і інш.

Сваё „сялянства" Вітас вызначае тым, што заўсёды носіць манішку бяз гальштуку „кравата".

Бязумоўна, значнай політычнай велічынёй у Польшчы зьяўляецца пяставец—цяперашні маршал Сойму—Ратай, родам з Галіцыі, быўшы настаўнік гімназіі. У першым габінэце Вітаса ён быў міністрам народнае асьветы і рэлігійных вызнаньняў. Ратай сьпярша быў пястаўцам, пасьля перашоў у „Вызваленьне" і, як вызваленец, у 1919 годзе быў абраны ў першы, так званы установчы Сойм; пасьля гэтага ён ізноў перашоў да пястаўцаў.

Аб лідэрах партыі „Пяста", а асабліва аб кіраўніку гэтае партыі, ходзяць вельмі пэўныя чуткі, якія іх компромэтуюць.

У 1920-21 г.г., калі Вітас быў прэм'ерам у першы раз, а дырэктарам Галоўнай Зямельнай Управы быў Кернік, які зьяўляецца таксама

пястаўцам і сябрам Вітаса, Вітас і К°, кажучы на мове абываталяў, нагрэлі рукі на зямельных справах. Усім, напрыклад, вядома, што Вітас у Польшчы набыў маёнтак „Дойліды“ за вельмі льготную цану, а пасьля яго перапрадаў і ўзяў за яго ў шмат разоў даражэй і гэткім чынам набыў досыць буйны капітал. Патрэбна зазначыць, што гэты крок Вітаса быў сапраўды неасьцярожны, але ўжо другія свае грашовыя справы, ён робіць больш „консьпірацыйным спосабам“. Але ўсё-ж такі „Дойліды“ досыць абчарнілі ўсю партыю „Пяста“ і мянюшка „Dajlidzianie“ (дайлідчыкі) пястаўцы будуць мець яшчэ доўгі час.

У Польшчы пястаўцы выдаюць дзесяць газэт і часопісяй. Афіцыяльным органам партыі зьяўляецца газэта, якая выдаецца ў Варшаве „Echo Warszawskie“ (Варшаўскае рэха).

Асноўнай адзінкай у арганізацыі партыі „Пяста“ зьяўляецца „Коло“. „Кола“ знаходзяцца ў розных частках паветаў і аб'ядноўваюцца ў павятовыя арганізацыі, а павятовыя, у сваю чаргу, яднаюцца ў акруговыя[1]) арганізацыі. На чале партыі стаіць конгрэс і выбарныя органы.

Нацыянальная Рабочая Партыя (НПР).

Да фракцый цэнтру ў Сойме па местапалажэньні належыць таксама і „Narodowa Partja Robotnicza“, скарочана НПР. (Нацыянальная Рабочая партыя). Гэтая фракцыя займае ў Сойме больш правыя месцы, чым пястаўцы, але чамусьці лічыць сябе нават „лявіцай“, а ня фракцыяй цэнтру. Вызначае сябе партыя, як „грамадзка-політычную арганізацыю рабочых з радыкальным напрамкам, але якая грунтуецца на нацыянальнай глебе і інтарэсы дзяржавы ставіць на першым месцы і вышэй клясавых інтарэсаў“.

Нацыянальная Рабочая партыя організавалася ў 1905 годзе з тэй часткі Нацыянальна-Дэмократычнай партыі, якая адкалолася ад гэтае партыі. З ядра Нацыянальна-Дэмократычнай партыі, як аб гэтым зазначалася вышэй, заснавалася самая правая партыя ў Сойме—Народна-Нацыянальны саюз, а тая частка, якая адкалолася, стала Нацыянальнай Рабочай партыяй.

Бязумоўна, такая блізкасьць у мінулым кажа аб ідэолёгіі НПР і ў сучасны момант, тым болей, што нават пасьля ўтварэньня партыі НПР, якая раней мела назву „Нацыянальны Саюз Рабочых“, яна знаходзілася ў шчыльным контакце і пад кіраўніцтвам „Народнай Дэмократыі“.

У часе рэволюцыі 1905 г. НПР вельмі актыўна змагалася з рэволюцыйна-настроенымі рабочымі. Асабліва напружанай гэтая барацьба была ў г. Лодзі. Калі ў мінулым НПР дапамагала царскім поліцэйскім, то няма нічога дзіўнага ў тым, што зараз яны яшчэ з большым посьпехам дапамагаюць польскай поліцыі.

---

[1]) Тэрыторыя Польшчы падзяляецца на 16 ваяводзтваў. У часе апошніх выбараў у Сойм тэрыторыя ўсіх гэтых 16 акруг была падзелена на 64 выбарных акругі. У пястаўцаў практыкуецца сыстэма аб'яднаньня па выбарных акругах, а не па ваяводзтвах.

У пэрыод так званых свабод у дзевяцісотых гадох НПР пачала засноўваць польскія профэсыянальныя саюзы. Саюзы гэтыя засноўваліся зусім легальна, і гэта патрэбна адзначыць, бо гэта сьведчыць аб тым, што адміністрацыя ў тыя часы была зусім упэўнена ў лёяльнасьці НПР. Аб гэтым можна судзіць і з іх прэсы. У газэце „Jedność“ (Адзінства) №1 за 24/X 1907 году ў перадавіцы „Наша позыцыя“—цяперашнія НПР пісалі аб сваіх профэсыянальных польскіх саюзах: „Мы зьяўляемся профэсыянальным польскім саюзам, змагаемся за паляпшэньне быту рабочага таксама, як і іншыя падобныя да нас аб'яднаньні, але ўсё-ж такі, паміж нашым саюзам і вялікай колькасьцю іншых, існуюць вельмі істотныя рознагалосьсі нават прынцыповага характару. Адным з гэтых рознагалосьсяў зьяўляецца тое, што мы ня трымаемся прынцыпу клясавай барацьбы.

Мы прызнаем права на ўласнасьць і самі імкнемся да таго, каб карыстацца гэтым правам. Ні адзін з нашых сяброў ня скажа, што фабрыка, на якой ён працуе, зьяўляецца яго ўласнасьцю“.

Гэткую політыку НПР вядуць і зараз. Зараз у Польшчы існуюць проста профэсыянальныя саюзы, якія ў большай частцы знаходзяцца яшчэ пад уплывам і кіраўніцтвам польскіх соцыялістых, так званых ППС, і „*польскія* профэсыянальныя саюзы,“ якія аб'яднаюць адміністрацыю прадпрыемстваў.

Вось гэтыя „польскія“ профэсыянальныя організацыі менш за ўсё, а мо' нават і зусім не зачэпліваюць рабочае клясы і зьяўляюцца толькі падмогай для НПР, якія адважваюцца гаварыць ад імя польскіх рабочых.

Програма НПР у тэй сваёй частцы, дзе закранаецца рабочае пытаньне, падобна да тэй часткі програмы пястаўцаў, дзе закранаецца зямельнае пытаньне ў вёсцы. Гэтыя програмы могуць быць прыкладам політычнага маккіевелізму. Напрыклад, у програме НПР вельмі нявыразна гаворыцца аб даўжыні працоўнага дня, але затое шмат увагі зьвернута на тое, якое значэньне мае ў грамадзе і дзяржаве касьцёл і наогул рэлігія.

Лідэрам партыі і соймавай фракцыі НПР зьяўляецца Попель.

У сойме НПР мае 18 дэпутатаў і ў Сэнаце мае трох дэпутатаў.

НПР выдае ў Польшчы 5 газэт і часопісаў. Сярод гэтых газэт маецца нават газэта „Праўда“, якая выдаецца ў гор. Пазнані, і „Праца“, якая выходзіць у Лодзі.

Па структуры сваёй організацыі партыя НПР дзеліцца на організацыі ваяводзкія, гэтыя апошнія падзяляюцца на акруговыя, акруговыя падзяляюцца на павятовыя, а павятовыя—на філіі.

Вышэйшым органам партыі зьяўляецца агульны зьезд альбо, інакш кажучы, конгрэс, на якім выбіраецца „Пачатковы Савет“, а апошні выбірае „Галоўны Выканаўчы Камітэт“.

## Партыя Сялянскага Саюзу

Да фракцый цэнтру па „географічным“ палажэньні ў Сойме патрэбна залічыць таксама „Klub Związku Chłopskiego“ (Клюб Сялянскага Саюзу). Гэта фракцыя, альбо клюб у сучасны момант дзеля тактоўнасьці, грае ролю вельмі левай фракцыі, але па існасьці, гэтая ідэолёгічная лявізна ёсьць ня больш, як эпізод у паводзінах гэтае фракцыі. На гэтай падставе фракцыю Сялянскага Саюзу ў Сойме мы і залічым да фракцый цэнтру.

Партыя пад назваю „Сялянскі Саюз“ і фракцыя гэтае партыі ў Сойме ўтварыліся вельмі нядаўна. Гісторыя іх утварэньня такая:

Вышэй, пры аглядзе партыі „Пяста“, мы ўжо казалі, што фракцыя гэтай партыі ў Сойме расколвалася два разы. У выніку другога расколу соймавай фракцыі „Пяста“ ў сьнежні 1923 году адбылося ўтварэньне новай фракцыі—„Сялянскага Саюзу“; на чале гэтай фракцыі сталі Брыль і Плюта, а потым была ўтворана і сама партыя пад гэтай-жа назвай.

Група дэпутатаў аддзялілася ад фракцыі „Пяста“ і ўтварыла новую фракцыю з тэй прычыны, што супроць лідэраў партыі, галоўным чынам супроць Вітаса, былі высунуты абвінавачаньні. Яго вінавацілі ў тым, што ў 1923 годзе, зрабіўшы коаліцыю з правымі партыямі і ўтварыўшы пястаўскі правы ўрад, Вітас, як галава ўраду, не праводзіў у жыцьцё тых мерапрыемстваў у галіне зямельнай рэформы і ў галіне аздараўленьня фінансаў і адміністрацыі і г. д., хаця перад тым, як утвараў аб‘яднаньне з „правіцай“, ён урачыста абяцаўся ўсе гэтыя рэформы праводзіць у жыцьцё.

Лідэры тэй часткі фракцыі „Пяста“, якая адкалолася ў маі 1924 г., аб‘ядналіся з другой партыяй „Polskie stronictwo Sudowe „Lewica“ (Польская Народная партыя „Лявіца“). Гэтая партыя ўтварылася ў выніку расколу партыі „Пяста“ яшчэ ў 1913 годзе ў тэй частцы Польшчы, якая знаходзілася пад Аўстрыяй. Гэтую партыю назвалі „Stapińczicy“ (стапінкаўцы)—імем правадыра гэтай партыі Яна Стапінскага.

Аб‘яднаньне гэтых абедзьвюх партый адбылося за Соймам, бо стапінкаўцы сваіх прадстаўнікоў у Сойм не правялі. Гэтае аб‘яднаньне было выгадна для абедзьвюх старон: стапінкаўцы набылі сваіх прадстаўнікоў у Сойме, а частка, якая адкалолася ад фракцыі „Пяста“ ў Сойме, набыла за Соймам сваю партыю.

У маі 1924 г. новая партыя „Сялянскага Саюзу“ выпрацавала сваю палітычную праграму.

Зробім некалькі выпісак з гэтае праграмы па тых пытаньнях, якія ў Польшчы зьяўляюцца вельмі вострымі.

Вось што гаворыцца, напрыклад, у гэтай праграме аб нацыянальных меншасьцях: „Заданьнем партыі ўнутры Польскае дзяржаўнасьці зьяўляецца наданьне нацыянальным меншасьцям роўнапраўнасьці, альбо забесь-

пячэньне іх тымі правамі, якія мае польскі народ, што жыве ў родных краёх гэтых нацыянальных меншасьцяй".

Плятонічныя пажаданьні аб роўнапраўнасьці можна знайсьці і ў програмах правых партый!

Высунуты ў програме „Сялянскага Саюзу" пачатак „узаемнасьці" адносна нацыянальных меншасьцяй, г. зн. наданьне ім тых праў, якімі карыстаюцца палякі на тэрыторыі гэтых меншасьцяй, зусім ня шчыры, бо ў сапраўднасьці тут прадбачацца толькі рэпрэсіі, а ня ільготы і не сапраўднае ўраўнаньне ў правох.

У зямельным пытаньні партыя „Сялянскага Саюзу" абяцае „імкнуцца" да таго, каб сяляне ўладалі зямлёй. Нават польская прэса не адзін раз выказвала няўпэўненасьць у шчырасьці гэтага імкненьня.

Прадстаўніком і лідэрам фракцыі „Сялянскага Саюзу" ў Сойме зьяўляецца Брыль, а па-за Соймам—Стапінскі.

Брыль родам з Галіцыі (радз. ў 1885 г.), яго профэсія—інжынэр. Да расколу фракцыі „Пяст" ён быў віцэ-старшынёю гэтай фракцыі. Брыля патрэбна лічыць вельмі актыўным прыхільнікам і дапаможцаю вайсковай колёнізацыі так званых „усходніх крэсаў". У 1923 годзе ён не адзін раз прапаноўваў у Сойме ад свайго імя шэраг законапроэктаў і рабіў запытаньні аб узмацненьні польскай вайсковай колёнізацыі на беларускіх і украінскіх землях. Зараз Брыль узяў левы курс, асабліва адносна нацыянальных меншасьцяй. Наколькі гэта шчыра і як доўга працягнецца „левы ўхіл" Брыля, пакажа будучына. Бясспрэчна толькі адно, што Брыль зьяўляецца буйнай фігурай на палітычнай арэне Польшчы і ў будучых палітычных комбінацыях ён будзе мець не апошнюю ролю.

Аб палітычных здольнасьцях Брыля сьведчыць той факт, што ён пасьля выхаду з фракцыі „Пяста" з 12 дэпутатамі змог ня толькі калькасна павялічыць сваю фракцыю, давёўшы яе да 16 дэпутатаў, але нават знашоў сабе палітычны фундамант па-за Соймам у выглядзе партыі Стапінскага „лявіца".

Пры паездцы польскай парляманцкай дэлегацыі ў студзені месяцы 1926 году ў СССР Брыль быў яе ўдзельнікам і старшынёю.

Незалежна ад розных палітычных манэўраў, якія робяць лідэры партыі, уся партыя цалкам зьяўляецца дробна-буржуазнай. Ніжэйпаданы прыклад яскрава характарызуе ідэолёгію партыі. Усім, хто хоць колькінебудзь цікавіцца палітыкай замежных старон, а ў тым ліку і Польшчы, вядома, што польскі Сойм толькі летам 1925 году прыняў закон аб зямельнай рэформе. Ня будзем спыняцца на характарыстыцы гэтага закону, а толькі зазначым, што ён нічога не дае сялянам, а асабліва беларускім і украінскім. На землях гэтых народаў польская колёнізацыя гэтым законам яшчэ больш замацоўваецца. Таксама не зьяўляецца таемнасьцю і тое, што гэты закон, як і папярэднія законы аб зямельнай рэформе, мае характар не практычны, а дэклярацыйны. Ён стараецца стварыць толькі шум

наўкола зямельнае рэформы, каб гэтым шумам адцягнуць зьдзяйсьненьне гэтага пытаньня, як мага надалей. Сапраўдныя прыхільнікі безьзямельнага і малазямельнага сялянства добра разумеюць гэтае манэўраваньне і ўсімі сіламі стараюцца не дапусьціць абмануць сялянства цьмянымі і далёкімі посуламі аб зямлі.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя абставіны, адзін з нумароў польскае газэты за 1925 год „Sztandar Ludowy“ (Народны сьцяг) зьмяшчае ў сабе перадавы артыкул, у якім аўтар піша, што пасьля таго, як Сойм прыняў закон аб зямельнай рэформе, то прычыны для барацьбы ў сям'і польскіх зямляўласьнікаў ужо адпалі, і яны павінны аб'яднацца ў адну клясавую (?) партыю дзеля абароны сваіх інтарэсаў. Трэба зазначыць, што вышэйадзначаная газэта, якая зьмясьціла гэты артыкул, зьяўляецца афіцыяльным органам партыі „Сялянскага Саюзу“.

Бязумоўна, што гэта заклік партыі, якая лічыць сябе сялянскай, толькі дапамагае ў працы памешчыкаў, бо яны таксама ў сваёй прэсе заклікаюць сялян яднацца з імі, толькі, бязумоўна, пад іх панскай гегемоніяй.

У пачатку студзеня 1926 году ў польскай прэсе зьявілася паведамленьне аб тым, што ў соймавай фракцыі „вызваленьне“ мае адбыцца раскол з тае прычыны, што частка сяброў гэтае фракцыі хоча злучыцца з партыяй „Сялянскага Саюзу“. Такім чынам, трансформацыя фракцыі „Сялянскага Саюзу“ яшчэ ня скончылася [1]).

Організацыя партыі пабудована згодна схэмы адміністрацыйнага падзелу Польшчы—на гмінныя, павятовыя і ваяводзкія рады. Вышэйшым органам партыі зьяўляецца конгрэс, які ад сябе выбірае Radę Naczelną (пачатковы савет) і выканаўчы аддзел гэтага савету.

У фракцыю партыі „Сялянскага Саюзу“ ў Сойме ўвашлі і некаторыя „дзікія“ [2]) дэпутаты. Разам з імі фракцыя мае ў Сойме 16 дэпутатаў, але ніводнага ў сэнаце.

Партыя выдае ў Польшчы тры тыднёвікі.

### В. „Лявіца“

### Саюз польскіх народных партый: „Вызваленьне“, „Народнае Адзінства“

Па колькасьці фракцыя „Вызваленьне“ пасьля выбараў у Сойме была аднэй з моцных. У 1923 годзе, калі ад фракцыі „Пяста“ адкалолася група дэпутатаў з Домбскім Янам і далучылася да „Вызваленьня“, гэтая фракцыя налічвала ў сваіх шэрагах 60 дэпутатаў. Адначасова з гэтым далучэньнем фракцыя і партыя цалкам трохі зьмянілі сваю афіцы-

---

[1]) У хвілю друкаваньня гэтага артыкулу адкалоўшаяся ад „Вызваленьня“ група на чале з Домбскім Янам ужо злучылася з „Сялянскім Саюзам“, утварыўшы фракцыю ў колькасьці 30 дэпутатаў над назваю: „Stronnictwo Chłopskie“ (Сялянская партыя).

[2]) „Дзікімі“ называюцца тыя дэпутаты, якія не належаць ні да якай соймавай фракцыі.

яльную назву. Зараз партыя мае такую назву: „Związek Polskich stronnictw ludowych „Wyzwolenie“ i „Jedność Ludowa“ (Саюз Польскіх Народных партый „Вызваленьне“ і „Народнае Адзінства“).

Утварылася партыя „Вызваленьне“ такім парадкам: зьявілася гэтая партыя ў самым канцы 1915 году пад назвай „Польскай Народнай партыі, аб'яднала наступныя партыі: а) „Narodowu Związek chłopski“ (Нацыянальны Сялянскі Саюз), б) „Związek chłopski (Сялянскі Саюз) і в) „Ludowcy Zaraniarze“[1]) (Народнікаў—„зараняжы“).

Гэтыя тры партыі зьявіліся толькі за некалькі год да пачатку Эўрапэйскай вайны.

„Нацыянальны Сялянскі Саюз“ узьнік у дзевяцісотых гадох з тэй часткі партыі „Нацыянальнай Дэмократыі“ [2]), якая адкалолася ад гэтае партыі. „Сялянскі Саюз“ зьявіўся ў 1923 годзе.

Ставячы сваёй апошняй мэтай незалежнасьць Польшчы, гэтая партыя знаходзілася пад вялікім уплывам ППС (Польскіх Социялістых).

„Народнікі-зараняжы“ ўтварылі сваю партыю незадоўга да вайны. Асноўным лёзунгам гэтае партыі было акрэсьленьне незалежнага народніцкага руху і зьніштажэньне тэй залежнасьці, у якой знаходзіўся народ ад паноў і духавенства.

Гэтыя тры групы дзейна рыхтаваліся да вайны, тайком зьбіралі грошы на вайсковыя патрэбы і падрыхтоўвалі польскую моладзь да актыўных выступленьняў супроць існаваўшага тады дзяржаўнага ладу з тэй мэтай, каб рэстаўраваць Польшчу.

Пасьля аб'яднаньня зазначаных трох груп „Вызваленьне“ сьпярша мела назву: „Polskie stronnictwo Ludowe“ (Польская Народная партыя) і толькі з 1917 году да гэтай сваёй назвы дадала яшчэ назву „Вызваленьне“.

У кастрычніку 1919 году партыя „Вызваленьне“ аб'ядналася з партыяй „Пяста“. Але аб'яднаньне гэта было нямоцнае і ўжо ў сакавіку 1920 году з гэтае аб'яднанай фракцыі „Пяста“ выступіла 24 дэпутаты, быўш. вызваленцы, якія і аднавілі зноў партыю „Вызваленьне“.

Прычынай, якая прымусіла вызваленцаў аднавіць „Вызваленьне“ было вось што: паводзіны лідэра і прадстаўніка партыі „Пяст“—Вітаса, які ў 1920 г. ўступіў у Коаліцыю з соймавай „правіцай“ і, каб угадзіць апошняй, адмовіўся ад некаторых прынцыповых пунктаў сваёй праграмы.

У часе выбараў у Сойм і Сэнат у 1922 годзе вызваленцы правялі у Сойм 48 дэпутатаў і 8—у Сэнат.

У канцы мая 1923 году ў фракцыі „Пяста“, як аб гэтым зазначалася вышэй, адбыўся раскол з тэй прычыны, што фракцыя „Пяста“ ўступіла ў

[1]) „Зараняж“—з польскага слова Zaranie (пачатак раніцы).

[2]) Гл. характарыстыку „Правіцы“ ў пачатку гэтага артыкулу.

коаліцыю з так званай „правіцай". Тая частка фракцыі, што адкалолася, складалася з 9 дэпутатаў і 2 сэнатараў, на чале яе стаяў Ян Домбскі; яна спачатку заснавала ў Сойме новую фракцыю „Jedność Ludowa" (Народнае Адзінства), а ў кастрычніку 1923 году аб'ядналася з фракцыяй „Вызваленьне" і была ўтворана адна агульная фракцыя і партыя: „Вызваленьне" і „Народнае Адзінства".

Аб'яднаньне фракцый „Вызваленьне" з „Народным адзінствам" было тэй эпохай, калі гэта аб'яднаная фракцыя мела найбольшы ўплыў і значэньне. Пасьля гэтага, аж да нашых дзён, адбываецца зьмяншэньне ўплыву фракцыі ў Сойме, тое самае адбываецца ў партыі па-за Соймам.

У ліпні 1923 году з фракцыі „Вызваленьне" выступілі два дэпутаты—Балін і Шакун, якія пазьней уступілі ў фракцыю „Незалежнай Сялянскай партыі". Гэтая партыя была створана Ваяводзкім, які таксама вышаў з „Вызваленьня". Летам 1924 году выступіў з фракцыі яе старшыня—Тугут, выдатны грамадзянскі і палітычны дзеяч. Гэтая акалічнасьць вельмі падарвала фракцыю.

Пасьля Тугута ў фракцыю намячалася шмат кандыдатаў на пасаду правадыра і кіраўніка партыі і фракцыі, але па сваіх асабістых якасьцях ніводзін з іх ня мог быць бясспрэчным кандыдатам. Пасьля гэтага ўнутры фракцыі сталі адбывацца розныя спрэчкі, пачалі мяняць старшынь фракцыі і да г. п.

Калі Тугут стварыў новую фракцыю „Партыі Працы", то некаторыя дэпутаты Сойму і сэнатары-вызваленцы перашлі ў гэтую новую Тугутаўскую фракцыю.

Нарэшце, у самы апошні час, у пачатку 1926 году ў „Вызваленьні" адбыўся зноў раскол. Прычына была тая, што сябра фракцыі Ян Домбскі, які ў свой час аддзяліўся ад „Пяста" і далучыўся да „вызваленьня", імкнуўся зараз аб'яднацца з партыяй „Сялянскага Саюзу". Такі напрамак у палітыцы Домбскага вельмі занепакоіў карэнных лідэраў „Вызваленьня", і яны выключылі яго з фракцыі. Пасьля выхаду з фракцыі Домбскага ў апошняй налічваецца меней 30 дэпутатаў.

Тое, што вызваленцы ня хочуць аб'яднацца з „Сялянскім Саюзам" тлумачыцца тым, што яны баяцца, каб не асіміляваццца і ня страціць свайго палітычнага твару, калі будуць знаходзіцца пад палітычным кіраўніцтвам такіх выдатных палітычных дзеячоў, як старшыня фракцыі „сялянскага саюзу" Брыль і Ян Домбскі.

Нарэшце, у самы апошні момант, у зьвязку з арганізацыяй паездкі прадстаўнікоў Сойму ў СССР дэпутат Гэльман выступіў з фракцыі.

Калі Яна Домбскага выключылі з фракцыі „Вызваленьне", то ён у інтэрв'ю зазначыў аб поўным распадзе гэтай фракцыі і гэтую сваю думку і характарыстыку падмацаваў тым, што фракцыя,—у якой у працягу году адбыліся чатыры расколы і сем раз зьмяняліся старшыні,—ня можа

быць моцнай і рабіць уплыў і што нават яна хутка ідзе да поўнага заняпаду.

Партыя „Вызваленьне“ імкнецца выяўляць у Сойме інтарэсы безьзямельнага і малазямельнага сялянства. Але гэта ёй не заўсёды добра ўдаецца. Для таго, каб быць паступовымі ў сваіх словах і дзейнічаньні, вызваленцы павінны былі-б мець сталую палітычную праграму, якая грунтавалася-б на поўным клясавым прынцыпе. Такой праграмы „Вызваленьне“ ня мае. Праўда, у праграме гэтае партыі гаворыцца аб шмат чым такім, што паабывацельску называюць лібэральным. Але далей гэтых гутарак і дэкларацый вызваленцы ня йдуць. Ім перашкаджае шовінізм, які прымушае іх прымаць актыўны ўдзел у вайсковай колёнізацыі беларускіх і украінскіх зямель. Апрача гэтага, вызваленцы—пілсудчыкі, а гэта ўжо адно сьведчыць аб тым, што яны прыхільнікі ваяўнічай вялікадзяржаўнасьці, хоць гэта яны і прыкрываюць прыгожымі лёзунгамі і салодкімі выразамі.

Такім чынам, з якога-б боку мы ні разглядалі вызваленцаў, то заўсёды ўбачым, што па існасьці яны зьяўляюцца прыдаткам да пястаўцаў з левага боку.

У часе барацьбы безьзямельнага і малазямельнага сялянства з памешчыкамі і кулакамі нельга віляць паміж адным і другім бокам. У гэтай чыста клясавай барацьбе не павінна быць нейкіх сярэдніх партый. Тут мы і бачым, што фракцыя і партыя „Вызваленьне“, якая ня мае пэўнай клясавай праграмы і ў гэты час усё-ж такі імкнецца весьці нейкую, як-бы клясавую опортуністычную політыку, хоць і паволі, але правільна йдзе да поўнага распаду.

У сучасны момант старшынёй соймавай фракцыі „Вызваленьне“ зьяўляецца Сталярскі Блазей, селянін-самавучка. Хоць Сталярскі ўладае выдатнымі здольнасьцямі, але ўсё-ж такі ў фракцыі ён зьяўляецца тэй шырмай, за якую хаваюцца сапраўдныя кіраўнікі фракцыі. Да такіх перш за ўсё патрэбна залічыць Яна Домбскага, які аж да самага апошняга часу быў сябрам і лідэрам фракцыі.

Домбскі Ян радзіўся ў аўстрыйскай частцы Польшчы—у Львоўскім павеце ў 1880 г.; яго профэсія—публіцысты. Скончыў у Львоўскім унівэрсытэце хэмічнае аддзяленьне. На політычнай арэне зьявіўся ў 1919 г., як віцэ-міністар па замежных справах, пасьля быў старшынёй польскай мірнай дэлегацыі ў Менску і Рызе. У сучасны момант зьяўляецца старшынёю саюзу легіяністых. У польскай арміі Домбскі служыў у пяхотным палку легіянэраў на пасадзе паручніка. Другім выдатным лідэрам у фракцыі зьяўляецца Панятоўскі Юлій, родам з Пецярбургу, мае 39 год. Скончыў вышэйшую Агрономічную школу ў Кракаве. З 1914 году служыў у легіёнах Пілсудзкага, а пасьля на службе і ў грамадзкім жыцьці займаў розныя высокія пасады. Быў дэпутатам і ў першым так званым устаноўчым Сойме.

Партыя „Вызваленьне“ выдае ў Польшчы тры тыднёвікі. Лічаць, што некаторыя газэты, якія і не зьяўляюцца органамі партыі, але ўсё-ж такі сымпатызуюць тэй політыцы, якую вядзе „Вызваленьне“. Такімі газэтамі, па думцы вызваленцаў, зьяўляюцца: „Кур'ер Поранны“, „Пшэглёнд Вечорны“, „Кур'ер Львоўскі“ і шэраг інш.

## Партыя працы

У выніку паступовага развалу соймавай фракцыі „Вызваленьне“ з яе, як ужо зазначалася вышэй, выступіла некалькі груп і асобных дэпутатаў. У сярэдзіне 1924 году Тугут, які ў той час быў яшчэ старшынёй гэтае фракцыі, захацеў быць міністрам. Фракцыя не згаджалася на тое, каб Тугут увашоў у склад габінэту Грабскага, і Тугут вышаў з фракцыі.

Прабыўшы каля поўгода міністрам без портфэлю з нейкімі нявызначанымі поўнамоцтвамі, Тугут зразумеў, што нават яму, ня гледзячы на тое, што ён толькі йграе ў лібэральнасьць, польскія чорнасоценцы не дазваляюць займацца і гэтай справай. Здольны, разумны і асьцярожны,— Тугут шмат сабе нашкодзіў тым, што ўступіў у склад ураду.

Вышаўшы з габінэту міністраў, Тугут адзін час быў „дзікім“, г. зн. не належаў ні да якай фракцыі. Але, нарэшце, Тугут сабраў каля сябе групу вызваленцаў, якія былі незадаволены тэй чахардой старшынь фракцыі і тымі сваркамі і крыклівымі гістарычнымі выступленьнямі, якія адбываліся ў фракцыі. Сабраўшы такіх незадаволеных вызваленцаў, якіх было разам з ім 10 чалавек, Тугут заснаваў у Сойме новую фракцыю пад назвай: „Klub Pracy“ (Клюб Працы). У гэты клюб увашло 6 дэпутатаў Сойму і 4 сэнатары.

14 мая 1925 году ў Сойме была агалошана дэклярацыя гэтага занова складзенага клюбу. У гэтай дэклярацыі маецца шмат сантымэнтальных і вялігурыстых слоў і выразаў, але ў іх не адчуваецца ні моцы ні веры ў тыя лёзунгі, якія яны агалошваюць.

Возьмем некалькі вытрымак з гэтае дэклярацыі. Адносна нацыянальных меншасьцяй у дэклярацыі гаворыцца: „Мы прызнаем, што Польшчы будзе пагражаць небясьпека да таго часу, пакуль будуць існаваць узаемаадносіны, пры якіх трэцяя частка насельніцтва дзяржавы будзе лічыць сябе грамадзянамі, якія ня ў поўнай меры карыстаюцца ўсімі правамі“.

Заўважце, як асьцярожна гучыць істотная частка зазначанага абзацу: „—трэцяя частка насельніцтва дзяржавы будзе *лічыць сябе* грамадзянамі, якія ня ў поўнай меры карыстаюцца правамі“.

Сапраўдная фракцыя або партыя працы вылажыла-б зазначаную думку можа ня так вычварна, але затое больш яскрава і рашуча; не нацыянальныя-ж меншасьці *лічаць сябе грамадзянамі, якія ня ў поўнай меры карыстаюцца ўсімі правамі, а польскі ўрад сілком іх пазбаўляе гэтых праў.*

У वадносінах фабрычнага і сельскага пролетарыяту ў дэкляарацыі гаворыцца вельмі саладкаватаю моваю і выказваюцца чыста плятонічныя пажаданьні, якія ня могуць ня выклікаць усьмешкі.

Вось гэты абзац:

„Няхай ніводзін мужык на зямлі, якую ён абрабляе, ня ступае па ёй так, як жывёліна з клункамі. Няхай ён адчувае сябе яе ўласьнікам, тады ён зразумее, што ён таксама ў вядомай частцы зьяўляецца і ўласьнікам Польшчы.

Няхай працаўнік на фабрыцы ня лічыць сябе за няжывую частку машыны, якую (частку машыны), скарыстаўшы, выкінуць".

Няхай працаўнікі разумовай працы ня плацяць дані за тое, што яны атрымалі веды".—Такога роду „політычнымі заклінаньнямі" Тугут сіліцца давесьці рабочым і сялянам Польшчы, што ён гатоў абараняць іх інтарэсы.

Адна польская газэта вельмі ўдала ахарактарызавала і дэкляарацыю новага „Клюбу Працы" і яе старшыню Тугута. Прыводзячы вытрымкі з дэкляарацыі і комэнтыруючы іх, аўтар артыкулу аб Тугуце і яго дэкляарацыі кажа словамі Заглобы[1]):

„Надзеў д'ябал ксяндзоўскае ўбраньне і хвастом на абедню звоніць". Гэтую характарыстыку патрэбна прызнаць ня толькі вельмі ўдалай і вобразнай, але і вельмі правільнай.

Старшынёй фракцыі Працы зьяўляецца Станіслаў Тугут. Радзіўся ён у Варшаве, у сучасны момант мае 52 гады, атрымаў сярэднюю адукацыю, залічае сябе да літаратараў. З 1915 г. Тугут служыў у легіёнах Пілсудзкага. У сучасны момант ён зьяўляецца таксама віцэ-старшынёй Лігі Праў Чалавека і інстытуту для дасьледваньня становішча нацыянальных меншасьцяй у Польшчы. Яшчэ Тугут вядомы тым, што разам з самым крайнім рэакцыянэрам—Станіславам Грабскім, склаў так званы закон аб мове нацыянальных меншасьцяй, які быў прыняты Соймам у 1924 годзе, і які аж да гэтага часу застаецца толькі на паперы.

З другіх лідараў партыі неабходна зазначыць пра дэпутатаў Сьмяроўскага, Хамінскага, Касьцялкоўскага і пра сэнатараў—Крыжаноўскага, Гашынскага і Віслауха.

### Незалежная Сялянская партыя

Фракцыя „Незалежнай Сялянскай партыі" ўзьнікла ў кастрычніку 1924 году пасьля таго, як з „Вызваленьня" вышлі 4 дэпутаты-беларусы і 2 палякі. Прычынай, якая прымусіла гэтых 6 дэпутатаў выйсьці з фракцыі „Вызваленьне", было вось што: яны не згадзіліся ў пытаньні аб законах, якія мелі дачыненьне да Заходняй Беларусі і Украіны.

Утвораная занова фракцыя „Незалежнай Сялянскай партыі" свае лёзунгі і програму дэкляаравала ў форме вельмі радыкальнай: „Улада працоўным"—вось наш асноўны лёзунг, кажа гэтая новая партыя.

---

[1]) Адзін з герояў роману Генрыха Сянкевіча „Агнём і мячом".

У вадносінах да нацыянальных меншасьцяй, партыя прызнае самавызначэньне народаў, а ў адносінах да тактыкі—рэволюцыйную барацьбу і дыктатуру пролетарыяту лічыць адзіным шляхам, праз які можна зьмяніць існуючы грамадзкі лад. Такім чынам, „Незалежная Сялянская партыя„ ў тэорыі блізка падыходзіць да Комуністычнай партыі. Але побач з гэтым падабенствам ёсьць, бязумоўна, і розьніца. Аб тым, чаго больш—розьніцы ці падабенства, можна будзе ўявіць з далейшага.

У сучасны момант фракцыя мае ў Сойме 6 дэпутатаў і ніводнага ў Сэнаце. Старшынёй фракцыі „Незалежнай Сялянскай партыі“ ў Сойме і самым выдатным яе лідэрам па-за Соймам зьяўляецца Ваявудзкі Сільвестра (радз. ў 1892 г.). Родам з г. Пскова, сярэднюю адукацыю атрымаў у горадзенскай гімназіі, з якой пасьля быў выключаны за тое, што кіраваў польскай моладзьдзю, якая імкнулася да незалежнасьці Польшчы. У быўш. Пецярбургу перад сусьветнай вайной скончыў Псыха-Нэўролёгічны інстытут. Да 1916 году служыў у 1-ай брыгадзе легіёнаў Пілсудзкага. Пасьля быў афіцэрам штабу генэрала Шаптыцкага, а пасьля ўжо афіцэрам генэральнага штабу польскіх войск. У сучасны момант зьяўляецца рэдактарам сваёй партыйнай газэты.

Сябры гэтае фракцыі:

Галавач Фэлікс—беларус, селянін Налібоцкай гміны (воласьці) Валожынскага павету, Віленскай губ., радзіўся ў 1886 годзе. Скончыў тэхнічную школу і сельска-гаспадарчае аддзяленьне Унівэрсытэту імя Шаняўскага ў Маскве. У часе Керанскага ў 1917 годзе быў дэлегатам ад беларусаў на Ўсерасійскім Зьезьдзе.

Балін Станіслаў—радз. ў 1897 годзе ў мяст. Тракелях Лідзкага павету Віленскай губ. Скончыў сярэднюю асьвету, працаваў па коопэрацыйнай часьці. У 1914-15 г. г. яго прасьледавала царская паліцыя таму, што ён быў нелегальным польскім настаўнікам.

Шакун Уладзімер—беларус, селянін вёскі Калевічы, Валожынскага павету быўшай Віленскай губ. радз. ў 1883 годзе.

Шапель Антон—беларус, селянін вёскі Масьленікі Сьвяньцянскага павету быўш. Віленскай губ., радз. ў 1891 годзе.

Бон Адольф—радз. ў 1890 г. ў Холмшчыне; у Варшаве скончыў настаўніцкую сэмінарыю і Пэдагогічны Інстытут у Крыме. З 1916 да 1918 г. служыў чыноўнікам у расійскай арміі. У Польшчы працуе па коопэрацыйнай часьці.

## Радыкальная Сялянская партыя

Stronnictwo Chłopskie Radykalne (Радыкальная Сялянская партыя) скарочана завецца „Хлопаўцы“ альбо ХСР. Гэтая партыя мае ў Сойме сваю фракцыю, якая складаецца з 4 дэпутатаў. Лідэр Соймавай фракцыі Радыкальнай Сялянскай партыі ксёндз Окань характарызуе сваю партыю, як грамадзянска-палітычную організацыю малазямельных і безьзя-

мельных сялян, якая па програме набліжаецца да партый „Пяста" і „Вызваленьне", але ў тактыцы яна адыходзіць ад іх улева. Радыкальная Сялянская партыя афіцыяльна ўзьнікла ў 1918 годзе ў Галіцыі. Яе ідэёвым кіраўніком зьяўляецца ксёндз Окань, ён-жа і старшыня соймавай фракцыі сваёй партыі. Пачатак радыкальнай Сялянскай партыі дала партыя „Пяст".

Радыкальная Сялянская партыя ня робіць вялікага ўплыву на сялянскія масы. Больш заможнае польскае сялянства хутчэй пойдзе з „пястаўцамі" альбо з „вызваленцамі", а бядняцкаму насельніцтву з ксяндзом Оканем таксама не па дарозе.

Партыя ксяндза Оканя мае, калі можна так сказаць, сваю тэрыторыю, на якой і стараецца знайсьці сабе больш прыхільнікаў.

У 1919 годзе ад партыі „Хлопаўцаў" прашло ў Сойм два дэпутаты, а ў 1922 годзе, у часе выбараў у сучасны Сойм кс. Окань правёў ужо 4-х дэпутатаў. Але ўсё-ж такі гэты посьпех нельга разглядаць сур'ёзна і лічыць, што ўплыў Сялянскай радыкальнай партыі павялічыўся. Такому ўплыву перашкаджаюць „конкурэнты" як справа, так і зьлева.

Програма Сялянскай радыкальнай партыі досыць лібэральная. У ёй ёсьць і запатрабаваньні аднапалатнай сыстэмы, і правядзеньня радыкальнай зямельнай рэформы бяз выкупу, і дармовае навучаньне ў школах. Апошні баявы лёзунг партыі—гэта зварот Пілсудзкага ў армію. Сутана ксяндза Оканя і лёзунг з запатрабаваньнем аб звароце Пілсудзкага ў армію дадуць магчымасьць чытачу ўяв'іць сабе сапраўдную ідэолёгію данай партыі, хоць-бы яна мела самую радыкальную програму. Патрэбна зазначыць, што калі-б ня гэты лёзунг аб Пілсудзкім, то ўсе выступленьні групы ксяндза Оканя ў Сойме можна далучыць да самых левых і опозыцыйных. Але ўсё-ж такі вельмі мала хто ў Сойме сур'ёзна адносіцца да выступленьняў „Хлопаўцаў", часьцей усяго да гэтых гарачых выступленьняў Оканя дэпутаты адносяцца гіронічна, нават з некаторай доляй гумару.

Партыя выдае свой орган „Chłopska Sprawa" (Сялянская справа).

Галоўнай фігурай і ў партыі і ў фракцыі, як ужо зазначалася вышэй, зьяўляецца ксёндз Окань Эўгені, якога за яго, хоць і тэорытычную, але ўсё-ж лявізну, у 1922 годзе каталіцкая духоўная ўлада пазбавіла сану. Але, ня гледзячы на гэтую пастанову, ксёндз Окань носіць сутану¹) і да сучаснага моманту. Згодна апошніх вестак, радыкальная хлопская партыя выключыла ксяндза Оканя з сваіх шэрагаў за паводзіны, якія компромэтуюць партыю.

**Партыя польскіх соцыялістых**

Фракцыя або клюб Związku Parlamentarnego Polskich Socjalistów (Парляманцкага Саюзу польскіх соцыялістых) лічыць сябе „самай старой і самай популярнай партыяй у Польшчы". Згодна з словамі польскіх со-

¹) Верхняя вопратка ксяндза.

цыялістых (скарочана ППС), заданьнем іх партыі зьяўляецца выхаваньне польскіх рабочых у соцыялістычным напрамку, але без дазволу ім забывацца аб іх нацыянальнасьці і аб падданстве, а таксама і аб тых абавязках, якія адгэтуль вынікаюць.

Польская соцыялістычная партыя ўзьнікла ў 1892 годзе на зьезьдзе ў Парыжы, у якім прымалі ўдзел прадстаўнікі ад усіх соцыялістычных груп Польшчы і так званага „Северо-Западного Края“.

На гэтым зьезьдзе былі прадстаўнікі наступных груп:

1) „Proletarjat“ (пролетарыят),

2) „Związek Robotników polskich“ (Саюз польскіх рабочых),

3) „Zjednoczenie“ (Аб'яднаньне),

4) „Grupa Socjalistów Polskich w Wilnie“ (Група польскіх соцыялістых у Вільні).

На чале апошняй групы быў Ёсіф Пілсудзкі.

Перш за ўсё, гэтыя групы заснавалі на зьезьдзе „Замежны Саюз Польскіх соцыялістых“, а ўжо ў 1895 годзе ў Вільні быў першы зьезд ППС.

Спачатку дзейнасьці ППС на чале партыі знаходзіліся: Ёсіф Пілсудзкі, Станіслаў Вайцахоўскі[1]), Аляксандар Маліноўскі, Лявон Васілеўскі, Фэлікс Перль і інш.

Прыблізна аднačасова з заснаваньнем на тэрыторыі Польшчы партыі ППС там амаль што зусім перастала існаваць, дзякуючы поліцэйскім рэпрэсіям, Польская Соцыял-Дэмократычная Партыя. Але затое сябры гэтае прыдушанай ў Польшчы партыі сталі дзейнічаць вельмі актыўна за межамі (за межамі быўш. Расіі). З апошніх сваёй актыўнай рэволюцыйнай працай вызначаліся Роза Люксэмбург, Адольф Варшаўскі-Варскі[2]) і Ульлян Мархлеўскі. Яны вялі энэргічную барацьбу з ППС з тае прычыны, што ППС выяўлялі нацыяналізм і шовінізм. Галоўныя сілы ППС былі сконцэнтраваны ў расійскай часьці Польшчы, але, з моманту першага зьезду у Вільні, у ППС было імкненьне коордынаваць працу польскіх соцыялістычных партый у польскай часьці ўсіх трох імпэрый: Расійскай, Нямецкай і Аўстрыйскай. Замежны камітэт польскіх соцыялістых яднаў усе польскія соцыялістычныя партыі. Гэты камітэт да 1903 году знаходзіўся ў Швайцарыі, а ў 1903 г. месцам сваёй працы выбраў Кракаў.

У часе расійска-японскай вайны Пілсудзкі накіроўваецца ў Японію – у Токіё з тэй мэтай, каб здабыць матэрыяльныя сродкі для рэволюцыйнай працы ў Расіі. Аднačасна ППС, па іх словах, імкнуліся зрабіць контакт з усімі соцыялістымі іншых народнасьцяй, якія знаходзіліся на тэрыторыі быўш. Расіі, падбухторваючы іх да барацьбы за самавызначэньне і незалежнасьць.

[1]) Цяперашні прэзыдэнт польскай рэспублікі.

[2]) Уступіў у пачатку 1926 году ў Сойм замест комуністычнага дэпутата Круліkoўскага, адмовіўшагася ад мандату.

Пасьля 1905 году і крывавай нядзелі 9-га студзеня ўплыў ППС на рэволюцыйны рух ня толькі ў Польшчы, але і на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Літвы—некалькі павялічыўся. У гэты-ж самы час унутры партыі ППС пачаў намячацца раскол паміж так званымі „старымі" і „маладымі". Старыя падкрэсьлівалі свой сэпаратызм у адносінах да соцыялістых іншых народнасьцяй у былш. Расіі і „соцыял-патрыотызм" у адносінах да Польшчы. „Маладыя" імкнуліся аб'яднаць усе рэволюцыйныя сілы і стварыць адзіны рэволюцыйны фронт. У выніку гэтае барацьбы кіраўніцтва над партыяй узялі „маладыя", а „старыя" сконцэнтравалі свае сілы ў баявых тэрорыстычных організацыях. Але ўсё-ж такі ў хуткім часе ізноў пачаліся сваркі паміж агітацыйнай організацыяй—„маладымі" і баявой організацыяй—„старымі". Гэтыя непаразуменьні, нарэшце, давялі да таго, што на IX зьезьдзе ППС баявікі, або так званыя „старыя", павінны былі выйсьці з партыі. Гэтыя выхадцы з ППС, з'організавалі рэволюцыйную фракцыю ППС, куды ўвашла і баявая організацыя. Такім чынам ужо тады ў партыі ППС намеціліся дзьве групы: адна, якая ішла ўправа,—гэта цяперашняя ППС, і другая, якая ішла ўлева. Па гэтай другой дарозе, якая вядзе да комунізму, пашлі тыя рэволюцыянэры, якія запраўды даражылі інтарэсамі рэволюцыі і пролетарыяту.

З самага пачатку імпэрыялістычнай вайны ППС прымала самы чынны ўдзел у організацыі легіёнаў Пілсудзкага. У часе нямецкай окупацыі політыка ППС была вельмі нявыразнай і падвойнай.

У 1918 годзе прадстаўнікі ППС мелі кіраўнічую ролю ў польскім урадзе. У першым так званым „ўставадаўчым Сойме ў 1919 годзе ППС з 347 мандатаў атрымала 34 мандаты.

На XVIII конгрэсе ППС пастанавіла выйсьці з II, так званага Лёндонскага, Інтэрнацыяналу і хадайнічаць аб уступленьні ў 2 1/2 Венскі інтэрнацыянал. Венскі 2 1/2 інтэрнацыянал адказаўся прыняць ППС, мотывуючы свой адказ тым, што ППС зьяўляецца партыяй „вельмі рэформіцкай і далёкай ад сапраўднага соцыялізму".

Програма ППС перш за ўсё прадугледжвае аб'яднаньне ўсіх польскіх зямель, г. значыць да меж, якія былі ў 1772 годзе з Віцебскам, Менскам. Кіевам і г. д. З цягам часу ППС ўсё больш правела і ўсё далей адыходзіла ад соцыялізму. У сучасны момант яны нічым не адрозьніваюцца ад былўшых расійскіх кадэтаў ня левых, а нават правых. Калі ўзяць такога кадэта і для надворнага карыстаньня даць яму лёзунгі „Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся" і „Няхай жыве Рабоча-Сялянскі ўрад", то выйдзе самы сапраўдны ППС.

Ад соцыялізму ў ППС засталіся ў спадчыну, як рэліквія, толькі што азначаныя вышэй два пролетарскія лёзунгі. Сярод ППС ёсьць сапраўды парадачныя людзі і сапраўдныя абаронцы рабочае клясы, але як партыя, таксама і фракцыя ППС гавораць з рабочымі рознаю

моваю. Звычайна, справа ў іх ня йдзе далей добрых намераў і абяцанак, гэткае тактыкі ППС прытрымліваецца нарочна.

Барацьба з левага боку з комуністымі і небясьпека з гэтага боку іх больш палохае, чымся з правага боку.

Правыя ім ня могуць пагражаць небясьпекай, а комуністыя конкуруюць з імі і карыстаюцца ўсё большым і большым посьпехам.

Старшынёй соймавай фракцыі ППС зьяўляецца Барліцкі Норбэрт (радз. ў 1880 г.), родам з быўш. расійскай часьці Польшчы. У 1904 г. скончыў Варшаўскі Унівэрсытэт. Профэсія яго—настаўнік гімназіі. У часе нямецкай окупацыі сядзеў сем месяцаў у турме; у свой час быў рэдактарам газэты „Dziennik Wileński“ (Віленскі Дзеньнік), прымаў удзел у Менскай і Рыскай конфэрэнцыях.

Сярод ППС маюцца выдатныя дзеячы ня толькі ў сваёй фракцыі, але і сярод усіх сяброў Сойму. Большасьць з іх прашлі парляманцкую школу ў Аўстрыі. Такімі дзеячамі зьяўляюцца: Лібэрман Герман (радз. ў 1870 г.), родам з быўш. аўстрыйскай часткі Польшчы, профэсія яго—адвокат, мае чын падпалкоўніка рэзэрву аф'цэраў судовага корпусу польскіх войск. Вышэйшую асьвету атрымаў у Парыжы і ў Швайцарыі. З 1907 да 1918 году быў сябрам аўстрыйскага парляманту. Аўстрыякі некалькі разоў, хоць і на невялікі тэрмін, засаджвалі яго ў турму.

Дашынскі Ігнат (радз. ў 1866 г.), родам з аўстрыйскай часткі Польшчы. Скончыў юрыдычны факультэт у Львове і філёзофскі—у Кракаве і Цюрыху (Швайцарыя). Профэсія яго — публіцысты-рэдактар. З 1897 да 19 8 г. быў сябрам аўстрыйскага парляманту. У сучасны момант зьяўляецца банкаўскім дзеячом. Політычную дзейнасьць ён амаль што зусім закінуў. Беларусам Дашынскі павінен быць доўга ў памяці і вось чаму: пасьля Рыскага міру да яго, як да віцэ-прэм'ера, зьявілася ад беларускага насельніцтва дэлегацыя і скардзілася на тое, што па жывым целе Беларусь падзялілі на дзьве часткі. Выслухаўшы дэлегацыю Дашынскі сказаў: „No coż, mieliśmy siłę—podzieliliśmy was. Wy będziecie mieć siłę—podzielicie nas!“ (Ну што-ж, мы мелі сілу і таму падзялілі вас, вы будзеце мець сілу—тады вы нас падзеліце).

Дыаманд Герман (радз. ў 1890 г.), родам з быўшай аўстрыйскай часткі Польшчы. Скончыў вышэйшую юрыдычную асьвету ў Львове і ў Вене. З 1907 да 1918 году быў сябрам аўстрыйскага парляманту У сучасны момант уладае досыць добрым капіталам.

Перль Фэлікс (радз. ў 1871 г.), родам з расійскай часткі Польшчы. Скончыў вышэйшую юрыдычную асьвету ў Варшаве і ў Бэрне (Швайцарыя). Прымаў удзел у Рыскай мірнай конфэрэнцыі.

Чапінскі Казімір (радз. ў 1882 г.), родам з гораду Менску, тут ён і скончыў гімназію. Вышэйшую асьвету атрымаў у быўш. Пецярбурзе і ў Кракаве. Заснаваў у Менску групу соцыялістых, заснаваў і быў рэдактарам расійскай газэты ў Менску „Северо-Западный Голос“.

Недзялкоўскі Мечаслаў радзіўся ў 1893 г. ў гор. Вільні. Бацька яго належыць да палітычных дзеячоў крайняй „Правіцы". Вышэйшую юрыдычную асьвету Недзялкоўскі атрымаў у быўш. Пецярбурзе. Політыка яго адносна беларусаў і украінцаў такая-ж, як і ў Тугута, ён, напрыклад, прызнае, што беларусы не дарасьлі нават да аўтономіі.

На мясцох партыйная організацыя ППС пабудавана па тэрыторыяльна-адміністрацыйным падзеле краю, а ў прамысловых гарадох—па прадпрыемствах і саюзах.

ППС выдае ў Польшчы 6 газэт, а за межамі—4. Галоўным органам ППС зьяўляецца газэта „Работнік", якая выдаецца ў Варшаве.

У сучасным Сойме скліканьня 1922 году ППС мае 41 дэпутата і ў Сэнаце—7 сэнатараў. У пачатку студзеня 1926 году на зьезьдзе ППС намеціўся раскол партыі. Опозыцыя ўпікала цяперашніх правадыроў партыі за тое, што яны разам з рэакцыйнымі правымі партыямі прымаюць удзел ва ўрадзе. „Галоўка" партыі абараняла сябе, і свой удзел ва ўрадзе мотывавала прыблізна таксама, як рабілі гэта і пястаўцы, што інтарэсы дзяржавы вышэй інтарэсаў партыі.

*(Працяг будзе).*

# ВОДГУК ПАЎСТАНЬНЯ ДЗЕКАБРЫСТЫХ НА БЕЛАРУСІ

**Д. Васілеўскі**

Быўшы Віцебскі губэрскі архіў захаваў у сабе шмат цікавых сакрэтных папер канцэлярыі Беларускага гэнэрал-губарнатара за 1826 год, якія яскрава малююць настроі грамады таго часу.

Прычыны, якія парадзілі паўстанцкі рух сярод расійскага дваранства, найбольш ясны былі беларускай шляхце. Некарыснасьць прыгоннае працы, патрэба павялічэньня панскай запашкі ў сувязі з узростам вывазкі рознага збожжа праз Рыгу за межы дзяржавы—хваравіцей адчувалася ў Беларусі, чым у іншых частках Расіі. Беларускае панства шукала выйсьця з прыгоннае экономікі, і таемныя таварыствы і гурткі сеткай апляталі абшар Беларусі. У 1826 г. частка гэтых таварыстваў выбухнула, як адгалосак на паўстаньне Чарнігаўскага палка, а другая частка праіснавала да 1831 году.

З патаемных таварыстваў, якія былі адшуканы царскім урадам у зьвязку з паўстаньнем дзекабрыстых, было „Общество Военных Друзей" у Беластоку. Значная частка прыраджэнцаў Беларусі ўваходзіла ў склад другога патаемнага таварыства „Аб'яднаных Славян". Ліквідацыя гэтых таварыстваў у 1826 годзе адбылася ў г. Магілеве „Белорусском", як называюць яго тагачасныя паперы, а членаў „Общества Военных Друзей" судзілі ў Беластоку вайсковым судом літоўскага асобнага корпусу. Так зваўся тады корпус беларускага войска. Паўстаньне ў корпусе беларускіх войск выбухнула 24 сьнежня 1825 году ў мястэчку Бранск Беластоцкага павету сярод салдат літоўскага піонэрнага батальёну. Салдаты адмовіліся прысягаць Мікалаю I, пакуль ім не паказалі ўласнаручнага ліста з адмовай Канстантына Паўлавіча ад царскага трону. Пры гэтым капітан Ігельстром ня даў прысягаць камандзіру батальёна падпалкоўніку Адбручову, вывеў 1 роту з карэ, а за ёй вышлі і другія роты і разышліся па кватэрах. Толькі, калі салдатам паказалі маніфэст Канстантына Паўлавіча, тады яны прысягнулі. Спроба афіцэраў літоўскага піонэрнага батальёну падгурусьціць іншыя вайсковыя часткі свайго корпуса адмовіцца ад прысягі не ўдалася.

Сьледзтва па гэтым выпадку зачапіла ня толькі афіцэраў піонэрнага батальёну: капітана Ігельстрома, паручыка Вэгеліна, падпаручыка Пятроўскага, прапаршчыка Ваяховіча, але і салдат, чыноўнікаў Беластоцкага дваранскага дэпутацкага сходу, мясцовую шляхту, шляхцянак, вучняў бела-

стоцкай гімназіі Якую мэту ставіла сабе таварыства „Военных друзей“,— царскі ўрад так і не даведаўся, бо члены яго—шляхцянкі Рукевіч Ксавэрыя і Карнэлія—зараз-жа спалілі паперы Ігельстрома, як толькі даведаліся аб арыштах. Але судзячы па складзе т-ва і таму, што яны, апрача падпаручыка Пятроўскага і „рядового“ Угрычыч-Трэбінскага, не давалі суду шчырых паказаньняў. Так і не даведаліся царскія сьледчыя аб мэтах таварыства, а за гэта разаслалі падсудных па катаргах Сібіры і ў ссылку пад чачэнскія кулі на Каўказ. (Архив III отд., I экспед. 1827 г. № 136).

Справы сучасных архіваў Беларусі не даюць вестак аб другіх дзекабрыстых, якіх судзілі ў Магілеве. Судзебныя справы вывезены ў тагачасны Пецярбург. Нашы архівы захавалі толькі некаторыя весткі аб тым ўражаньні, якое зрабіла паўстаньне дзекабрыстых на Беларусі. 6 студзеня 1926 году беларускі генэрал-губарнатар князь Хаванскі рассылае ўсім губарнатарам сакрэтны абежнік, у якім прапануецца „По известным происшествиям, случившимся в Петербурге“, падвоіць дбайнасьць мясцовага начальства ў губэрнях па ахове агульнага спакою „Прыказваецца“ назіраць „без огласки“, каб ва ўсіх клясах грамады захавана была звычайная паслухмянасьць царскаму ўраду; калі будуць пачуты якія-небудзь перамённыя чуткі, разважаньні, то зараз-жа паведамляць губарнатара, адначасова загадваецца паведамляць канцэлярыю генэрал-губарнатара, калі Мікалай І загадае непасрэдна што-небудзь губарнатару. Пры гэтым князь Хаванскі ссылаецца на паведамленьне Пецярбурскага ваеннага губарнатара аб неабходнасьці адшукаць і забраць, калі знойдзецца на абшары Беларусі, „коллежского асессора Кюхельбекера“. В. К. Кюхэльбэкер, сябра Пушкіна, поэта і пэдагог, быў першым з дзекабрыстых, каго шукалі ў Беларусі, але не знашлі: яму ўдалося даехаць да Варшавы, дзе яго заарыштавалі 19-І-1826 году. Раней ён жыў у Беларусі, у сваёй сястры Ю. К. Глінкі, у маёнтку Закупы Духаўшчынскага павету Смаленскае губэрні. На Кюхэльбэкера, як добрага знаўцы Беларусі і прыхільніка яе незалежнасьці, ссылаліся ў 1831 годзе польскія рэволюцыянэры.

Як ні пільна сачылі чыноўнікі за Кюхэльбэкерам, але не злавілі, затое прыслалі ў канцэлярыю генэрал-губарнатара сьпісы асоб, „подозреваемых в беспорядках и волнениях“. (Секр. дело № 1, связки 12, за 1826 г. по канцелярии генерал губернатора).

У сьпісы папалі звычайныя мяшканцы розных станаў з Віцебскай, Магілеўскай, Смаленскай і Калускай губэрань, якія ня мелі ніякага дачыненьня да паўстанцаў.

У лютым ужо шукалі па ўсёй Беларусі салдат Чарнігаўскага пяхотнага палка, якія паўцякалі пасьля ліквідацыі паўстаньня Мураўёва-Апостала. (Секретное дело канц. генер.-губернатора Витеб., Могилев., Смоленск. и Калужской за 1826 г., № 2, связка 12, страница 1).

Міністар унутраных спраў загадвае адшукаць, затрымаць і адаслаць пад строгай вартай у бліжнюю вайсковую каманду ўцекачоў з „мятеж-

най шайка Муравьева Апостола нижних чинов Черниговского пехотного полка", адначасова разасланы былі прыкметы паручыка Сухінава і загад аб яго затрыманьні.

Усім канцэлярыям генэрал-губарнатарства быў разасланы „список Черниговского пехотного полка нижних чинов, бывших в шайке Муравьева-Апостола, кои неизвестно где находятся: 1 гренадерской роты: 1) плотнік Павел Юрьев; 2) фурлейт Михаил Молчан; 4 мушкатерской роты: рядовые Григорий Литвиненько, Иван Константинов; 5 мушкатерской роты: унтер-офицер Иван Харитонов, рядовые Павел Прокофьев, Алексей Федоров, Акім Сафронов; 6 мушкатерской роты: рядовые Яков Михайлов, Максим Андреенов.

Сверх того был в той же шайке переведенный из Черниговского полка в Александрийский гусарский полк поручик Сухинов, который также неизвестно где находится Приметы сего Сухинова суть следующие: росту 2 арш. около 8 вершков, лица смуглого, худощавого, чистого, волосы на голове и усах чорные, говорит сипливым голосом, лет около 35, на левой руке между кистью и локтем знак от раны пулей на вылет".

Гэтыя прыметы Сухінава задалі, відаць, шмат працы царскім чыноўнікам, бо на Беларусі шмат можна было спаткаць асоб з такімі прыметамі. Салдаты Чарнігаўскага палка, як відаць, былі рамесьнікі і сьвядомыя барацьбіты, калі іх так старанна шукалі сумесна з Сухінавым. Як відаць з надрукаваных Цэнтраархівам матэрыялаў паўстаньня дзекабрыстых, „поручык Сухінаў" быў самы пасьлядоўны барацьбіт з царскім самаўладзтвам.

Але Беларусь ня спрыяла царскім зыскоўцам, яны нікога не злавілі, апроч 10 чыноўнікаў „под видом коновалов" у Дрысенскім павеце (Дело №5, св. №2 за 1828 г). Ня ўсьпелі чыноўнікі агоўтацца ад разьездаў за „поручиком" Сухінавым, як з губэрні новая папера—шукаць „чужаземца Броўна". Асобная канцэлярыя МВД па сакрэтных справах ад 22 сакавіка 1826 году паведаміла генэрал-губарнатара, што, па вестках ад расійскага прадстаўніцтва з Парыжу, выехаў у Расію ангелец—Пётра-Осіп Броўн, які падазроны ў „тайных зносінах з Расіяй"; Броўн паехаў праз Гамбург—Лейпцыг у Расію. (Дело №7, св. 12, секр. архива Канц. г.-г. 1826 г.). Зноў міністэрства давала прыметы Броўна, пад якія мог падысьці любы шляхціц у Беларусі: „Ад роду 40 гадоў, рост каля 5 футаў 6 дзюймаў; валасы на галаве белакурыя з лысінай, бровы сьветларусыя, вочы шэрыя, нос і рот сярэдняй велічыні, валасы на барадзе русыя, барада круглая, твар прадоўжны, колер твару звычайны". Па вестках, Броўн ехаў з вялікай сумай грошай. Загадвалася затрымаць і хутчэй везьці ў Пецярбург са ўсімі яго паперамі к начальніку галоўнага штабу. Казка пра чужаземныя грошы, як відаць, усплывала кожны раз у часы рэволюцый у Расіі. Ці злавіла гэтага „інастранца" мікалаеўская паліцыя ў Беларусі,—справа не паказвае. Ад шуканьня асоб царскі ўрад перашоў

да адчыненьня „тайных обществ“ на абшары ўсяе Расіі, а ў тым ліку і на Беларусі.

Сакрэтная справа аб патаемных таварыствах за 1826 г. яскрава малюе непамерную рупнасьць царскага ўраду да іх зьнішчэньня. Па ўсім царстве быў дан загад сабраць падпіску ад усіх чыноўнікаў і паноў аб тым, што яны не належаць к патаемным таварыствам, а калі належалі раней, то паказаць, к якім.

Зноў зазьвінелі званкі па ўсёй Беларусі і паліцмайстары запылілі па дарогах ад маёнтку ў маёнтак зьбіраць весткі аб патаемных таварыствах і паназьбіралі іх шмат. Але супроцьурадавых таварыстваў не аказалася. (Дело № 10, св. 13, за 1826 г.).

У сваёй пагоні за чынамі і ордэнамі чыноўнікі часта ў перастараннасьці затрымлівалі ня толькі простых асоб, а нават асьмеліліся затрымаць у Полацку князя Ляксея Далгарукава. Затрымалі, а пасьля самі спужаліся, як-бы не ўляцела ад генэрал-губарнатара—таксама князя. Напужаны, відаць, арыштамі ў Маскве, князь Далгарукаў паскакаў з Масквы на Рыгу бяз усякіх „падарожных“ і іншых папер; і па адным крыку сваім і тупаньні нагамі на чыноўнікаў даехаў аж да Полацку. А тут паліцмайстар Штэрн „усомнялся в действительности звания князя Долгорукова“, спыніў выезд яго з Полацку, але губарнатар спужаўся і просіць рады ў генэрал-губарнатара; той выказаў падзяку паліцмайстару, а Далгарукаву параіў зьвярнуцца ў Маскву за неабходнымі паперамі, пасьля чаго загадваецца выдаць яму без якой-небудзь перашкоды „падарожную“.

Гэты выпадак ясна малюе абыходжаньне з праежджымі па шляхох Беларусі ў той час. Калі ў князя асьмеліліся спытацца папер. то с простымі асобамі не царамоніліся. (Дело № 17/1, 13 связки, за 1826 г.)

Яшчэ адзін раз дэкабрыстыя ўзбудзілі сонную цішыню беларускіх лясоў летам 1826 году, калі везьлі іх на адсідку ў крэпасьці на Беларусі у Бабруйск і Дынабург. (Дело № 13, связка 13, за 1826 г.). 21 ліпня іх адаслалі з Пецярбургу, а ўжо за месяц МВД дало загад, каб на ўсіх павятовых станцыях, праз каторыя павінны былі праяжджаць паўстанцы, былі нарыхтаваны паркі і тройкі коняй „для безостановочного проезда“. Коні стаялі пад хамутом з 21 ліпня па 2 жніўня. Па Віцебскай губэрні па шляху з Пецярбургу да Бабруйску стаяла напагатове 6 коняй, а з 23-VII па шляхох на Дынабург 3 коняй. Злачынцаў шпарка правезьлі па Беларусі і засадзілі ў крэпасныя муры. У Бабруйск папалі большасьць паўстанцаў афіцэраў з Чарнігаўскага палка і член ў „Таварыства Аб'яднаных Славян“, у Дынабургу сядзеў В. Кюхэльбэкер і іншыя члены „Паўночнага Таварыства“. Там-жа адбывалі сваю пакуту некаторыя афіцэры з польскіх палкоў за розныя правіннасьці. Рэжым быў надта галодны. Харчовых 25 кап. у дзень не выдавалі за некалькі месяцаў, і камэндант крэпасьці ня раз прасіў ваеннага Віцебскага губарнатара аб

выплаце харчавых. (Дело № 210, связка № 8, за 1826 г. Канц. Белор. ген.-губернатора па II сталу).

Выступленьне дзекабрыстых, іх стрэлы абудзілі моладзь на Беларусі. Званкі з „дзяржаўнымі злачынцамі“ не здарма зьвінелі ў лясох Беларусі. Настрої моладзі рабіліся рэволюцыйней з кожным годам. Якраз у 1826 годзе рэвізаваў беларускія вучылішчы профэсар з Пецярбургу— У. Сянкоўскі. Пры аглядзе ім школ г. Полацку мясцовае школьнае „начальства“ пры рапарце прадставіла Сянкоўскаму новыя „пасквільныя“ вершы, якія былі ноччу прыбіты к дзьвярам харчэўні супроць вышэйшага піарскага вучылішча. Гаспадар харчэўні падаў гэтыя вершы па начальству, і хаця „начальства“ знаходзіла „нелепым“ такі верш:—

„My, Koledzy, zgładźmy Cesarską rodzinę;
wolność niechaj będźie Studentom“,

але спужалася. На жаль, поўнага адбітку вершаў пры справе няма. Але, і гэты верш так напужаў Сянкоўскага, што ён зараз-жа зьвярнуўся да губарнатара. 5 сьнежня былі знойдзены вершы, а 9 ужо Сянкоўскі паведамляў Віцеб. губарнатара. Складаньнікам вершаў аказаўся вучань вышэйшага піарскага вучылішча ў Полацку—Восіп Добашынскі, з беднай шляхты.

Вершы падобнага зьместу ня раз вывешваліся на брамах Полацкіх кляштараў. Пры сьледзтве выявілася, што пры складаньні вершаў прымалі ўдзел полацкія пэдагогі і другія вучні. Забойства царскае радзімы насілася ў паветры. Сьледзтва зацягнулася да 1828 году і далейшага лёсу Добашынскага са справы ня відаць. (Дело № 28, связка № 13, за 1826 г. канц. г.-губ. о найденых в гор. Полоцке пасквільных стихах).

Апошняй справай аб дзекабрыстых, якая захоўваецца ў Віцебскім архіве, ёсьць „Дело по отношению личной переписки жены декабриста Трубецкого и о проверке их в Витебске надворным советником Горбачевским“ (Дело № 4, св. № 2, за 1828 г. канц. ген.-губернат.). Усе лісты вядомага „дыктатара“ з крэпасьці да жонкі і лісты жонкі да яго „III отделение собств. е. и. в. канцэлярыі“ накіроўвала ў Віцебск, тут іх здавалі пад расьпіску Гарбачэўскаму, той праз некаторы час адсылаў іх у III аддзяленьне. Па справе можна толькі па расьпісках Гарбачэўскага прасачыць лічбу лістоў Трубецкіх за два гады. Ніякіх адбіткоў з лістоў Трубецкіх ні вынікаў іх праверкі Гарбачэўскім пры справе не аказалася. Куды дзеліся лісты можна даведацца толькі ў архіве III аддзяленьня. Хто такі быў „сьпец па справах Трубецкіх“—Гарбачэўскі, пакуль што цяжка сказаць. Ва ўсякім выпадку гэта ня бацька вядомага дзекабр. Івана Гарбачэўскага. Бацька Гарбачэўскага служыў у Выцеб. казённай палаце і, здаецца, памёр у 1826 годзе. Мікалаеўск. „Беларусь“ захавала нам і сшытак вершаў К. Ф. Рылеева з адбіткам яго прадсьмяротнага ліста з Петрапаўлаўскай крэпасьці да жонкі Натальлі Міхайлаўны і дачкі „Настенькі“. Частка вершаў і заметкі пра Паўночную Амэрыку, здаецца, да-

сюль ня былі надрукованы. Сшытак вершаў Рылеева папаў у Віцебскі архіў з паперамі генэрала І. Шастакова, які быў жанаты на роднай пляменьніцы дзекабрыстага і поэты Е. П. Адаеўскага. Самая папера сшытку вершаў бяссумненна 20 гадоў XIX сталецьця, а характар надта падобны да ўласнага подпісу Рылеева. Зараз сшытак з вершамі Рылеева захоўваецца ў „Доме Кнігі“ Віцебску.

Беларусь адазвалася на стрэлы Чарнігаўскага палка паўстаньнем сялян. Мужык-беларус бунтаваў раней і пазьней дзекабрыстых. Ад 1828 году засталася справа канцэлярыі генэрал-губарнатара аб мерах усьцішэньня „бунтующих крестьян“. Бунтоўны селянін—гэта водгук Беларусі на паўстаньне дзекабрыстых на працягу ўсяго XIX сталецьця.

# КУПЧАСТЫЯ РУНІ

*(Крытычны нарыс)*

**З. Жылуновіч**

З шэрагу маладых беларускіх песьняроў ды пісьменьнікаў дадатна выдзяляюцца двое незаўрадных лірыкаў-поэтаў—гэта Паўлюк Трус і Аркадзь Моркаўка.

Абодва яны яшчэ маладыя ў жыцьці і ў літаратуры. Абодва ня гэтак даўно паказаліся ў сваіх творах на шпальтах беларускага друку—часопісу, газэты. Пакуль толькі адзін з іх, Паўлюк Трус, пасьпеў выпусьціць ў кніжніцы „Маладняк“ невялічкі зборнічак сваіх лірычных твораў. Аркадзь Моркаўка яшчэ не дэбютаваў сваім асобным выданьнем і ўсяго абмяжоўваецца дагэтуль супрацоўніцтвам у нашым часопісе „Полымя“. Паўлюк Трус напісаў троха болей Аркадзя Моркаўкі, але ўвогуле абодвы напісалі яшчэ небагата. Ды гэтага ад іх нельга патрабаваць. Абодва песьняры толькі афармляюцца, толькі што выходзяць на шлях літарацка-поэтычнай працы. Гэта павінна брацца пад увагу пры ўсіх патрабаваньнях да песьняроў і пры ўсіх недахопах, якія ў іх могуць знайсьціся, калі падыходзіць да разбору іх твораў і да іх самых.

Мы ўзялі заданьнем для гэтага артыкулу выясьніць тыя абяцанкі для беларускай літаратуры, якія яскрава адзначыліся ў здольнасьцях абодвух узятых поэтаў, якія гэтыя поэты сваім выступленьнем далі. А што надзеі значных талентаў і ў Паўлюка Труса і ў Аркадзя Моркаўкі бясспрэчны—гэта гавораць іхныя творы, ужо прадэмонстраваныя ў друку.

Кожны з песьняроў, блізкія адзін другому лірычнаю сакавітасьцю, усё-ж розьняцца і па настроі, і па тэматыцы, і па конструкцыі сваіх твораў. Калі Аркадзь Моркаўка займае пытаньні больш шырокага памеру, пранікаючы ў сьветавыя глыбіні і адначасна ўдараючы ў бок соцыяльна-грамадзкага іх напластаваньня, то Паўлюк Трус стараецца вынаходзіць у кожнай рэчы яе эстэтычны бок, тое, што хавае сабою усё жорсткае ды калючае. Ці ў іншых словах, лірызм Аркадзя Моркаўкі завострывае ў большасьці там, дзе лера Паўлюка Труса сьцеле травіцаю-шоўкам, „рутай мятаю“ агартае.

Мята—гэта востра-пахучая краска—вельмі замілавана Паўлюком Трусам; яна зьяўляецца сынонімам яго музы, вырасшай, наогул, у палявой зеляніне, у пахах, на расплыўчатых мінорных тонах шэрае вёскі. Вёска,

ніва, паплавы далі ёй сьвежыя сокі зямлі, квінтэсэнцыю жыцьцёвасьці, рэзвасьці, хараства—расою, купальскаю кветкаю, сьмехам зялёнае маладосьці.

А ў далі небасхіл ў пазалоце тануў.
Сыпаў чары на дол, чары мятныя.
(Збор. „Вершы“).

І тамака-ж:

У купальскую ноч, у зялёным бары—
У бары пад кудравымі соснамі,
Я спаткаўся з табой...
(Збор. „Вершы“).

У гэтую-ж і ў гэткую-ж самую купальскую ноч—
Над прасторамі вод
Цалаваліся явар з калінаю.
(Збор. „Вершы“).

Паўлюку Трусу жыцьцё нясьціхана сьмяецца сваёю рэзвасьцю, сваім кіпеньнем. Яно перапоўнена пэнтам надзвычайнай сілы. Яно магутнае ў сваёй цнотнасьці, нясьціханым квяценьні. Яно ў „прасторах палёў сінявокіх“ вечна „перазвоньвае“, як „сьпевы жніва“. Наогул уся лірыка поэты—сапраўды свайго роду сьпевы. Яны, гэтыя яго сьпевы, так і наводзяць цябе на адпаведны лад, так і падбіваюць пераносіцца туды, дзе—

Ой у полі за гарою
Вечар плаваў у дажынках.
(Збор. „Вершы“).

І там, дзе больш поля, беларускіх шырокіх ніў, там заўсёды гучней Трусаўскія песьні, рачаісьней, натуральней. Там, дзе „сочна буйныя загоны“,—гэтага соку вельмі многа. У гэтым соку столькі моцы, столькі крэпасьці і водыру!

Наогул, водырам, які прыдае элексыр жыцьця, поўны мэлёдыі песень Паўлюка Труса. Ад іх не пахіліцца думка ў бок суму, не навядзе твайго сэрца на роспач... Сумных напеваў, у яго мала. Ды тыя, што ёсьць аддаюць, як-бы сказаць, ня сумным сумам, бо заўсёды, дзе толькі „сьлёзы коцяцца-брусьніцы, і цісьне жаль—суніме песьня сьлёз крыніцу!“

Ня менш, калі ня больш, надзеі на гэта і ў Аркадзя Моркаўкі. Можа таму, што Аркадзь Моркаўка глыбей праняў вакольныя зьявы, можа таму, што ён конкрэтней абмацаў рэчы ў сваёй галізьне. Творчасьць гэтага маладога песьняра—праходзіць на нашых вачох. Усе варыяцыі яго песень яскрава пераносяцца ў дасяганьнях нашага пагляду. І мы бачым, як яны, гэтыя варыяцыі, вельмі асьцярожна апускаюцца ў бок мінорнасьці.

У 1922 годзе, верш Аркадзя Моркаўкі, пэўна першы з паданых у „Полымя“ (і надрукаваны ў № 2 за 1923), пад назоваю „Крык вуліцы“—літаральна прагучэў пяруном вялікай сілы. Прачытаўшы яго, адзін з беларускіх літаратараў у захапленьні выказаўся: „Які слаўны твор! Калі яго

пісаў пісьменнік з маладых, то гэта нязвычайны талент“. І сапраўды, Аркадзь Моркаўка „Крыкам вуліцы“ прыгожа зьявіўся на беларускі Парнас. Рыцарам, прыгатаваным да цяжкае бойкі, сьмелым, адважным, геройскім. Да прызыўных, цьвёрдых клічаў папярэдніх сабе поэтаў ён дадаваў свае рашучыя, палкія, увераныя рытмы—верныя, як удары молата.

Агонь і кроў. Як пчолы, кулі
Са сьвістам лётаюць ля вух.
Наш дзень прышоў, ой, гулі-гулі,
Паўстань, спагарджаны наш дух!
Над намі кпілі, зьдзек над намі,
Тварылі ўсе, забыўшы грэх.
Цяпер мы робім над панамі
Апошні суд, суд не на сьмех...
Агонь і кроў—вось наша кара.
Няхай дрыжыць і гіне кат!
Наш час—ня сон, наш час—ня мара—
Ня будзе пан і сонцу рад!
Упаў таварыш... вянок славы
Ён атрымае ў лепшы час.
Няхай сьмяюцца ваўкадавы,
Што меней стала, меней нас.
Гарацъ дамы, гараць архівы,
А ў іх здабыткі ўсіх вякоў.
Ну што-ж? За тое палахлівых
Ня будзе духу ржавых коў!
Гэй, хто ня ўмёр, гэй, сябар працы!
Бяры аружжа і—ў агонь,
Каб адабраць усе палацы,
Што паўзьняла твая далонь!

(„Полымя“ № 2, 1923 г.)

Стальныя словы рэволюцыйнага гымну... „Агонь і кроў“, у чым радзілася муза Аркадзя Моркаўкі, і маглі даць гэтага хараства пабедную музыку... Згодзімся, каб ня быць ні каліва суб'ектыўнымі, што часткаю гэту выразную рэволюцыйнасьць, мастацкі адшліфаваную, удала пабудаваную... навеялі абставіны таго часу... Згодзімся, далей, што пясьняр нейкую долю гэтага жанру запазычыў у сваіх пяпярэднікаў—але ўцалку, бач, уцалку, патрэбна здольнасьць, каб выліць падобны твор? Бязумоўна, бясспрэчна.

Але прыведзены верш—ня выключэньне. У тым-жа нумары „Полымя“ зьмешчаны другі верш—„Сьцены“, які гаворыць таксама ў карысьць таленту поэты. У „Сьценах“ Аркадзь Моркаўка ўлажыў значныя элемэнты свайго лірызму. І зразумела, бо поэта адчувае, што сьцены новага будынку, які складае „цаглінка к цаглінцы“ вялікі Кастрычнік, што гэтыя

сьцены ўзрастаюць ня без натхненьня, не радкамі сухіх майстроў рамесьнікаў, а стараньнем тварцоў, мастакоў нoвага, нячуванага жыцьця. Ня дзіва, што ў праламленьні поэты ў гэтай творчасьці,—

...Адбываецца казка і сон;
У іх адбіваюцца сінія далі,
Малюнкі чароўных і сонечных дзён...
На сьценках каляды і дзівы купальля,
На сьценках дэвізы—адзнакі вякоў.
А радам, бы сонца—чароўная пральля.
Працуе ля кроснаў...

(„Полымя", № 2, 1923 г.)

Аркадзь Моркаўка ў гэтых вершах повен запалу, ваяцкага задзёру. Абураны да рэшты жыцьця радаснасьцю, ён бачыць усё перад сабою ў ружовых мулях нараджэньня, квітучасьці. Хто можа разуверыць яго ў пераможным ходзе „чароўных і сонечных дзён?"

Здавалася-б, углядаючы іх сьвятло, пясьняр, цьвёрдым поступам мусіў бы пайсьці к ім насустрач, няўхільна пагнацца за імі чым далей, тым увераньней. Аднак, перад поэтаю асьвятленьне першых хвілін у ходзе часу патрошку стала цьмець. Прыгожасьць змаганьня спатыкнулася на суровасьць будаўніцтва. Апошняе праглянула з далёкай далі, з-за сініх небасхілаў. І гэта таму, што ў сваёй цеганіне процэс будаўніцтва заўсёды маруднейшы за пэнт рэволюцыйнага змаганьня і запал, які яно дае—менш разбаўлены гарачым прыскам.

Аркадзь Моркаўка прасачыў паглядам усьцяж доўгага шэрагу гадоў, не ўлавіў канца, дзе-б было яскрава напісана: „стой—гэтта дасканаласьць", і прызадумаўся. Пэўна—уся справа ня ў тым, рашыў ён, што „агонь і кроў паляць архівы, а ў іх здабыткі ўсіх вякоў", а ў тым, наколькі агонь можа распаліць кроў і пазывы к будаўніцтву новых формаў жыцьця!

Гэтыя апошнія вымаганьні і сумуюць часамі, зрэдку, маладога песьняра. Яны адчыняюць яму іншыя бакі жыцьця, паказваюць яго ў рэволюцыйных буднях, часта ня лёгкіх, ня зырка бліскучых. І перад ім выявілася, што „*ня ўся* ў кветачках—наша сьцежачка". Зразумела, калі на гэтай сьцежачцы могуць вырасьці калючкі і палын, то іх не абыдзеш, не ўкалоўшы нагі.

Аркадзь Моркаўка наступае на калючкі і раніць сваё сэрца... Ці моцна? Можа і моцна, але зусім ня так, каб аддаць галоўную ўвагу болі. Не! Ён трымаецца, у васноўным, аднаго правіла, якое кажа:

Працуй, пакуль ня зморaны
Агонь тваёй душы,
Пакуль загон ня ўзораны
Сусьветнае глушы.

(„Полымя" № 7-8, 1923 г.)

Праўда, ужо ў самым пабудаваньні гэтага сказу, у яго вымове, чуецца інакшы настрой, меншая ўверанасьць, ніж то было відаць у „Крык вуліцы,“ ці ў „Сьценах“. А яшчэ далей, калі Аркадзь Моркаўка пачынае суглядаць „загон сусьветнае глушы“, ён сунімаецца куды больш і куды з большым разьлічэньнем правярае сваю працу.

„Працуй, пакуль ня зморан“—гэта само ўжо азначае, што зморанасьць можа быць, што яна не заваёвана дарэшты, так, каб пясьняр мог аб ёй і ня думаць. Зморанасьць мяжуе з тымі „ўзгорачкамі“—

... Дзе, шукаючы згасшыя зорачкі,
Каляіны паклала ад шын.
А затым, пасварыўшыся з хмаркамі,
Падражнілася сьлёзкай далоў,
І далей паваротамі шпаркімі
Засягала на цемень галоў.

(„Полымя“ № 3, 1925 г.)

„Хмарка“ і „сьлёзка“—то вынікі суму, пакуль яшчэ лёгкага, нязгушчанага, паколькі маладое сэрца поэты можа праз іх бачыць і сьвятло і радасьць.

Але часта „хмаркі“ абяртаюцца ў хмары, і слёзка—у сьлёзы. Хацелася-б думаць, што ў даным выпадку пойдзе іначай, надварот: бач, „хмаркі“ разьвее сьвятло, а „сьлёзку“ асушыць радасьць. Хацелася-б думаць не apriori, а ў нейкай частцы, выходзячы, defacto тых выбліскаў, з якімі Аркадзь Моркаўка сам праганяе трапунковыя, налётныя плямкі мінорнасьці. Ён сьведчыць, што яго сэрца—

...ня ўмоўчыць аб знойдзенай долі,
Бо сэрца стукоча: край родны жыве.

(„Полымя“ № 3, 1925 г.)

Як бачым,—што дужа прыемна,—пясьняр правільна ўглядае бок, з якога сьвятло надыходзіць—гэта адраджэньне краю, агульная доля, якая „знойдзена“, зразумела, у кутку вялікіх выбухаў Кастрычніка. У гэтым пункце нявыбраны скарб поэтычнага натхненьня, да таго—натхненьня, асеянага грамавою зыркасьцю, бліскучай бадзёрасьцю.

Выясьняецца, сочачы за далейшымі творамі Аркадзя Моркаўкі, што ўсё-ткі ён не адыходзіць ад першакрыніцы сваіх пачуцьцяў, даўшых нам „Крык вуліцы“. Ім усё-ж абурае „хмель веснавы“, які „сэрца комсамоліць“. Пясьняр нават сам зьдзіўлены таму, наколькі яго нутро глыбока захоплена, магутнасьцю „пазываў“, і прызнаецца, што „душы не скаваць сілай сталі“.

Гэта ня можа не здаволіць тады, калі хвілінамі прамігаюць „хмаркі“ і выблісквае „сьлёзка“. Тым болей наш настрой падмацоўваецца, калі мы знаёмімся з рэдкімі, але дужа гучнымі і моцнымі мотывамі гораду ў творах нашага поэты.

Аркадзь Моркаўка зьлёгку, як-бы прабуючы, кранууся іх у сваёй творчасьці, даўшы некалькі выразных прыкладаў. Яго горад, папершае, ня сумны, не адмоўны, не адмоўны—як-то сустракаем мы, да прыкладу, у Гурло і іншых. Наш поэта спыняецца не на страшных мурох, якія ў таго-ж Гурло засланяюць усё-усенькае і цяжарам давяць нутро, а яму літаральна рагоча шырокі разьліў жыцьця. Хвалі гэтага жыцьця перакідаюцца праз найвышэйшыя муры і „гамонкаю радаснай" сыплюць радасьць, уздым.

Горад пенны гудкамі рагоча,
Дзень зьвініць, бы празрысты крышталь...
Дзень бурліць, дзень жыве,
Нараджаючы радасьць і пот.

(„Полымя" № 4, 1925 г.)

А са страшных сьцен змывае ўвесь сум месячык, які—

Цэдзіць праз сіты праменьні
На грамаду камяніц...

І яго цэдзіва—

Сьцелецца кужалем
З шэптам пабедным на сьвет.

(„Полымя" № 4, 1925 г.)

Урэшце,—

Будуць аблутаны сьветлымі чарамі
Танкі муроў камяніц.

Гэтая руж у фарбах гораду, якую падгледзеў Аркадзь Моркаўка, суліць, урэшце, песьняру стаць на цьвёрды грунт мажорных тонаў, на дарогу без калдабоін. Налёты мінорных адзеньняў—то спадчына сельскіх палёў, вельмі вузкіх і цесных для поэты. Яны не дазволілі яму разгарнуцца, агледзецца і праканацца ў сваім характве таму, што іх харастпва ўступіла для поэты хараству іншаму, адлучанаму ад вясковага, палявога... Апошняе—заспакойлівае, заціхае... Аркадзь Моркаўка таму і пашоў у горад, каб паслухаць „крышталёвых гукаў", „звонаў, якія ўразаюцца стальлю ў брук".

З гэтага боку ён амаль што не процілежны Паўлюку Трусу. Гэты канчаткова ўвашоў у „цінай тканыя загоны", у „бялявы іней".

Для Паўлюка Труса гарадзкія сьцены—„панурыя"; за імі, за гэтымі сьценамі—„уміраe комсамолец". (У Аркадзя Моркаўкі—„сэрца комсамоліць"—у горадзе). Паўлюк Трус наглядае хаду Кастрычніка па ціхай вёсцы.

Як магутна-чырвоныя роты
Уздымалі над вёскаю сьцяг,—

таксама ў вёсцы „піонэр і паўстанец". І калі яму надумаецца перанесьці нагляд сваіх вачэй на гарадзкія вобразы—гэтыя вобразы губляюць тонкія адценьні і гармонныя пералівы ў сваіх хварбах. Губляецца

пікантнасьць лірычнасьці поэты, прыназначанай для ўлову натуральных вобразаў вёскі, лесу, гаю, поля, сосен і туманаў.

У вершы „Там вясна“ („Вершы“ выд. „Маладняк“) Паўлюк Трус паказаў сваю слабасьць... У гэтым вершы запазычаны думкі Якуба Коласа з вершу вельмі мілагучнага, вельмі гармоннага, зычнага „Сон Сьцёпкі ў астрозе“ (з „Песьняў жальбы“). Тэй-жа слабасьцю аддаюць і наступныя вершы: „Астрожнік“, „Прывялі“, „Ён памёр“ (Збор. „Вершы“). Іх слабасьць дапамінае нашаму песьняру аб тым, каб ён не адрываўся ад свае стыхіі: толькі ў ёй Паўлюк Трус моцны, жывы, гучны—свой. Вось чаму лёгкі шаўкавісты сум яго, прабягаючы, як лунь, па траве, вясёльшы душы Якіма-комсамольца, якая ў „ціхіх, спакойных“ мурох нібыта „паланее агнём“. Калі згадзіцца, што і паланее, то агнём не гарачым[1])...

Пераказваем, чырвань купальскае краскі гарачэй гэтага агню. Не здарма, чытаючы Паўлюка Труса, шукаеш месцаў, „дзе сонца купае прозалаць у жыце, цалуе сінь“, „дзе арфы звонкая струна заводзіць песьню успамінаў“, дзе „сьветларусы туман лажыцца на кусты“ („Сірата Алеся“). І на гэтым фоне вобразы грамадзкага жыцьця вёскі—гэткіх ядраных, гэткіх здаровых у поэты.

Гэткія выпуклыя жывыя вобразы—блішчаць дыямэнтамі. Іх што далей—тым болей. У нутры поэты—іх цэлыя россыпы. Нельга не пазавідаваць гэтаму многім іншым, якія натуральнасьць замяняюць штучнасьцю і думаюць, што яны дасяглі недасяжнага.

І Аркадзь Моркаўка, і Паўлюк Трус блізкі адзін другому ня толькі сваёю дадатнаю здольнасьцю, якая іх паднімае вышэй цэлага шэрагу сучасных маладых песьняроў, а яны яшчэ родны адзін другому і шчырасьцю свайго пачуцьця, яго рэальнасьцю, яго крыштальнасьцю. Не здарма словы, сказы і мэлёдыі іх ліюцца лёгкім бегам ручайка, праходзяць жывою ўмільнасьцю ў нутро чытача. Тут ужо ня блытаецца язык у кастыльных шурпаватых словах, у вобразах, якія могуць бачыць толькі анормальныя вочы. І ў Аркадзя Моркаўкі, і ў Паўлюка Труса знаходзім адпачынак... Але адпачынак не ў настроі, а ў адчуваньні таго ўплыву, які даюць табе мастацкі ўдалыя і сочныя творы на жывой мове.

Да рэчы—аб мове. Абодва песьняры ўладаюць ёю нядрэнна. У вабодвух мова багацей за мову многіх іх равесьнікаў. Выразная, жывая. Праўда, ня зусім чыстая ад русыцызмаў. Гэтага ў Аркадзя Моркаўкі больш, ніж у Паўлюка Труса. Але й Паўлюк Трус далёка ад іх ня вольны... З гэтага боку абодва песьняры павінны ў сваіх інтарэсах і ў інтарэсах удасканаленьня сваёй творчасьці, паклапаціцца аб ачысцы

---

[1]) Трэба адмеціць вялікі ўхіл Паўлюка Труса ў бок любоўных тэм. Гэта—нездаровае зьявішча, і мы-б радзілі даць больш увагі тэмам аб праламленьні ў вёсцы Кастрычнікавай рэволюцыі і яе вынікаў. З. Ж.

свае мовы. Гэта ім дасца лёгка, як, наогул, усе шурпатасьці выпраўляюцца лягчэй у часе афармленьня.

Мы хочам сказаць, сьвядома сказаць, што ні Аркадзь Моркаўка, ні Паўлюк Трус канчаткова яшчэ не аформіліся. Было-б не ў карысьць ніводнаму, каб на тых дасягненьнях, якіх песьняры дашлі, яны спыніліся. Было-б не ў карысьць гэта і беларускай літаратуры. Апошняя рада адмеціць узятых песьняроў, як тых, якія ўжо далі абяцанкі чакаць ад іх куды большага, чымсь прычакалі. А гэта ёсьць вялікая рэч.

Абраны песьнярамі шлях—роўны і просты, ясны і заманчывы. За гэта гаворыць і тое, што яны неўразьліва абмінулі пору пошасных ухілаў у нездаровы бок імажынізму, імажынізму ў варыяцыях провінцыяльнага жанру. Іх не завабіў „рык раніцы“, не захапілі лёзы нажоў, „накіраваных на сонца“. (Да ўцехі, гэтых звычаяў адцураліся, як відаць, і тыя, хто неабдумана быў накіраваўшы на іх сваю ўвагу). Гэтыя драконаўскія відокі засталіся ў баку ад здаровых поглядаў песьняроў-рэалістых. Стройная, выразная конструкцыя іх вершаў, з гучнаю, ударнаю рыфмаю ўстаялі „ліхому паветраму“ і у выгаду сабе—замацаваліся. Цьвёрдасьць і адрыўнасьць у рытме—таксама. З новаўводаў у галіне пабудаваньня вершу і Аркадзь Моркаўка, і Паўлюк Трус пакарысталіся больш усяго—асонанснымі формамі рыфмаў. Болей Паўлюк Трус, меней Аркадзь Моркаўка. І трудна сказаць, каб першы многа выйграў. Ужываньне ім асонансаў ня зусім удалае, часта вельмі ўжо адцягнутае. Напрыклад: „паранены—спатканьне“, або „галосячы—у восень“, „жніво—харaством“ і інш. Ёсьць вялікая нацяжка, праз якую асонансы ня толькі харошаць, а псуюць, прыдаючы лішні склад, як: „жыта—на мяжы там“ (Зборнік „Вершы“).

Усё-ж гэта ня можа быць пастаўлена ў мінус творчасьці песьняроў. Наадварот, гэта гаворыць за тое, што яны кіруюцца, як кажуць, „здравым смыслам“, пераймаючы, ды й то з асьцярогаю, найздаравейшае з новых матэрыялаў пабудоўкі вершу. Бягучы час засьведчыў, што зараз гэты мэтод вельмі карысны.

---

У вогуле, абодва песьняры вытрымалі свой першы дэбют на славу.

Што патрабуецца для таго, каб на далейшае іх выступленьні ўносілі новыя дадатнасьці і ў іх зьмест, і ў іх якасьць, і ў іх дасканаласьць? Дзеля гэтага, панашаму, ёсьць некалькі абумоўленьняў. З іх, першае—не адыходзіць ад абранага напрамку, які ў іх прэвалюе ў бок рэалізму. Рэволюцыйны рэалізм—зараз сугучны моманту вялікага перабудаваньня жыцьця, сугучны настроям, стану і імкненьням працоўных гушчаў. Адбітак усяго гэтага дае нявычарпаны скарб для натхненьня, для ператварэньня гэтых элемэнтаў у нязвычайнай сілы вобразы.

Падругое, нашы песьняры павінны помніць аб нясупыннай насытнасьці свайго сьветапагляду. Адных пачуцьця і натхненьня не надоўга хопіць. Пачуцьцё ды натхненьне аднаўляюцца і ўзбагачаюцца ў процэсе

паглыбленьня ведаў, у працэсе сутыканьня з большым лікам жыцьцёвых зьявішчаў і іх выяўленьняў...

Гэты бок, наогул, балючы ў беларускай літаратуры. Старэйшае пакаленьне пісьменьнікаў гартавалася ў змаганьні з ліхімі абставінамі жыцьця. Апошняе да таго было бесспагадным да іх, што не давала жаднае мажлівасьці тым ці іншым абагаціць беларускую літаратуру, прыдаць ёй большую сілу ды глыбіню. Бо ўсякае пашырэньне і ўзмацненьне беларускае літаратуры ў дарэволюцыйны час азначала падрыў, небясьпеку тагачаснаму ладу, жыцьцю.

Старое пакаленьне пісьменьнікаў нясло на сабе ўвесь цяжар змаганьня за край, за працоўны народ, за права адраджаць яго культуру і... пісаць для яго. Заданьні—нявыказнай труднасьці, заданьні, якія ні званьня, ні каліва не дазвалялі старэйшым пісьменьнікам думаць аб сабе.

Цяперашнія часы—іншыя. Малодшае пакаленьне песьняроў ды пісьменьнікаў вырасла на вольнай зямлі. Усе дадатнасьці ўмоў для разьвіцьця для дасканалага самаўсталяваньня на далонь. Савецкая ўлада, беспрыкладна ў гісторыі, адчыніла шырокі шлях да культурнай творчасьці, неасяжныя мажлівасьці перад кожным, хто шукае, хто рвецца да аўладаньня культурнымі скарбамі. Не патураць на гэта, глядзець у гэты бок з нядбайствам—праступак у адносінах да сябе, да свайго і разам да агульнага дабрабыту. Да шкоды, сярод беларускіх маладых пісьменьнікаў наглядаецца гэта ў вельмі выразнай форме. Прычын гэтаму многа. Найважнейшая з іх—гэта параўнаўчая лёгкасьць, з якою можна зьявіцца ў сьвет. Усякая друкаваная рэч, зразумела, надае яе аўтару гордасьці, задзёру і самалюбства. Калі надрукаваных рэчаў больш, адпаведна ўздымаюцца ў аўтара пералічаныя асабістасьці. І часта—густа самаўпэўненасьць да таго абурае ім, што кніжкі, што праца над самаадукацыяй адпіхаюцца новамодным пісьменьнікам далей ад сябе, і ён застаецца на ўсё жыцьцё з тым, з чым пачаў пісаць. Гэткім чынам у здольных ад натуры людзей талент засыхае на поўросьце, ня маючы дадатку патрэбнае яму вільгаці.

І Аркадзь Моркаўка і Паўлюк Трус ня могуць абыйсьці між гэтага бязуважна. Для іх, як для поэтаў маладых, толькі што выявіўшых свае здольнасьці ня звычайныя, а дасканалыя, вялікім заданьнем зьяўляецца ня даць гэтым здольнасьцям спыніцца ў сваім разьвіцці. Агонь гарыць, калі ў яго падкладаеш гаручы матэрыял.

Пры гэткіх умовах мы ў праве чакаць ад абодвух поэтаў шмат цікавага. У вадваротным—грозіць (ужо адмецілася на другіх) стабілізацыя не аформленых здольнасьцяй і страта багатых мажлівасьцяй.

Сваю раду мы лічым тэрміновай і не бескарыснай. Гледзячы на купчастыя руні—сэрца просіць ядранага жыта.

# РОМЭН РОЛЬЛЯН

П. Арэшнікаў

У Клэмсі (Францыя) 29 студзеня 1866 г. радзіўся Ромэн Рольлян

29-га студзеня 1926 г. ў Парыжы (Францыя), у дзень 60-ай гадавіны гэтага выдатнага мастака; юбіляру была паднесена „Залатая кніга“, у якой усе лепшыя прадстаўнікі жывой грамадзкай думкі сьвету сабралі свае прывітаньні і пажаданьні.

У гэтай „Кнізе“: Б. Шоу і М. Горкі, Рабіндранат Тагор і Эрнст Тольлер, Бляско Ібан‘ес і інш. У гэтай „Кнізе“—расійцы і індусы, немцы і ангельцы, гішпанцы і нэгры, португальцы і г. д.

Але—у гэтай „Кнізе“ няма ніводнага прывітаньня ад... Францыі ад французаў [1]).

Францыя рант‘е і альлярмістых, Францыя арандатараў садовых нісуараў і ўкладчыкаў самавучыцеляў для фокстроту, Францыя правай і цэнтравай частак парляманту, Францыя тоўстамордага буржуа, які робіць часова палітычную і культурную „пагоду“,—гэта Францыя, *папершае*, ня можа даравацъ Рольляну яго антымілітарыстычных выступленьняў у прэсе ў часы 1914—22 г. г. Гэта самая Францыя, *падругое*, ня мае сіл перамагчы сваю нянавісьць да аўтара „Кола Брэньён“, да аўтара гэтага дабрадушнага, нутранога саркастычнага памфлету, у якім дэкадансу быту сучаснай гінэркультурнай Францыі супроцьставіцца здаровы пачатак жыцьцятворчага нізавога, народнага розуму, таленту і сілы, гэта самая Францыя, *патрэцяе*, злапамятна адзначае той факт, што героем капітальнейшага свайго твору „Жан Крыстоф“ аўтар бярэ *немца* па паходжаньні і выхаваньні. Гэта самая Францыя, *пачацьвертае*, апынуўшыся ў выніку шовіністычнага пахмельля—у пасынках фортуны і недагледзеўшы сваіх шляхоў да дасягненьня дабрабыту, гатовая абвінавачваць у няўдачах мароканскай авантуры і інфляцыі усіх і кожнага,—хто чым-бы, калі-б, як-бы ні было стараўся паказваць на абмылковасьць гэтай політыкі,—навалілася на Ромэн Рольляна. Гэта самая Францыя, *папятае*—

... едкай сьлінай нянавісьці абмазвае вароты, якія вядуць у сьветлы сад творчасьці Ромэн Рольляна.

---

[1]) Група „Clarté“—ня ў лік. Яна яднае пісьменьнікаў і мастакоў: комуністых або ім спачуваючых асоб. Гэта—інтэрнацыянальная група.

Дзяржаўны тэатр „Одэон“ падгатаўляе да юбілею новую п'есу драматурга-„Les Jeux de l,Amour et de la Mort“, але „па незалежных варунках“ зьняў яе з пастаноўкі. Выдавецтва „L'oisian bleu“ падгатаўляла юбілейнае выданьне поўнага збору твораў Р. Рольляна, але цяпер вось ужо 2 месяцы, як спыніла рэкляму гэтага выданьня. Безьліч літгруповак і гурткоў Францыі сядзяць з запячатанай губай і ніяк не выяўляюцца ў сувязі з гэтым сьвяткаваньнем. Газэты, апрача „La Volontè“ і „L'Humanitè“, маўчаць. Здаецца толькі „Club de Faubourg“ (клюб незалежных) падгатаўляе *закрытае* ўшанаваньне юбіляру.

Затое—

каля 50 тэатраў Нямеччыны, Аўстрыі, Вэнгрыі, Голяндыі, Чэха-Славакіі, Швайцарыі ўлучылі ў сэзон рэпэртуар Р. Рольляна („Ваўкі“ і інш.); Моісі падгатаўляе для гастроляў роль Курвуазье з п'есы юбіляра „Гульні“ для рабочых Бэрліну, Вены і Ленінграду, а „Інтэрнацыянальная Ліга Праў Чалавека“ ладзіць у Цюрыху банкет у чэсьць Ромэн Рольляна.

З прычыны ўсіх гэтых здарэньняў сам аўтар піша свайму другу Жоржу Піошу наступнае:

„Што датычыць асабіста мяне, то ўсё гэта вельмі забаўляе мяне і нават дае задаваленьне. Усё гэта так натуральна, што я нават ня дзіўлюся...“

---

Нас, зразумела, таксама ня дзівіць „усё гэта“, г. зн. той факт, што пануючая кляса Францыі ўціскае Ромэн Рольляна.

Ромэн Рольлян, не зважаючы ні на што, бліскуча далей вядзе місію грамадзкага служэньня ў духу Золя і Талстога, а лібэральны пацыфізм, у варунках узрастаючага фашыцкага ўплыву, натуральна, зьяўляецца пудзілам для ўраду Брыяна.

І сапраўды: Ромэн Рольлян!

Яго поклічы да міру і братаньня ўсіх народаў у часы імпэрыялістычнай вайны зьяўляліся ў разуменьні гальскіх шовіністых ні больш ні менш як ідэямі, вытрасенымі з плёмбаванага вагону, які Вільгельм II набіў бацылямі бальшавізму дзеля раскладаньня варожага фронту.

І вось: дзіўная ірония лёсу!

Вільгельм II, які, па буржуазнай лёгіцы, павінен быў-бы быць у чэсьці і ў пашане ў компартыі, сядзіць „вязьнем“ у Доорне і жабруе каля с.-д. [1]).

Павярхоўныя політыкі Захаду ня ставяць мяжы паміж лібэральным, інтэлігенцкім космополітызмам і ідэяй пролетарскага комуністычнага інтэрнацыяналу. Гэтым і тлумачыцца скорасьпелае залічэньне імі

---

1) У эпоху імпэрыялістычнай вайны Вільгельм II называў-жа с.-д. Нямеччыны ня інакш, як „meine Sozzi“ „мае соці“ (скарочана ад соц.-дэм.).

Р. Рольляна у проскрыпцыйны сьпіс „ворагаў нацыі“ і гэтым-жа тлумачыцца некаторая стрыманасьць нашых таварышоў з французскай кампартыі ў прыняцьці юбіляра да сябе.

Р. Рольлян—згодна слоў А. Луначарскага—„сьвяцейшы папа інтэлігенцыі“. Ён косьць ад косьці і кроў ад крыві тэй слаўнай групы пісьменьнікаў—грамадзкіх працаўнікоў дарэволюцыйнай Расіі, якая вядзе свой пачатак ад 60-тых гадоў і на чале якой зьяўляліся ў пачатку нашага веку Ўл. Караленка і Л. Талстой. Р. Рольлян шмат успрыняў ня толькі ад ідэолёгіі апошніх, ідэолёгіі пасэістычнага несупраціўленства злу, але нават і іх спосаб, стыль і характар пісаньня. Кожны твор Р. Рольляна пранікнуты тэй пасэістычнай „сумленнасьцю“ інтэлігента, якая шмат і шмат якім сапраўдным талентам мінулага перашкаджала ясна, трэзва і глыбока разглядзець зьявы сапраўднасьці, расцаніць клясавыя сілы і азначыць сваё месца ў змаганьні гэтых сіл. Доля гэтых блізавокіх—незайздросная. Яны рабіліся „прарокамі“ для хатняга ўжытку, выклікалі замяшаньне ў спэкулятыўным спакоі неорганізаваных, але з дапытлівай прагай да „разгадкі быцьця“ адзіночак, яны рэдка абрасталі масамі—гэтыя прарокі. Іх аўдыторыя—мяшаная ў клясавых адносінах, не аб'яднаная адзінай воляй да змаганьня і яснасьцю сваіх мэтаімкненьняў—была нясталая і няўдзячная.

І сапраўды—што засталося ад „Талстоўства“?

І—хто цяпер вучыцца жыцьцю „па Караленку“?

Нятленныя, мастацкія вобразы гэтых пісьменьнікаў, зразумела, даюць багаты матэрыял для нагляднага, об'ектыўнага ўяўленьня і вывучэньня адышоўшай эпохі. Іх грамадзка-палітычная роль адыграна не без карысьці для народжанай пролетарскай культуры, якая цяпер умацоўваецца. Пролетарыят цэніць гэтых дзеячоў, як якіх нэўтралізатараў згушчанай атмосфэры рэакцыіі. Але стаць блізкімі, роднымі пролетарыяту перашкаджала і Талстому, і Караленку, і Златаврацкаму і іншым—палавінчатасьць іх філёзофіі, гумалястычнасьць яе, яе згодніцкая тэндэнцыя ў адносінах да ўсіх бяз вынятку „груп і пластоў насяленьня“.

Зразумела, доля Р. Рольляна рэзка розьніцца ад долі Талстога і Караленкі. Апошнія зышлі ў магілу, не перажыўшы банкроцтва сваіх навучаньняў. Гэтыя глыбокія правідцы *чалавечай* псыхікі—мы не сумляваемся,—дажыўшы да нашых дзён, аперадзілі-б сваё месца ў сьмяротнай схватцы рабочай клясы з капіталам і, магчыма, даравалі-б сьвету не адзін твор, у якім геніяльна была-б адбіта ўжо *ня псыхіка індывіда, а псыхіка змучаных мас* [1]).

[1]) Абыходжаньне Ў. Караленкі ў часы грамадзянскай вайны і ваенкомунізму—натуральнае. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што сьмерць выхапіла яго да наступленьня сёнешняга дня.

Ромэн Рольлян жыве і творыць у эпоху страшэнных соцыяльных колізій, яны ня могуць не апаліць яго выабражэньня, і гэты момант, зразумела, моцна будзе ўплываць на ўсю наступную творчасьць гэтага пісьменьніка.

Можна было-б нарысаваць, прыкладам, наступную схэму: Р. Рольлян на сёнешні дзень—гэта простая ад Талстога. Нам здаецца, што далей лінія яго творчасьці павядзе да Горкага і ўжо праз яго да Анры Барбюса і інш.

Нават самы факт уціску Р. Рольляна сучасным урадам „вольнай“ Францыі, калі ня змусіць яго разгледзець сапраўдныя рысы твару *інтэлігенцыі*, як пэўнай *соцыяльнай* групоўкі, то змусіць яго сумнявацца у бездакорных якасьцях *Францыі*, як *нацыянальнай* адзінкі, тэй самай „прыгожай Францыі“, якой нацыянальныя якасьці ён сам ня раз ідэалізаваў і проклямаваў у сваіх друкаваных выступленьнях.

Ромэн Рольлян яшчэ моцна трымае пяро. Кожны год кніжны рынак сьвету ўзбагачаецца новым таленавітым творам сёнешняга юбіляра.

Мы верым у тое, што ў бліжэйшы час зьявімся сьведкамі пераходу Р. Рольлян з яго інтэлігенцка-пацыфіцкіх позыцый космополітызму на позыцыі адкрытай абароны рабочай клясы, якая ўціскаецца буржуазнай Францыяй, абароны ў духу К. Маркса і Ф. Энгельса.

Разам з намі ў гэта вераць і рабочыя організацыі Францыі, якія шлюць юбіляру безьліч сваіх прывітаньняў.

# КАРОТКІ НАРЫС РАЗЬВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТ-АСЬВЕТНАЙ ПРАЦЫ Ў ГОМЕЛЬШЧЫНЕ З ВЕРАСЬНЯ 1924 г. НА 15|XII 25 г.

**В. Сьмігельскі**

Да 1925-26 вуч. году асяродкам культурнай працы зьяўляліся ў Гомельшчыне паветы: Гомельскі і Рэчыцкі. Скуткам гэтай працы зьявілася ў гэтых паветах тое, што тут ёсьць жыцьцёвая глеба для беларускай працы дзеля таго, што насяленьне тутака беларусы за вельмі рэдкімі выключэньнямі. Рэчыцкі Пав. Адз. Нар. Асьветы паведамляе ў сваім адносьніку ад 26 XI-24 г. за № 10775: „Вопрос о переводе части просветительных учреждений Речицкого уезда на белорусский язык УОНО неоднократно поднимало на заседании коллегии инспекторского совета, также на волостных конференциях работников просвещения. Выяснилось, что по национальному составу население Речицкого уезда в сельских местностях—белорусское, за исключением некоторых южных районов (Комаринская волость и часть Брагинской, где население украинское)“, але і ў гэтых валасьцёх ёсьць шмат беларусаў.

У далейшым часе Рэчыцкі пав. прадставіў сьпіс школ, дзе дзеці выключна беларусы. Па няпоўных вестках такіх школ маецца 141, а ўсяго школ 196. ПАНА даў весткі аб тым, што ў павеце з 244 (усяго ліку школ) 178 укомплектавана дзецьмі беларусамі і маецца 228 настаўнікаў беларусаў. Усяго ў павеце вучыцца дзяцей 23.946, а з іх 17.696 дзяцей беларусаў (вялікарусаў 4.295, украінцаў 32, палякаў 252, яўрэяў 1.635, іншых 34).

Па пастановах інспэктарскіх саветаў гэтых паветаў намечан цэлы шэраг школ для пераводу на беларускую мову. Праводзіцца тлумачальная кампанія сярод насельнікаў. У тых мясцох, дзе маюцца настаўнікі, атрымаўшыя перападрыхтоўку на беларускіх курсах, праца ідзе з посьпехам. Ад насельнікаў паступае цэлы шэраг пастаноў аб пераводзе школ на родную мову. Настаўніцтва організуецца ў гурткі беларусазнаўства. Ставіцца пытаньне беларусазнаўства на пасяджэньнях райпэдсаветаў. Інспэктура не адзін раз ужо адзначала аб посьпехах дзяцей у беларускіх школах. Інспэктарскі савет Гомельскага ПАНА на пасяджэньні ад 26|X-25 г. ухваліў: „Ввиду того, что весь аппарат УОНО берет курс на распространение белорусской работы, инспектора нацмен считать районным инспектором, выделив ему северный район с преобладающим белорусским населением“.

Усяго ў гэтым годзе намечана да пераводу на бел. мову 113 школ., апрача 35 існуючых у мінулым годзе і 27 хат-чыталень.

У 80 лікпунктах, намечаных да пераводу на бел. мову, за адсутнасьцю белар. лемантароў праца покуль што вядзецца з беларускім ухілам (гутаркі, чытаньне газэты на бел. мове).

Усе школы, хаты-чытальні забясьпечаны ў выстарчаючым ліку літаратурай. Разаслана 88 бібліотэк для райпэдсаветаў. Адчынены пры павятовых бібліотэках 4 белар. аддзелы.

З 1925-26 вуч. году беларуская праца стала разгортвацца і ў Клінцоўскім павеце. Клінцоўскі ПАНА ў сваім адносьніку ад 22/IV-25 г. за № 7063 паведамляе: „В общем же все население Клинцовского уезда белорусское со значительными вкраплениями украинского и великорусского (в частности старообрядческого) элемента.

У гэтым годзе пераведзена 5 школ, намечана да пераводу 10 лікпунктаў. Для разгортваньня беларускай працы ў Клінцоўскі павет назначан беларускі інспэктар.

Да апошняга часу ўся ўвага была зьвернута на Гомельскі, Рэчыцкі і часткова на Клінцоўскі павет. Цяпер-жа, калі ў гэтых паветах белар. культурная праца стала на сталую глебу, перападрыхтована для гэтых паветаў на беларускіх курсах болей двухсот працаўнікоў і назначаны туды беларускія інспэктары. Беларускае бюро пры Губ. АНА мае магчымасьць зьвярнуць увагу і на 4 павет Гомельшчыны—Навазыбкаўскі.

Навазыбкаўскі ПАНА заўсёды на запытаньне бел. бюро даваў адказы, што для беларускай культурнай працы няма глебы.

Беларускае бюро на аснове дакумантальных даных лічыла, што глеба павінна быць. Напрыклад: у зборніку матэрыялаў Гомельскіх губэрскіх курсаў па перападрыхтоўцы школьных працаўнікоў у гор. Навазыбкаве (з 15-VI па 15-VIII—24 г.), які надрукаваны самім-жа Навазыбкаўскім ПАНА ў кастрычніку 1924 г., зьмешчаны артыкул Ан. Палявога: „Апісаньне гаворкі Навазыбкаўскага павету Гомельскай губэрні“.

У гэтым артыкуле адмечана: „Язык самого города и деревни очень и очень между собою разнится, и крестьяне классифицируют городской язык, как язык „московский“, отличный от их деревенского „простого“. І далей гаворыць: „Дело обучения грамоте на русском литературном языке для нашего учителя дело очень трудное. И учителю прежде чем приступить к занятиям надо самым серьезным образом изучить местное наречие, понять его, уяснить себе его происхождение, ибо, заговорив с ребенком на его материнском родном языке, можно достигнуть хороших результатов“. Да гэтага артыкулу прыкладзен сьпіс слоў, які сьведчыць, што насельнікі Навазыб. павету гаворац на беларускай мове. Апрача таго, Навазыбскаўскае Пав. Бюро Краязнаўства выпусьціла ў 1925 г. з друку кнігу Яроменка „Новозыбковский уезд“, у якой на старонцы 21, у артыкуле „Население“ надрукована: „Основное население

уезда составляет белорусская народность“, і далей „—в настоящее время основными сохранившимися признаками белорусского говора Новозыбков. уезда надо признать: а) аканье: вада, тапор, барада, зямля, рака, сяло. б) „ў“ замест „в“: лаўка, траўка, ўнук, ваўкоў; в) дзеканьне: дзень, дзелаць“.

У вапошні час з Навазыбкаўскага павету паступілі весткі, што маюцца школы, дзе вучні—беларусы. Дзеля таго, каб мець яснасьць у гэтым пытаньні, на месца ў Навазыбкаўскі павет выехаў загадчык Белсэкцыі з мэтамі: а) на практыцы ўпэўніцца аб тых труднасьцях, якія існуюць пры навучаньні дзяцей беларусаў на вялікарускай мове; б) выявіць думкі настаўніцтва, працаўнікоў месцаў і—па магчымасьці—насяленьня па гэтым пытаньні; в) выявіць пункты з беларускім насяленьнем; г) праверыць на практыцы, на якой мове гавораць дзеці і насяленьне; і д) у сувязі з гэтым паказаць тыя мэтоды і формы падгатаваўчай працы, якую патрэбна правесьці сярод беларус. насяленьня Навазыбкаўскага павету.

Агляд быў зроблен такім чынам:

а) у кожнай воласьці (Навазыб. і Злынкаўскай) узяты пункты, якія знаходзяцца ў кожных канцох воласьці;

б) для агляду ўзяты раённыя школы і масавыя школы, якія знаходзяцца недалёка ад валаснога цэнтру і самыя далёкія; школы, якія знаходзяцца блізка каля г. Навазыбкава (10—12 в.) і самыя далёкія ад гораду.

Назіраньне над фонэтычнымі і бытавымі асаблівасьцямі дзяцей і насяленьня ў данай мясцовасьці ўтвораны такім чынам:

а) назіраньне над дзяцьмі і іх моваю ў часе заняткаў у школе;

б) гутаркі з дзецьмі на беларускай мове, чытаньне ім артыкулаў з беларускага падручніка і расказ прачытанага;

в) прапанаваньне вучням самастойна выкладаць свае думкі;

г) разгляд пісьменных, самастойных работ вучняў;

д) вывучэньне ўжываемай мовы дзяцьмі ў сям'і.

Адначасова з гэтым вялося назіраньне над разгаворнаю моваю насяленьня:

а) гутаркі з насяленьнем на рынку ў Навазыбкаве, гутаркі з сялянамі ў часы спэцыяльнага наведваньня да сялян;

б) гутаркі з сялянамі на сходах у лікпункце, хаце-чытальні, чытаньне сялянам расказаў з беларускай літаратуры.

Сярод настаўніцтва зроблена наступная работа:

а) даклады аб беларускай працы на пасяджэньнях райпэдсавету, прэзыдыуму райпэдсавету і сходзе актыву вёскі ў прысутнасьці настаўнікаў школы;

б) гутаркі з настаўніцтвам у сувязі з наведзінамі ў школу;

в) выяўленьне поглядаў настаўніцтва ў тым, ці маецца грунт для беларускай культурнай працы ў данай школе і ў данай мясцовасьці.

Скуткам праведзенай працы выявілася:

I. Настаўніцтва адзначае труднасьць заняткаў з дзяцьмі беларусамі на расійскай мове. Гэта адзначаюць усе настаўнікі. Напрыклад: загадчыца ПАНА ў маёй прысутнасьці ў гутарцы з настаўніцай Палымскае школы Навазыбк. воласьці заяўляее: „Вельмі цяжка навучаць дзяцей гаварыць парасійску, перашкаджае беларуская мова дзяцей“. Гэты факт адзначае таксама інспэктура ПАНА (УОНО): „Пишут четко, правильно, но безграмотно. На последнее влияет белорусский говор населения. Инспектор Карпович, 1923 г. 10 ноября“.

Выпіска з візытацыйнай кнігі Стара-Выткаўскай школы Навазыбкаўскай воласьці й павету і другая выпіска з запісу інспэктара ў візытацыйнай кнізе Стара-Блабовіцкай школы Навазыбк. воласьці:

„Влияет на успешность работы и язык учащихся, скорее белорусский чем русский. 10 ноября 1923 г. Инспектор Карпович“.

Адзначана гэтак сама ў зборніку матэрыялаў настаўніцкіх курсаў у г. Навазыбкаве 1924 году.

II. Вучні, асабліва ў першых групах, адказваюць настаўніку на ўсе пытаньні пабеларуску; настаўнік прыстасоўваецца да мовы дзяцей і сам гаворыць на беларуска-расійскай мове. Калі прачытаеш дзецям артыкул пабеларуску, дык дзеці заяўляюць, што гэта напісана „панашаму“, мы ўсё тутака разумеем“, і пераказваюць зьмест прачытанага ў беларускай мове бяз усякіх труднасьцяй. Пры гэтым бываюць цікавыя выпадкі, напрыклад: у Дуброўскай школе Навазыбкаўскай воласьці на пытаньне „ці будзе адна й тая самая расьліна бульба і картофель“,—адказвае:

„Бульба гэта ў нас, у Дубраўцы, картофля—гэта ў вас, у горадзе. Ці, напрыклад: вучань Дзяніскавіцкае школы Злынкаўскай вол. Новазыб. павету кажа, што лук і цыбуля гэта не адно—як цыбуля йдзе ў стрэлкі, дык гэта будзе лук“.

Аб адносінах настаўніцтва да беларускай працы гавораць протокольныя пастановы па дакладу Дзяніскавіцкага райпэдсавету, прэзыдыуму Б. Шчарбініцкага райпэдсавету Злынкаўскай воласьці.

Выпіскі з протоколу Дзяніскавіцкага райпэдсавету, Навазыбкаўскага павету ад 19 лістапада 1925 г. за № 30.

Пастанавілі: „Считаем необходимым отметить, что во многих пунктах нашего райпедсовета за редкими исключениями население белорусское, в разговорном его языке большинство беларусских слов и оборотов речи. С педагогической точки зрения считаем целесообразным постепенный переход к преподаванию в школах на белорусском языке (на материнском языке детей).

Просим выслать белорусскую литературу для ознакомления с нею населения и учительства.

Председатель Белоус.

Секретарь Никитин“.

Вельмі характэрны наступны факт: слухачы Навазыбкаўскага Політэхнікуму вядуць працу сярод сялян Навазыбкаўскай воласьці. Скуткам гэтай іх працы, між іншым, зьявілася колектыўная праца слухачоў 3 курсу—гэта п'еса да „Дня ўраджаю". Напісана гэта п'еса на тэй мове, на якой гавораць сяляне Навазыбкаўскай воласьці—гэта мова беларуская.

Вось пастанова актыву вёскі Камень Злынкаўскай воласьці (с-с., ККОВ, РЛКСМ і вучыцялёў):

„Протокол № 21, от 18 ноября 1925 г.

По докладу зав. бел. бюро т. Смигельского об обучении в школе на родном материнском языке.

Постановили: Признать, что разговорным языком нашей деревни является белорусский язык, тот язык, на котором написаны прочитанные нам книги. Считаем, что обучение будет легче итти на нашем языке. Просим выслать книги для I группы, а также по возможности несколько книг для старших групп для ознакомления с ними детей". І далей—

„Текущие дела. Заявление секретаря ячейки РЛКСМ т. Брука и Губача т. Давыденко о высылке белорусской литературы.

Постановили: Просим Губ. Отд. Нар. Обр. о прысылке белорусской политической и с.-х. литературы, для распространения среди крестьянства, а также об открытии избы-читальни на гос. снабжении в с. Камень.

Председсовета Смирнов.

Секретарь Быковский".

Калі-ж была праведзена гутарка з сялянамі ў вёсцы Шчарбінічах Злынкаўскай воласьці, і былі прачытаны ім два артыкулы пабеларуску, дык сяляне, што былі ў хаце-чытальні, заявілі: „Вось гэта напісана панашаму, мы тутака ўсё разумеем. Добра было-б, каб усе так з намі гаварылі і панашаму растлумачвалі". Гэта гутарка прашла ў прысутнасьці інструктара АПО Укому.

Самым галоўным пытаньнем на мясцох зьяўляецца тое, што працаўнікі мясцовых устаноў незнаёмы з асаблівасьцямі мовы беларускага насяленьня. Настаўніцтва ў выстарчаючым ліку не інформавана аб беларускай культурнай працы.

У г. Навазыбкаве загадчыкам бел. бюро была заслухана справаздача гуртка беларусазнаўства пры Навазыбкаўскім Політэхнікуме. Актыўна вядуць працу 12—15 чалавек. Зроблена шмат працы па азнаямленьні з асаблівасьцямі мовы і быту насяленьня, ставіліся спэктаклі на бел. мове ў вёсках і ў Навазыбкаве разам з вайсковымі часьцямі і г. д.

У вапошнія часы атрыманы весткі, што сярод чырвонаармейцаў у Навазыбкаве з'організаваны 3 беларускія гурткі.

Склад слухачоў Політэхнікуму па нацыянальнасьцях разьмяркованы так: расійцы, беларусы, украінцы і г. д.

Усяго беларусаў 40, але сакратар Політэхнікуму заявіў, што ў графу „русские“ заносіліся і беларусы, калі яны не ўладаюць літаратурнай бел. моваю.

Усе прыведзеныя факты сьведчаць аб тым, што глеба для беларускай культурнай працы ў Навазыбкаўскім павеце, бязумоўна, маецца.

На аснове праведзенай працы і цэлага шэрагу матэрыялаў, можна прысьці да гэтакіх вынікаў, якія зрабіў у сваім дакладзе на пасяджэньні інспэктарскага савету ў Навазыбкаве 26-XI-25 г. і колегіі Саўнацмен у Гомлі 8-9-XII-25 г. Загадчык бел. бюро пры Губ. АНА:

1) Мова, якою карыстаюцца сяляне й дзеці Навазыбкаўскага павету, беларуская, са ўсімі яе фонэтычнымі асаблівасьцямі, як, напрыклад: аканьне, дзеканьне, цэканьне і г. д., і г. д.

2) Дзеці ў школах чытаюць парасійску з беларускім акцэнтам, а расказваюць прачытанае пабеларуску, прычым у 1-х групах дзеці ў размове між сабою амаль што і не карыстаюцца расійскімі словамі.

3) У старэйшых групах гаворка дзяцей перасыпана сапсаванымі расійскімі словамі; але і ў старэйшых групах дзеці пры свабодным выкладаньні сваіх думак, вусна і пісьменна на 70—80 проц. ужываюць беларускія словы і звароты.

4) Настаўнікі аднагалосна адзначаюць тыя вялікія труднасьці, якія ім прыходзіцца асільваць пры навучаньні вучняў расійскай мове, і з прычыны гэтага мэта не дасягаецца.

Вучань канчае школу і расійскаю моваю не ўладае.

5) Насяленьне, калі яму добра растлумачыць, згаджаецца ў тым, што іх дзецям цяжка вучыцца парасійску, што беларуская мова больш для яго зразумелая.

Па дакладу на інспэктар. савеце ў Навазыбкаве 26-XI-24 г. і ў колегіі Саўнац. Губ. АНА 8-9-XII-24 г., дзе прысутнічала і загадчыца Навазыбкаўскага, ПАНА згадзіўся з усімі вывадамі, якія зроблены ад агляду Навазыб. павету і маімі прапановамі, і вынесьлі цэлы шэраг канкрэтных пастаноў—аб падрыхтаваўчай працы сярод настаўніцтва і насяленьня, аб пераводзе культасьветных устаноў на бел. мову.

Загадчыца Навазыб. ПАНА на пасяджэньні колегіі Саўнацмен заявіла, што прыезд заг. бел. бюро і праведзеная ім праца адчыніла нам вочы. „Каб упэўніцца ў вывадах т. С., я выехала з ім разам на павет у некаторыя школы. Я ўбачыла, што дзеці 1-ай групы маленькі артыкульчык на расійскай мове перадаюць з трудом, а прачытаны імі артыкульчык у паўтары старонкі на беларускай мове пераказваюць лёгка. Дзеці гавораць пабеларуску. Я прышла да думкі, што глеба для беларускай працы маецца і трэба гэту працу зараз-жа распачынаць“.

Калі мы зьвернем увагу на вышэйпаданае, то ўбачым, што глеба ў 4-х паветах Гомельшчыны для беларускай культурнай працы маецца сталая, і на гэта ўжо зьвернута ўвага.

У вапошні-ж час на беларускую культурную працу будзе зьвернута яшчэ большая ўвага ў сувязі з пастановаю 13 губэр. парт. конфэрэнцыі аб нацмен. працы, на якой адзначана, што трэба дабівацца ўзмоцненай увагі ва ўсёй парторганізацыі да нацмен. працы і вынесены тутака-ж цэлы шэраг наступных пастаноў:

„Патрэбна дабіцца большай увагі ва ўсёй парторганізацыі к нацменрабоце і правесьці наступнае:

а) Дабіцца правільных адносін з боку комуністых к нацменрабоце, як к важнай частцы партыйнай работы.

б) Заняцца ўважлівым падборам і падрыхтоўкай работнікаў для культурна-асьветных устаноў на роднай мове.

в) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на пастаноўку політыка-асьветнай работы яўрэйскіх сел.-гасп. колектываў.

г) Дабіцца належнай пастаноўкі нацменработы ў клюбах, дзе маюцца значныя групы яўрэйскіх і польскіх рабочых, забясьпечыўшы гэтыя клюбы нацмен. газэтамі і літаратурай.

д) Выявіць неабходнасьць і пачаць працу па організацыі культурна-асьветнай работы на украінскай мовд ў некаторых раёнах губэрні.

е) *Узмацніць работу сярод беларускага жыхарства, паставіўшы сваёй задачай пашырэньне сеткі хат-чытален на беларускай мове*".

(13-я губпартыйная конфэрэнцыя.
„Полесская Правда" ад 13-XII—25 г.).

## КНІГАПІС

**В. ЛАСТОЎСКІ.** *Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік.* Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна, 1924 г., стар. 382+XII in 16⁰. Слоўнік заключае: прадмову (стар. I—XII), расійска-беларускі слоўнік (стар. 1—760), крыўскі (беларускі) іменьнік (стар. 761—771), назвы птах. (стар. 772—790), назвы расьлін („іменьнік расьцін“) (стар. 791—803), вайсковую каманду (стар. 804—813), дапаўненьні (стар. 814—823) і „спамылкі“ друку (стар. 824—832).

У прадмове да свайго слоўніка аўтар кажа, што, „выпушчаючы ў сьвет гэты слоўнік, я цікаваў, галоўным чынам, практычную мэту... мне думаецца, (што) карыстацца ім (слоўнікам) будуць больш тыя, якія добра ведаюць мову расійскую, але слаба сваю крыўскую...“ З гэтага пункту погляду мы й будзем разглядаць (слоўнік) В. Ластоўскага. Як-жа аўтар справіўся са сваім заданьнем? Дзеля гэтага разгледзім слоўнік з боку мэтоду яго ўкладаньня, з боку паўнаты слоўніка і, урэшце, з боку тлумачэньня расійскіх слоў беларускімі.

Мэтод аўтар выбраў самы няўдалы, — гэта тлумачэньне расійскага слова беларускім словам (або словамі) у розных яго катэгорыях. Напр., расійск. **Вторник** пабеларуску тлумачыцца: *аўторак, аўторкавы, аўторкаваць.* Але само сабой зразумела, што *аўторкавы* і *аўторкаваць* зусім не адпавядаюць рас. слову **вторник.** І для асоб, якія „добра ведаюць расійскую мову, але слаба сваю крыўскую“, словы *аўторкавы, аўторкаваць,* застануцца незразумелымі. Аўтару трэба было прытрымлівацца агульна-прынятага ў слоўніках мэтоду тлумачэньня кожнай катэгорыі слоў аднэй мовы адпаведнымі катэгорыямі слоў другой мовы. Такім чынам, рас. слову **вторничный** будзе адпавядаць белар. *аўторкавы,* рас. **вторничать**—белар. *аўторкаваць.* Пры гэтым, калі слова аднэй мовы ня можа быць пературмачана адпаведным словам другой мовы, то тут трэба ўжываць апісовыя формы; напр., расійск. **поститься в среду** пабеларуску будзе *серадзіць.* З другога боку, рас. **амбарщик** пабеларуску будзе *гаспадар сьвірну.*

Разгледзім цяпер слоўнік з боку яго паўнаты або *номэнклятуры* слоў. З гэтага боку слоўнік лічыцца тады добрым, калі ён, пропорцыянальна свайму аб'ёму, заключае ў сябе жывыя найбольш пашыраныя, а значыць і найбольш патрэбныя словы (зразумела, наскольні слоўнік практычны). Калі мы з гэткай меркай падойдзем да слоўніка В. Ластоўскага, то ўбачым у яго слоўніку вялікія хібы. У слоўніку В. Ластоўскага мы не знаходзім звычайных расійскіх слоў, як *говор, горло, зевать, искать, комар, палетать, налетчик* і да т. п. З другога боку ў слоўніку ёсьць многа расійскіх застарэлых і малаўжываных слоў, якіх у практычны слоўнік бязумоўна ня варта было ўносіць, напр.: *брашно, вздержка, востоиться, големый, зазнамо, зазольный, замар'яжиться, напродольный, муниция, онежить, срєчать, троакр, тщий* і шмат іншых.

Але сольлю ў кожным слоўніку зьяўляецца тлумачэньне слоў. У такім слоўніку, як расійска-беларускі, расійская частка слоўніка павінна у

поўнай меры адпавядаць беларускай частцы слоўніка і наадварот. І чым бліжэй і дакладней даецца тлумачэньне расійскага слова беларускім словам (або словамі), тым слоўнік павінен быць больш каштоўным. Беларускія словы, што ўжываюцца для тлумачэньня расійскіх слоў, павінны давацца больш пашыраныя, літаратурныя, а значыць і агульназразумелыя. Новатворам тут ня месца. Провінцыялізмы трэба ўводзіць асьцярожна, ставячы іх пры тлумачэньні на апошнім месцы.

Зазначыўшы ў агульных рысах тыя запатрабаваньні, якія звычайна вымагаюцца ад такіх практычных слоўнікаў, як слоўнік В. Ластоўскага, вярнемся цяпер да яго разгляду. Тут цікава будзе прывесьці невялікую выпіску з прадмоў аўтара. Вось што ён кажа: „Асымілятарскі тысячалетні ўплыў баўгаршчыны значна аддаліў нашу мову ад яе першапачатковых формаў і занячысьціў няскладнымі, чужымі духу і традыцыям нашага народу, словамі“. Дзеля гэтага, даючы тлумачэньне расійскага слова беларускім, аўтар імкнецца „паводле сіл сваіх“ ачысьціць беларускую мову ад чужаземнага ўплыву і ўвесьці яе ў сваю звычайную стыхію, „выявіць яе індывідуальнасьць“. Праўда, аўтар заўважвае, што сіламі аднаго чалавека гэтую працу нельга зрабіць. Аднак, як відаць з слоўніка, працу, а разам з тым і гонар па ачышчэньні беларускай мовы ад „тысячалетняга ўплыву баўгаршчыны“, аўтар бярэ на сябе. Мы ня станем тут спрачацца з аўтарам адносна розных уплываў на беларускую мову. Скажам толькі, што беларуская мова для нас, галоўным чынам, цікава, як факт існуючы, а не гістарычны. І практычны слоўнік дзеля гэтага павінен даць статыку мовы, а не яе гісторыю. З гэтай прычыны мы ня толькі лічым марнай працай выкіданьне ўсіх тых культурных здабыткаў, якія беларуская мова набыла на працягу тысячалецьця, але й працай проста шкоднай, бо вынайсьці беларускую мову такую, якой яна была тысячу год таму, немагчыма, паколькі такой мовы напэўна яшчэ й ня было.

Вернемся, аднак, да слоўніка В. Ластоўскага і паглядзім на рэзультаты працы аўтара. Каб нас не вінавацілі ў староннасьці, мы дамо некалькі расійскіх слоў з іх беларускімі тлумачэньнямі, з якіх прыкладаў будзе відаць „ачышчэньне“ беларускай мовы В. Ластоўскім. Тут чытач увачавідкі пабачыць, што аўтар слоўніка робіць з беларускай мовай такія мудраваньні, такія опэрацыі, што ў рэзультаце атрымліваецца нешта новае, мала падобнае на беларускую мову.

Прыводзім прыклады ў такім выглядзе, як яны даны ў слоўніку.

**Аборт** *м. лац. мэд.* **спарон** плада, **спарожа** жывата; ад слова „апаражняць“; **спарожыць, наўспораж.** *Кроплі наўспораж жывата.*

**Аист** *м.* пералётны птах з сям'і чапель; **бусел; буслай,** гультай; буслаіць, гультаіць. валондацца бяз працы.

**Апетит** *м. лац.* позыў да ежы; **жададзь, апэтыт, смач.**

**Аплодировать** *каму, франц.* біць уладкі, **пакляскаць, пакляскі.**

**Бдеть, човіць,** чоўкі, чоўны, чукавы, які ня сьпіць, ня счыняе вачэй; чуйнасьць, чоўкасьць—свомасьць чоўкага.

**Благородство** *ср.* пачуцьце праўдзівай чэсьці і моральнасьці: **крывічэсьлівасьць.** *Крывічэсьлівы настунак.* **Дабрародлівасьць.**

**Вращенне** *ср.* **аварот.**

**Главноначальствующий, галоўназьверхні, дыктатар.**

**Дошагать, дакрочыць, дажыргаць, датупеняць.**

**Залп** *м.* аднačасовы выстрэл многіх гармат, стрэльбаў; **раптуг раптугом.**

**Земляк-чка, крывец, крывічка, крыўцы.**

**Земляк, пабратым, крывец.**

І няхай ня думае чытач, што гэтыя прыклады зьяўляюцца выключэньнямі. Падобных прыкладаў—тлумачэньяў расійскіх слоў „беларускімі“—можна-б было прывесьці колькі хаця. Іх можна спаткаць на кожнай старонцы слоўніка. Мы ня можам іх больш прыводзіць, бо нам не даваляе для гэтага месца, але скажам, што для кожнага, хто бліжэй пазнаёміцца са слоўнікам В. Ластоўскага, ясна будзе відаць, што ў слоўніку даюцца тлумачэньні расійскіх слоў не беларускай мовай, а штучнай мовай В. Ластоўскага, што В. Ластоўскі ў сваім слоўніку „не ачышчае“ беларускую мову, а наадварот, яе занячышчае, засурвае, утвараючы нешта падобнае да валяпюка або эспэранта з беларускай асновай.

Ня мала ў слоўніку спатыкаецца памылак і па сутнасьці тлумачэньня значэньняў расійскіх слоў. Гэтак, напр., рас. **гильза** тлумачыцца пабеларуску, як *понайка*, *понавень* (?), а рас. **заряд**, як *ладунак*, **заряжать**—*ладункаваць*; тады як **гильза** пабелорускy будзе *ладунак*, **заряд**—*набой*, **заряжать**—*набіваць*. Расійск. **злодей** тлумачыцца пабеларуску словам *злодзей*, а не *злачынец*, бо белар. *злодзей* азначае тое-ж, што рас. **вор**, якому яно будзе і адпавядаць.

Варта яшчэ спыніцца на правапісе слоўніка. Перш за ўсё скажам некалькі слоў аб расійскім правапісе. Тут нашу ўвагу зварочвае ўжываньне аўтарам даўно ўжо выкінутых з расійскай азбукі літар *ѣ* і *і*, што ня можа быць невядома аўтару.

З другога боку, аўтар выкідае цьвёрды знак (ъ), з прычыны гэтага, а таксама й таму, што часта трапляюцца словы не ў альфабэтным парадку, карыстацца слоўнікам для адшуканьня патрэбных слоў іншы раз бывае цяжка.

Што-ж датыча беларускага правапісу, то тут наглядаецца поўная беспрынцыповасьць. Наогул, як відаць, аўтар меў на ўвазе прытрымлівацца агульнапрынятага правапісу, аднак, робіць ад яго надта многа памылковых ухілаў. Напр., блізка ўсюды пасьля цьвёрдага белар. *и* піша *і*, што бязумоўна памылкова; пасьля цьвёрдага белар. *р* піша *ь*, што таксама памылкова (*матэрьял*); незаўсёды азначае мяккасьць зычных (*чарсьвець*;) часта робіць памылкі ў ненацісканым *е* (*я*) (*беспомачны*); ужывае такія дзеясл. прым., як *прасьвечаючаяся* (стар. 3), *датычачай* (стар. 5) і шмат іншых. Да гэтага ж трэба дадаць многа памылак друку, што таксама значна псуе слоўнік.

З надворнага боку слоўнік В. Ластоўскага выглядае досыць добра: папера добрая, набор чытэльны, ужыты розныя шрыфты. Псуе толькі слоўнік набраныя блізка адным і тымжа тлустым шрыфтам расійскія і беларускія словы.

Да гэтага часу мы бадай выключна разглядалі слоўнік з боку яго недахопаў. Аднак, нельга сказаць, што слоўнік ня мае нічога дадатнага. У слоўніку В. Ластоўскага ёсьць многа цікавых беларускіх народных слоў, многа цікавых беларускіх прыкладаў і, урэшце, многа цікавага этнографічнага беларускага матэрыялу. Але дадатныя бакі слоўніка зноў-жа такі або не на месцы, або іх цяжка бывае выявіць. Скажам перш за ўсё адносна жывых народных слоў. Блізка што ўсе яны даны без паказаньня крыніц, адкуль узяты, а дзеля гэтага цяжка бывае судзіць, ці прыведзеныя аўтарам словы зьяўляюцца беларускімі провінцыялізмамі, народнымі словамі, ці новатворамі аўтара, бо аўтар у ўтварэньні беларускіх слоў далёка пашоў. Такім чынам, жывыя словы з народнай мовы часта, як бяспашпартныя, губляюцца ў масе новатвораў аўтара.

Што-ж датыча беларускіх прыкладаў і тлумачэньняў асобна некаторых беларускіх слоў, то, як ужо сказана было вышэй, яны не на месцы:

Гэткія прыклады й тлумачэньні патрэбны-б былі для беларускага слоўніка, дзе патрэбна было-б вытлумачыць значэньне *беларускага* слова. Задача ў аўтара зусім іншая—яму трэба вытлумачыць пабеларуску значэньне *расійскага* слова, а з гэтае прычыны іншы раз і вельмі цікавыя ўвагі аўтара аб значэньні беларускіх слоў, рознага роду этнографічныя ўвагі, зьяўляюцца лішнімі, і для практычнага *расійска-беларускага* слоўніка непатрэбнымі.

Аўтар значна ажывіў-бы свой слоўнік, калі-б ён даў расійска-беларускую фразэолёгію, але ён гэтага не зрабіў, што таксама ня мала шкодзіць слоўніку.

Такім чынам, на прыкладзе працы В. Ластоўскага мы бачым, як можна, маючы сабраны матэрыял, але паставіўшы сабе непамерную задачу (ачышчэньне мовы) і ўжыўшы пры гэтым наіўны мэтод, напісаць непатрэбную кнігу. В. Ластоўскі сваю працу пачаў пісаць не з таго канца: яму патрэбна было, паколькі ў яго быў сабраны матэрыял з жывой народнай мовы, брацца за ўкладаньне не расійска-беларускага, а беларускага слоўніка. Тады-б ён мог прынесьці карысьць беларускай навуцы. А ў такім выглядзе праца В. Ластоўскага марная, а яго кніжка—расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік—шкодная. Калі кніжка В. Ластоўскага можа і мець некаторае значэньне, то выключна, як сыры матэрыял для беларускай лексыколёгіі.

**С. Некрашэвіч.**

**1905 год в Белоруссии.** Сборник статей, воспоминаний и материалов. Под редакцией М. Шульмана. Изд. Комиссии ЦИК БССР по организации празднования 20-летия революции 1905 г. и Испартотдела ЦК-КП (б) Б. Inf. 8° Стар. VII+129. Минск, 1925 г. Цана 70 кап. 3.000 экз.

У гэты зборнік увашлі, галоўным чынам, успаміны самых удзельнікаў у рэволюцыі 1905. Тут мы знаходзім такія артыкулы: Е. Беленький—„К истории Минской организации РС-ДРП в 1903-1905 г. г." (якi ўжо быў надрукованы ў адным Маскоўскім выданьні) В. Метлин—„Курловский расстрел", Н. Тимофеева—„О революционном движении среди учащихся в начале 1905 г. в г. Минске", Б. Мороховец—„Крестьянское движение 1905-1907 г. г. и социал-демократия в Белоруссии и Литве", Г. Шкловский—„Бобруйск накануне 1905 г.", Горелик,—„Из истории революционного движения в Бобруйске" А. Бейлин—„Мои революционные воспоминания", „1905 г. в Полоцке" (колектыўны успамін), И. Богданович—„Воспоминания о революционном движении в Слуцком уезде", Ф. Харах—„Аграрные беспорядки в м-ке Песочно" і С. Прудников—„Как царские опричники расправлялись с крестьянами в дер. Семеновке". Апроч гэтага ў зборніку надрукованы, як дадаткі, адна проклямацыя Менскай групы РСДРП: „Гражданам г. Минска", тры заклікі проклямацыйнага зьместу жалезнадарожных організацый да жалезнадарожных служачых, абвінавачальны акт па справе быўшай у Менску жалезнадарожнай забастоўкі ў 1905 г., артыкул д-ра Рыўкіна „Оршанский погром", перадрукованы з „Днепровского Вестника" 1905 г., сьпіс політычных вязьняў 1906, 1908 і 1909 г. г. у Магілеўскай турме і сьпіс загінуўшых у часе курлоўскага расстрэлу рабочых у Менску ў 1905 г. Кніга ілюстравана фотографіямі тымчасовых рэволюцыянэраў, некалькімі відавымі малюнкамі і чатырма відамі скалечаных ахвяр Аршанскага пагрому.

Памятка аб рэволюцыі 1905 г. яшчэ жыве ў працоўных Беларусі. Першая рэволюцыя ўціснутага рабочага і сялянскага клясу, былой царскай Расіі, ускалыхнула шырокія колы працоўных і сялян, выклікала іх да актыўнай барацьбы за сваю волю і паказала ім у далейшым, як трэба змагацца са сваімі клясавымі ворагамі. У героічнай барацьбе працоўных

прашоў 1905 г. у Беларусі. Шмат рабочых і сялян загінула на барыкадах ад царскіх куль і шабляў, тысячы сялян і рабочых былі адарваны ад сахі і варстата і закінуты ў катаргі, у турмы, у Сібір. Спусьціўшы 20 год вобразы гэтай вялікай барацьбы працоўных паўстаюць ва ўсёй сваёй яскравасьці. І вядома, высьвятленьне рэвалюцыі 1905 г. мае вялікае значэньне як для гісторыі клясавай барацьбы, так і для выхаваньня нашай моладзі, якая павінна вучыцца цаніць перамогу Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Але, на жаль, зборнік, аб якім даецца тут рэцэнзія, не дае чытачу вобліку рэвалюцыі 1905 г. ў Беларусі. Ня ўводзіць яго ў сутнасьць падзей першай рэвалюцыі. Праўда, Е. Беленькі знаёміць нас у сваіх успамінах з організацыяй РС-ДРП і яе дзейнасьцю ў Менску, з бытам рабочых таго часу, апавядае аб рабочых дэмонстрацыях, аб Курлоўскім расстрэле, аб жалезнадарожнай забастоўцы, аб профсаюзным будаўніцве і д. т. п. Гэта самы абшырны нарыс, у якім Е. Беленькі стараецца ня ўпусьціць ніводнага зьявішча з падзей таго часу ў Менску. За гэтым прадстаўляе цікавасьць артыкул Гарэліка, у якім, як у казцы, праходзяць малюнкі з рэвалюцыйнай барацьбы ў Бабруйску. Тут даюцца веды аб організацыі політычных партый у Бабруйску, аб паўстаньні ў дысцыплінарным батальёне, пабег 12 сьмертнікаў, пры дапамозе організацыі „Іскры“, арышты, экономічная барацьба пасьля 1905 г. і д. т. п. Вот і ўсё ў зборніку, на чым яшчэ можна застанавіцца. Другія артыкулы зьяўляюцца часткай перадрукам з другіх выданьняў (хаця рэдакцыя аб перадруках не падае вестак) або даюць невялічкія штрыхі, асобныя эпізоды з падзей 1905 г. У артыкуле І. Багдановіча зьмест не адпавядае назьве, бо ў ім гаворыцца аб рэвалюцыйным руху толькі ў м. Капылі, а не ва ўсёй Случчыне.

Ні з прадмовы рэдакцыі, ні са зьместу зборніку нельга ўявіць сабе ідэі выданьня, нельга заўважыць ніякага пляну, ніякай сыстэмы ў юбілейных выданьньнях у нас, у Беларусі. І паданы зборнік не дае патрэбнага ўясьненьня сутнасьці рэволюцыі 1905 г. ў Беларусі ні шырокім колам грамадзянства, ні зьяўляецца дакладным матэрыялам для гістарычнага вывучэньня 1905 г. ў Беларусі.

Але і зьмешчаны матэрыял рэдактар відаць ня сумеў належным парадкам падрыхтаваць да друку. Не гаворачы ўжо аб літаратурных прыёмах выкладу, у зборніку знаходзім шмат супярэчнасьцяй, паўтарэньняў і інш., якія можна было пры рэдагаваньні ўмеркаваць. Але самым прыкрым і нават недапусьцімым у наш час зьяўляецца няўменьне рэдактара адрозьніць „Северо-Западный край“ ад БССР. У зборніку заместа Беларусі ўжываецца даўно зьнішчаны рэволюцыяй тэрмін „Северо-Западный край“.

Да кнігі 7. М. Шульман дае сваё „Предисловие“. Паўтарыўшы некалькі думак Беленькага, М. Шульман сьпявае дыфырамбы „Бунду“. Пасьля вінаваціць яго ў „опортунізьме“, што аднак, ня шкодзіць „Бунду“ быць організатарам працоўных мас, іх політычным выхаванцам. Прысутнасьць бальшавікоў у організацыях РС-ДРП у Беларусі М. Шульман устанаўляе па факце карэспандэнцый у часопісях „Вперед“ і „Пролетарий“. У канцы, застанаўляючыся на другіх партыях, М. Шульман кажа: „Кой-какую работу вели эсэры и Белорусская Социалистическая Грамада... Что касается БСГ, то ее влияние было очень слабое. Эта была интеллигентная по своему составу, немного численная группа, деятельность которой преимущественно литературного характера, выражаясь в выпуске брошюр, прокламаций, листовок. Эта примыкавшая по своей программе к ППС националистическая партия

была мало известна в революционных сферах" і г. д. Аўтар, відаць, дрэнна ведае БСГ, а яшчэ горш літаратуру аб ёй. Разьмер рэцэнзіі не дазваляе нам застанавіцца больш на гэтым пытаньні. Але варта сказаць, што БСГ, вядома, партыяне бальшавіцкая, але і нічога супольнага ня мела з эсэрамі. Працу сваю яна вяла пад лёзунгамі марксыцкімі і была партыяй, у пераважных момантах, марксыцкай. Праца БСГ была накіравана, галоўным чынам, сярод сялянства і „ўдзельны вес" яе быў, мусі быць, досі значны, калі ў 1905 г. БСГ знаходзіла магчымым праводзіць сялянскія забастоўкі, організоўвала ў Беларусі сялянскія саюзы, мела сваю ўласную тыпографію, баявыя дружыны. Першая падняла пытаньне аб організацыі С-Д партыі Літвы і Беларусі, замест існуючых нацыянальных партый і д. т. п. Т. Шульман, уклонены перад Бундам, нічога гэтага ня ведае і піша, як кажуць, „рубячы з пляча".

Наогул, выданьне гэтае кніжкі, зусім нядбайнае, сьведчыць, як ня трэба выдаваць, спусьціўшы рукі, кніжкі па гэткім сур'ёзным пытаньням, як 1905 год. **Я. Мар-ук.**

**Максім Гарэцкі. Досьвіткі.** *Апавяданьні. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1926. Стар. 101, ц. 40 к.*

Максім Гарэцкі, як пісьменьнік-прозаік, выступіў у беларускай літаратуры ўжо даўно. У 1914 годзе ў Вільні ён выдаў першы свой зборнік апавяданьняў „Рунь". Потым ён друкаваўся ў розных часопісах і цяпер Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі выданы новы зборнік апавяданьняў „Досьвіткі", які мы тут і разгледзім.

Яшчэ, калі вышаў першы зборнік „Рунь", крытыка зьвярнула ўвагу на Максіма Гарэцкага, як на таленавітага прозаіка на беларускай глебе, які закранаў у сваёй творчасьці рознастайныя праявы людзкога жыцьця. Апавяданьні яго наогул насілі рэалістычны характар, хоць часамі былі ахварбованы ў романтычны колер. Затое ў даным зборніку „Досьвіткі" М. Гарэцкі выступае прад намі, як сапраўдны рэалісты, адбіваючы з усёю праўдзівасьцю прыгонны быт на Беларусі.

У зборніку „Досьвіткі" зьмешчаны апавяданьні—„Досьвіткі", „Панская сучка", „Смачны заяц", „Прысяга", „Страшная музыкава песьня", „Стары профэсар", „Дурны настаўнік", „Трасца", „Сасна" і „Багатая пчэльня". Найбольшую каштоўнасьць і сьвежасьць маюць тыя апавяданьні, у якіх разгортваецца малюнак прыгоннага стану сялянства, і меншую—апавяданьні з зарысоўкай іншых проблем, але бо́льшасьць гэтых апавяданьняў якраз адбіваюць прыгонны быт. У жудасных муках праходзіла жыцьцё селяніна ў часы паншчыны. Просты народ у вачох пана ўяўляўся нават ніжэй жывёлы. Выразны малюнак такіх адносін паміж панам і паднявольным яму чалавекам даны М. Гарэцкім у вапавяданьні „Панская сучка". Умелаю рукою мастака М. Гарэцкі ў гэтым апавяданьні малюе вобраз лютага пана, па волі якога гіне чалавек горай усякай жывёлы. Трагічныя вобразы гвалтаў і зьдзекаў у часы паншчыны дае М. Гарэцкі досыць умела і выпукла і ў іншых апавяданьнях („Смачны заяц", „Прысяга"). Ня зносячы гэтых зьдзекаў, сяляне прымушаны былі ўцякаць ад гэтага. „Уцякалі, спавітыя спрадвечнаю цемнатою, спрадвечнымі забабонамі, вызваліцца ад якіх яшчэ ня мелі сілы"... („Прысяга"). Цемната гэта ёсьць адна з прычын пакуты паднявольнага чалавека. У вапавяданьні „Прысяга" якраз вельмі выпукла М. Гарэцкі разгортвае малюнак цемры людзкое. Наогул, усе гэтыя апавяданьні маюць вялікую вартасьць і высоўваць М. Гарэцкага, як аднаго з першых пісьменьнікаў на Беларусі, які даў прыгожа напісаныя малюнкі жудасных зьдзекаў над простым селянінам з боку паноў.

Меншую цікавасьць прадстаўляюць апавяданьні „Страшная музыкава песьня“—тэма ня новая, і „Стары профэсар“, дзе вобраз профэсара нейкі нявыразны, хоць вартасьць з псыхолёгічнага боку і яны маюць.

Наогул кажучы, больш каштоўны і больш распрацаваны апавяданьні „Панская сучка“, „Смачны заяц“, і „Прысяга“ і менш каштоўны ўсе іншыя, бо яны ня новы па сваёй тэматыцы. Але ў першых апавяданьнях, апавяданьнях, дзе даюцца жудасныя вобразы прыгону, М. Гарэцкі выразна выявіў свой талент. Тут ён дасягнуў асаблівай мастацкай праўдзівасьці і, як ніхто іншы, рэальна адбіў эпоху паншчыны ў сваіх творах.

З боку формы М. Гарэцкі таксама орыгінальны ў беларускай літаратуры. Прыгожы стыль, адпаведныя параўнаньні і эпітэты знаходзяцца ў пэўнай гармоніі са зьместам. Мова ў апавяданьнях добрая, хоць у ёй і шмат дыялектызмаў. Зборнік выдадзены вельмі добра. Прыгожая вокладка. Формат кніжкі добры. Наогул кніжка зьяўляецца каштоўным укладам у скарбніцу прыгожай беларускай літаратуры.

**П. Жарскі.**

**„Асьвета“** *Часопіс № 7 (10) за сьнежань месяц 1925 г. і № 1-ы за студзень 1926 г.*, выданьне Народнага Камісарыяту Асьветы.

У канцы студзеня месяца гэтага году вышаў з друку № 7(10) часопісу „Асьвета“, а ў палове лютага гэтага году вышаў першы нумар за 26 год. Гэтыя два нумары часопісу, выпушчанага ў гэтым годзе, вельмі моцна зьвязаны паміж сабою тым, што шмат артыкулаў, якія зьмешчаны ў першым нумары, канчаткова аформляюць пытаньні, зачэпленыя ў № 7(10), вось дзеля чаго прыходзіцца гаварыць адразу аб абудвых нумарох.

Трэба зазначыць, што апошнія нумары часопісу „Асьвета“ значна палепшалі па сваім зьмесьце. Яны неяк сталі бліжэй да жыцьця, пачалі больш яскрава адбіваць жыцьцё школы і настаўніка. У гэтых нумарох бадай што няма тых сухіх адцяглых профэсарскі-монотонных артыкулаў, якіх было шмат ува ўсіх папярэдніх нумарох.

У рэцэнзуемых нумарох зьмешчаны артыкулы: „Нацыянальныя моманты ў працы піонэр-організацыі“ т. Брадоўскага, „Прыцягненьне настаўніцтва да піонэрскай працы“ тав. Хейфец і „Дзіцячы друк мацнее“ тав. Чурылаўца. Дзеля таго, што зачэпленыя тэмы цікавяць ня толькі настаўнікаў, але і шырокія колы грамадзянства, то мы на гэтых тэмах спынімся больш падрабязна.

У артыкуле „Нацыянальныя моманты ў працы піонэр-організацыі“ аўтар вельмі ўважліва разглядае жыцьцё і працу піонэраў розных нацыянальнасьцяй, вызначае станоўчыя і адмоўныя бакі і дае параду, як увязаць працу нацыянальных момантаў з інтэрнацыянальнасьцю. Тут, паміж іншым, аўтар вызначыў і значэньне беларусізацыі для жыцьця піонэр-організацыі. Артыкул напісаны добра, відаць, што аўтар вывучаў піонэрскае жыцьцё. Толькі тут у артыкуле аўтар зусім не закранае адзін бок жыцьця, які мае вялікае значэньне ня толькі для піонэраў, але і наогул для ўсіх дзяцей Беларусі. Я маю на ўвазе дзіцячую літаратуру. Гэтую памылку тав. Брадоўскага як-бы папраўляе тав. Чурылавец сваім артыкулам „Дзіцячы друк мацнее“. У гэтым артыкуле аўтар таксама не разглядае падрабязна дзіцячае літаратуры наогул і ў прыватнасьці часопісу „Беларускі Піонэр“, да гадавіны якога быў і прызначаны гэты артыкул. Аўтар робіць толькі павярхоўны агляд часопісу, вызначае яго пляцформу, на якой яна павінна стаяць, а таксама ролю, якую яна мае ў выхаваньні дзяцей. Галоўны недахоп аўтар бачыць у тым, што часопіс мае мала дапісчыкаў, ня

можа зрабіцца двухтыднёвікам і выхад яго часам спозьніваецца, дзякуючы перапоўненасьці Дзяржаўнага Выдавецтва. Бязумоўна, усе гэтыя заўважаньні правільныя, але толькі ня ў іх, як кажуць, уся бяда. У дзіцячай пэрыодычнай літаратуры ёсьць большыя заганы. Не такая ўжо вялікая бяда, калі часопіс выходзіць раз у месяц, важна ня гэтае. Важна тое, з якім захапленьнем дзеці чытаюць матэрыял, зьмешчаны ў часопісе, і на колькі процантаў гэты матэрыял задавальняе дзіцячыя запатрабаваньні. Вось на гэта павінна быць зьвернута галоўная ўвага як з боку настаўнікаў і бацькоў, таксама і тых грамадзянскіх дзеячоў, якія цікавяцца выхаваньнем маладога пакаленьня. Толькі тады, калі будзе дасканала выяўлены ў дзіцячай літаратуры гэты бок, тады ўсе недахопы, якія існуюць, лёгка можна будзе зьліквідаваць.

Недахоп у нашай дзіцячай літаратуры складаецца з таго, што яна не дыфэрэнцыявана адпаведна ўзросту і разьвіцьцю дзяцей. Вось к прыкладу возьмем часопіс „Беларускі Піонэр,“ гэты часопіс так, як і ўсякі, мае станоўчыя бакі і адмоўныя, але самы вялікі яго недахоп у тым, што ён ня можа задаволіць усіх піонэраў. У нашых школах ёсьць піонэры, пачынаючы з нулявых груп і канчаючы сёмымі. Зразумела, што разьвіцьцё іх не аднолькавае. Нам здаецца, што часопіс „Беларускі Піонэр“ абслугоўвае, галоўным чынам, дзяцей трэціх, чацьвертых і пятых груп, а дзеці шостых і сёмых груп перарасьлі гэты часопіс, а да комсамольскай літаратуры ўсёю сваёю масаю недарасьлі. Апрача часопісу „Беларускі Піонэр“, дзіцячае здаровае літаратуры, якая-б адпавядала беларускім умовам і быту, вельмі мала, дзеля гэтага ў вучняў старэйшых кляс прыходзіцца часта сустракаць „Нат Пінкертонаў“, розных „Холмсаў“ і іншую драбядзень, якія атручваюць дзіцячы мозаг сваім зьместам. Гэта, бязумоўна, недахоп. Падобныя недахопы, мо' трошкі ў іншым выглядзе, сустракаюцца бадай што ва ўсіх мясцох, толькі іх трэба заўважыць і высьветліць. Нагогул трэба адзначыць, што пытаньне аб дзіцячай літаратуры ў нас зусім слаба высьветлена і на яго чамусьці мала звярочваюць увагі, як быццам гэта другараднае пытаньне ў жыцьці нашых дзяцей. Тав. Лабадаеў у артыкуле „Аб працы сярод акцябрат“, які зьмешчаны ў нумары першым, зьвязвае выхаваўчую працу сярод акцябрат з чытаньнем цікавых апавяданьняў, казак, гутарак і гэтак далей; гэта, бязумоўна, правільна. Чытаньне цікавых апавяданьняў, расказаў, казак дзецям такога ўзросту, як акцябраты, нулявыя і першыя групы, пакідае ў іх глыбокі сьлед і значна пасоўвае іх разьвіцьцё наперад. Гэта вядомая ўсім аксіома і довадаў бадай што ніякіх не вымагае. Пытаньне аб формах дзіцячай літаратуры, аб яе кірунку і дыфэрэнцыяцыі часопіс „Асьвета“ павінна прадыскусаваць больш конкрэтна і грунтоўна, бо з вырашэньнем гэтага пытаньня можна будзе прывіць дзецям пэўную ідэолёгію.

У артыкуле „Прыцягненьне настаўніцтва да піонэрскай працы“ т. Хейфец падрабязна разглядае суадносіны паміж комсамолам і піонэрамі, з аднаго боку, і настаўнікамі— з другога. У гэтым артыкуле т. Хейфец вызначае ролю КСМ у жыцьці і выхаваньні піонэра, а таксама і ролю настаўніка, якую ён павінен заняць у жыцьці гэтых організацый. Артыкул складзены на падставе ўласных назіраньняў і па матэрыялах розных зьездаў. Калі т. Хейфец падыходзіць да нацыянальнай політыкі, то, вызначыўшы ўсю карысьць працы ў атрадзе на нацыянальнай мове, дадае: „Якраз тут трэба яшчэ адзначыць, што нацыянальная політыка ў піонэрскай організацыі ёсьць ня толькі праца на роднай мове, трэба наладзіць добрыя ўзаемаадносіны між дзецьмі розных нацыянальнасьцяй (чаго

да гэтага часу яшчэ няма), і ў гэтай справе можа быць значная дапамога з боку настаўніка". Бязумоўна, гэта верна, што нацыянальная політыка гэта ня толькі праца на роднай мове. Трэба яшчэ высьветліць дзецям, што беларусізацыя ёсьць сродак да паляпшэньня дабрабыту краю. Я тут зазначаю пра беларусізацыю таму, што гэтае пытаньне ў нас самае кардынальнае. Часта, калі пачынаем весьці з дзецьмі не-беларускай нацыянальнасьці гутарку аб беларусізацыі, то ў іх часта маецца гатовы няправільны погляд на гэтае пытаньне. Сярод некаторых колаў грамадзянства існуюць яшчэ і да цяперашняга часу такія погляды, што беларусізацыя ёсьць ні што іншае, як палітычная комбінацыя, якая існуе толькі для віду і зусім не патрэбна для жыхароў гораду. Вось гэтыя рэакцыйныя погляды маюць адбітак у сьветапоглядзе дзяцей, і толькі ён, галоўным чынам, зьяўляецца перашкодаю для добрых узаемаадносін паміж дзецьмі розных нацыянальнасьцяй. Гэты шкодны для політыкі Савецкага ўраду погляд сярод дзяцей павінен зьнішчацца, бязумоўна, не рэпрэсыямі, а гутаркамі з дзецьмі ўсіх нацыянальнасьцяй на гэтую тэму. Тады тая неналаджанасьць паміж атрадамі розных нацыянальнасьцяй адпадзе. Як відаць з надпісу, т. Хейфец свой артыкул зьбіраецца выдаць асобнай брошурай у пашыраным выглядзе для настаўнікаў, то ў гэткім выпадку месца аб нацыянальнай політыцы павінна быць распрацавана шырэй.

У ваддзеле „Наш быт" у вабодвых нумарох, разглядаемага часопісу, зьмешчаны літаратурны матэрыял, які вельмі ўдала высьвятляе недахопы самога настаўніцтва, а таксама аднабокасьць тае політыкі, якая праводзіцца некаторымі ўстановамі ў адносінах да настаўніцтва. Да гэткіх артыкулаў трэба аднесьці артыкулы Якімовіча і Я. Л-бач. У № 7 (10) зьмешчаны цікавы артыкул ад бэрлінскага корэспондэнта. Артыкул для асьветнікаў вельмі цікавы, бо высьвятляе хітрую політыку нямецкага ўраду да школ, у якіх вучыцца пролетарыят. Звычайна аб асьветных справах па-за межамі газэты ня пішуць, дзеля чаго артыкул зьявіўся свайго рода навіною ў нашай прэсе. Толькі мова ў гэтым артыкуле няўдалая. У № 1-ы зьмешчаны артыкул Баліцкага і Пэцольда „Організацыя народнае асьветы ў Нямеччыне".

Аўтары артыкулу падрабязна разглядаюць тую сыстэму народнае асьветы, якая зараз існуе ў Нямеччыне, а таксама і настаўніцкія аб'яднаньні. Чытач можа атрымаць поўнае ўяўленьне аб сыстэме народнае асьветы Нямеччыны. Ёсьць цікавыя артыкулы аб Дальтон-пляне ў віцебскай дасьледчай школе пры Белпэдтэхнікуме. Сустракаюцца артыкулы і аб выкладаньні матэматыкі, толькі вось аб прыродазнаўстве артыкулаў бадай што няма, выходзіць, што гэтая галіна навукі для школ няцікава.

Побач з станоўчымі бакамі, аб якіх я вышэй зазначаў, у часопісе „Асьвета" ёсьць і адмоўныя бакі. Аднэй з такіх адмоўнасьцяй зьяўляецца адсутнасьць у часопісе аддзелу „Навейшыя дасягненьні навукі і тэхнікі". У часопісе гэткі аддзел павінен існаваць, і ў ім у кароткай і популярнай форме павінен зьмяшчацца матэрыял аб навейшых дасягненьнях тэхнікі і экспэрымэнтальных навук. Гэта дало-б настаўніцтву магчымасьць пашырыць свой навуковы багаж. Пажадаемжа часопісу „Асьвета" выправіць свае недахопы і выходзіць кожны месяц, а не ў паўтара месяцы раз.

**К.**

**Наш Край.** *Штомесячнік ЦБ Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры № 2-3, лістапад-сьнежань 1925 г., стар. 60, экз. 2.000.*

Узяўшы ў рукі гэты нумар „Нашага Краю" і пачаўшы разглядаць матэрыялы, зьмешчаныя на яго старонках, прыходзіш к заключэньню, што ўсё-ткі такі нумар далёка ня можа задаволіць чытача і больш та-

го пераконваешся, што трэба часопіс паставіць неяк іначай. Нельга, зразумела, сказаць, што ў даным нумары ўсе матэрыялы нічога ня варты. Тут ёсьць досыць каштоўныя артыкулы, прыкладам, першы артыкул Я. Кісьлякова „Тып беларускай сялянскай гаспадаркі", дзе знойдзеш адказ на пастаўленую аўтарам тэму. Артыкул напісаны популярна, лёгка чытаецца. І ён нават можа ня толькі служыць матэрыялам для вывучэньня тыпаў гаспадарак нашымі краязнаўчымі таварыствамі, а нават і інструкцыяй для вядзеньня сялянскіх гаспадарак. Кепска толькі, што аўтар жыцьцёвыя адзінкі не пераводзіць прама на рублі, каб было больш яснасьці для радавога чытача. Але калі пераходзіш да апісаньняў мястэчак, то тут як бы чагосьці не хапае. Здавалася-б не хапае якраз мастацкасьці. Апісаньні трэба рабіць, на нашу думку, па мастацкім у больш апісаньні і аздабляць іх прыгожымі малюнкамі, бо нават назва часопісу „Наш Край" вымагае гэтага. Куды цікавей было-б, скажам, даць прыгожае апісаньне таго ці іншага мястэчка або тыповага краявіду, зьмясьціўшы тут-жа і малюнак гэтага краявіду.

Некалькі слоў хочацца сказаць і наконт анкет, праграм і інструкцый. Амаль што палова нумару занята пад гэты якраз аддзел. Але ці патрэбна заграмаджаць часопіс гэтымі праграмамі, калі яны выдаюцца асобнымі кніжачкамі. Нам здаецца, што ня трэба, бо той, хто захоча мець праграму па зьбіраньні, скажам, вуснай народнай творчасьці, ён дастане сабе яе ў асобным выданьні, а на месца гэтых праграм трэба зьмяшчаць матэрыялы па краязнаўчай працы на мясцох і ў цэнтры. Што датычыць бібліографіі, то тут таксама ня шкодзіла-б даць сьціслыя рэцэнзіі галоўных прац па краязнаўстве і асабліва падкрэсьліць важнейшыя працы, каб можна было ў выпадку нястачы літаратуры набыць лепшыя з гэтых прац, чаго, на жаль, ня зроблена ў аддзеле бібліографіі. Вялікае мае значэньне, ня гледзячы на шмат якія малазразумелыя тэрміны для шырокага, асабліва сельскага чытача, для вывучэньня падрабязна прыроды Беларусі, „Апытальны ліст". Толькі, зьмяшчаючы гэты „Апытальны ліст" у кожным нумары ў часоп. „Наш Край", патрэбна больш шырэй абхватваць пытаньні і некаторыя *навучныя* тэрміны, назвы тлумачыць на народнай мове, блізкай да народных тэрмінаў і назваў.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што гэты нумар „Нашага Краю" не дагледжаны і з тэхнічнага боку. На вокладцы рэзка кідаецца ў вочы недарэчнасьць — замест 1925 г. напісана: „1926 год лістапад-сьнежань", іначай кажучы, часопіс выданы авансам. У канцы, пасьля зьместу чамусьці пакінуты 3 старонкі зусім пустыя. І наогул увес часопіс з тэхнічнага боку выданы кепска. Каб надаць яму популярнасьць, трэба зьвяртаць вялікую ўвагу і на тэхнічны бок.

Якія-ж вывады можна зрабіць наконт гэтага нумару часопісу „Наш Край"? А вось якія. Трэба імкнуцца зьмяшчаць артыкулы прыгожа напісаныя, даваць малюнкі. Сьціслa-навуковыя артыкулы лепш зьмяшчаць у запісках ІБК. У ваддзеле бібліографіі даваць рэцэнзіі на карысьнейшыя кніжкі па краязнаўстве. Паставіць часопіс з тэхнічнага боку на належную вышыню. Сабраны матэрыял краязнаўчымі таварыствамі і інш. асобамі па вывучэньні ўсебакова Беларусь, патрэбна друкаваць у часоп. „Наш Край". Папершае, што сабраны матэрыял ня будзе залежвацца ў шафах Інбелкульту, а будзе зьмешчаны, надрукованы. Падругое, чытач зможа орыентавацца па гэтым сабраным матэрыяле ў сваёй бягучай рабоце. І, нарэшце, рэдакцыі часопісу „Наш Край" трэба апраўдаць назву штомесячнік.

**Кудравы.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў

* *Янка Купала* пералажыў на беларускую мову поэму поэтэсы М. Шкапскай, якая надоечы аб'яжджала Беларусь, як корэспондэнт Ленінградзкай вячэрняй „Красной газеты“.

* *Цішка Гартны* пачаў пісаць трэцюю частку роману „Сокі Цаліны“ — „Чырвоны золак“.

* *Якуб Колас* піша новую вершаваную поэму з рэволюцыйнага жыцьця. Вырыўкі з гэтае поэмы друкаваліся ў газэце „Савецкая Беларусь“.

* *М. Зарэцкі* здаў да друку новае апавяданьне пад назваю „Голы зьвер“. Ён-жа працуе яшчэ над адным новым буйным творам.

* *Максім Гарэцкі* пераехаў для працы ў Горкі ў Сельска-гаспадарчай Акадэміі.

* У бэрлінскай нямецкай работнічай газэце „Arbeter Jllústricrte Zeitung“ за студзень месяц г. г. зьмешчаны портрэты беларускіх пісьменьнікаў: Янкі Купалы, Цішкі Гартнага і Міхася Чарота ў адзнаку іх быванньня ў Бэрліне восеньню 1925 г. Портрэты справодзяцца надпісам: Drei bedeutende Vertreter der Sowietrepublik Weissrusland zu Besuch in Berlin: Zischka gartnej bedeutender weissrussischer Romanschriftsteller, Janka Kupala, bekanter weissrussischer Dichter und Michas Tscharot (тры выдатных прадстаўнікі Савецкай Рэспублікі Беларусі, да іх отведу Берліну: Цішка Гартны, выдатны беларускі романісты, Янка Купала, вядомы беларускі поэта і Міхась Чарот).

* Вышаў з друку збор апавяданьняў М. Гарэцкага „Досьвіткі“.

* *Крапіва* падрыхтаваў да друку вялікую вершаваную антырэлігійную аповесьць.

* Драматург Шашалевіч канчае сваю новую п'есу, якая маецца быць пастаўлена яшчэ ў бягучым сэзоне ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры.

Надоечы ў Маскве адбыўся дыспут на тэму „Маладняк і шляхі разьвіцьця беларускае культуры“. Даклад выклікаў вялікае зацікаўленьне закранутым пытаньнем з боку студэнцтва, якое прыняло ў ім гарачы ўдзел. На дыспут сабралася да 800 чал. беларускага студэнцтва.

* Пры Інбелкульце організаваны маладнякоўскі клюб. Загадчыкам клюбу выдзелены маладняковец Я. Бобрык.

* Полацкая філія „Маладняка“ падрыхтавала да друку зборнік твораў сяброў філіі.

* Пісьменьнік Алесь Гурло з рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь“ перашоў на працу ў Інбелкульт у правапісна-тэрмінолёгічную камісію. З рэдакцыі газэты „Беларуская Вёска“ перашоў у Інбелкульт і пісьменьнік Кузьма Чорны.

### Выдавецтва

* У хуткім часе ў Дзяржаўным Беларускім Выдавецтве выходзяць з друку Цішкі Гартнага „На перагібе“ другая квадра роману „Сокі цаліны“ і Янкі Купалы другі том твораў.

* З сялянскай бібліотэкі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва друкуюцца, паміж іншым, два зборнічкі

апавяданьняў у вершах Янкі Купалы і зборнічак апавяданьняў Цішкі Гартнага.

* У тым-жа Выдавецтве вышла з друку поэма М. Чарота „Марына" і зборнік апавяданьняў „Апавяданьні" З. Бядулі.

* Магілеўская філія „Маладняка" выдала зборнік твораў сваіх сяброў.

* Я. Лёсік сваім коштам выдаў чарговую працу па беларускай мове „Фонэтыка".

* Белдзяржвыдат выдала чарговай п'есай двухактоўку А. Гаротнага „Перамена".

* Літаратурная камісія Інбелкульту скончыла падрыхтоўку да друку першага тому твораў М. Багдановіча. Выданьне мае быць з надворнага боку накшталт выданьняў былой расійскай акадэміі навук.

* Расьнянскае (Калінін. акругі) краязнаўчае таварыства падрыхтавала да выданьня зборнік народнае творчасьці Расьняншчыны.

Апошнімі часамі ў кніжніцы Маладняка вышлі з друку наступныя кніжкі: колектыўны зборнік вершаў Вішнеўскай, Пфляумбаум і Бандарынай, „Пунсовае раньне"—збор вершаў Бобрыка, Звонака і Туміловіча і „Слуцкія песьняры"—збор твораў слуцкае філіі Маладняка—Шукайлы, Відука, Сукалы, Атавы і Іды Чырвань.

Вышаў з друку чарговы № 10 часопісу „Маладняк".

### Тэатр і музыка

* Беларуская Дзяржаўная Студыя ў Маскве ў першых лічбах сакавіка месяца давала ў тэатры „Акварыум" паказны спэктакль. Ставілася п'еса: „Сон у летнюю ноч" Шэксьпіра, пастаноўка В. Смышляева, музыка В. Сокалава, дэкорацыі мастака Л. Нікіціна. У бягучым навуковым годзе студыя канчае пастаноўкі гэткіх рэчаў: „Астап" Андрэя Глобы (сучасная сатыра), „Эрос і Псыха" Жулаўскага, „Вакханкі" Эўрыпіда, „Мінулы час" Бена (з часоў прыгону ў Беларусі). З восені студыя выяжджае для заўсёднай працы ў горад Віцебск.

* Надоечы прашоў у Беларускім Дзяржаўным Тэатры Мольераўскі спэктакль з прэм'ераў п'ес: „Жорж Дандэн" і „Цэрэмонлівыя паненкі" ў пастаноўцы Папова. Спэктакль меў посьпех у гледачоў, адбіўшы йгрою артыстых сур'ёзную школу таленавітага рэжысэра.

* Чарговаю прэм'ераю ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры мае быць п'еса Рамановіча „Вір" у пастаноўцы Е. Міровіча.

* Сёмага лютага гэтага году ў Кіеве адбыўся концэрт беларускае народнае песьні, у выкананьні украінскае дзяржаўнае капэлі „Думка". Для ўдзелу ў концэрце з мэтай выказу прамовы ў Кіеў дэлегаваўся прадстаўнік музычнае падсэкцыі Інбелкульту т. Ю. Дрэйзін.

* У Інбелкульт зьвярнулася музычная консэрваторыя ў Пізаро (Італія) з просьбаю прыслаць ёй у музэй беларускія народныя і старажытныя музычныя інструманты.

* Пры ЦБ „Маладняка" організавалася драматургічная сэкцыя, якая пачала сваю працу.

### Праца Інбелкульту

* Географічная падсэкцыя Інбелкульту занята працаю разгляду шэрагаў пытаньняў у зьвязку з апрацоўкай географічнага атласу нацыянальных аб'яднаньняў Савецкага Саюзу, які мае выдавацца пры ЦВК СССР.

* Гісторыка-археолёгічная камісія пачала складаньне археолёгічнай карты БССР. У гэту карту будуць занесены курганы, магільнікі, гарадзішчы і іншыя старажытныя помнікі краю.

* На апошнім пасяджэньні рэволюцыйнай сэкцыі быў заслуханы даклад Зелязея аб узьнікненьні і працы ў 1905-06 гады Беларускай Соцыялістычнай Грамады. Дакладчыкам было прыведзена шмат новых, яшчэ няве-

даных гісторыяй, фактаў з чыннасьці гэтай адыграўшай вялікую ролю ў мінулым беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху беларускай партыі. Сэкцыяй даручана яе сябру т. Я. Дылу разам з т. Зелязеем апрацаваць даклад апошняга для зьмяшчэньня ў адным з беларускіх часопісаў.

* Барысаўскае акруговае краязнаўчае таварыства апрацавала анкету, з мэтаю высьвятленьня, як жылося ў Барысаўшчыне сялянам у часы прыгону і як сялянства змагалася за волю да часоў Кастрычнікавае рэволюцыі.

* На агульных сходах віцебскага краязнаўчага таварыства ў апошнія часы заслуханы гэткія даклады: 1) Гісторыя гораду Віцебску, 2) Жыцьцё і дзейнасьць Сапунова, 3) Асноўныя моманты беларускага руху, 4) Помнікі Віцебскіх рамесьніцкіх організацый, 5) Архівы і архіўная праца Віцебшчыны, 6) Віцебская архітэктура і інш.

* ЦБ краязнаўства наладзіла сувязь з Гомельскім губэрскім бюро краязнаўства, з Бельскім (Смал. губ.), Старадубскім (Гом. губ.) краязнаўчымі таварыствамі.

* Прэзыдыум Інбелькульту прыняў пад сваё кіраўніцтва Большалетчанскі ботанічны сад у Віцебску.

* Удава пісьменьніка К. Каганца перадала Інбелкульту ліст беларускага пісьменьніка С. Палуяна, ліст гэты вывысьвятляе літаратурную дзейнасьць гэтага, без пары загінуўшага, пісьменьніка.

## З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Харкаўская філія асоцыяцыі мастакоў Чырвонае Украіны організуе ў Кіеве выстаўку работы сваіх сяброў.

* З сакавіка месяца аддзел мастацтваў наркамасьветы пачаў выдаваць тэатральны часопіс „Сельскі тэатр".

* Пісьменьнік *Досьвітны Ол.* канчае вялікі роман пад назваю „Хто".

* Поэта *Тычына П.* працуе над вялікаю эпопэяй.

* Пісьменьнік *Шкурупы Г.* канчае роман пад назваю „Гудкі заводу".

* Пісьменьнікі *Пілипэнка С. Гатаў А.* здалі да друку Выдавецтву „Маладая Гвардыя", збор „Сучасная Украінская літаратура" (пераклады з 25 украінскіх аўтараў, што йдзе ў сэрыі „Літаратура народаў".

* Поэта *Полішчук В.* гатуе новую поэму. Скора выходзіць накладам Дзяржаўнага Выдавецтва Украіны зборнік яго лірычных твораў „Громохкі сьлед".

* Рэжысэр *Ф. Лапацінскі* піша сцэнары да вядомага роману І. Франка „Захар Беркут". У сцэнарыі будуць намалёваны социяльныя адносіны паміж вольнымі грамадамі і фэўдалізмам у васобе баяр у Чырвонай Расіі.

* 13-га сакавіка ў Харкаве ў памяшканьні грамадзкае кнігазборкі адбыўся вечар, прысьвечаны творчасьці вядомага украінскага поэты Паўла Тычыны. У вечары бралі ўдзел: капэля „Дух" і артыстычныя сілы Дзяржаўнае Драмы імя І. Франкі і Дзяржаўнае Опэры.

* Пры Музычна-Драматычным Інстытуце аднавіўся вокальны аддзел і з'організаваўся сымфонічны оркестр. Пры Інстытуце таксама організуецца хор пад кіраўніцтвам запрошанага выкладчыка дырыгента Собаля.

* Дырэкцыя Дзяржаўнае Драмы атрымала паведамленьне ад вядомага украінскага артыстага Міколы Садоўскага, што ён хутка вернецца з заграніцы на Украіну. Да яго прыезду рыхтуецца к пастаноўцы п'еса „Рэвізор", у якой М. Садоўскі будзе граць ролю гараднічага.

* У Херсоне мае быць адчынены заўсёдны украінскі тэатр.

* З бібліотэкі украінскіх клясыкаў зараз друкуецца далейшы том поўнага збору твораў І. Франка „Борыслаў сьмяецца".

* Аб'яднаньне украінскіх сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг" гатуецца да свайго зьезду (3 траўня). ЦК „Плуга" выстаўляе пытаньне кваліфікацыі па ўсім фронце. У зьвязку з гэтым вырашана зьвярнуцца да наркамасьветы за разьвязаньнем справы пра профэсыянальна-літаратурную асьвету, а таксама пра ажыўленьне работы Літаддзелу мастацтваў. У організацыйнай справе „Плуг" будзе ўжываць захады да консолідацыі рэволюцыйных літаратурных сіл і лічыць патрэбным іх аб'яднаньне ў адзіную масавую організацыю тыпу „Гарту"; пры гэтым „Плуг" мае застацца асобнаю рэволюцыйна-сялянскаю організацыяй у блёку з пролетарскаю. Што датычыць да „Ваплiту" (Вольная акадэмія пролетарскай літаратуры, якая злажылася ў скутку доўгае полемікі аб формах літаратурнага аб'яднаньня), вырашана дыскусію прыпыніць. Літгурткі заставіць пры тых установах, дзе яны існуюць, не парываючы з імі сувязь. За „Плугам" заставіць падлеглымі тыя літстудыі, якія існуюць непасрэдна пры плужанскіх організацыях.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 2.


Стар

Ц. Гартны. Праводзіны. *Апавяданьне* . . . . . . . . 3
Р. Мурашка. Шлёмка-пернічнік. *Апавяданьне* . . . . . . . 14
Б. Антоненка-Давыдовіч. Тук-тук. *Апавяданьне* . . . . . . 19
П. Трус. З поэмы „Цыганка“. *Верш* . . . . . . . . . 52
А. Гурло. Ну, чым вінаваты я... *Верш* . . . . . . . . 58
„ „ Звон маіх песьняў, зьвіні... *Верш* . . . . . . . 59
М. Грамыка. Марынка. *Верш* . . . . . . . . . 60
„ „ Тэтрамэтры. *Верш* . . . . . . . . . 61
А. Моркаўка. Падбіты воўк. *Верш* . . . . . . . . . 62
М. Дуброўскі. Першая песьня. *Верш* . . . . . . . . 65
І. Герчыкаў. Новы асаблівы дакумант соцыялістычнай праватворчасьці . . 67
С. Кацэнбоген. Дыялектычны матэрыялізм і мэханістычны сьветапагляд . 78
Л. Каган. Там, дзе ткуцца дываны . . . . . . . . . 97
А. Цьвікевіч. Зноў „Западная Россия“ . . . . . . . 115
Ул. Каліноўскі. Політычныя партыі і аб'яднаньні ў сучаснай Польшчы . . 122
Д. Васілеўскі. Водгук паўстаньня дэкабрыстых на Беларусі . . . 150
З. Жылуновіч. Купчастыя руні . . . . . . . . . 156
П. Арэшнікаў. Ромэн Рольлян. . . . . . . . . . 165
В. Сьмігельскі. Кароткі нарыс разьвіцьця беларускай культ-асьветнай працы ў Гомельшчыне з верасьня 1924 г. па 15/XII—25 г. . . . . . 169
Кнігапіс. . . . . . . . . . . . . 176
Хроніка беларускае культуры . . . . . . . . . 185
Хроніка з украінскага культурнага жыцьця . . . . . . . 189